**Ад укладальніка**

# СТО ГІСТОРЫЯЎ ВЕРЫ І ВОЛІ

Кніга “Сто асобаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі”, выдадзеная да стагоддзя першай беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі – гэта біяграфічная панарама адразу некалькіх пакаленняў людзей, якія верылі ў Бога і любілі Беларусь.

Патрыярхі-папярэднікі, якія стваралі беларускі рух; ахвярныя правадыры міжваеннай хадэцыі, большасць якіх была знішчаная бальшавікамі і нацыстамі; дзеячы 1990-ых, што аднавілі беларускую незалежнасць; і, нарэшце, іх нашчадкі і спадкаемцы з сучаснай Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі – гэта хвалі спрадвечнага, тысячагадовага імкнення нашых продкаў да веры і свабоды.

Імёны беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў ХХ стагоддзя у часы СССР замоўчвалі. “Дробнабуржуазныя клерыкальныя нацыяналісты” – так называлі тых, хто аддаў жыццё за волю, годнасць, незалежнасць і веру ў Хрыста. Але сёння, вяртаючы гістарычную праўду, мы разумеем: вуліцы і плошчы беларускіх гарадоў павінныя насіць імёны Станкевіча, Будзькі, Эпімах-Шыпілы, Дасюкевіча, Гадлеўскага, Кашыры, Барадзюлі, Багдановіча, Абрантовіча, Пачопкі, Талочкі – а не катаў, што Беларусь разбуралі і рабавалі.

Рыхтуючы гэтую кнігу да друку, мы наведвалі мясціны, дзе нарадзіліся, жылі і працавалі героі міжваеннай хрысціянскай дэмакратыі – Дзісеншчыну, Ашмяншчыну, Смаргонскі край, Астравеччыну, Глыбоччыну, Наваградчыну – і скрозь атрымлівалі пранізлівыя сведчанні.

– А, Лісоўскія (Шутовічы, Дасюкевічы, Стэповічы…) – вунь, найлепшая хата ў вёсцы!

Заходзім – поўная хата радні, дыхтоўная гаспадарка, шыкоўныя кветнікі, і памяць пра легендарных сваякоў.

Альбо – неверагодныя адкрыцці, супадзенні, сустрэчы і знакі ў пошуках звестак пра тых герояў, ад каго, здавалася б, не засталося і следу. Нібы Сам Госпад падказвае: яны ззяюць беларусам з неба, як пуцяводныя зоркі.

Кожны чалавек – вобраз і падабенства Божае. Але ў тых, хто ідзе следам за Богам, Асоба Ісуса Хрыста выяўляецца ясней і паўней з кожным крокам. Гэтая кніга – спроба прыгледзецца да абліччаў святароў, вернікаў, сялянаў і паэтаў, што пайшлі за Ім дзеля Беларусі і свайго народа.

Выказваю вялікую падзяку аўтарам біяграфічных нарысаў: рэдактару хрысціянскага інфармацыйнага парталу "Крыніца.інфа" і прэс-сакратару БХД Максіму Гацаку, кіраўніку Таварыства беларускай культуры ў Літве, доктару Алесю Адамковічу, навукоўцу і пісьменніку Анатолю Астапенку, краязнаўцу і гісторыку Кастусю Шыталю, рэжысёру фільма "Хрыстос забаронены" і аўтару рамана "Сем камянёў" Аляксею Шэіну, кіраўніцы Супольнасці хрысціянскіх журналістаў і блогераў Вікторыі Чаплевай, барду Андрэю Мельнікаву, аспірантам Акадэміі навук Беларусі Ўладзіміру Шыпілу і Аксане Ючкавіч, усім тым, хто склаў і даслаў уласныя аўтабіяграфіі, а таксама маёй жонцы Волі, якая зрабіла вялікі аб'ём тэхнічнай працы ў падрыхтоўцы кнігі да друку.

Сто гісторыяў веры і волі – гэта толькі пачатак. Мы верым у тое, што беларускую хрысціянскую дэмакратыю ў нашай краіне чакае вялікая будучыня.

Жыве Беларусь – з Богам!

*Павел Севярынец*



# АЛЯКСАНДР АСТРАМОВІЧ (АНДРЭЙ ЗЯЗЮЛЯ)

Ксёндз Аляксандр Астрамовіч, які пісаў вершы пад псеўданімам Андрэй Зязюля – адзін з заснавальнікаў “Хрысціянскай Злучнасці”, асоба з шэрагу патрыярхаў беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху наогул.

Адам Станкевіч, калі ўзгадваў Аляксандра Астрамовіча, казаў пра яго так: “Характарам Астрамовіч быў шчыры, дзіўна просты, запальны і гарачы, заўсёды вясёлы, добры, услужны, горача пабожны і дзіўна патрыятычны”. Гарачая пабожнасць праяўлялася ў беларускамоўных казаннях пры касцёлах. Яго шчырасць прабівалася ва ўласных вершах, якія друкаваліся ў “Нашай Ніве”. А патрыятычнасць – у смелым удзеле ў нацыянальных і хрысціянскіх партыях і рухах.

Нарадзіўся будучы святар 26 лістапада 1878 года ў сялянскай сям'і Сцяпана і Ганны Астрамовічаў у вёсцы Навасады Ашмянскага павету. Пачатковую адукацыю ён набыў у Гальшанах, скончыў Ашмянскую павятовую вучэльню. Пасля працаваў на бацькавай гаспадарцы, самастойна вывучаў французскую мову. З 1 студзеня 1901 года да 14 верасня 1903 года служыў у 160-м пяхотным Абхазскім палку ў Гомелі і ў Барысаве. Закончыў службу ў званні малодшага афіцэра.

Відавочна, што сям’я Астрамовічаў заклала Алесю цвёрды падмурак веры. Алесь з дзяцінства запаліўся жаданнем стаць святаром, і не адступіўся ад яго, нягледзячы на перашкоды. Напрыклад, у Віленскую духоўную семінарыю Астрамовіч паступіць не змог. Але кідацца ў роспач не стаў і з’ехаў у іншую сталіцу – Пецярбург. Там ён вывучыўся на аптэкара. Зусім нелагічнае рашэнне – менавіта такім яно падаецца на першы погляд. Але ж гэта было зроблена для таго, каб засведчыць веданне асноваў лацінскай мовы, неабходнае для паступлення ў духоўную каталіцкую семінарыю ў Пецярбургу. У Пецярбургскую семінарыю ён паступіў. І, як можна здагадацца, Астрамовіч стаў асвойвайць там не толькі азы багаслоўя, але і азы беларускасці.

Астрамовіч быў высвечаны на святара ў 1910 годзе. Душпастырскую дзейнасць пачаў вікарыем ракаўскага касцёла і першую сваю Імшу адправіў у вёсцы Трабы Валожынскага павета 2 лютага 1911 года. З 2 ліпеня 1912 года да лютага 1915 года служыў у парафіі Анопаль Мінскага дэканата. Пазней быў прызначаны вікарыем у Бабруйскую парафію. Са снежня 1916 года служыў вікарыем у Смілавічах Ігуменскага павета і ў суседніх касцёлах, выконваў абавязкі адміністратара гарадзішчанскага касцёла. З 9 верасня 1917 года – пробашч касцёла ў Абольцах Аршанскага дэканата. Два гады служыў ксяндзом у мястэчку Сянно Аршанскага дэканата. Там памёр 17 студзеня 1921 года, дзе і быў пахаваны на мясцовых каталіцкіх могілках.

Аляксандр Астрамовіч удзельнічаў у першым з'ездзе беларускіх каталіцкіх святароў (Мінск, 1917), быў сябрам Саюза ксяндзоў-беларусаў, ад якога пачалося стварэнне арганізацыі Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная Злучнасць (БХДЗ), пазней рэарганізаванай у партыю Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (БХД). Ён вітаў абвяшчэнне незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), па даручэнні яе Народнага сакратарыята арганізоўваў беларускія школы, мястачковыя і павятовыя органы ўлады БНР. Пасля акупацыі Беларусі бальшавіцкай арміяй пераследаваўся за сваю нацыянальную і рэлігійна-асветную дзейнасць, некалькі тыдняў правёў у астрозе Віцебскага губчэка (1920).

Аляксандр Астрамовіч камусьці больш вядомы як Андрэй Зязюля. Менавіта пад такім псеўданімам ён выступаў перад беларусамі у якасці паэта. Першы свой верш “Песьня дзяўчаці” Андрэй Зязюля апублікаваў у газеце “Наша Ніва” ў 1909 годзе.

Большасць ранніх вершаў 1909-1912 гг. паэт друкаваў у адраджэнскай “Нашай Ніве”. Якраз тады Андрэй Зязюля пазнаёміўся і пасябраваў з Янкам Купалам, які вучыўся на агульнаадукацыйных курсах А. Чарняева ў Пецярбургу (1909-1913), а летнія канікулы праводзіў на сваім любімым хутары Акопы. 5 чэрвеня 1912 года ў лісце да свайго духоўнага бацькі Б. Эпімах-Шыпілы паэт пісаў: “Як перапішу (апрацую) начыста “Паўлінку”, – думаю напісаць паэмку “Рагнеда”, гістарычную рэч з жыцця Полацкага княства, а пасля, як Бог дасць. На днях маюся з'ездзіць да

кс. Астрамовіча, а стуль, пагасціўшы трохі дома, усё-ткі пастараюся быць у Вільні ...”

Пасля заснавання першай беларускай каталіцкай газеты “Беларус” (“Bielarus”, 1913-1915) Астрамовіч шмат друкаваўся ў гэтым адраджэнска-асветніцкім штотыднёвіку. Паводле сведчання А. Станкевіча, нават дапамагаў грашыма яго рэдакцыі: “Рэдактару А. Лявіцкаму давалі на жыццё толькі 10 руб. на месяц. Неяк у гэтым часе паслаў Бог помач: штосьці даў кс. Францішак Будзька, штось кс. Астрамовіч, а ў канцы заінтэрасавалася часопісам княгіня Магдалена Радзівіліха, каторая сістэматычна пакрывала даўгі “Беларуса” аж да яго закрыцьця, гэта значыць да прыходу ў Вільню немцаў у 1915 г.”. Тады ж паэт апублікаваў свой адзіны пры жыцці невялікі зборнік вершаў (лацінкай) “Z rodnaha zahonu” (Wilnia, 1914). Пазней Астрамовіч друкаваўся ў беларускіх перыядычных выданнях “Светач”, “Гоман”, “Вольная Беларусь”, “Крыніца” і інш.

Асобным выданнем пры жыцці паэта была апублікаваная яго асветніцкая паэма “Слова праўды аб мове і долі беларусаў” (Прага, 1917 г.) і ў бібліятэчцы газеты “Вольная Беларусь” (1918). Пасля ранняй смерці паэта А. Станкевіч апублікаваў у бібліятэчцы газеты “Беларуская крыніца” яго паэму “Аленчына вяселле” (асобнае выд. 1923 г.) і зборнік вершаў (лацінкай) “З роднага загону” (1913), які ўключаў большасць вядомых твораў А. Зязюлі.

Вершы Зязюлі – хрысціянскія, якія прасякнутыя гарачай любоўю да Бацькаўшчыны. Астрамовіч у іх казаў пра цярністы шлях беларусаў:

*Узіраемся ўвыш*
*І шукаем тых зор,*
*Што вядуць нас праз крыж*
*У нябесны прастор.*

Памёр Аляксандр Астрамовіч 17 студзеня 1921 года, пахаваны ў Сянне. У 1990-ых Алесь Бяляцкі спрабаваў расшукаць ягоную магілу, але не знайшоў.

*Вікторыя Чаплева*



# ФРАНЦІШАК БУДЗЬКА

Ксёндз Францішак Будзька – адзін з бацькоў-заснавальнікаў БХД, які першым ў XX стагоддзі пачаў перакладаць рэлігійную літаратуру на беларускую мову і спрычыніўся да заснавання першага каталіцкага тыднёвіка па-беларуску.

Францішак Будзька нарадзіўся 23 студзеня 1884 года ў вёсцы Вознаўшчына Параф'янаўскай воласці Вілейскага павета Віленскай губерні (цяпер Докшыцкі раён Віцебскай вобласці). Ад яго роднай вёскі было шэсць кіламетраў да парафіяльнага, тады яшчэ драўлянага, касцёла ў Параф'янаве і дзесяць – да Будслаўскага касцёла з шанаваным абразом Маці Божай.

Будзька скончыў народнае вучылішча ў Будславе, у 1899-м – павятовую вучэльню ў Вілейцы. У 1901 годзе здаў экзамен на званне аптэкарскага вучня ў Пецярбургу. (Гэты экзамен быў патрэбны, каб пацвердзіць веданне лацінскай мовы дзеля паступлення ў семінарыю). У тым самым 1901 годзе Будзька паступае ў Магілёўскую каталіцкую семінарыю, што месцілася ў Пецярбургу. Падчас вучобы ў семінарыі Будзька натрапіў на творы Багушэвіча – і яны дапамаглі яму ўсвядоміць сябе беларусам. Стаў перакладаць польскія рэлігійныя тэксты на беларускую мову. У 1905 годзе, атрымаўшы пасвячэнне на дыякана, Будзька пераходзіць у духоўную акадэмію ў Пецярбургу, каб атрымаць вышэйшую тэалагічную адукацыю. Там ён сустракае іншых свядомых беларусаў – прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілу, студэнтаў Адама Лісоўскага і Францішка Грынкевіча.

Большая частка ксяндзоў і біскупаў асцерагаліся беларушчыны як агню. Яны баяліся, каб беларусізацыя Касцёла не стала мастком да русіфікацыі (царскія ўлады ўжо спрабавалі гвалтам увесці расійскую мову ў Касцёл). Адміністратар Віленскай дыяцэзіі ксёндз Францкевіч папярэдзіў пробашча ў Параф'янаве, каб той падчас летніх вакацый не дапускаў Будзьку да катэхізацыі дзяцей. Але Будзька не хаваў сваіх поглядаў. Ад яго набіраліся свядомасці маладыя клерыкі і святары. Прыкладам, ксёндз Францішак Рамэйка, бацькі якога жылі ў фальварку Порплішча каля Докшыц, успамінаў, што стаў беларусам дзякуючы знаёмству з Будзькам.

У 1906 годзе, не маючы грошай працягваць вучобу, дыякан Францішак Будзька кідае акадэмію. Ён вяртаецца ў семінарыю і жадае атрымаць пасвячэнне на ксяндза. Але касцёльныя ўлады не жадаюць высвячаць свядомага беларуса. Справа вырашылася праз год, дзякуючы знаёмству Будзькі з біскупам Стафанам Данісевічам, які прыхільна ставіўся да беларускага адраджэння. У 1907 годзе біскуп Данісевіч удзяліў маладому беларускаму дыякану святарскае пасвячэнне.

Біскуп Данісевіч лічыў патрэбным выданне рэлігійнай літаратуры на беларускай мове і ўвядзенне ў касцёлах беларускіх казанняў. Каталіцкая літаратура па-беларуску не выдавалася ўжо ад 1862 года, калі ў Варшаве выйшаў “Элементаж для добрых дзетак Католікаў”. Гэтае 40-старонкавае выданне спалучала ў сабе лемантар, катэхізіс і малітоўнік. Каб хоць трохі задаволіць попыт на беларускамоўныя выданні, біскуп Данісевіч у 1906 годзе перавыдаў “Элементаж”. Да справы выдання каталіцкай літаратуры па-беларуску хутка далучыўся Францішак Будзька. Магчыма, ён удзельнічаў і ў падрыхтоўцы да друку “Элементажа”, бо ксёндз Адам Станкевіч пазней заўважыў сляды рэдактуры: нехта ачысціў тэкст ад паланізмаў.

Тым часам Францішак Будзька пераклаў з польскай мовы на беларускую тры кнігі, якія былі найбольш патрэбныя ў пастырскай працы, каб тлумачыць вернікам асновы веры. Гэта “Кароткі катахізм для прыспасаблення дзяцей да першай Споведзі і Камуніі Святой” кс. Роха Філяхоўскага, “Кароткая гісторыя святая” кс. Шустара і “Кароткае выясненне абрадаў Р.-Каталіцкаго касцёла” кс. Банчкоўскага. Касцельную апрабату (дазвол на друк) на ўсе тры кнігі даў біскуп Стафан Данісевіч. “Катахізм” быў надрукаваны ў 1907 годзе накладам 10.000 асобнікаў і хутка разыйшоўся па парафіях. Астатнія два пераклады засталіся ляжаць у рукапісе ў чаканні лепшых часоў.

9 студзеня 1908 года ксёндз Францішак Будзька атрымаў накіраванне вікарыем (другім святаром) у Полацк, дзе служыў у былым дамініканскім касцёле. Ён выязджаў на фэсты ў вясковыя і мястэчковыя парафіі, дзе часам гаварыў казанні па-беларуску. Найчасцей ён прамаўляў па-беларуску ў Уле, дзе мінулы пробашч Уладзіслаў Межвіньскі – рэдкі для тых часоў выпадак – карыстаўся ў касцёле беларускай мовай. Ксёндз Будзька ўзяўся за аднаўленне

рэлігійнага жыцця ў Шацілаве, за 23 кіламетры ад Полацка, дзе была каталіцкая парафія, скасаваная царскімі ўладамі. Служыў набажэнствы ў прыватным доме і збіраў грошы на пабудову капліцы.

У 1911 годзе ксёндз Францішак Будзька выдаў другую рэлігійную кнігу па-беларуску. Гэта быў пераклад кнігі "Бл[аслаўлёны] Андрэй Баболя", якую за год да таго выдаў у Вільні па-польску ксёндз Ян Урбан. Пераклад ксяндза Будзькі ўбачыў свет у віленскай друкарні Марціна Кухты. На выбар тэмы, відаць, паўплывала месца служэння. Парэшткі багаслаўлёнага ксяндза-езуіта Андрэя Баболі, якога ў 1657 годзе закатавалі казакі на Палессі, перахоўваліся ў Полацку. Да перакладзенага тэкста была далучаная паэма пра Баболю, якую, на думку літаратуразнаўцы Язэпа Янушкевіча, мог напісаць Янка Купала.

У 1912 годзе ксёндз Францішак Будзька вяртаецца ў Пецярбург, дзе служыць вікарыем у касцёле святога Станіслава. Ён працягвае падтрымліваць сувязі з беларускімі дзеячамі, пашырае беларускую ідэю сярод студэнтаў духоўных навучальных установ Пецярбурга і Вільні. У тым самым 1912 годзе ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі была ладная жменька студэнтаў-беларусаў, якія заснавалі свой гурток – спачатку неафіцыйны, а ў 1913 годзе легалізаваны кіраўніцтвам акадэміі. Ксёндз Будзька ладзіў на сваёй кватэры сустрэчы беларусаў, якія вучыліся ў духоўнай акадэміі і Пецярбургскім універсітэце. На гэтыя сустрэчы прыходзілі Браніслаў Тарашкевіч, Клаўдзіюш Дуж-Душэўскі ды іншыя маладыя беларусы.

У беларусаў-каталікоў нарэшце з'явілася дастаткова інтэлектуальных сілаў для выдання штотыднёвай газеты. Ксёндз Францішак Будзька быў адным з ініцыятараў яе выдання, у 1912 годзе ён закончыў неабходныя фармальнасці, арганізаваў склад рэдакцыі і аказаў пэўную грашовую дапамогу. Каталіцкая газета пад назвай "Беларус" пачала выходзіць у студзені 1913 года ў Вільні лацінкай. Першым рэдактарам быў Антон Бычкоўскі, якога пазней замяніў Баляслаў Пачопка. Газета змяшчала публіцыстычныя артыкулы на грамадскія і рэлігійныя тэмы, біяграфіі святых, вершы і апавяданні, чытацкія лісты і апошнія навіны Касцёла і свету.

Ксёндз Будзька рэдка пісаў артыкулы ў "Беларус". Ці, можа, не падпісваўся. У №2 за 1913 год выйшаў яго артыкул "Аб малжэнстві", а ў №5 за 1914 – пасмяротны ўспамін пра біскупа Стафана

Данісевіча, падпісаныя крыптонімам "Х.Р.В". Затое, калі рэдакцыя сутыкнулася з фінансавымі цяжкасцямі, ксёндз Будзька адным з першых прыйшоў на дапамогу.

У 1913 годзе беларускі каталіцкі рух знайшоў апекуна ў выглядзе княгіні Магдалены Радзівіл. Справы адразу пайшлі весялей. Рэдакцыя прыступіла да выдання серыі кніг, у якой у 1914 годзе выйшлі Будзькавы пераклады "Кароткай гісторыі святой" і "Кароткага выяснення абрадаў Р.-Каталіцкаго касцёла". Тады ж рэдакцыя "Беларуса" выдала і адзіную кнігу, якую ксёндз Будзька напісаў сам – "Некалькі слоў аб пакуце". У ёй святар тлумачыў чытачам, як рыхтавацца да сакраманта споведзі.

Сярод беларускіх дзеячаў пачатку XX стагоддзя была папулярная ідэя адраджэння ўніі, якая магла б даць народу Божае Слова ў роднай мове і вывесці народ з-пад польскага і расійскага уплываў. Францішак Будзька цікавіўся гэтай ідэяй, яшчэ калі вучыўся ў акадэміі. У 1906 годзе Алаіза Пашкевіч (Цётка), якая хавалася ад царскіх рэпрэсій у Галічыне, перасылала Будзьку праз Эпімаха-Шыпілу ўніяцкую літаратуру. Ідэю Уніі падтрымлівала і Магдалена Радзівіл. Але пры царскай уладзе яе ажыццяўленне не выглядала магчымым. Надзея на лепшае ў гэтым пытанні з'явілася пасля Лютаўскай рэвалюцыі. У першай палове 1917 года Радзівіліха, параіўшыся перад тым з мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім, сустрэлася ў Менску з беларускімі святарамі Францішкам Будзькам і Люцыянам Хвецькам. Яна перадала ім пярсцёнак з брыльянтам і брыльянтавае кальё. Княгіня наказала прадаць гэтыя каштоўнасці і патраціць грошы на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме – установы, дзе беларусы мелі рыхтавацца да святарскай службы ва ўсходнім абрадзе.

Ахвяраванне, аднак, не дасягнула сваёй мэты. Упрыгожванні былі перавезеныя падалей ад фронту ў Пецярбург, а там да ўлады прыйшлі бальшавікі. У 1924 годзе, калі ксёндз Будзька ўжо не жыў, а ксёндз Хвецька сядзеў у турме, ксёндз Фабіян Абрантовіч вывез упрыгожванні ў Польшчу і распарадзіўся імі па-свойму. Ён прадаў іх, пазычыў грошы біскупу Зыгмунту Лазінскаму на будоўлю семінарыі ў Пінску, а потым перадаў правы на іх ордэну марыянаў, у які неўзабаве ўступіў. Радзівіліха на той час жыла ў Нямеччыне,

спрабавала пераканаць ксяндза Абрантовіча выканаць яе волю, але той не паслухаў.

У 1916 годзе ксёндз Будзька вяртаецца на Полаччыну, набывае фальварак Янатруда, што каля станцыі Глушаніна на чыгунцы Полацк – Віцебск. У фальварковым доме была капліца, у якой ксёндз Будзька служыў набажэнствы. Ён хацеў пабудаваць у Янатрудзе касцёл у беларускім народным стылі, і даручыў распрацаваць праект архітэктару Лявону Вітан-Дубейкаўскаму. Той распрацаваў. У студзені 1917 года царскія ўлады далі дазвол на будаўніцтва.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі грамадскае жыццё актывізавалася, і беларускія святары вырашылі склікаць з’езд беларускага каталіцкага духавенства. Ксёндз Францішак Будзька ўвайшоў у яго аргкамітэт. На з’ездзе ён, аднак, не выступаў. З’езд, які прайшоў у катэдральным касцёле ў Мінску, выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе дэмакратычнай Расіі, беларусізацыю школьніцтва і рэлігійнага жыцця, выкладанне беларускай мовы і гісторыі ў духоўных навучальных установах, перавод беларускіх святароў у беларускія парафіі, – і заснаваў Беларускую Хрысціянска-Дэмакратычную Злучнасць.

Касцёл у Янатрудзе ксёндз Будзька не пабудаваў. Прыйшла бальшавіцкая ўлада, і стала не да будоўлі. Бальшавікі чапляліся да ксяндза Будзькі, але не арыштавалі і не расстралялі. Захварэўшы на запаленне лёгкіх, святар памёр сваёй смерцю 2 лютага 1920 года ў Янатрудзе.

Невядома, дзе пахаваны ксёндз Францішак Будзька. Пад бальшавіцкім рэжымам, пэўна, ніхто не паставіў яму помнік – і магіла зраўнялася з зямлёй. Краязнаўца з Полацка Міхась Баўтовіч спрабаваў знайсці магілу Будзькі і рэшткі фальварка Янатруда, але безвынікова.

*Кастусь Шыталь*

# ЯН БУРБА



Ян Бурба (16 чэрвеня 1853 года, Скопішкі (цяпер Скапішкіс, Літва) – 14 чэрвеня 1915 года, Калтыняны (цяпер Калтанянай, Літва)

Скончыў школы ў Свянцянах і Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. У семінарыі ўдзельнічаў у сходах літоўскіх святароў, чытаў літоўскую прэсу. Высвечаны на святара ў 1878 годзе і накіраваны на служэнне ў Дзісну, у 1880 годзе – у Празарокі (цяпер Глыбоцкі раён), у 1882 годзе – у Цверач (сёння на мяжу Беларусі і Літвы), у 1887 – у Вішневе (Беларусь). У 1888-1903 гадах быў пробашчам у Новых Даўгелішках. У 1903-1909 гадах быў Свянцянскім дэканам.

У 1904 годзе на запыт Віленскай дыяцэзіі да святароў даць інфармацыю аб сваёй нацыянальнасці абвесціў сябе беларусам. У 1906 годзе браў удзел у заснаванні Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі. На ўстаноўчым з'ездзе быў абраны ў склад яе Цэнтральнага камітэту.

Быў адным з першых, хто пачаў ужываць беларускую мову ў касцёле. У 1908 годзе ў вёсцы Квасоўка (Гродзенскі павет) Ян Бурба прагаварыў казанне на роднай мове большасці сваіх парафіян. "Калі ж казанне скончылася, цікаўна было глянуць на слухачоў: іх вочы глядзелі так, як глядзяць вочы дзяцей, калі раптам спыняецца пекная цікаўная аповесць. Удзячнасць, зацікаўленне асобай ксяндза, здаволенне пачутым змяшаліся разам на тварах гэтых шчырых жыхароў беларускай вёскі, першы раз у жыцці сваім пачуўшых гэтак паважанае Слова Божае ў матчынай мове".

Спрыяў пашырэнню беларускай свядомасці сярод парафіян. Там, дзе большасць насельніцтва складалі літоўцы, дапамагаў развіваць літоўскую адукацыю, не перашкаджаў распаўсюду кніг літоўскімі кніганошамі.

У 1910-1911 годзе пробашч у Начы (Беларусь), дзе ў яго здарыўся канфлікт з мясцовымі парафіянамі, якія перапынялі спевамі па-польску літоўскамоўнае казанне ксяндза Гіўнайціса. У 1913-1914 гадах пробашч зноў у Новых Даўгелішках. Апошнія гады жыцця цяжка хварэў.

*Максім Гацак*



## ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ

Вацлаў Ластоўскі – адзін з ідэолагаў беларускага руху XX стагоддзя, разам з Казімірам Шафнагелем і Вінцэнтам Святаполк-Мірскім – заснавальнік “Хрысціянскай Злучнасці” 1915 года, прэм’ер-міністр Рады БНР 1919-23 гадоў.

Часта ў беларускай гістарыяграфіі Ластоўскі фігуруе як удзельнік “левага” руху і грамадовец – але менавіта Вацлава Ластоўскага, як згадвае ў артыкуле “Парадаксальны Ластоўскі” гісторык Анатоль Сідарэвіч, выключалі з шэрагаў сацыялістаў “за рэлігійнасць і нацыяналізм”.

Больш таго: у 1915 годзе ў акупаванай немцамі Вільні менавіта Вацлаў Ластоўскі разам з колішнімі заснавальнікамі Канстытуцыйна-Каталіцкай Партыі Літвы і Беларусі біскупам Эдвардам Ропам, баронам Казімірам Шафнагелем, князем Святаполк-Мірскім стварыў, паводле выслоўя сучаснага гісторыка, “першую беларускую правую партыю” – Хрысціянскую Злучнасць.

Як глыбокі палітык і як ідэолаг Ластоўскі разумеў, што тысячагадовай Беларусі ў такі шалёны і поўны магчымасцяў час як паветра патрэбная партыя, заснаваная на хрысціянскіх каштоўнасцях. Вось чаму ў 26 траўня 1918 года ён публікуе адозву, дзе разам з Шафнагелем, Святаполк-Мірскім і ксяндзом Уладзіславам Талочкам заяўляе аб патрэбе такой партыі.

Вацлаў Ластоўскі вядомы як аўтар неабвержнага доказу беларускасці Вялікага Княства Літоўскага: калі навукоўцы новастворанай Літоўскай Рэспублікі запатрабавалі ад беларускай Акадэміі навук вярнуць вывезены архіў ВКЛ, дырэктар Беларускага музею ўрачыста дамовіўся: будуць вернуты ўсе без выключэння дакументы, напісаныя літоўскай мовай. Вядома, аніводнага такога дакумента ў Архіве ВКЛ папросту не было.

Вацлаў Юстынавіч Ластоўскі нарадзіўся 27 кастрычніка (8 ліста пада) 1883 г у засценку Калеснікаў Дзісенскага павета. Віленскай губерніі, цяпер Глыбоцкі раён Віцебскай вобласці.

Ужо ў васемнаццаць Вацлаў уступіў у Польскую сацыялістычную партыю ў Літве. У 1904-1905 гг слухаў лекцыі ў Пецярбургскім

універсітэце. У 1906 у Рызе далучыўся да беларускага руху і Беларускай Сацыялістычнай Грамады.

У 1909-ым у Вільні, як малады здольны адміністратар, Ластоўскі робіцца сакратаром "Нашай нівы". Адначасна рэдагаваў часопісы "Саха", "Беларускі сцяг", газету "Гоман".

У час Першай сусветнай вайны Ластоўскі заставаўся ў Вільні. У студзені 1915, калі немцы занялі горад, ён разам з Вінцэнтам Святаполк-Мірскім, Іванам і Антонам Луцкевічамі падпісаў зварот да нямецкіх акупацыйных улад з просьбай паспрыяць выданню беларускіх газет. Кіраваў віленскай "Беларускай кнігарняй" і Беларускім выдавецкім таварыствам, курыраваў выданне школьных падручнікаў, сам удзельнічаў у іх напісанні.

Адзін з аўтараў "Мемарандума прадстаўнікоў Беларусі", у якім адстойваў права беларускага народа на нацыянальна-дзяржаўнае развіццё і які быў прадстаўлены на міжнароднай канферэнцыі ў Лазане (Швейцарыя, 1916).

13 снежня 1919 года Вацлаў Ластоўскі быў кааптаваны ў Раду БНР. У лістападзе 1918 быў уключаны ў склад Літоўскай Тарыбы. У канцы 1918 узначаліў Беларускае прадстаўніцтва пры Літоўскай Тарыбе, потым стаў беларускім аташэ пры літоўскім пасольстве ў Берліне.

У снежні 1919 узначаліў Кабінет міністраў Народнай рады БНР. У рангу прэм'ера БНР Ластоўскі падтрымаў антыпольскую беларускую партызанку і прадстаўляў беларусаў на знакамітай Генуэзскай канферэнцыі 1922 года.

Арыштаваны польскімі ўладамі 17 снежня 1919, Ластоўскі быў вызвалены ў лютым 1920; пераехаў у Рыгу, потым у Коўна. Пасля падпісання папярэдніх умоў міру паміж Савецкай Расіяй і Польшчай ў кастрычніку 1920 года на беларускай канферэнцыі ў Рызе менавіта пад кіраўніцтвам Вацлава Ластоўскага быў створаны антысавецкі й антыпольскі блок беларускіх партый для барацьбы за незалежную і непадзельную Беларусь.

У 1920-23 гг Вацлаў Ластоўскі як дыпламат наведаў Бельгію, Германію, Ватыкан, Італію, Чэхаславакію, Францыю, Швейцарыю, дзе адстойваў правы беларусаў у Заходняй Беларусі. 20 красавіка 1923 падаў у адстаўку з пасады прэм'ер-міністра БНР. Працаваў у Міністэрстве беларускіх спраў у Літве.

У 1923-1927 выдаваў часопіс “Крывіч”, надрукаваў некалькі падручнікаў. Быў старшынём “Сувязі нацыянальна-дзяржаўнага вызвалення Беларусі”, ад імя якой выступаў за выкарыстанне беларускай мовы ў богаслужэннях. Запрошаны Інбелкультам на акадэмічную канферэнцыю па рэформе беларускага правапісу і азбукі (лістапад 1926).

Пад націскам неспрыяльных абставін (літоўскі ўрад адмовіўся фінансаваць выданне “Крывіча” і Беларускі цэнтр у Коўне, палітычны пераварот 17 снежня 1926 у Літве у красавіку 1927) пераехаў у БССР.

Вацлаў Ластоўскі рабіў аб’ём навуковай працы, параўнальны з цэлым навукова-даследчым інстытутам. Працаваў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, загадчыкам кафедры этнаграфіі пры Інбелкульце, (і гэта нават не маючы нават сярэдняй адукацыі!). З 1928 акадэмік БелАН. Быў неадменным сакратаром Інбелкульта. Рэдагаваў “Працы кафедры этнаграфіі”, працаваў у “Камісіі жывой беларускай мовы”, уваходзіў у “Камісію па ахове помнікаў старасветчыны ў БССР”. Арганізоўваў этнаграфічныя экспедыцыі ў розныя рэгіёны Беларусі, падчас адной з якіх быў знойдзены Крыж Ефрасінні Полацкай.

21 ліпеня 1930-га Вацлава Ластоўскага арыштавала ОГПУ – па справе “Саюза вызвалення Беларусі”. Навукоўца трымалі ў турмах Масквы і Мінска. 10 красавіка 1931-га Вацлава Ластоўскага выслалі на 5 гадоў у Саратаў.

У Саратаве Ластоўскі працаваў загадчыкам аддзела рэдкіх рукапісаў біблітятэкі Саратаўскага універсітэта. Быў паўторна арыштаваны 20 жніўня 1937. Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 23 студзеня 1938 прыгавораны да расстрэлу “як агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі”.

Па першым прысудзе Ластоўскі быў рэабілітаваны 10 чэрвеня 1988; па другім — 16 верасня 1958. Аднаўлены ў званні акадэміка АН Беларусі.

Як палітык Ластоўскі ставіў нацыянальныя інтарэсы вышэй за класавыя – і лічыў нацыянальную праблему найважнейшай у гісторыі. Адмаўляў канцэпцыю адзінства гістарычных лёсаў Расіі і Беларусі. Аспрэчваў догмы марксізму.

У 1910 годзе Вацлаў Ластоўскі выдаў “Кароткую гісторыю Беларусі” – першую кнігу, у якой была спроба абгрунтаваць беларускі характар Вялікага княства Літоўскага. Як сказаў прафесар Анатоль Грыцкевіч, гэта была першая беларуская гісторыя, напісаная беларусам, па-беларуску і для беларусаў.

Геніяльны самавук, паводле Сідарэвіча, Ластоўскі аб’яднаў факты пра наша мінулае ў беларусацэнтрычную канцэпцыю. У пачатку 1920-х г. працаваў над “Нарысамі беларускай гісторыі”, якія па сутнасці ўяўляюць сабой першую беларускую энцыклапедыю гісторыі Беларусі і складзены з розных тэрмінаў і паняццяў з беларускай мінуўшчыны.

У 1926 годзе пабачыла свет галоўная праца Ластоўскага – манументальная “Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі, у якой прыводзіліся цытаты на старабеларускай мове са шматлікіх старажытных кніг і рукапісаў. Публікацыя ўяўляе сабой агляд «звыш 1000 важнейшых рукапісных кніг, грамат, старадрукаваных кніг з пачатку зараджэння беларускага пісьма (X ст.) аж да XIX ст.» Пасля пераезду ў БССР В. Ластоўскі апрацаваў разам з М. Шчакаціхіным “Праваднік па аддзеле сучаснага беларускага малярства і разьбярства” (1929), распачаў вялікую працу “Матэрыяльная культура Беларусі”, якая ахоплівала перыяд ад XVI да XX ст.

Вацлаў Ластоўскі зрабіў важкі ўнёсак у тэорыю і практыку беларускага хрысціянскага і дэмакратычнага руху: стварэнне “Хрысціянскай Злучнасці”, даследванне кнігадруку, этнаграфічныя экспедыцыі, рэдактарская і арганізацыйная праца Ластоўскага стваралі падмурак, на які абапіраліся цэлыя пакаленні беларускіх патрыётаў, дэмакратаў і вернікаў.

Сёння на радзіме Вацлава Ластоўскага, у Глыбокім, усталяваны бюст, а ў Курапатах у 2016 годзе усталяваны і асвечаны сімвалічны крыж Ластоўскага.

*Павел Севярынец*



# АДАМ ЛІСОЎСКІ

Ксёндз Адам Лісоўскі – адзін з заснавальнікаў Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці і настаўнік правадыра БХД Адама Станкевіча.

На гістарычным З'ездзе белрускага каталіцкага духавенства 24-25 траўня 1917 года ксёндз Адам Лісоўскі мусіў чытаць рэферат, прысвечаны беларускасці ў Касцёле, але ўрэшце з ягоным дакладам выступіў Адам Станкевіч – і менавіта ён павёў і хрысціянска-дэмакратычны, і агулам беларускі рух у Заходняй Беларусі ў міжваенныя дзесяцігоддзі.

Ксёндз Адам Лісоўскі - ганаровы канонік Пінскай капітулы, магістр тэалогіі, рэлігійны і культурна-грамадскі дзеяч, адзін з пачынальнікаў беларускага хрысціянскага руху 20 ст., душпастыр.

Нарадзіўся будучы ксёндз 18.01.1884 (па іншых крыніцах – у 1883) у вёсцы Каранды Ашмянскага павета Віленскай губерніі. Паходзіў з нацыянальна-свядомай беларускай каталіцкай сям'і (бацькі – Язэп і Францішка Лісоўскія). У 1899-1903 гг. вучыўся ў духоўнай каталіцкай семінарыі ў Вільні. Пасля яе заканчэння працягнуў вучобу ў Духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу.

З часоў вучобы ў акадэміі Адам Лісоўскі быў звязаны з біскупам Стафанам Данісевічам, адным з першых рупліўцаў беларускасці ў Касцёле, і выкладчыкам грэчаскай мовы, патрыярхам беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху, Браніславам Эпімах-Шыпілам. Прыязджаючы ў родную вёску на вакацыі, распаўсюджваў сярод аднавяскоўцаў і ваколічных суседзяў беларускія кніжныя выданні ("Смык беларускі" Мацея Бурачка і інш.). Пасвячоны ў святары ў 1907 г. Душпастырскую дзейнасць пачаў на пасадзе вікарыя ў касцёле Дзевы Марыі ў Магілёве.

З 1910 г. служыў у парафіях св. Тройцы і св. Роха ў Менску. Выконваў абавязкі адміністратара ў касцёле святых Сымона і Алены (1911). У 1912-1914 гг. працаваў у Маскве, выкладаў Закон Божы ў свецкіх навучальных установах. Пазней служыў пробашчам у парафіі Гарадзішча на Піншчыне (маёнтак Скірмунтаў). З 1916 г. – адміністратар і дэкан у Ігумене Менскай губ. У 1918-1922 гг. працаваў

пробашчам парафіі Каралішчавічы і адміністратарам у парафіі Анопаль.

У 1921 г. біскупам Зыгмунтам Лазінскім прызначаны генеральным вікарыем часткі Менскай дыяцэзіі ў Савецкай Беларусі.

Ад пачатку заснавання ксёндз Адам Лісоўскі быў сябрам Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці (пасля – БХД). Выступаў за беларусізацыю рэлігійнага жыцця.

Пераклаў на беларускую мову частку Новага Запавету: Апакаліпсіс, Лісты апостала Паўла, Апостальскія дзеі.

На пачатку 1920-х гадоў - пробашч, а пазней адміністратар кафедральнага касцёла ў Менску. У 1922 г. ўзначаліў Менскі дэканат.

У пачатку 1920-х гадоў ксёндз Адам быў абвінавачаны савецкімі ўладамі ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Арыштаваны органамі бяспекі 31.05.1922. Быў прысуджаны да расстрэлу, які пазней замянілі на 5 гадоў турмы. Пасля менскай вязніцы сядзеў за кратамі ў Бутырскай турме ў Маскве і ў Яраслаўлі. Вызвалены і дэпартаваны ў Польшчу 28.04.1924 у выніку абмену палітычнымі вязнямі паміж уладамі Польшчы і Савецкай Расеі.

З сярэдзіны 1920-х гадоў жыў у Заходняй Беларусі. Працаваў адміністратарам у парафіі Гарадзішча недалёка ад Пінска. Пазней служыў пробашчам у парафіі Вышкі.

Памёр 09.10.1929 у Варшаве. Пахаваны ў мясцовасці Кляшчэлі Бельскага павета побач са сваім духоўным настаўнікам Адольфам Пласкавіцкім.

*Павел Севярынец*



# БАЛЯСЛАЎ ПАЧОПКА

Баляслаў Пачопка – каталіцкі святар усходняга (візантыйскага) абраду, настаўнік і рэлігійны публіцыст, рэдактар і выдавец першай беларускай каталіцкай газеты "Беларус", дырэктар Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі.

Баляслаў Антонавіч Пачопка (Пачобка) нарадзіўся 13 кастрычніка 1884 у засценку Уляны Рукойнен-скай гміны Віленскага павету ў незаможнай сялянскай каталіцкай сям'і Антона Пачопкі і Ганны з роду Гайдукевічаў, у якіх было пяць дзяцей.

З малых гадоў любіў прыслугоўваць міністрантам у касцёле і марыў стаць святаром. Скончыў 4 класы народнай вучэльні ў Рукойнях. З дапамогаю ксяндза з Лаварышак працягнуў навучанне ў гімназіі ў Вільне.

У 1905 паступіў вучыцца ў Віленскую духоўную семінарыю, але па прычыне пагаршэння стану здароўя ў 1907 вымушаны быў перарваць навучанне.

З 1907 Баляслаў Пачопка ў Пецярбургу, дзе ўладкаваўся на працу дробным чыноўнікам. Па-за працай самастойна працягвае навучанне. На працягу 2 гадоў браў удзел у беларускіх і польскіх культурна-асветніцкіх гуртках у Пецярбургу, куды прыносіў свае вершы і песні. Царскія ўлады западозрылі палітычную дзейнасць у гэтых гуртках і дзейнасць іх была спынена, а Пачопку звольнілі з працы і пазбавілі магчымасці знайсці іншую дзяржаўную службу ў сталіцы.

Баляслаў Пачопка быў вымушаны вярнуцца на радзіму, дзе працаваў прыватным настаўнікам у маёнтку Швядовічаў Крывейкішкі непадалёку ад старажытнага мястэчка Кернава на Віленшчыне. У 1911 у дзяржаўнай гімназіі ў Шаўлях здаў экстэрнам экзамэн за восем класаў гімназіі і атрымаў атэстат.

31 студзеня 1912 ажаніўся на Марцыяне Пілецкай, з якой у яго было сем дзяцей.

З 1911 жыў у Вільні, супрацоўнічаў з рэдакцыямі беларускіх выданняў "Наша ніва" і "Biełarus", а таксама працаваў як хатні настаўнік. Удзельнічаў у стварэнні першай беларускай каталіцкай

газэты “Biełarus” (выходзіла раз на тыдзень, друкавалася беларускай лацініцай), пачынаючы з пятага нумару (№ 1, 1914) быў яе рэдактарам і выдаўцом.

Баляслаў Пачопка – укладальнік і выдавец першага ў XX стагоддзі беларускага малітоўніка “Boh z nami” (1915), аўтар першай беларускай граматыкі (“Hramatyka biełaruskaj mowy. Apracawał B.Pačobka”, распрацавана ў 1915; надрукавана ў Вільні, у друкарні “Homan” у сакавіку 1918). Падрыхтаваў і выдаў шэраг беларускіх рэлігійных кніжак. Пісаў вершы па-беларуску і па-польску, збіраў беларускі фальклор, даследаваў гісторыю батлейкі ў Беларусі.

Допісы ў газеты і публіцыстычныя творы падпісваў як уласным прозвішчам, так і living рознымі варыянтамі скарачэнняў уласнага імя і прозвішча: B.P, P-ka Boluk, P-ka B., а. Баляслаў і інш.

Браў удзел у арганізацыі беларускага школьніцтва ў Вільні. З снежня 1915 года стаў адным з выкладчыкаў арганізаваных намаганнямі Алаізы Пашкевіч (Цёткі), Івана і Антона Луцкевічаў ды інш., першых вечаровых настаўніцкіх курсаў для падрыхтоўкі беларускіх настаўнікаў. Працаваў у Вільні ў Камітэце дапамогі пацярпелым ад вайны.

У кастрычніку 1915 з Вільні разам з сям’ёй пераехаў у Свіслач, каб з дазволу нямецкіх акупацыйных уладаў разам з іншымі дзеячамі стварыць там першую беларускую настаўніцкую семінарыю. З’яўляўся яе дырэктарам, хоць фармальна яе кіраўніком быў немец Бэндзеха.

У беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы, якая дзейнічала ў перыяд з 15.10.1916 па 15.11.1918, і за гэты пэрыяд падрыхтавала 144 беларускіх настаўніка, Баляслаў Пачопка выкладаў беларускую мову і лаціну. Падчас працы ў Свіслачы пачаў збіраць беларускія народныя песні, якія планаваў выдаць у зборніку “Беларуская ліра”, аднак гэтая праца не была завершана і сёння лёс яе невядомы.

Летам 1920, падчас кароткага панавання бальшавікоў, вымушаны быў хавацца ад магчымых рэпрэсіяў і жыў на нелегальным становішчы пад страхой аднаго з гаспадарчых будынкаў.

Пасля ліквідацыі польскімі ўладамі беларускай настаўніцкай семінарыі ў Свіслачы і беларускага школьніцтва ў Заходняй Беларусі працаваў дырэктарам і настаўнікам у школах Ваўкавыскага павету: у в. Вільчукі (1920—1922), в. Масюкі (1922-1926).

У міжваенны час вырашыў прысвяціць сябе справе адраджэння Уніі ў Беларусі і прыняў усходні абрад на прапанову ўкраінскага манаха-рэдэмптарыста Мікалая Чарнецкага (пазьней – біскупа, Апостальскага візітатара каталіцкіх парафіяў славяна-бізантыйскага абраду ў Польшчы, сёння вызнанага Царквой блаславёным). Дзеля гэтага падаў пісьмовую просьбу ў Рым і вясною 1921 атрымаў асабісты дазвол ад папы Бэнэдыкта XV. З 1921 аднавіў свае тэалагічныя штудыі – у грэка-каталіцкай семінарыі ў Львове, дзе 5 гадоў вучыўся завочна. 18 ліпеня 1926 быў высвечаны на дыякана, а 25 ліпеня – на святара ў катэдры св. Юра ў Львове. Святарскія пасвячэнні паводле бізантыйскага абраду яму ўдзяліў Галіцкі мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі.

23.08.1926 рыма-каталіцкі біскуп Пінскі Зыгмунт Лазінскі прызначыў яго “выконваючым абавязкі вікарыя Целяханскай парафіі для абслугоўвання вернікаў усходняга абраду, з рэзідэнцыяй у Бабровічах”.

Падчас працы ўніяцкім парахам у Бабровічах а. Баляслаў Пачопка, акрамя святарскага служэння, выкладаў рэлігію дзецям у школе, актыўна займаўся дабрачыннай дзейнасцю для бедных, браў удзел у Пінскіх унійных канферэнцыях, на якіх выступаў з дакладамі, дасылаў артыкулы ў беларускую і польскую прэсу (“Da Złučeńnia”, “Przegląd Wileński”). Стаў першым біёграфам біскупа Пінскага Зыгмунта Лазінскага (цяпер вядзецца беатыфікацыйны працэс). У 1938 уласнымі рукамі збудаваў і аздобіў новую драўляную ўніяцкую царкву ў Бабровічах (значную частку грошаў на яе ахвяравала Магдалена Радзівіл). У душпастырскай дзейнасці карыстаўся пераважна беларускай мовай.

Баляслаў Пачопка меў шырокую перапіску з рознымі асобамі далёка па-за межамі краіны, падтрымліваў шматгадовую лістоўную сувязь з мецэнаткай беларускага руху княжной Магдаленай Радзівіл, сябраваў з вядомым славістам прафэсарам Брэслава (Уроцлава) Рудольфам Абіхтам, зь якім працаваў у Свіслацкай беларускай настаўніцкай семінарыі.

З прыходам Саветаў у 1939 пачаўся маральны і матэрыяльны ціск на святара і яго сям’ю, а ў лютым 1940, калі ў Заходняй Беларусі адбылася першая масавая аперацыя НКВД па дэпартацыі ў Сібір, у яго царкве адбыўся пагром. Праз некалькі тыдняў яго спрабавалі

абвінаваціць у крадзяжы збожжа. Гэтыя перажыванні моцна адбіліся на стане здароўя святара, якое ўвесну 1940 моцна пагоршылася, узніклі праблемы з сэрцам. Некалькі тыдняў ён правёў у шпіталі ў Целяханах. Увосень святаром заняліся следчыя НКВД. У снежні 1940 святар другі раз трапіў у шпіталь у Целяханах, а на другі дзень святаў Божага Нараджэння (26 снежня 1940) там памёр.

Пахаваны ён быў на каталіцкіх могілках у Целяханах. Сям'я святара адразу пасля яго пахавання, хаваючыся ад рэпрэсіяў НКВД, з'ехала на Віленшчыну, пазней выехала ў Польшчу, дзе дагэтуль жывуць нашчадкі.

У 120-ыя ўгодкі з дня нараджэння Баляслава Пачопкі, на Дзяды 2004 году, на яго магіле быў урачыста адкрыты і асвечаны помнік з дрэва з выяваю ўваскрослага Хрыста (аўтар помніка - мастак Мікалай Колас з Баранавічаў).

*Анатоль Астапенка*



## МАГДАЛЕНА РАДЗІВІЛ

Без матэрыяльнага фундамента беларускае і духоўнае адраджэнне пачатку 20 стагоддзя існаваць наўпрост не магло. Яно трымалася на тых людзях, якія ахвяравалі ўласныя сродкі на друкаванне кніг і газетаў, пабудову касцёлаў і школаў. Адной з такіх мецэнатак была Магдалена Радзівіл, якая лічыла сябе беларускай і менавіта так публічна пазіцыянавала сябе. “Я грошай для маіх беларусаў не шкадую,” – так не раз казала Магдалена, па ўспамінах сучаснікаў. А грошай для “сваіх” беларусаў княгіна сапраўды не шкадавала: менавіта на яе сродкі друкаваліся першыя беларускія газеты і кнігі, пашыралася выдавецкая дзейнасць. У яе маёнтках працавалі беларускія школы для вясковых дзяцей, яна адкрывала прытулкі для сірот і шпіталі для параненых і хворых падчас Першай сусветнай вайны, ахвяравала вялізныя сродкі на святыні і рэлігійную дзейнасць.

Магдалена нарадзілася 8 ліпеня 1861 года ў Варшаве. Ахрышчана дзяўчынка была ў каталіцтва. А пры хросце атрымала імя “Марыя Магдалена”. Яе бацька Ян Казімір Завіша паходзіў са знакамітага беларускага шляхецкага роду герба Лебедзь, і ў свой час быў вядомым навукоўцам-гісторыкам, археолагам, даследаваў каменны век, збіраў памяткі беларускай даўніны. Цэнтрам яго спадчынных земляў быў палац у Кухцічах (цяпер пасёлак Першамайск) у тагачасным Ігуменскім павеце. Любоў да Беларусі ад бацькі перадалася і Магдалене. Бацька быў для яе ўзорам служэння высокім ідэалам патрыятызму, сумленнасці, дабрачыннасці. Менавіта Магдалене ў спадчыну і адыйшлі пасля смерці Яна Завішы бацькоўскія маёнткі Кухцічы і Жорнаўка на Меншчыне.

У 1904 годзе ў Англіі Магдалена пазнаёмілася з князем Мікалаем Вацлавам Радзівілам – прадстаўніком берлінскай галіны найвядомейшага беларускага магнацкага роду. Нягледзячы на тое, што князь Мікалай быў збяднелым прадстаўніком роду, ён вызначыўся гераізмам у руска-японскай вайне (пад Порт-Артурам) і быў узнагароджаны ордэнам св. Уладзіміра. Сапраўдны рыцар краю, які дакажа гэта ўласным жыццём. Будучы літвінам (беларусам) з паходжання, ён цікавіўся беларускім фальклорам, народнымі

традыцыямі, меў чуласць да іх носьбітаў – сялянаў, і гэтым таксама не мог не заваяваць сэрца Магдалены.

Нягледзячы на вялікую розніцу ва ўзросце (Магдалена была старэйшая за Мікалая на 19 гадоў), у 1906 годзе ў Лондане адбыўся шлюб Мікалая і Магдалены. Іх асуджалі ў варшаўскіх салонах, для іх зачыніліся дзверы ўсіх арыстакратычных польскіх дамоў і клубаў. Але гэта не спалохала маладых сужонкаў, аднадумцаў па духу: у іх была Беларусь, былі Магдаленіны землі з маёнткамі, якія чакалі сваіх гаспадароў. Магдалена аформіла ў валоданне Мікалая родавы маёнтак у Кухцічах, а ён найперш заняўся пабудовай чыгункі, каб злучыць беларускую глыбінку з цэлым светам, стварыць умовы для развіцця прамысловасці краю. Дбаў ён і пра лясную гаспадарку ў сваіх уладаннях, спрыяў увядзенню новых тэхналогій у земляробстве.

Маёнткі Радзівілаў прыносілі немалы даход, значная частка якога ішла на дабрачынныя справы. Магдалена фінансавала выдавецтва “Загляне сонца і ў наша аконца”, Беларускае выдавецкае таварыства, таварыствы цвярозасці, шпіталі, сельскія крамы. Магдалена Радзівіл падтрымлівала газету “Biełarus” (1913-1916) – яна сваімі кансерватыўнымі поглядамі складала ў беларускім нацыянальна-дэмакратычным руху ідэалагічную канкурэнцыю беларускамоўнай газеце «Наша Ніва», якая мела сацыялістычны ўхіл. Яе маёнтак у Кухцічах наведвалі Вацлаў Іваноўскі, Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Раман Скірмунт, Аляксандр Уласаў і іншыя дзеячы беларускага нацыянальна-культурнага руху. Пры фінансавай падтрымцы Магдалены быў выдадзены першы беларускі малітоўнік для набажэнстваў “Бог з намі”. Знакам падзякі Магдалене за яе мецэнацкую дзейнасць была выява Лебедзя – герба роду Завішаў, якую змяшчалі выдаўцы на тытульных аркушах кніг, друкаваных на грошы княгіні. А гэта былі знакавыя для беларускай літаратуры кнігі: “Вянок” Максіма Багдановіча (1913), “З роднага загону” Андрэя Зязюлі (1913), “Рунь” Максіма Гарэцкага (1914), “Родныя з’явы” Тараса Гушчы (Якуба Коласа, 1914), “Курганная кветка” Канстанцыі Буйло (1914), “Васількі” Ядвігіна Ш. (1914).

Дабрачынную беларускую дзейнасць Магдалены Радзівіл не перапынілі ні Першая сусветная вайна, ні заўчасная гібель яе каханага мужа. Магдалена спрыяла адкрыццю дзіцячых прытулкаў і шпіталяў. Яна залажыла ў Мінску дабрачыннае таварыства “Літасць”

для дапамогі сем'ям пакліканых у войска. У сваіх уладаннях княгіня адчыніла некалькі беларускіх пачатковых школ для сялянскіх дзяцей (выкладалі ў іх, між іншым, сёстры Канстанцыі Буйло). Яшчэ ў даваенны час яна таксама шчодра выдат-коўвала сродкі на стыпендыі для студэнтаў-беларусаў, асабліва для тых, хто ішоў вучыцца ў духоўныя семінарыі.

Справа духоўнага адраджэння Беларусі была таксама адной з найважнейшых для Магдалены Радзівіл. Яна сама была шчырай верніцай-каталічкай, прыхільніцай усходняга абраду і рупілася аб пабудове грэка-каталіцкай царквы ў Мінску, але не атрымала на тое дазволу гарадскіх уладаў; пасылала грошы на набыццё беларускіх кніг для Духоўнай каталіцкай акадэміі ў Пецярбургу, дзе вучылася цэлая грамада будучых беларускіх святароў. Урэшце, змушаная да выезду за мяжу ў 1918 годзе, яна ахвяравала на пабудову Беларускага калегіума ў Рыме каштоўнае брыльянтавае кальe, аднак здзейсніць гэты план княгіні, як вядома, беларускім святарам не ўдалося. За кошт гэтага кальe пасля развіваўся кляштар беларускіх марыянаў у Друі. У 1918 годзе горача падтрымала стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі.

Пасля заняцця Менску бальшавісцкімі войскамі Магдалена выехала ў Варшаву. У 1919 спрабавала вярнуцца ў Менск, але атрымала адмову новых уладаў. Змяніўшы некалькі месцаў жыхарства, у 1932 прыехала ў Фрыбург (Швейцарыя), адкуль працягвала падтрымліваць некаторыя беларускія суполкі. Памерла 6 студзеня 1945 года там жа, у кляштары дамініканак. Пахаваная ў Фрыбургу.

Цікава, што імем Магдалены Радзівіл названа адна з новых уздзенскіх вуліц. А напрыканцы 2014 года, у былых Кухцічах, каля Узды, была ўрачыста адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар мужа Магдалены Мікалая Радзівіла. На прэс-канферэнцыі ў Менску з нагоды 155-годдзя са дня нараджэння мецэнаткі прадстаўнікі роду Радзівілаў выказалі пра намер перавезці прах Магдалены ў Мінск. Таму, мажліва, што у хуткім часе Магдалена вернецца на Радзіму, каб назаўжды застацца ў сценах Чырвонага касцёла.

*Вікторыя Чаплева*



# ЭДВАРД РОП

Эдвард Марыя барон фон дэр Роп (14 снежня 1851, маёнтак Ліксна, Дынабургскі павет Віцебскай губерніі, цяпер Латвія – 25 ліпеня 1939). Прадстаўнік інфлянцкага баронскага роду, продкі якога паходзяць ад нямецкага крыжака, выхадца з Саксоніі Тэадорыха з Ропы, які пасяліўся на тэрыторыі сучаснай Латвіі ў XIII стагоддзі. Па маці – сваяк "ліцвінскай Жанны д'Арк" Эміліі Плятэр, якая праславілася сваім удзелам у паўстанні 1830-1831 гадоў. Сярод яго продкаў былі сярод іншага прадстаўнікі княскіх родаў Вішнявецкіх, Палубінскіх і Агінскіх.

У сем гадоў страціў бацьку Юлія Эмерыха Ропа, выхоўваўся матуляй у глыбокай веры. У 1875 годзе скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, пасля чаго працаваў у акружным судзе, затым – у Сенаце і Міністэрстве дзяржаўнай маёмасці Расіі. Пасля трагічнай гібелі ў Венецыі нявесты вырашыў прысвяціць сваё жыццё Богу. У 1886 годзе скончыў Ковенскую рымска-каталіцкую духоўную семінарыю. 26 ліпеня 1886 года высвечаны ў дыякана, 2 жніўня таго ж года – у святара. У 1890 годзе ўдасканальваў адукацыю на тэалагічных факультэтах універсітэтаў у Інсбруку (Аўстрыя) і Фрэйбургу (Швейцарыя).

З 1889 годзе ксёндз у Лібаве (цяпер Ліепая, Латвія), у 1892-1893 гадах – Курляндскі дэкан, з 1896-га - канонік капітулы Жамойцкай дыяцэзіі. 9 красавіка 1902 года прызначаны біскупам Ціраспальскім (цэнтр – у Саратаве), высвечаны ў біскупа 16 лістапада таго ж года. Сучаснікі адзначалі яго "дбайнае служэнне Касцёлу, арыстакратычны такт, глянец і выхаванне высокай дыпламатычнай маркі".

9 лістапада 1903 года прызначаны біскупам Віленскім. На гэтай пасадзе абараняў святароў ад пераследу з боку ўладаў, падтрымліваў выданне каталіцкай прэсы і духоўнай літаратуры, змагаўся з дапамогай пастырскіх пасланняў і казанняў з развіццём сацыялістычных ідэй. Увёў у практыку абмеркаванне справаў дыяцэзіі са святарамі. У адказ на забарону віленскага губернатара правесці першы сход святароў накіраваў 20 верасня 1904 года

пратэст расійскаму ўраду. У 1905 годзе апублікаваў таксама інструкцыі для катэхізатараў, нягледзячы на нараканні міністра асветы на тое, што іх не ўхваліла міністэрства.

Эдвард Роп быў адным з першых буйных дзеячоў каталіцызму ў Беларусі і Літве, які прызнаў правы беларускай мовы. Выступаў супраць атаясамлівання каталіцызму з польскасцю, спрыяў увядзенню літоўскай і беларускай моў у касцёльнае жыццё дзеля лепшага разумення беларускім і літоўскім каталіцкім насельніцтвам асноў веры. Так, сваім цыркулярам дазволіў, каб малітвы, катэхізіс, свяшчэнную гісторыю і гісторыю Касцёла выкладалі дзецям, якія размаўляюць па-беларуску, на беларускай мове.

“Беларуская мова павінна на самой справе, а не толькі на словах атрымаць прызнанне. Яна мае права на існаванне і развіццё, а таму павінна вывучацца нароўні з велікарускай мовай у народных школах. Беларуская літаратура не павінна мець перашкодаў для свайго развіцця, як рускімі, так і лацінскімі літарамі. <...> Не жадаючы быць паланізатарам беларускага народу (гэта не павінна быць задачай рэлігіі), пры тлумачэнні дзецям ісцін веры трэба выкарыстоўваць мову, на якой яны гавораць у сваёй хаце, г.зн. - беларускую. Духавенству трэба прыняць удзел у стварэнні агульнай, па магчымасці ўсім зразумелай літаратурнай беларускай мовы”, - пісаў ён, накіроўваючы прадстаўнікоў духавенства ў камісію па абмеркаванні пытання аб мовах пры віленскім генерал-губернатары летам 1905 года. За гэта абвінавачваўся ў занядбанні польскай нацыянальнай ідэі.

Актыўна ўдзельнічаў у палітычным жыцці, належаў да руху краёўцаў, якія выступалі за аўтаномію беларуска-літоўскіх губерняў у складзе Расійскай Імперыі.

Менавіта біскуп Роп быў ініцыятарам і заснавальнікам першай хрысціянска-дэмакратычнай партыі на тэрыторыі Беларусі - Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі, якая стваралася з мэтай абароны каталіцкага (беларускага, літоўскага і польскага) насельніцтва Паўночна-Заходняга Краю, а таксама за аўтаномію і абарону інтарэсаў Краю. Па словах біскупа, партыя стваралася “на аснове справядлівасці, любові і згуртаванасці пад знакам крыжа”. Яна канчаткова аформілася на з’ездзе 7 лютага 1906 года, у якім

удзельнічалі прадстаўнікі духавенства, буйных землеўладальнікаў, працоўных і сялянаў.

Для распаўсюджвання сваіх ідэй Канстытуцыйна-каталіцкая партыя выдавала польскамоўныя хрысціянска-дэмакратычныя газеты "Nowiny Wileńskie" (студзень-люты 1906), "Towarzysz pracy" (люты-сакавік 1906), "Przyjaciel ludu" (са студзеня 1906). Два апошнія выданні былі арыентаваныя на працоўных і сялян. Акрамя таго, 1 сакавіка 1906 года біскуп Эдвард Роп набыў штотыднёвік "Kurier Litewski", у якім неўзабаве сталі публікавацца ўсе партыйныя матэрыялы.

На выбарах у І Дзяржаўную думу ККПЛіБ, нягледзячы на перашкоды з боку ўладаў, здолела правесці шэраг дэпутатаў, у тым ліку біскупа Эдварда Ропа, караля вузкакалейкі Баляслава Ялавецкага, ксяндза Антонія Сангайлу, селяніна Марціна Жукоўскага. Але пад ціскам уладаў Эдвард Роп мусіў пакінуць кіраўніцтва Канстытуцыйна-каталіцкай партыяй, а сама партыя была неўзабаве забароненая.

У Думе біскуп прадстаўляў Віленскую губерню і ўваходзіў у "Кола тэрытарыяльнае", якое аб'ядноўвала дэпутатаў-"краёўцаў" ад Беларусі, Літвы і Украіны, і ў фракцыю аўтанамістаў. Выступаў супраць рэвалюцыйнага руху. Актыўна процідзейнічаў русіфікацыйнай палітыцы, дамагаўся кампенсацыі маёмаснай шкоды, нанесенай расійскімі ўладамі Каталіцкай царкве, у прыватнасці, рэквізіцыямі касцёлаў, кляштараў, зямельных участкаў. Выступаў супраць крайнасцяў у палітыцы: "Не жадаем гвалту, не жадаем унутранай барацьбы, а імкнемся да паступовага развіцця".

Актыўна рыхтаваўся да ўдзелу ў выбарах у ІІ Дзяржаўную Думу, але пастаўлены 3 снежня 1906 года міністрам унутраных спраў перад выбарам: альбо пакінуць займаемую пасаду, альбо адмовіцца ад дэпутацтва ў Думе, быў вымушаны зняць сваю кандыдатуру. Тым не менш адыграў важную ролю ў заключэнні пагаднення паміж сялянамі і землеўласнікамі Віленскай губерні.

Таксама быў заснавальнікам хрысціянска-дэмакратычнага Каталіцкага саюзу працоўных.

У кастрычніку 1907 года, нягледзячы на пратэст Святога Пасаду, загадам міністра ўнутраных спраў адхілены ад кіравання дыяцэзіяй. Быў абвінавачаны ў непрымальнай для духоўнай асобы палітычнай

актыўнасці, у імкненні паланізаваць літоўцаў і беларусаў, у арганізацыі масавага пераходу з праваслаўя ў каталіцтва. Быў высланы з Вільні 5 кастрычніка 1907 года і быў вымушаны правесці некалькі тыдняў у кляштары пры касцёле Святой Кацярыны ў Санкт-Пецярбургу, затым дзесяць гадоў пад наглядам паліцыі ў маёнтку свайго брата Нішча (Віцебская губерня) і ў Тыфлісе (Тбілісі, Грузія). Абавязкі адміністратара Віленскай дыяцэзіі пачаў выконваць мінскі дэкан Казімір Міхалкевіч.

Эдвард Роп узгадваецца сярод заснавальнікаў (разам з князем Вінцэнтам Святаполк-Мірскім, баронам Казімір Шафнагелем, ксяндзамі Вінцэнтам Гадлеўскім і Аляксандрам Астрамовічам) у 1915 годзе першай правай менавіта беларускай партыі – "Хрысціянскай злучнасці".

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі Часовы ўрад дазволіў вярнуцца яму са ссылкі. Паколькі тэрыторыя Віленскай дыяцэзіі была акупаваная нямецкімі войскамі, Эдвард Роп пасяліўся пры касцёле Святой Кацярыны ў Петраградзе. 29-31 траўня 1917 годзе ўдзельнічаў у першым сінодзе расійскіх каталіцкіх святароў візантыйскага абраду на чале з мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім.

Са згоды Часовага ўраду 25 ліпеня 1917 года прызначаны Папам Рымскім Бенедыктам XIV арцыбіскупам Магілёўскай рымска-каталіцкай архідыяцэзіі з рэзідэнцыяй у Петраградзе. На гэтай пасадзе працягваў падтрымліваць беларускую мову, у тым ліку ідэю яе ўвядзення ў набажэнства. Падчас візітацыі ім касцёлаў усходняй Беларусі некаторыя ўрачыстыя набажэнствы праводзіліся на беларускай мове.

Улетку 1917 года дазволіў дзейнасць суполак БХДЗ на базе каталіцкіх парафіяў.

Летам 1917 года мітрапаліт ад імя Ватыкана заключыў пагадненне з Часовым урадам па пытаннях, якія тычыліся становішча Рыма-Каталіцкага Касцёлу ў Расіі і заснавання дыяцэзій. У кастрычніку распрацаваў разам з камісарам Часовага ўраду Сяргеем Катлярэўскім царкоўную канстытуцыю. Арцыбіскуп таксама падтрымліваў Каталіцкі Касцёл усходняга абраду, высвяціў некалькі дыяканаў. Быў сябрам Ліквідацыйнай камісіі па справах польскай дзяржавы. Заснаваў Хрысціянска-дэмакратычную партыю Расіі.

Эдвард Роп не прыняў Савецкай улады і называў Савецкі ўрад «пасланцамі д'ябла». Пратэставаў супраць дэкрэта пра аддзяленне Царквы ад дзяржавы ад 23 студзеня 1918 года, а таксама накіраваў у Наркамат юстыцыі пралата Канстанціна Будкевіча для вядзення перамоваў па гэтым пытанні, якія не прынеслі поспеху. У 1918 годзе як кіраўнік каталікоў Расіі звярнуўся з лістом да савецкага ўрада з патрабаваннем спыніць негалосную цэнзуру, якой падвяргаліся казанні, наступствам чаго стала правядзенне некалькіхператрусаў у рэзідэнцыі арцыбіскупа.

2 красавіка 1919 года выдаў загад, паводле якога ў каталіцкіх парафіях ствараліся на чале з пробашчамі касцёльныя камітэты, якія мусілі падпісаць з савецкімі ўладамі дамовы аб сваёй адказнасці за касцёльную маёмасць. Таксама для каардынацыі дзейнасці ў Петраградзе заснаваў і кіраваў Цэнтральным камітэтам Магілёўскай архідыяцэзіі. Камітэт распрацоўваў меры па супрацьстаянні бальшавіцкім антырэлігійным кампаніям і ажыццяўленню дэкрэта “Аб аддзяленні Царквы ад дзяржавы і школы ад Царквы”, у частцы нацыяналізацыі царкоўнай маёмасці. Цыркуляры мітрапаліта заклікалі духавенства ўсяляк процідзейнічаць правядзенню ў жыццё гэтага дэкрэта і канфіскацыі царкоўных каштоўнасцяў.

Арыштаваны 19 красавіка 1919 года ў Петраградзе як закладнік пасля ўзяцця Вільні Чырвонай Арміяй. Арышт арцыбіскупа выклікаў шматлікія акцыі пратэсту сярод каталіцкага насельніцтва і зварот вернікаў да народнага камісара юстыцыі Пятра Красікава, з прычыны чаго мітрапаліт быў пераведзены з Петраграда ў Маскву – спачатку на Лубянку, затым у Бутырскую турму.

Ад расстрэлу яго выратавала хадайніцтва Ватыкана. Папскі нунцый у Варшаве Ахіл Раццi (будучы Папа Рымскі Пій XI) і Чырвоны Крыж вялі перамовы з савецкім урадам аб абмене мітрапаліта Ропа на камуністычнага дзеяча Карла Радэка, які знаходзіўся ў зняволенні ў Германіі. 17 лістапада 1919 года арцыбіскуп быў вызвалены і выехаў у Варшаву, дзе працягваў лічыцца кіраўніком Магілёўскай архідыяцэзіі.

Неаднаразова спрабаваў вярнуцца на занятыя бальшавікамі тэрыторыі, у тым ліку пры падрыхтоўцы Папскай місіі дапамогі галадаючым Паволжа ў 1921 годзе. Для пашырэння каталіцкіх місій

у Расіі заклікаў ужываць практыку бірытуалізму святароў, якія б маглі адначасова выкарыстоўваць лацінскі і візантыйскі абрады.

У 1922 годзе прызначаны трон-асістэнтам Святога Прастола. З 1924 года – кіраўнік заснаванага па яго ініцыятыве Люблінскага місіянерскага інстытута па працы з Расіяй, кіраўнік сакратарыята Магілёўскай архідыяцэзіі. У 1923 годзе звярнуўся да Сусветнага кангрэсу хрысціянскіх рэлігій з заклікам прыняць рэзалюцыю супраць рэлігійных пераследаў у Расіі.

З 1938 года жыў у Познані, дзе і памёр 25 ліпеня 1939 года. У 1983 году парэшткі арцыбіскупа фон Ропа перанесеныя ў Беласток, дзе пахаваныя ў катэдральным касцёле.

*Максім Гацак*



## АНТОНІ САНГАЙЛА

Нарадзіўся 3 ліпеня 1867 года ў літоўскай мяшчанскай сям'і. Скончыў Віленскую рымска-каталіцкую семінарыю. Каталіцкі святар з 1890 года. З гэтага ж году працаваў законанастаўнікам у Брэсцкай прагімназіі.

У 1906 годзе – дэкан у Пружанскім павеце, ксёндз у Пружанах, законавучыцель гарад-ской і некалькіх павятовых вучэльняў. "Аддаваў усе свае сілы прасвятленню народу", карыстаўся папулярнасцю ў сялянаў.

Быў сябрам Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі. У 1906 годзе абраны дэпутатам Расійскай Першай Дзяржаўнай думы ад Гродзенскай губерні. На выбарах быў падтрыманы габрэямі і праваслаўнымі, карыстаўся "вялікай сімпатыяй сярод насельніцтва ўсіх нацыянальнасцяў". У Думе ўваходзіў у склад групоўкі "Краёвае кола Літвы і Русі", якое яднала дэпутатаў-католікаў Заходніх ускраін Расійскай імперыі. З'яўляўся прыхільнікам краёвай ідэі, пры гэтым іншымі дэпутатамі лічыўся прыхільнікам літоўскага нацыянальна-дэмакратычнага руху.

Падпісаў законапраект "Аб грамадзянскай роўнасці". Удзельнічаў у спрэчках па аграрным пытанні, па Беластоцкім пагроме 1906 года, урадавым паведамленні па аграрным пытанні. У прыватнасці, настойваў на тым, што аграрнае пытанне павінна быць вырашана "паводле мясцовых умоў", унёс папраўку, што прымусовае адчужэнне зямлі можа быць ажыццёўленае толькі "ў выпадку неабходнасці". Пагром у Беластоку называў урадавай правакацыяй, заяўляў пра праслед і дыскрымінацыю каталікоў у Заходнім краі: "Ніхто з нас не можа заняць пасаду, не можа свабодна маліцца, свабодна жыць на ўласнай зямлі."

У 1910 годзе займаў пасаду Сакольскага дэкана, быў пробашчам Сакольскага касцёлу (пакінуў пасаду ў 1911 годзе). Затым – Беластоцкі дэкан і пробашча беластоцкага фарнага касцёла. У 1915 годзе ва ўмовах адступлення расійскіх войскаў і наступлення нямецкіх дэкан Антоні Сангайла узначаліў утвораны ў Беластоку Грамадзянскі камітэт, які ад імя гараджанаў вёў перамовы з акупацыйнымі ўладамі. Браў актыўны ўдзел у аднаўленні дзейнасці

Хрысціянскага дабрачыннага таварыства Беластоку, узначальваў яго ў студзені 1916 - кастрычніку 1918 гадоў, актыўна ахвяраваў асабістыя сродкі на дабрачынную дзейнасць. У 1919 годзе абраны ганаровым старшынём Дабрачыннага таварыства. У 1917 годзе стаў куратарам Таварыства польскіх школ у Беластоку.

З 1934 года капелан касцёла святой Кацярыны ў Вільні, ганаровы канонік Віленскай дыяцэзіі. У 1936 годзе прызначаны візітатарам навучання рэлігіі ў сярэдніх і пачатковых школах. Быў жывы ў 1939 годзе. Далейшы лёс невядомы.

*Максім Гацак*



# ВІНЦЭНТ СВЯТАПОЛК-МІРСКІ

Прадстаўнік княскага роду Святаполк-Мірскіх, якія прэтэндавалі на паходжанне ад Рурыкавічаў – адзін з заснавальнікаў партыі “Хрысціянская злучнасць”.

Вінцэнт Святаполк-Мірскі адпачатку быў прыхільнікам краёвай ідэі. У студзені 1915 года падпісаў разам з Вацлавам Ластоўскім і Антонам Луцкевічам зварот да нямецкіх акупацыйных улад зварот аб дазволе выдання беларускіх газет.

У 1915 годзе ўвайшоў у склад Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Вільні. У гэты ж год згадваецца сярод заснавальнікаў (разам з баронам Казімірам Шафнагелем, біскупам Эдвардам Ропам, ксяндзамі Вінцэнтам Гадлеўскім і Аляксандрам Астрамовічам) першай правай менавіта беларускай партыі – “Хрысціянскай злучнасці”.

У 1917 годзе ўвайшоў у арганізацыю “Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі” на чале з Вацлавам Ластоўскім. Арганізацыя адмаўляла ідэю стварэння на акупіраваных Германіяй беларускіх і літоўскіх землях беларуска-літоўскай дзяржавы. Выступала за злучэнне падзеленай фронтам Беларусі ў “адзін суцэльны і незалежны арганізм”, у якім неабходна было ўстанавіць рэспубліканскі лад, правесці беларусізацыю школ, рэлігійных і дзяржаўных установ з забеспячэннем правоў нацыянальных меншасцей.

У 1917 годзе разам з Вацлавам Ластоўскім заснаваў Віленскае беларускае дабрачыннае таварыства па апякунстве над беднымі дзяцьмі, сіротамі і інвалідамі „Золак“, якое ўтрымлівала ў Вільні дзіцячы прытулак і школу. 8 верасня 1917 года абраны яго старшынём. Таксама займаў пасаду старшыні (прэзеса) Саюзу хрысціянскіх каапературываў.

Вінцэнт Святаполк-Мірскі ўвайшоў у арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні “агульнабеларускай нацыянальнай канферэнцыі з усіх акупаваных земляў”. 30 верасня ў 1917 годзе быў у ліку арганізатараў беларускага мітынгу ў Вільні, прэзідыум якога 4

кастрычніка звярнуўся да нямецкіх уладаў з просьбай на дазвол правядзення канферэнцыі. Паседжанні аргкамітэту праходзілі ў тэхнічным Бюро Вінцэнта Святаполк-Мірскага ў Вільні. Канферэнцыя адбылася 25-28 студзеня 1918 года і спрыяла кансалідацыі дзейнасці беларускіх арганізацый на акупаваных германскім войскам тэрыторыях. На канферэнцыі выступіў з дакладам "Школьная справа". Вынікам дзейнасці канферэнцыі стала стварэнне Віленскай беларускай рады.

Таксама 26 студзеня 1918 года на Канферэнцыі было ўтворанае Беларускае навуковае таварыства. Вінцэнт Святаполк-Мірскі быў абраным сябрам назіральнай рады БНТ.

18 лютага 1918 года падпісаў рэзалюцыю Віленскай беларускай рады, якая абвяшчала "разарванай дзяржаўную зьвязь між Беларусьсю і Расеяй", патрабавала вываду з беларускіх земляў польскіх войскаў і заклікала Нямеччыну дапамагчы ў адбудове Вялікага княства Літоўскага.

26 траўня 1918 года Вацлаў Ластоўскі заявіў, што ён разам з князем Вінцэнтам Святаполк-Мірскім, ксяндзом Уладзіславам Талочкам ды баронам Казімірам Шафнагелем збіраецца стварыць нацыянальна-клерыкальную партыю.

24 жніўня 1918 года ўвайшоў у кіраўніцтва наваствораннай арганізацыі "Сувязь культурна-нацыянальнага адраджэння беларускага народу" (старшыня – Вацлаў Ластоўскі).

*Максім Гацак*

# ЛЮЦЫЯН ХВЕЦЬКА



Нарадзіўся 22 лістапада (5 снежня) 1889 года ў вёсцы Малышоўка Сакольскага павету Гродзенскай губерні (цяпер у складзе мястэчка Дамброва-Беластоцкая, Сакольскі павет, Падляскае ваяводства, Польшча) у сялянскай сям'і Антона і Міхаліны з Драчынскіх) Хвецькаў. Вучыўся ў народнай школе ў Дамброве. У 1904 годзе скончыў Сакольскае гарадское 3-класнае вучылішча. У Гродне вытрымаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі. У 1907-1911 гадах навучаўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу, затым – у Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі, якую скончыў у 1915 годзе са ступенню магістра тэалогіі.

У 1913 годзе быў адным з ініцыятараў (разам з ксяндзамі Генрыкам Бэтам і Паўлам Пякарскім) беларускага культурна-асветнага гуртка ў акадэміі. Супрацоўнічаў з віленскім каталіцкім тыднёвікам “Biełarus” (1913-14) і петраградскім часопісам “Świetač” (1916) пад псеўданімам Л. Малышэвіч. Пасвячоны ў святары 31 траўня 1914 года біскупам Янам Цеплякам. Служыў вікарыем пракафедральнага касцёла ў Пецярбургу. З лістапада 1915 года працаваў у духоўнай каталіцкай семінарыі на пасадзе прафесара літургікі і аканома. Паводле ўспамінаў ксяндза Віталіса Хамёнка, “Абавязак Эканома ў тыя рэвалюцыйныя й ваенныя часы ў так вялікім ды неспакойным горадзе, як тагдышні Петраград, дык сапраўды вымагаў неабыякога спрыту й гэраізму. Гэты абавязак шмат перашкаджаў і прафэсуры ды іншай ідэйнай працы”.

Ва ўмовах пэўнай лібералізацыі палітычнага жыцця ў Расіі ў траўні 1917 года заснаваў сумесна з ксяндзом Фабіянам Абрантовічам Хрысціянска-дэмакратычную Злучнасць, якая запачаткавала шматгадовую дзейнасць беларускай хадэцыі, быў суарганізатарам з’езду беларускага каталіцкага духавенства ў Мінску 24-25 траўня 1917 года. Летам 1917 года заснаваў у Петраградзе выдавецтва, якое пачало выпускаць беларускамоўную каталіцкую літаратуру. Вядомыя дзве кніжкі, выдадзеная гэтай суполкай. Гэта былі “Касцёльныя песні / Сабраў Вінцэнты Гожэльняскі” (30 старонак з нотамі). Аўтарам

другой быў ксёндз Аляксандр Астрамовіч: "Зязюля А. Слова праўды аб мове і долі беларуса (пасвячаю беларускай моладзі): [Верш(ы)]".

Менавіта Люцыян Хвецька – ініцыятар выдання і першы рэдактар-выдавец газеты "Krynica".

Пасля закрыцця камуністычнымі ўладамі каталіцкай духоўнай семінарыі з кастрычніку 1918 года зноў прызначаны вікарыем Пецярбургскага пракафедральнага касцёла, з лістапада 1919 года па 1923 года – яго пробашч. З кастрычніка 1920 года арганізатар і сакратар багаслоўскіх курсаў. У 1921 годзе ездзіў служыць у Гатчыну, Колпіна і Пскоў. 5 снежня 1922 года быў арыштаваны "за супраціў падчас закрыцця касцёлу", але хутка вызвалены. З 1922 года кіраваў падпольнай духоўнай семінарыяй. У мемарандуме 15 сакавіка 1923 года беларускіх сеймавых паслоў-католікаў Папу Рымскаму быў прапанаваны на пасаду біскупа-суфрагана Віленскай дыяцэзіі.

Арыштаваны савецкімі ўладамі 10 сакавіка 1923 года па справе біскупа Яна Цепляка і групы петраградскіх святароў. Абвінавачваўся "ва ўдзеле ў контррэвалюцыйнай арганізацыі з мэтай супрацьдзеяння дэкрэту аб аддзяленні Царквы ад дзяржавы". На судовым працэсе 21-26 сакавіка яго разам з біскупам Янам Цеплякам і дэканам Канстанцінам Будкевічам пракурор патрабаваў асудзіць да вышэйшай меры. 26 сакавіка асуджаны на 10 гадоў турэмнага зняволення паводле арт. 40, 68, 69-1, 119 і 121 КК РСФСР. Адасланы ў Сакольніцкую турму. У выніку польска-савецкага абмену палітычных вязняў 1 лютага 1925 года быў дэпартаваны ў Польшчу.

У 1925-1926 гадах выкладаў Закон Божы ў Шыманове пад Варшавай, капелан мясцовага кляштару сясцёр Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. У 1926-1931 гадах, дзякуючы падтрымцы біскупа Эдварда Ропа, працаваў рэктарам Місіянерскага інстытута ў Любліне, займаўся ўнійнай працай сярод праваслаўных.

З Любліна пераведзены ў Пінскую дыяцэзію. Пачаткова служыў пробашчам у Ставах, з 1932 года пробашч парафіі Шчытнікі пад Брэстам. З 1933 года ў духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пінску, займаў пасаду прафесара пастаральнай тэалогіі і выкладаў беларускую мову. Паводле рапарту пінскай паліцыі, "атачаў клапатлівай апекай … выхаванцаў беларускай і ўкраінскай нацыянальнасці, непрыхільна ставіўся да польскіх патрыётаў". Апякаў таксама створаны пры семінарыі ўнійны гурток. У 1938 годзе

пад ціскам ваяводы скасаванае выкладанне беларускай мовы ў семінарыі і зніжаная падпіска на беларускі і ўкраінскі друк. У 1933-1939 гадах скарбнік дыяцэзіяльнай курыі і віцэ-старшыня дыяцэзіяльнай рады, з 1935 года пралат. Ганаровы канонік Магілёўскай архідыяцэзіі, грэміяльны канонік Пінскай дыяцэзіі, Папскі шамбялян.

З верасня 1939 года працаваў у Хотаве (зараз Стаўбцоўскі раён). Стаў аб'ектам нападаў і пабояў мясцовых партызанаў (паводле іншых звестак, нямецкай паліцыі). У лютым 1944 года падчас аднаго з такіх нападаў уцёк з плябаніі ў бялізне і босы, моцна застудзіўся, захварэў і 28 красавіка 1944 года памёр у стаўбцоўскім шпіталі. Пахаваны пры Хотаўскім касцёле.

*Максім Гацак*

## КАЗІМІР ШАФНАГЕЛЬ



Казімір Максіміліян Шафнагель (1854 ці 1859, Бердычаў(?) – 1922, Кушляны) – барон. Род Шафнагеляў паходзіў з "валынскай шляхты, асеўшай на Русі ад некалькіх пакаленняў, звязаны чысленымі вузламі крыві з "польскай" шляхтай у Беларусі". Верагодна, нарадзіўся ў Бердычаве паміж 1854 і 1859 гадамі ў сям'і Канстантыя Якуба Максіміляна Шафнагеля і Эміліі Зэйдлер гербу Збароўскі (1821-1895). У 1881 годзе скончыў Рыжскую політэхнічную вучэльню са ступенню інжэнера-хіміка.

Удзельнічаў у будаўніцтве Лібава-Роменскай чыгункі ў Беларусі, у тым ліку прымаў дзейсны удзел у будаўніцтве чыгуначнага мосту каля вескі Солы праз раку Ашмянку. Ажаніўшыся з Марыянай Сулістроўскай, застаўся ў Ашмянскім павеце і стаў уладальнікам маёнтку Сулістроўскіх Кушляны.

З 1906 года уваходзіў у Таварыства сяброў навукі. Разам з Іванам Луцкевічам, Людвікам Абрамовічам, Аўгусцінасам Янулайцісам уваходзіў у археалагічную секцыю. У траўні 1910 года быў абраны ганаровым сябрам "за навуковыя працы і дапамогу, аказаную Таварыству". Асноўным накірункам яго дзейнасці з'яўляліся батанічныя даследванні, у прыватнасці вывучэнне імхоў. Даследваў ваколіцы Ашмян, Смаргоні, Краснага, поймы рэк Вілія, Ашмянка, Сікуня, Уша, Бярэзіна, Пціч, ваколіцы азёр Вішнеўскае, Свір, Нарач, занарачанскія балоты. Таксама здзейсніў экспедыцыю ў Белавежскую пушчу, вынікам якой стаў гербарый з 80 відамі імхоў. Усяго апісаў каля 500 відаў і разнастайнасцей імхоў. У 1908 годзе выдаў у Вільні на польскай мове кнігу "Запіскі брыялагічныя", якая дагэтуль мае вялікае значэнне ў беларускай батаніцы.

Удзельнічаў у палітычным руху краёўцаў. 1-2 ліпеня 1907 годзе на з'ездзе землеўладальнікаў шасці паўночна-заходніх губерняў падпісаў рашэнне пра стварэнне ліберальна-кансерватыўнай Краёвай партыі Літвы і Беларусі, на чале якой стаялі буйны землеўладальнік, фундатар Чырвонага касцёла ў Мінску Эдвард Вайніловіч і будучы прэм'ер-міністр БНР Раман Скірмунт. У 1908 годзе далучыўся да звязанага з КПЛіБ Саюзу краёвай працы. Пазней перайшоў на пазіцыю беларускага нацыянальнага руху.

У 1915 годзе Казімір Шафнагель, які ў гэты час жыў у акупаванай немцамі Вільні, згадваецца сярод заснавальнікаў (разам з князем Вінцэнтам Святаполк-Мірскім, біскупам Эдвардам Ропам, ксяндзамі Вінцэнтам Гадлеўскім і Аляксандрам Астрамовічам) першай правай беларускай партыі – "Хрысціянскай злучнасці".

У 1917 годзе ўвайшоў у арганізацыю "Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі" на чале з Вацлавам Ластоўскім. Арганізацыя адмаўляла ідэю стварэння на акупіраваных Германіяй беларускіх і літоўскіх землях беларуска-літоўскай дзяржавы. Выступала за злучэнне падзеленай фронтам Беларусі ў "адзін суцэльны і незалежны арганізм", у якім неабходна было ўстанавіць рэспубліканскі лад, правесці беларусізацыю школ, рэлігійных і дзяржаўных установ з забеспячэннем правоў нацыянальных меншасцей.

У кастрычніку-лістападзе 1917 года ў некалькіх нумарах віленскай газеты "Гоман" ("Homan") быў надрукаваны на беларускай мове зварот Казіміра Шафнагеля "Да нашай краёвай інтэлігенцыі". Адначасова ён быў выдадзены асобнай брашурай па-польску. У ім палітык сцвярджаў, што беларускі народ атрымаў рэальны шанс пабудовы ўласнай дзяржавы, але без дапамогі "спольшчанай інтэлігенцыі" ён не будзе выкарыстаны. На яго думку, далучэнне да беларускага руху – гэта абавязак мясцовай шляхты перад краем і "перад народам, с катораго вы выйшлі і сярод катораго жывёце, народам, каторы ёсць, жыве і клічэ вам: "памажыце!" Аўтар заклікаў шляхту ўспомніць пра беларускае паходжанне і далучыцца да беларускага руху, каб паспрыяць будаўніцтву беларускай дзяржаўнасці. Паводле яго, дзяржавастваральная праца разам з беларускім народам дасць мясцовым палякам "аснову быту" і забяспечыць "благаслаўленне патомных пакаленняў".

Польскамоўную версію звароту Казімір Шафнагель рассылаў па пошце вядомым прадстаўнікам віленскай інтэлігенцыі, асабіста размаўляў з прыхільнікамі краёвай ідэі і прапаноўваў далучыцца да беларускага руху. Але ў лепшым выпадку суразмоўцы абяцалі толькі падтрымку беларускіх намаганняў (у прыватнасці, пра гэта заявіў інжынер Ярэмія Лукасевіч). Пазіцыю Шафнагеля цалкам прыняў князь Вінцэнт Святаполк-Мірскі. Разам яны падвергліся пэўнаму астракізму з боку "вярхушкі" мясцовай польскай грамадскасці.

Казімір Шафнагель, як прэзес (старшыня) Саюзу дамаўласнікаў Вільні, ўвайшоў арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенню

“агульнабеларускай нацыянальнай канферэнцыі з усіх акупаваных земляў”. 30 верасня ў 1917 годзе быў у ліку арганізатараў беларускага мітынгу ў Вільні, прэзідыюм якога 4 кастрычніка звярнуўся да нямецкіх уладаў з просьбай на дазвол правядзення канферэнцыі. Канферэнцыя адбылася 25-28 студзеня 1918 года і спрыяла кансалідацыі дзейнасці беларускіх арганізацый на акупаваных германскім войскам тэрыторыях. На канферэнцыі выступіў з дакладам “Эканамічнае палажэнне і выхад у мора”.

У склад аргкамітэту таксама ўвайшлі каталіцкія святары Янка Семашкевіч і Уладзіслаў Талочка, прадстаўнікі беларускага праваслаўнага духавенства протаіярэй Міхал Галянкевіч і іераманах Савацій; Язэп Ліцкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Іван Луцкевіч, Антон Луцкевіч, Язэп Салавей, Дамінік Сямашка, Янка Станкевіч, Язэп Туркевіч, Вінцэнт Святаполк-Мірскі.

Выніковая рэзалюцыя Віленскай канферэнцыі ўтрымлівала імкненне, каб “акупаваныя літоўска-беларускія землі ўтваралі незалежную самастойную дэмакратычную дзяржаву, якая б складалася з двух аўтаномных нацыянальна-культурных адзінак – беларускай і літоўскай у цеснай сувязі з Курляндыяй”. Ажыццяўленне гэтага патрабавання звязвалася з Устаноўчым сходам у Вільні, абраным на падставе усеагульных, роўных, тайных, непасрэдных і прапарцыянальных выбараў у нацыянальных курыях. Вынікам канферэнцыі стала стварэнне Віленскай беларускай рады.

Таксама 26 студзеня 1918 года на Канферэнцыі было ўтворанае Беларускае навуковае таварыства. Казімір Шафнагель быў абраны першым старшынёй яго ўраду. Ураатаваў ад знішчэння кнігі і архіўныя матэрыялы беларускага этнографа і фальклярыста Еўдакіма Раманава.

26 траўня 1918 года Вацлаў Ластоўскі заявіў, што ён разам з князем Вінцэнтам Святаполк-Мірскім, ксяндзом Уладзіславам Талочкам ды баронам Казімірам Шафнагелем збіраецца стварыць нацыянальна-клерыкальную партыю.

У 1919 годзе Казімір Шафнагель з’ехаў у Польшчу і жыў у Варшаве. Вярнуўся у Кушляны у 1921 годзе і ў сакавіку 1922 года памёр. Пахаваны на мясцовых могілках, зямлю для якіх ён выдзеліў са сваіх уладанняў. У Кушлянах засталіся прыступкі былога палацу Шафнагеляў.

*Максім Гацак*



# БРАНІСЛАЎ ЭПІМАХ-ШЫПІЛА

Браніслаў Эпімах-Шыпіла – патрыярх беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху XX стагоддзя.

Народжаны на Полаччыне, ён зітаваў сабою тысячу гадоў беларускага хрысціянства і дэмакратыі: вера, прынятая Полацкім княствам яшчэ ў X стагоддзі, агукалася ў ім з рэхам полацкага веча. Сучаснікі сведчылі: прафесар Эпімах-Шыпіла наколькі веруючы, настолькі й адкрыты, свабодалюбны – і менавіта гэта рабіла яго душой усёй беларускай супольнасці Пецярбургу, тагачаснай сталіцы Расейскай імперыі.

Эпімах-Шыпіла – закладальнік падмуркаў БХД: менавіта ён дапамог большасці будучых заснавальнікаў хрысціянскай дэмакратыі ўсвядоміць сябе беларусамі і згуртаваў іх як каманду новай хвалі нацыянальнага Адраджэння.

“Вынік такой працы прафэсара Шыпілы быў той, што многія сянняшнія выдатныя беларусы, яшчэ жывыя і ўжо памершыя, як Я.Купала, Тарашкевіч, Жылуновіч, Душэўскі, Грыб, Заяц, Варонка, ксяндзы Лісоўскі, Грынкевіч, Будзька, Абрантовіч, Гадлеўскі, Хвецька, Станкевіч, Цікота, Шутовіч, Лупіновіч, Хоміч і іншыя – гэта ў большай або ў меншай меры усе ягоныя духовыя дзеці” – пісаў пра Эпімах-Шыпілу Адам Станкевіч.

Адраджэнцы пачатку XX стагоддзя лічылі жыццё і працу Эпімах-Шыпілы цэлай эпохай беларускага руху: “Спярша – Багушэвіч, потым – Шыпіла, потым – “Наша Ніва”. Яго называлі адным з апосталаў беларускага народу.

Нарадзіўся Браніслаў Эпімах-Шыпіла 4 верасня 1859 года ў фальварку Судзіловічы тагачаснага Лепельскага павету (зараз вёска Будзькаўшчына Полацкага раёну) у сям’і збяднелай беларускай шляхты. Неўзабаве сям’я пераехала ў вёску Залессе пад Полацкам.

У 1871-1880 вучыўся ў Аляксандраўскай гімназіі ў Рызе. У 1880-1886 на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта; кандыдат філалагічных навук (1887). Зарабляў прыватнымі ўрокамі, працаваў памочнікам рэдактара “Журнала

Министерства путей сообщения”. З 1891 памочнік бібліятэкара, потым бібліятэкар у бібліятэцы Пецярбургскага ўніверсітэта, выкладаў старагрэчаскую і лацінскую мовы ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах Пецярбурга. Ганаровы чалец Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, ад імя якой у 1896 удзельнічаў у археалагічным з'ездзе ў Рызе. У складзе расійскай дэлегацыі ў 1908 удзельнічаў у І міжнародным з'ездзе бібліятэчных работнікаў (Брусель).

На пачатку XX ст. стаў на чале беларускага нацыянальнага руху ў Пецярбургу. Яго дом быў асяродкам і месцам збору нацыянальна арыентаванай беларускай моладзі, і найперш навучэнцаў Духоўнай каталіцкай акадэміі.

Як сведчыць Адам Станкевіч, многія будучыя лідары БХД падоўгу гасцявалі ў прафесара, заседжваліся ў ягонай бібліятэцы, бяднейшым Эпімах-Шыпіла стала дапамагаў матэрыяльна. Прымаў удзел у дзейнасці культурна-асветнай арганізацыі “Круг беларускі” (1902-04). У 1906 стаў заснавальнікам беларускага выдавецтва “Загляне сонца і ў наша аконца” і студэнцкага “Беларускага навукова-літаратурнага гуртка”.

Яшчэ з Рыгі Эпімах-Шыпіла збіраў беларускія кнігі, каб затым скласці “Беларускую хрэстаматыю” – збор унікальных выданняў і рукапісаў XIX стагоддзя. Менавіта Браніслаў Ігнатавіч стаў рэдактарам першай кнігі вершаў Янкі Купалы “Жалейка” і дапамог яе выдаць. У 1913 сам пачаў друкавацца ў беларускіх выданнях.

Пасля пачатку І сусветнай вайны ў Петраградзе было створанае дабрачыннае Беларускае таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны, аднім з арганізатараў якога быў Браніслаў Эпімах-Шыпіла.

У 1916 удзельнічаў у падрыхтоўцы “Меморыі прадстаўнікоў Беларусі на III канферэнцыі народаў” (Лазана), дзе было абгрунтавана права беларускага народа на самастойнае нацыянальнае развіццё. У 1917 чытаў лекцыі па беларускай мове ў Петраградзе, выязджаў на Полаччыну.

У 1918-ым, нароўні з айцом Фабіянам Абрантовічам і ксяндзом Люцыянам Хвецькам, прымаў чынны ўдзел у арганізацыі Беларускай хрысціянскай дэмакратычнай злучнасці ў Петраградзе. Ягоную

кватэру будучы кіраўнік першага беларускага ураду Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны) называў “беларускім штабам”.

У 1918 выбраны старшынёй навуковага “Таварыства вывучэння культурна-прамысловага стану Беларусі”, заснаванага ў Петраградзе, садзейнічаў рабоце Белнацкома. У 1923 прыязджаў у Мінск на сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі. У 1924 абраны правадзейным членам Інбелкульта. Пераехаў у Мінск у 1925. Працаваў рэдактарам, з 1927 старшынёй камісіі Інбелкульта па складанні слоўніка жывой беларускай мовы.

Быў арыштаваны ДПУ БССР 18 ліпеня 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; на яго кватэры праведзеныператрус. Знаходзіўся ў зняволенні да 12 верасня 1930.

Пасля арышту й допытаў у справе “Саюза Вызвалення Беларусі” 70-гадовага прафесара выслалі з Менску, і ён шукаў прытулку ў Ленінградзе. Знаўцу больш як 20 моваў, які падараваў Акадэміі Навук сваю каштоўную бібліятэку ў 5000 тамоў, бальшавікі проста выкінулі на вуліцу. Апошнія гады чалавека-эпохі прайшлі “на становішчы ссыльнага”: без грошай, без сталага жытла, без магчымасці вярнуцца на Радзіму.

Памёр патрыярх хрысціянска-дэмакратычнага руху на чужыне 6 чэрвеня 1934 года.

У Залессі Полацкага раёна на месцы сядзібы Эпімах-Шыпілы ўсталяваны памятны валун з шыльдай, а ў Ветрынскай сярэдняй школе працуе музей Браніслава Ігнатавіча.

*Павел Севярынец*



## БАЛЯСЛАЎ ЯЛАВЕЦКІ

Баляслаў Ваўжынец Ялавецкі (10 жніўня 1846, Сылгудышкі, Свянцянскі павет Віленскай губерні (цяпер Салдуцішкіс, Уцянскі павет, Літва) – 10 ліпеня 1918, Петраград) – адзін з лідараў Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (1906), "кароль вузкакалейкі".

Нарадзіўся ў шляхецкай сям'і, бацька – Антон Ялавецкі (1819-1894) – валодаў 500 дзесяцінамі зямлі. Скончыў Віленскую гімназію, у 1861-1865 гадах вучыўся ў Мікалаеўскім інжынерным вучылішчы у Пецярбургу. У 1867 годзе паступіў у Мікалаеўскую інжынерную акадэмію, якую выдатна скончыў у 1870 годзе – ягонае імя выбіта на мармуровай дошцы ў будынку акадэміі, – і быў прызначаны ў інжынерны корпус, у Галоўнае інжынернае ўпраўленне. Вучыўся і стажыраваўся ў Аўстра-Венгрыі.

22 кастрычніка 1870 года Ялавецкаму прысвоены чын штабс-капітана, але 13 красавіка 1871 года, паводле ўласнага прашэння, ён звольнены са службы. Зноў пакліканы на службу 21 верасня 1872 года, 1 кастрычніка прызначаны ў Пецярбургскае крапаснoe інжынернае ўпраўленне, а 27 кастрычніка камандзіраваны на будаўніцтва Лібава-Роменскай чыгункі. У Пецярбург Ялавецкі вярнуўся ў сакавіку 1873 года, дзе яму было даручана кіраваць будаўніцтвам Адміралцейскай набярэжнай. За паспяховае выкананне гэтай працы ён 26 снежня 1874 года атрымаў асабістую падзяку імператара Аляксандра II, а 13 красавіка 1875 года – чын капітана. Са жніўня 1875 года па снежань 1878-га ўдзельнічаў у будаўніцтве чыгункі Растоў–Уладзікаўказ.

30 сакавіка 1885 года Баляслаў Ялавецкі падаў на імя імператара прашэнне аб адстаўцы з-за хваробы, якое было задаволенае 16 ліпеня 1885 года. За час службы ўзнагароджаны ордэнамі святога Станіслава 3-й ступені і святога Ганны 3-й ступені.

Таксама 15 гадоў Баляслаў Ялавецкі быў дырэктарам Аляксандраўскага завода ў Пецярбургу, які не саступаў лепшым заводам Еўропы. Быў аўтарам канструкцыі пабудаванага на заводзе спецыяльнага цягніка для царскай сям'і. Там жа па праекце Ялавецкага наладжаны выпуск вагонаў 2-га класа, якія мелі мяккія

спружынныя сядзенні, або спальныя аддзяленні (так званыя крэсла-ложкавыя вагоны). Да пачатку Першай сусветнай вайны Аляксандраўскі завод асвоіў будаўніцтва адмысловых браняваных вагонаў і санітарных цягнікоў.

Аўтар артыкулаў на тэхнічныя тэмы, дакладаў і выступленняў у Рускім тэхнічным таварыстве. У 1878-1879 гадах у Пецярбургу выйшла праца Ялавецкага ў 2-х тамах “Вада, паліва і паравозныя катлы”, папулярная сярод расійскіх інжынераў-чыгуначнікаў. Вынаходца пераносных чыгунак і абсталявання да іх сістэмы “Дольберг і Ялавецкі”.

Баляслаў Ялавецкі заснаваў і праз некаторы час узначаліў Першае таварыства пад'язных чыгуначых шляхоў у Расіі, статут якога быў зацверджаны 26 сакавіка 1892 года імператарам Аляксандрам II. Першай будоўляй Таварыства пракладка была вузкакалейнай чыгуначнай лініі ад станцыі Свянцяны Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі да мястэчка Беразвеч (цяпер у межах Глыбокага), будаўніцтва якой пачалося ў 1894 годзе. Першая чарга новай чыгункі (Свянцяны - Паставы, 66 вёрст) была адкрыта для руху 11 лістапада 1895 года, а 1 ліпеня 1897 года пачала дзейнічаць другая чарга, Паставы - Беразвеч (53 вярсты). Чыгунка паслужыла штуршком для эканамічнага і тэхналагічнага развіцця краю, дзякуючы ёй з рэгіёну быў наладжаны экспарт малочных прадуктаў, прыйшоў дротавы тэлефон.

Да 1913 года Таварыству належала 1149 вёрст чыгуначных шляхоў – амаль палова агульнарасійскай вузкакалейкі, а яго маёмасць ацэньвалася ў 27 млн рублёў. Найбліжэйшы канкурэнт у Расійскай імперыі – Маскоўскае таварыства пад'язных шляхоў – валодаў толькі 301 вярстой. Таварыству належалі Пятроўскі чыгуна-плавільны і жалезаробчы завод (4200 рабочых), вугальныя шахты ў Екацярынаслаўскай губерні і Данской вобласці. Апроч перавозкі пасажыраў і грузаў па сваіх чыгунках, Таварыства таксама будавала на замову пераносныя рэйкавыя шляхі з рухомым складам, вырабляла вагоны і ваганеткі, гандлявала машынамі і прыладамі для здабычы і прасавання торфу і пераноснымі лесапільнымі заводамі.

Апроч таго, Баляслаў Ялавецкі быў у ліку заснавальнікаў і стала прысутнічаў у складзе праўлення Руска-Бельгійскага металургічнага таварыства з асноўным капіталам 20 млн рублёў. Доўгія гады быў

старшынёй праўлення акцыянернага таварыства вагонабудаўнічага завода “Дызель”.

У палітычным плане належаў да кансерватыўнай плыні краёвага руху, ля вытокаў якога стаяў і які папулярызаваў праз свае публікацыі “Літва, наша айчына...” і “Літва і яе патрэбы. Нацыянальны катэхізм Літвы”, якія выйшлі адпаведна ў 1906 і 1907 гадах у Санкт-Пецярбургу і Вільні. Фактычна сцвярджаў існаванне ў ВКЛ адзінага польска-літоўска-беларускага этнаса, да якога таксама адносіў латышоў Інфлянтаў. Не надаваў вялікай вагі існаванню розных моваў, але звяртаў увагу на тое, што “ўвесь уклад ягонага (жыхара былога ВКЛ – рэд.) жыцця, звычаяў, сам сэнс ягонага існавання настолькі паўсюдна аднолькавы, што апроч мовы цяжка заўважыць якую-небудзь іншую розніцу. А гэта пацвярджае, што на ўсім абшары Літвы жыве адна нацыя, спаяная на працягу стагоддзяў супольнай крывёй літоўцаў, палякаў і беларусаў”.

Шлях да росквіту краю Баляслаў Ялавецкі бачыў у салідарнай працы ўсіх яго грамадзянаў без розніцы саслоўнай прыналежнасці, народнасці і веравызнання дзеля вырашэння агульнакраёвых і агульнаграмадзянскіх праблемаў: “Мы ўсе роўныя – селянін, шляхціч, рамеснік або купец – і павінны ўзаемна дапамагаць адзін аднаму”.

Паводле яго, карэнныя жыхары краю павінны мець пяршынства пры прызначэнні на пасады ва ўсіх органах самакіравання, а таксама ў адміністрацыі і судзе, а краёвыя мовы (польская, літоўская і беларуская) таксама павінны дамінаваць у грамадскім і культурным жыцці.

Баляслаў Ялавецкі прапанаваў канкрэтную праграму сацыяльных, культурных і эканамічных пераўтварэнняў, якая ў сваіх асноўных рысах стала асновай дзейнасці краёўцаў кансерватыўна-ліберальнай арыентацыі. Падмуркам грамадскай і палітычнай дзейнасці краёўцаў ён абвяшчаў царскі Маніфест 17 кастрычніка 1905 года і далейшае развіццё канстытуцыйных прынцыпаў у заканадаўстве Дзяржаўнай думы і Дзяржаўнай рады. Шэсць беларуска-літоўскіх губерняў павінны былі ўтварыць Літоўскую правінцыю ў межах ВКЛ 1790 года з самакіраваннем у Вільні з цэнтральным, акружным і гмінным самакіраваннем. Органы самакіравання выбіраліся б на падставе агульнага і бессаслоўнага выбарчага права. Усе народы краю

атрымлівалі б магчымасць свабоднага адкрыцця грамадскіх, культурных, спартыўных ды іншых арганізацыяў, у тым ліку народных школ з роднай мовай навучання. Падтрымліваў ідэю, што "калі ўсё насельніцтва краю ператварылася ў народ", то шляхта не можа заставацца асобнай кастай і павінна абараняць інтарэсы ўсяго народу.

Выступаў супраць спробаў умацаваць польскія пазіцыі ў краёвым руху і Паўночна-Заходнім краі. Фінансаваў выданне ў Санкт-Пецярбургу літоўскай газеты "Lietuviškas lajkraštis". Пры гэтым рэзка пратэставаў супраць праяваў "моўнай агрэсіі" з боку дзеячоў літоўскага нацыянальнага руху.

Як выбарны прадстаўнік ад Свянцянскага павету Ялавецкі прымаў удзел у распрацоўцы Палажэння аб земскіх установах у Віленскай, Ковенскай і Гродзенскай губернях. Уваходзіў у кіраўніцтва Рымска-каталіцкага дабрачыннага таварыства ў Санкт-Пецярбургу. Быў адным з ініцыятараў стварэння першай хрысціянска-дэмакратычнай партыі ў Беларусі – Канстытуцыйна-каталіцкай партыі Літвы і Беларусі, у праграму якой леглі многія яго ідэі. Ад ККПЛіБ у 1906 годзе абраны ад Віленскай губерні дэпутатам Першай Дзяржаўнай Думы. Уваходзіў у Краёвае кола Літвы і Русі. На яго пецярбургскай кватэры праходзілі сходы сябраў ККПЛіБ і дэпутатаў ад Заходніх ускраін Расіі. Сябар фінансавай камісіі Дзярждумы. Падпісаў законапраект "Аб грамадзянскай роўнасці".

Удзельнічаў у спрэчках па аграрным пытанні. У прыватнасці, выступаў супраць адчужэння нават часткі памешчыцкіх зямель, заяўляючы, што спрыяць вырашэнню эканамічных і сацыяльных праблем павінны былі палітычныя змены: "Толькі свабодныя людзі, грамадствы і народы ў стане зразумець адзін аднаго і стварыць найлепшыя формы і ўмовы сумеснага пражывання".

На перадвыбарчым з'ездзе 1-2 верасня 1907 года ў Кіеве дэлегатаў губернскіх выбарчых камітэтаў дзевяці Заходніх губерняў падпісаў рэзалюцыі з заклікам да будучых дэпутатаў абапірацца на разуменне асаблівасцяў краю, клапаціцца пра інтарэсы ўсіх народаў "Літвы і Русі", спрыяць супрацоўніцтву паміж імі на падставе роўнасці, у агульнанацыянальных справах дзейнічаць салідарна з прадстаўнікамі Каралеўства Польскага, але не насуперак інтарэсам Краю.

Баляслаў Ялавецкі крытыкаваў дзейнасць ўраду Пятра Сталыпіна і наогул не бачыў прынцыповай розніцы паміж расійскімі кансерватарамі і лібераламі ў падыходах да вырашэння нацыянальнага пытання. Ён быў упэўнены, што ўсе расійскія партыі падтрымліваюць ідэю жорсткага цэнтралізму, якая караніцца ў светапоглядзе самой рускай нацыі: "Мы з расіянамі не можам заставацца пад адной страхой і есці з адной міскі. Гэта было б для нас вялікім няшчасцем". Нармальнае сужыццё з Расіяй бачыў толькі пры ўмове дзяржаўнай самастойнасці краю.

З 1909 года супрацоўнічаў з віленскай газетай "Litwa". Быў дарадцам расійскага Міністэрства земляробства, дырэктарам акцыянернага Паўночнага таварыства рускага знешняга гандлю. Падчас першай сусветнай вайны служыў у званні палкоўніка ў Генштабе Расійскай імперыі. Атачаў апекай членаў Лынтупскага зямляцтва ў Петраградзе, дапамагаў ім знайсці працу і атрымаць адукацыю.

Памёр у пачатку ліпеня 1918 годзе ў Петраградзе і, магчыма, быў пахаваны на халерных Петраградскіх Мітрафаньеўскіх могілках, якія былі ліквідаваныя ў 1930-я гады.

Жонка – Анеля Віткевіч, родная сястра мастака, пісьменніка і архітэктара Станіслава Віткевіча (1851-1915). Сын – польскі дыпламат Мячыслаў Ялавецкі (1876-1962). Дочкі – Ядвіга (1875-1951), якая была замужам за польскім палітыкам і эканамістам Уладыславам Жукоўскім і Юзафам Ліпкоўскім, і Анеля, замужам за Тадэвушам Былінам.

У яго гонар і падзяку за фінансавую апеку палярны даследчык Аляксандр Барысаў назваў мыс на архіпелаге Новая Зямля ў Паўночна-Ледавітым акіяне. 1 ліпеня 2007 года на станцыі Лынтупы (Пастаўскі раён) адкрыты бюст Баляслава Ялавецкага.

*Максім Гацак*



# ФАБІЯН АБРАНТОВІЧ

Айцец Фабіян Абрантовіч – архімандрыт, доктар філасофіі, стваральнік Беларускай Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці у Пецярбургу, арганізатар З’езду беларускага каталіцкага духавенства 24-25 траўня, разам з біскупам Зыгмунтам Лазінскім заснавальнік, а потым і рэктар Менскай (у далейшым – Пінскай) духоўнай семінарыі, экзарх Харбіна, пакутнік за веру і Беларусь – словам, адна з найбуйнейшых постацяў агулам беларускага руху XX стагоддзя.

Нарадзіўся Фабіян Абрантовіч у вёсцы Вераскава Наваградскага павету у сям’і мяшчанаў. Рана ўсвядоміў сваё пакліканне. Навучаўся на святара ў наваградскай вучэльні, Магілёўскай духоўнай семінарыі і Пецярбургскай духоўнай акадэміі. У 24 гады быў высвечаны на святара. Як найбольш здольны студэнт, быў накіраваны ў тагачасны цэнтр каталіцкай думкі - універсітэт Лювена (Бельгія). У 1912-ым, пасля 2-гадовай вучобы атрымаў званне доктара тэалогіі: абараніў доктарскую дысэртацыю па працы свайго земляка, заснавальніка інтуітывізму Мікалая Лоскага.

Арганізаваны, волевы, энергічны, ён з самага пачатку стаў своеасаблівым маторам пецярбургскай супольнасці ксяндзоў-беларусаў, якая зрабілася ядром БХД.

На піцерскай кватэры ў Фабіяна Абрантовіча адбываліся зборкі Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці. Там бывалі Эпімах-Шыпіла, Вінцэнт Гадлеўскі, Адам Станкевіч, Люцыян Хвецька, Францішак Будзька – галоўныя асобы будучай Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

З красавіка 1918 года пераведзены біскупам Ропам у Менск, дзе 6 верасня разам з біскупам Зыгмунтам Лазінскім упершыню служыў набажэнства з беларускай казанню. Набажэнствы Абрантовіча наведваў Янка Купала – і гэта айцец Фабіян дзяжурыў начамі ля ложака паэта ўзімку 1921-га, калі той цяжка захварэў.

Адначасова Фабіян Абрантовіч бярэ ўдзел у шырокім нацыянальным руху – удзельнічае ў працы Рады БНР і нават атрымлівае прапанову ўзначаліць прадстаўніцтва БНР у Рыме.

Якраз Фабіян Абрантовіч распарадзіўся знакамітым дыяментавым кальe, якое княгіня Магдалена Радзівіл перадала Францішку Будзьку і Люцыяну Хвецьку дзеля арганізацыі грэка-каталіцкага калегіюму для беларусаў у Рыме – і гэта ўрэшце дазволіла забяспечыць Друйскі кляштар марыянаў ды Пінскую семінарыю.

У 1920-м айцец Фабіян паступае ў ордэн марыянаў і пераязджае ў Друю, якая на пэўны час сталася апірышчам беларускасці ў Касцёле

У 1928 годзе Апостальская сталіца пераводзіць айца Фабіяна ў Харбін – дзеля працы з расейцамі. У чыне экзарха Харбіна Абрантовіч арганізоўвае ў Манчжурыі вялікую місію з царквой, манастыром, ліцэем, інтэрнатам для паслушніцаў, шырокім друкам хрысціянскай літаратуры. Менавіта Фабіян Абрантовіч пачаў выдаваць у Харбіне "Каталіцкі веснік" – напачатку XXI стагоддзя гэтая газета адродзіцца як выданне сённяшняй Віцебскай дыяцэзіі.

У 1939-ым, пасля сустрэчы з мітрапалітам Шаптыцкім у Львове, айцец Фабіян трапляе ў рукі НКВД імклівы захоп Польшчы савецкім войскам, узгоднены з гітлераўскай Германіяй, заспявае яго знянацку. Пры спробе перайсці цяпер ужо савецка-нямецкую мяжу заснавальнік БХД трапляе ў рукі нацыстаў, якія выдаюць яго Саветам – і ён апынаецца пад следствам з абвінавачаннем у шпіянажы.

Шэсць гадоў турмаў ў Львове і Маскве – пакутніцкі вянец жыцця Фабіяна Абрантовіча. Адзін з вязняў, які бачыў айца Фабіяна ў камеры, згадвае: яго увесьчас білі, катавалі, вымагаючы ад яго прызнанняў і сведчанняў супраць дзеячаў беларускага руху ды Касцёла. Айцец Фабіян праходзіў бясконцыя допыты, адмаўляўся гаварыць – і ледзь прытомны пасля катаванняў, увесьчас маліўся.

Памёр айцец Фабіян Абрантовіч 2 студзеня 1946 года ў Бутырскай турме ў Маскве.

*Павел Севярынец*

## ДАМІНІК АНІСЬКА



Дамінік Аніська – вайсковец, публіцыст і пісьменнік, хрысціянскі дэмакрат, адзін з нямногіх, хто выжыў у душагубцы двух сусветных войнаў, рэвалюцыяў, рэпрэсіяў – каб застацца сведкам эпохі.

Нарадзіўся Дамінік 7 студзеня 1888 года ў вёсцы Слойнікі Сакольскага павету (зараз Падляскае ваяводства Польшчы) у сялянскай сям'і. Свядомым беларусам стаў яшчэ ў дзяцінстве: набыў у польскай кніжнай краме і прачытаў "Дудку беларускую" Францішка Багушэвіча. У 1906 годзе скончыў гарадскую школу ў Саколцы, і ў 1907 быў забраны ў расейскае войска.

У маладосці зачытваўся "Нашай нівай", і калі ў Вільні выйшла першая беларуская хрысціянская газета "Беларус" – пачаў друкавацца ў ёй.

У I сусветную вайну, у 1914-ым быў зноў прызваны ў расейскае войска; звольнены, атрымаў позву ў новастворанае польскае. З 1921 года – у школе падхарунжых у Быдгашчы. У 1923-цім выйшаў у запас як афіцэр.

Шырока друкаваўся ў хадэцкай прэсе – найперш "Крыніцы" ды "Хрысціянскай думцы". Агулам у першай палове XX стагоддзя ён – адзін з найбольш заўважных публіцыстаў беларускага руху.

Прынцыповы хрысціянін, толькі ў Хрысце ён бачыў выйсце і для чалавека, і для народа. "Без веры ў Бога, без рэлігіі чалавек не мае на што абаперціся, каб дайсці да раўнавагі: не знаходзіць пэўнай дарогі, ні пацехі ў сэрцы, каб выйсці з няшчасця ці пагадзіцца з ім, пакараючыся Божай волі" – пісаў Дамінік Аніська.

У 1939-ым, з пачаткам II сусветнай, Аніську мабілізуюць у польскае войска. Захоплены ў палон Саветамі, спярша ён утрымліваўся ў сумнавядомым лагеры ў Казельску, затым быў пераведзены ў Гразавец Валагодскай вобласці – і ў 1942-ім, са стварэннем Арміі Андэрса, праз Казахстан і Персію накіраваны ў брытанскую Палестыну. Так, нечаканая вернік Дамінік з пекла савецкага ГУЛАГу апынуўся проста на Святой зямлі.

З 1949 года Дамінік Аніська ў Велікабрытаніі, пасяліўся ў Беларускім доме ў Лондане і зрабіўся сталым аўтарам хрысціянскага часопіса "Божым шляхам".

Памёр вайсковец-хрысціянін 28 снежня 1971 года ў Лондане.

"Спакойны, чэсны чалавек, беларускі патрыёт і пісьменнік, верны хрысціянін і дастойны грамадзянін, спагадлівы, працавіты і ахвярны" – так згадала пра Дамініка Аніську рэдакцыя часопіса "Божым шляхам".

*Павел Севярынец*



# ВЯЧАСЛАЎ БАГДАНОВІЧ

Вячаслаў Васільевіч Багдановіч – беларускі рэлігійны і грамадска-палітычны дзяяч, праваслаўны багаслоў, удзельнік беларускага хрысціянскага руху ў Заходняй Беларусі, стваральнік праваслаўнага крыла БХД, педагог, сенатар польскага парламенту 1922 і 1928 гадоў склікання.

Нарадзіўся Вячаслаў Багдановіч у 1878 годзе ў мястэчку Дзісна, Віленскай губерніі.

Бацька Вячаслава Багдановіча быў святаром. Браты Вячаслава, Анатоль і Генадзь Багдановічы – педагогі.

Вячаслаў Багдановіч скончыў Віцебскую духоўную семінарыю, а таксама Кіеўскую духоўную акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя. З 1903 працуе выкладчыкам біблейскай і царкоўнай гісторыі ў Віцебскай праваслаўнай семінарыі. У траўні 1907 перайшоў на працу інспектара Мінскай праваслаўнай семінарыі. З восені таго ж году - інспектар Літоўскай духоўнай семінарыі.

У 1911-1913гг. – захавальнік Літоўскага епархіяльнага сховішча старажытных каштоўнасцяў. У 1915 эвакуіраваўся з семінарыяй у Разань. У 1919 вярнуўся ў Вільню, прызначаны рэктарам семінарыі.

Удзельнічаў у Памесным Саборы Рускай праваслаўнай царквы (1917-1918), пра які напісаў некалькі спецыяльных артыкулаў, надрукаваў дзённік удзельніка Сабора.

Напачатку 1920-х гадоў выконваў абавязкі рэктара духоўнай праваслаўнай семінарыі. У 1921 годзе становіцца сакратаром Літоўскай епархіальнай рады. Адказны рэдактар "Литовских Епархиальных Ведомостей" з 1919 да 20 кастрычніка 1922, калі пастановай Віленскай духоўнай кансісторыі выданне было зачынена.

У верасні 1921 уступіў у Таварыства беларускай школы. Выкладчык Закону Божага ў Віленскай беларускай гімназіі.

Захоўваючы вернасць Патрыярху, адмовіўся прыняць аўтакефалію Польскай царквы, за што пастановай архіепіскапа Варшаўскага Георгія звольнены з пасады рэктара семінарыі і рэдактара "Литовских Епархиальных Ведомостей". У кастрычніку 1922 арыштаваны польскімі ўладамі з архіяпіскапам Літоўскім і

Віленскім Елеўферыем (Богаяўленскім) і вывезены ў Кракаў. Быў адлучаны ад Польскай аўтакефальнай царквы.

У 1922 абраны ў Сенат Польскай Рэспублікі ад Блоку нацыянальных меншасцяў. Сябра Беларускага пасольскага клубу.

У 1920 – 1930-я гады – сябра Беларускага нацыянальнага камітэту (БНК) у Вільні, да 28 ліпеня 1933 – старшыня царкоўнай Праваслаўнай камісіі пры БНК.

Сябра Духоўнай праваслаўнай кансісторыі і епархіяльнай рады. Выкладаў у жаночай епархіяльнай вучэльні і Віленскай рускай гімназіі.

У канцы 1922 абраны ў сенат ІІ Рэчы Паспалітай. Актыўны змагар за правы беларусаў у Польшчы. У 1930 абраны сенатарам на другі тэрмін.

У 1927-1930 гады быў кіраўніком грамадска-рэлігійнай арганізацыі "Праваслаўнае беларускае дэмакратычнае аб'яднанне" ў Вільні – фактычна, праваслаўнага крыла БХД. Адзін з галоўных выдаўцоў і аўтараў часопісу "Праваслаўная Беларусь", які выходзіў у Вільні ў 1927-1928 гг.

Са святаром Луком Голадам арганізаваў у Вільні адзіны ва ўсёй Польшчы праваслаўны прыход, які падпарадкоўваўся патрыярху Ціхану і служыў у ім псаломшчыкам у 1924-1936 да закрыцця і апячатвання храму.

Пасля дзесяцігадовага існавання патрыяршая абшчына ў Вільні адміністрацыйнымі ўладамі была разгромлена, а яе храм апячатаны (1936). Выступаючы ў сенаце (1929) паведаміў пра сапраўднае становішча праваслаўнай царквы, пра гвалт, канфіскацыю маёмасці, нацыянальныя прыцясненні.

Да сярэдзіны 1930-х гадоў звязаны з Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыяй. Падтрымліваў кантакты з беларускімі каталіцкімі дзеячамі і з суполкай віленскіх марыявітаў.

Аўтар музыкі да некалькіх рамансаў на словы А. Пшчолкі. Паводле звестак Адольфа Клімовіча, у 1920-я Вячаславу Багдановічу прыпісвалася аўтарства рамансу "Зорка Венера" на словы Максіма Багдановіча.

У 1939 арыштаваны польскай дэфензівай як супрацоўнік аўтакефаліі. З Віленскай вязніцы пераведзены ў канцлагер у Бярозе-

Картузскай. Вызвалены пасля 17 верасня 1939 году. Перабраўся ў Вільню.

З прыходам у Вільню Чырвонай арміі арыштаваны савецкімі ўладамі 30 верасня 1939. Далейшы лёс невядомы. Па заяве пракуратуры СССР сярод асуджаных не значыцца. З прыватных сведчанняў расстраляны НКВД у Вілейскай вязніцы неўзабаве пасля арышту.

Меў сына – беларускага вайсковага дзеяча, доктара Глеба Багдановіча.

*Анатоль Астапенка*



## ЯЗЭП БАРАДЗЮЛЯ

Язэп Барадзюля нарадзіўся 4 верасня 1893 года ў вёсцы Козікі каля Шуміліна на Віцебшчыне і быў другім сынам у бацькоў. Першы, Антось – трагічна загінуў у дзяцінстве. Маці Язэпа Ганна была напужаная трагедыяй, таму выра-шыла прысвяціць сына апецы Маці Божай: у першыя дні жыцця сына занесла яго ў касцёл у мястэчка Ула і паклала перад алтаром Багародзіцы з просьбаю дапамогі і аховы.

Навучанне Язэпа Барадзюлі праходзіла ў народнай школе, потым у Віцебскім гарадскім вучылішчы, дзе ён працаваў перапісчыкам, сакратаром, справаводам у Віцебскім акруговым судзе і адначасна рыхтаваўся да паступлення ў духоўную семінарыю. Пасля паспяхова вытрыманых уступных экзаменаў быў прыняты ў Магілёўскую рыма-каталіцкую семінарыю ў Пецярбургу ў 1912 годзе, дзе вучыўся на казённым утрыманні і скончыў яе ў ліку лепшых у 1917 годзе.

Менавіта там Барадзюля увайшоў у кола заснавальнікаў БХДЗ – Абрантовіча, Хвецькі, Гадлеўскага, Лісоўскага, Станкевіча – і запаліўся ідэяй служэння свайму народу.

Пасля Язэп Барадзюля атрымаў накіраванне ў Пецярбургскую духоўную рыма-каталіцкую акадэмію, дзе правучыўся да 1919 года, калі гэтая установа па ўмовах Рыжкага дагавору была пераведзена ў Люблін. Язэп Барадзюля вырашыў не працягваць духоўнае навучанне ў Польшчы, а пачаць служыць імшу. Барадзюля прыняў прызначэнне вікарыем у Полацак ад Магілёўскага рыма-каталіцкага мітрапаліта і апекуна БХДЗ Эдварда Ропа.

Праз 8 месяцаў, 4 снежня 1919 года, Язэп Барадзюля стаў пробашчам трох касцёлаў: Камена-Губінскага, Бешанковіцкага і Ушацкага. Касцёл у парафіі Камена-Губіна, у якім меўся праводзіць першыя набажэнствы айцец Язэп, быў разрабаваны, з разбітымі дзвярыма. Дзякуй Богу, што засталіся званы, у якія Язэп Барадзюля пачаў званіць, чым абвесціў аб прыбыцці ксяндза ўсім парафіянам, разам з якімі аднаўляў будынак касцёла. Пры даволі складаных абставінах айцец Язэп служыў набажэнствы ў трох парафіях – Камена-Губінскай, Бешанковіцкай, Ушацкай, а таксама часткова

Лепельскай і Ульскай. Разам з вайною дадалося адно з яе наступстваў – эпідэмія тыфу, ахвярамі якога стала багата парафіянаў. Айцу Язэпу даводзілася багата ездзіць па хатах, мінаючы вартаўнікоў як польскага, так і бальшавіцкага войскаў. У 1920-м годзе святар сам цяжка захварэў на тыф у Бешанковічах, але быў уратаваны палкавым доктарам чырвонаармейцаў.

У 1925-м годзе з боку савецкіх уладаў прайшла масавая хваля арыштаў і рэпрэсій рыма-каталіцкага духавенства, выкліканая ад’ездам прадстаўніка Ватыкана з савецкай Расеі. Айцец Язэп быў арыштаваны 29 снежня 1926 года ў Камена-Губінскім касцёле прадстаўніком Мінскага ОГПУ. Як высветлілася пазней, арышт святара доўга планаваўся чэкістамі. Ксёндз быў перавезены ў Лепель, затым – праз Оршу – у Менск, дзе быў пасаджаны ў турму і чакаў прысуду. У красавіку 1927-га года айцу Язэпу абвясцілі, што «особое Совещание Москвы ОГПУ года постановило заключить гр. Бородюлю в Соловецкий лагерь особого назначения сроком на три года” па абвінавачванні па 119 і 121 артыкулах Крымінальнага кодэкса СССР: “Преподавание вероучения малолетним” ды “Использование религиозных предрассудков с целью свержения власти”. Перад высылкаю чэкісты спрабавалі схіліць святара да супрацоўніцтва і прапанавалі пасаду ксяндза ў Менску, казалі нават пра пасаду біскупа, з прыватным аўтамабілем і матэрыяльным забеспячэннем. Язэп Барадзюля адмовіўся. Тады айца Язэпа накіравалі па этапах Менск-Орша-Віцебск-Ленінград і далей на Салаўкі.

У бараку, куды памясцілі зняволеных, кішэла жудаснае мноства блашчыцаў: сутана, павешаная на ноч на сцяну, раніцай была не чорная – жоўтая. Выйсці з барака нават у прыбіральню без канвою не дазвалялася. Харчаваліся толькі варам і пайкаю хлеба.

Пасля заканчэння трохгадовага тэрміну айцец Язэп быў сасланы ў Архангельск на 3 гады, дзе ён сустрэўся з Іркуцкім дэканам Антоніем Жукоўскім, настаяцелем Мікалаем Міхасёнкам і грэка-каталіцкім экзархам Фёдаравым. Трэба адзначыць, што ў Архангельску жыла вялікая колькасць ссыльных католікаў, якіх абслугоўвалі ссыльныя святары – хрысцілі, спавядалі, прычашчалі. ОГПУ не дало наладзіцца духоўнаму жыццю ў Архангельску і

загадала саслаць святароў далей на Поўнач. Барадзюлю накіравалі праз Сыктыўкар у вёску Усцькулам, а пасля ў сяло Данскоe.

Улетку 1933 года пасля атрымання дакументаў аб вызваленні айцец Язэп быў прызначаны ў Віцебску настаяцелем касцёлаў Св. Антонія і Св. Барбары, аднак служыць яму давялося толькі 2 тыдні, бо ў кастрычніку бальшавікі забаранілі яму служэнне. Пасля чарговай адмовы супрацоўнічаць з чэкістамі ксёндз быў зноў сасланы ў Архангельск да 1935-га года і пасля гэтага ажно да 1941-га года знаходзіўся ў ссылцы. Цяжкія ўмовы ссылкі на поўнач выклікалі роспач у душы ксяндза Язэпа. Ён звяртаўся па дапамогу нават да Кацярыны Паўлаўны Пешкавай (першай жонкі Максіма Горкага), якая ў той час была старшынёй польскага Чырвонага крыжа. Яна ведала святара асабіста і падтрымлівала яго маральна і матэрыяльна. Менавіта ў 1939-м годзе айцу Язэпу з'явіўся ў сне Хрыстос і сказаў што праявіць літасць да святара і не пакіне ў часы выпрабаванняў.

З 1941-га года Язэп Барадзюля быў накіраваны на зняволенне ў Краснаярскі край, дзе быў да 1946-га года. Айцец Язэп атрымаў дакументы аб вызваленні, але ў Віцебску на той час усе касцёлы былі зачыненыя. З гэтай нагоды святар паехаў у Рыгу, дзе арцыбіскуп мітрапаліт Антоні Спрыговіч прызначыў Барадзюлю вікарыем у Даўгаўпілсе, а ў 1947-м годзе – настаяцелем касцёла ў Пасіене. Там Язэп Барадзюля праводзіў служэнне да новага арышту 7 лістапада 1949-га года. Прычым аднаўляў разбураны ў часы вайны касцёл айцец Язэп і ўласнаруч. У гэты раз айцу Язэпу завочна быў вынесены прысуд аб пажыццёвай высылцы ў Паўночна-Усходнюю Сібір, куды ксяндза накіравалі этапамі ад Рыгі да Канска, ад апошняга пункта вязні мусілі праехаць 100 кіламетраў на машынах а пасля яшчэ 50 – пешшу. Святара накіравалі ў вёску Камарай, дзе амаль усе жыхары былі беларускімі перасяленцамі. Аднак пасля наладжвання духоўнага жыцця ў той вёсцы чэкісты зноў пераводзяць ксяндза, на гэты раз у Абан, дзе айцец Язэп сустрэўся з высланымі каталіцкімі святарамі.

Пасля смерці Сталіна айцец Язэп быў вызвалены ў траўні 1954 года і атрымаў прызначэнне настаяцелем у касцёл Св. Антонія ў Піедруе Браслаўскага дэканата (цяперашняя Латвія), які ў 1632-м годзе быў заснаваны Львом Сапегам. Айцец Язэп з парафіянамі 2 гады праводзілі рамонт храма. 13 чэрвеня 1956-га года да парафіі з візітацыяй прыбыў новы біскуп Пётр Стродт. Гэтая падзея супала са

Святам апекуна касцёла Св. Антонія. На ўрачыстых мерапрыемствах прысутнічала 14 ксяндзоў, 4 клерыкі, сабралося багата парафіянаў, да споведзі і Камуніі прыйшло каля 5 тысяч вернікаў, да бежмавання – 3 тысячы. Шмат было мясцовых людзей, але большасць прыехала паромам праз Дзвіну. Савецкія ўлады зноў не пажадалі аднаўлення духоўнага жыцця і сталі чыніць ўсялякія перашкоды для касцёльнай дзейнасці святара, што ўрэшце рэшт забаранілі яму ў 1958-м годзе. Ажно да 1978-га года айцец Язэп ня меў магчымасці праводзіць набажэнствы. За гэты час, у 1962–1963 гг., судовыя справы айца Язэпа па загадзе генеральнага пракурора Масквы былі перагледжаны і ўсе вынесеныя прысуды анулявания.

Такім чынам, ахвярны ксёндз адбыў у ГУЛАГу 25 гадоў.

Толькі калі святару споўнілася 85 год, у 1978-м годзе ён атрымаў дазвол на служэнне. З таго часу і да 1983-га года, да сваёй смерці, ксёндз Язэп Барадзюля служыў імшу ў касцёле Св. Альберта ў Рызе.

Памёр Язэп Барадзюля 27 верасня 1983 года.

*Уладзімір Шыпіла*



# ІЛЬДЭФОНС БОБІЧ

Ільдэфонс Бобіч – ксёндз, адзін з пачынальнікаў беларускага хрысціян-скага руху і заснавальнікаў БХДЗ, доктар філасофіі і літаратар, які публікаваўся пад псеўданімам “Пётра Просты”.

Нарадзіўся Ільдэфонс Бобіч 10 студзеня 1890-га году ў сялянскай сям’і ў вёсцы Дзедзінка Друйскай воласці Віленскай губерніі (сёння Мёрскі раён Віцебскай вобласці). У 1909 годзе скончыў гімназію ў Коўне і паступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю, дзе далучыўся да беларускага гуртка.

З 1912 года вучыўся ў Рыме, атрымаў ступень доктара філасофіі. На аўдыенцыі з Папам Піем Х атрымаў ягонае дабраславенне для чытачоў першага беларускага хрысціянскага часопіса “Беларус”.

Быў высвечаны на ксяндза 15 ліпеня 1915 года. Удзельнічаў у знакамітым З’ездзе беларускіх каталіцкіх святароў у Менску 24-25 траўня, дзе была заснаваная Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная Злучнасць.

Душпастырскую дзейнасць пачаў на радзіме, у Друі ды на Дзісеншчыне ў 1917-20 гадах. У 1921-23 гадах быў настаўнікам Закону Божага ў Віленскай беларускай гімназіі. З 1923 да 1930 года – пробашч у Германавічах. Пасля быў пераведзены пробашчам і дэканам у Іўе.

Друкаваўся ў хадэцкай прэсе пад псеўданімам “Пётра Просты”.

Пасля таго, як польская касцельная іерархія забараніла ксяндзам належаць да БХД й выпісваць “Крыніцу”, адышоў ад грамадска-палітычнай дзейнасці.

У 1942-ым быў арыштаваны нямецкімі ўладамі і да 1944 года ўтрымліваўся ў мясцовай турме. Падарваў там здароўе і, вызвалены, 28 красавіка 1944-га памёр.

Пахаваны Ільдэфонс Бобіч каля Петрапаўлаўскага касцёла ў Іўі.

*Павел Севярынец*



# МІХАІЛ БУКЛЯРЭВІЧ

Ксёндз Міхаіл Буклярэвіч – беларускі святар, правадыр антыбальшавіцкага паўстання на Дзісеншчыне ў 1919 годзе, расстра-ляны і пахаваны каля касцёла, на беразе возера ў Іказні, на Браслаўшчыне.

Нарадзіўся Міхась Піліпавіч Буклярэвіч 12 кастрычніка 1884 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Лінгі Ашмянскага павету (зараз Воранаўскі раён Гарадзенскай вобласці).

Навучаўся ў двухкласнай гарадской вучэльні, потым на аптэкара ў Віленскай мужчынскай гімназіі. З 1904 года – у Віленскай духоўнай семінарыі.

У 1908 годзе Міхаіл Буклярэвіч быў высвечаны на ксяндза. Спярша быў пробашчам парафіі Нараўка на Сакольшчыне (цяпер Польшча), а з 1917 года – парафіі Іказнь на паўдарозе з Браслава да Мёраў.

Быў свядомым беларусам. Удзельнічаў у з'ездзе беларускага каталіцкага духавенства ў Дзісенскім павеце 6-7 жніўня 1918 года. "Як верны слуга Хрыстуса, быў шчыра адданы працы дзеля духовага і матэрыяльнага дабра нашага сялянства: закладаў хаўрусныя крамы, адчыняў пачаткавыя школы, прытулкі, смела гаварыў сваім парахвіянам, што яны не Палякі, не Расейцы, а Беларусы", - пісала 28 верасня 1919 года хадэцкая газета "Крыніца".

У чэрвені 1919 года Беларусь напоўніцу вызнала лютасць бальшавіцкага тэрору, "прадразвёрстак" і проста бандыцкага гвалту. У ваколіцах Дзісны ды Браслава ўзброеныя злодзеі адбіралі ў людзей хлеб і жывёлу, палілі маёнткі, расстрэльвалі нязгодных. У Шаркаўшчыне быў забіты праваслаўны святар Канстанцін Жданаў, шанаваны мясцовым людам. Да таго ж новыя ўладары аб'явілі мабілізацыю мужчынаў 16-43 гадоў у чырвонае войска. Людзі сыходзілі ў лес і рыхтаваліся абараняць сваё жыццё ды свой край.

Урэшце, 14 чэрвеня на парафіяльным фэсце ў гонар Найсвяцейшых Цела і Крыві Хрыстовых у Іказні сам ксёндз Міхал Буклярэвіч звярнуўся да тысячаў людзей і заклікаў вызваліць край ад захопнікаў. Моладзь умомант раззброіла прысутных на свяце

бальшавіцкіх вайскоўцаў – і паўстанне пачалося ад прыступак касцёла.

Паўстанцам удалося ачысціць ад камуністычнай улады Іказнь, Слабодку, Мілашова, Мёры, Ёдку, Чэрасы, Шаркаўшчыну, Новы Пагост, Германавічы. Бальшавіцкія дзеячы былі захопленыя альбо ўцякалі. Але сілы былі няроўныя: у чырвонай улады было рэгулярнае войска і артылерыя.

У выніку баёў паўстанцы былі разбітыя за некалькі дзён. 26 чэрвеня бальшавікі захапілі Іказнь. Ксяндза і ягоную сястру Аліцыю 27 чэрвеня прысудзілі да смерці і расстралялі ў вёсцы Бігосава. Толькі 24 сакавіка 1920 году, ужо за польскай уладай, парэшткі ксяндза і ягонай сястры былі ўрачыста перапахаваныя ў Іказні, ля касцёла.

Помнік на магіле ксяндза Буклярэвіча стаіць там дагэтуль, абвязаны бел-чырвона-белай стужкай.

*Павел Севярынец*

## ЯНКА ВЯРСОЦКІ



Янка Вярсоцкі – беларускі святар, сябра БХДЗ, пакутнік за веру і Бацькаўшчыну.

Янка Вярсоцкі нарадзіўся 17 лютага 1888 ў мястэчку Гальшаны Ашмянскага павету, цяпер Ашмянскі раён Гродзенскай вобласці.

У 1904-1908 вучыўся ў Ашмянскай гарадской вучэльні. 6 красавіка 1909 здаў іспыт на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі.

У 1910-1915 вучыўся ў Духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу, дзе дзейнічаў вядомы гурток беларускіх студэнтаў-клерыкаў. Там пазнаёміўся з будучымі лідарамі БХД – ксяндзамі Адамам Станкевічам, Вінцэнтам Гадлеўскім, Уладзіславам Талочкам, Люцыянам Хвецькам, айцом Фабіянам Абрантовічам ды іншымі.

У 1915 пасвечаны ў святары. Служыў вікарыем парафій Святой Тройцы ў Мінску і Смаленску. Удзельнік 1-га з'езда беларускага каталіцкага духавенства ў Мінску, 24-25.5.1917. Адзін з заснавальнікаў БХДЗ, чалец Саюза ксяндзоў-беларусаў.

З 1919-га адміністратар парафіі Забелы Дрыса-Себежскага дэканата Віцебскай губерні. 8 жніўня 1927 арыштаваны ОГПУ. Прысуджаны да трох гадоў лагераў. З 1 студзеня 1928 – на Салаўках. На супрацу з бальшавікамі не ішоў, мужна захоўваў годнасць святара у лагерных умовах, дапамагаў зняволеным.

Пасля сканчэння тэрміну зняволення зноў арыштаваны і высланы ў Алма-Ату (Казахстан). У высылцы арыштаваны чарговы раз. 11 снежня 1937 прысуджаны да смяротнага пакарання.

Расстраляны ў турме НКВД.

*Павел Севярынец*

# ІГНАТ ГАГАЛІНСКІ



Ігнат Гагалінскі – наймаладзейшы старшыня ЦК Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, лідар партыі ў 1928-31 гадах, доктар, кіраўнік Беларускага Студэнцкага Саюза і рэдактар часопіса “Студэнцкая думка”.

Нарадзіўся Ігнат Гагалінскі каля 1905 году, праўдападобна, на Полаччыне. Вядома, што патрыярх хадэцкага руху прафесар Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла прытуліў у сябе дома ў Пецярбургу разам з Янкам Купалам і свайго пляменніка Антона Гагалінскага родам з Залесся пад Полацкам – цалкам верагодна, што і Ігнат Гагалінскі даводзіўся яму сваяком.

Вучыўся Ігнат на медычным факультэце Віленскага Універсітэта – і падчас вучобы выявіў сябе надзвычай здольным арганізатарам.

У 1926 годзе студэнт Ігнат Гагалінскі прамаўляў на магіле Казіміра Сваяка ў Вільні – такім чынам прымаючы своеасаблівую эстафету ад пачынальнікаў руху, ксяндзоў-беларусаў.

У 1928 годзе Ігната выбіраюць кіраўніком Беларускага Студэнцкага Саюза і рэдактарам “Студэнцкай думкі”. У гэтым жа годзе 25 лістапада на чарговым з’ездзе БХД партыя давярае маладому (23 гады!) медыку, узыходзячай зорцы беларускага руху, галоўную пасаду ў партыі – старшыні ЦК БХД.

Тры гады – да 1931-га – Ігнат кіраваў партыяй, дзе абсалютная большасць сябраў была старэйшай за яго самога. І трэба сказаць, гэтыя гады прыпалі на пару росквіту БХД.

*Павел Севярынец*



# ВІНЦЭНТ ГАДЛЕЎСКІ

Гадлеўскі Вінцэнт (Вікенцій Іванавіч) – ідэолаг беларускага нацыянальнага руху 20-х – пачатку 40-х гг. XX стагоддзя. Удзельнік Усебеларускага з’езду 1917 г. Сябра Рады БНР.

Адзін з лідараў БХД і аўтар праграмных тэкстаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Падчас нямецкай акупацыі – галоўны школьны інспектар пры генеральным камісарыяце Беларусі. Старшыня падпольнай Беларускай Нацыянальнай Партыі. Адкрыты супраціўнік савецкай ўлады і тайны вораг гітлераўскай адміністрацыі.

Нарадзіўся Вінцук Гадлеўскі 16 лістапада 1888 года ў Шурычах, вёсцы ля мястэчка Поразава на Гарадзеншчыне.

Ужо ў юнацтве Вінцук вырашыў стаць ксяндзом – і ў 1912 годзе скончыў Віленскую духоўную семінарыю, а ў 1916-ым – Пецярбургскую духоўную акадэмію. У ліпені 1914-га быў высвечаны на святара – за два месяцы да пачатку Першай сусветнай вайны.

Яшчэ студэнтам Вінцук Гадлеўскі стаў нефармальным лідарам у гуртку будучых хадэкаў. Менавіта тады, напачатку страшнага веку гвалту й крыві, ён выбраў найцяжэйшы крыж – праводзіць у Беларусі палітыку Ісуса Хрыста.

З 1918 года ў Менску, Вінцэнт Гадлеўскі пачаў служыць імшу ў катэдры з казанямі па-беларуску. Высланы касцёльным кіраўніцтвам у Нясвіж, выкладаў у нясвіжскай беларускай семінарыі.

У 1924 годзе, прызначаны ў парафію Жодзішкі ля Смаргоні – і за два гады абудзіў тысячы беларусаў да нацыянальнай свядомасці. У выніку ў 1927 годзе быў арыштаваны нібыта за антыдзяржаўную дзейнасць. Суд над Гадлеўскім ператварыўся ў Вільні ў вялізную беларускую маніфестацыю – тысячы беларусаў збіраліся да будынку суда і моўчкі стаялі на вуліцы, пакуль ішло паседжанне.

У выніку Вінцэнт Гадлеўскі два гады правёў у турме на Лукішках.

З 1929 года ксёндз Гадлеўскі стала ў Вільні. Служыць капеланам у шпіталі. Перакладае на беларускую мову Новы запавет (выдадзены ў 1939 годзе). Рэдагуе газету БХД “Беларуская крыніца”.

У 1936 годзе, калі БХД былаператвораная ў “Беларускае Народнае Аб’яднанне”, нязгодны Гадлеўскі стварыў уласны рух – “Беларускі Фронт”.

З пачаткам Другой сусветнай вайны – у Коўне, Варшаве, затым у Берліне. Вяртаецца ў Беларусь у 1941 годзе, і яго прызначаюць галоўным інспектарам беларускіх школаў.

Вінцэнт Гадлеўскі быў апосталам нацыянальнай ідэі тады, калі Беларусь руйнавалі дзве сусветныя вайны, рвалі рэвалюцыі, тапталі таталітарныя рэжымы. Ва ўмовах акупацыі й няспыннага генацыду, на мяжы жыцця і смерці здрадзе, хлусні і нянавісці маглі супрацьстаяць толькі воля і вера, падуладныя Богу.

Таемна, у распаласаванай фронтам II Сусветнай вайны Беларусі Гадлеўскі заснаваў газэту «Беларускі фронт» і камітэт “Беларускі Народны Фронт”. Так Вінцэнт Гадлеўскі стаў хросным бацькам БНФ – аб'яднання нацыянальных сілаў пад акупацыяй.

За ім палявалі НКВД, дэфензіва і гестапа. Ён арганізаваў беларускае падполле й халаднакроўна вёў замежныя перамовы з заходнімі саюзнікамі тады, калі паўсвету правальвалася ў апраметную. Заўжды ў сэрцы падзеяў, ксёндз Гадлеўскі быў першым, хто маліўся і змагаўся за Беларусь.

Напрыканцы 1942 года ў Менску айца Вінцэнта Гадлеўскага арыштавалі гестапаўцы. У ноч перад Раством – 24 снежня.

Пасля імшы, ад самага касцёла, яго завезлі ў Трасцянец і расстралялі.

Вінцэнт Гадлеўскі – святар, які стаяў за Беларусь перад брамаю пекла. Імша Гадлеўскага значыць для Беларусі не менш, чым Крыж Ефрасінні і Біблія Скарыны.

У Шурычах захавалася хата Гадлеўскіх, дзе бываў Вінцэнт. Зараз там замацаваны плакат з ягоным жыццяпісам і бел-чырвона-белай стужкай.

*Павел Севярынец*

# ЯЗЭП ГЕРМАНОВІЧ



Нават калі абмежаваць удзел Язэпа Германовіча ў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі супрацоўніцтвам (пад псеўданімам Вінцук Адважны) з яе друкаваным выданнем "Крыніца" – атрымаецца нямала.

Язэп Германовіч (4 сакавіка 1890 - 26 снежня 1978), ураджэнец Гальшанаў, выпускнік Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі, быў высвечаны на ксяндза ў 1913-м. Язэп сын Станіслава, бадай з пачатку свайго служэння стаў займацца тым, што вызначыла сваім магістральным напрамкам адроджаная БХД XXI стагоддзя: хрысціянізаваць беларусаў і беларусізаваць хрысціянаў. Атрымлівалася ў яго гэта паспяхова, але беларускасць казанняў ксяндза ў касцёлах маладой незалежнай Польшчы яе ўладам і яе касцёльным патрыётам рашуча не падабалася. У выніку з роднай і голаснай Віленшчыны ды суседняй з ёй вірлівай Беласточчыны Германовіч быў вымушаны перабрацца ў памежную ціхую прыдзвінскую Друю з нешматлікімі прыхаджанамі, дзе ўступіў у ордэн марыянаў ды стаў час ад часу пісаць творы, стаўшы рэлігійным пісьменнікам.

Адны за адной, пачынаючы з 1928-га, выйшлі з друку кніжкі Вінцука Адважнага: "Як Казюк сабраўся да споведзі", "Казюковае жанімства", "Як Ганулля зьбіралася ў Аргентыну", "Адам і Анелька", "Канёк-Гарбунок", "Бэтлейка"… Паслядоўная, разам з адукацыяй, місія беларускага слова сярод касцёльнага люду. Паралельна, ксёндз Язэп рэгулярна друкаваўся ў БХДшнай "Крыніцы" – беларускую хрысціянскую дэмакратыю ачольваў яго былы сябра па семінарыі ксёндз Адам Станкевіч.

Беларуская місія ксяндза Германовіча сярод беларусаў Польшчы стала важкай падставай таго, што ў 1932-м яго касцёльнае кіраўніцтва скіравала яго ў кітайскі Харбін на чатыры гады.

Вярнуўшыся стуль у 1936-м, Германовіч ачоліў у Вільні Беларускі марыянскі дом студэнтаў. І зноў яго беларуская місіянерская дзейнасць стала косткай у горле для тутэйшых патрыётаў пальшчызны. У 1938-м ксяндза Язэпа дэпартуюць у цэнтральную

Польшчу, адкуль ён ізноў рушыць у Харбін. Служыць на беларускіх землях яму больш не давядзецца.

Па вызваленні з савецкага канцлагера ў 1955-м Германовіч выказаў жаданне жыць і служыць у Беларусі. Але спецслужбовец, які займаўся размеркаваннем, прама сказаў ксяндзу, што “ім” у Беларусі такіх “не надо”. Як былога грамадзяніна Польшчы, Германовіча выслалі ў Польшчу. Адтуль святар пераехаў у Рым, затым у Лондан. І ўжо ў Лондане стаў рэдагаваць часопіс “Божым шляхам” – беларускі часопіс для хрысціянаў. Напісаў кнігу пра ГУЛАГ: “Кітай-Сібір-Масква”. Па меры магчымасці рыхтаваў і выдаваў свае беларускія тэксты і ў кнігах – ізноў як Вінцук Адважны.

Адвага – яна ня толькі тая, якая кідаецца ў вочы. Яна і ў ціхай паслядоўнай нязломнай мужнасці. Такой яна была ў беларуса, хрысціяніна і дэмакрата Язэпа Германовіча.

*Андрэй Мельнікаў*



# СТАНІСЛАЎ ГЛЯКОЎСКІ

Ксёндз Станіслаў Глякоўскі – адзін з заснавальнікаў Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці, удзельнік гістарычнага з'езду беларускага каталіцкага духавенства ў Менску 1917 года, доктар тэалогіі, знішчаны нацыстамі ў 1941 годзе.

Менавіта Станіслаў Глякоўскі выяўлены на знакамітым здымку заснавальнікаў БХД разам з Адамам Станкевічам, Вінцэнтам Гадлеўскім, Язэпам Германовічам – здымку, які стаў візітоўкай беларускай хадэцыі.

Нарадзіўся будучы ксёндз 2 сакавіка 1896 года у Поразаве Ваўкавыскага павету (цяпер Свіслацкі раён Гарадзеншчыны), усяго ў некалькіх кіламетрах ад роднай вёскі лідара беларускага нацыянальнага руху ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага.

У 1913 годзе Стась скончыў гарадскую вучэльню Ваўкавыску, у 1914 годзе паступіў у Віленскую духоўную семінарыю, і 29 траўня 1921 года быў высвечаны на ксяндза. Быў накіраваны на вучобу ў Рым, і ў папскім Грыгарыянскім універсітэце атрымаў ступень доктара тэалогіі.

З 1929 году ксёндз Станіслаў вёў беларускія набажэнствы ў кацёле Святога Яна ў Вільні. У пачатку 1930-ых – прызначаны выкладчыкам Закону Божага (прэфектам) у школах Вільні, у тым ліку і ў Віленскай Беларускай Гімназіі (1933-39).

Апекаваўся скаўтамі. Быў адным з заснавальнікаў Беларускага Каталіцкага Выдавецтва. Сваім коштам выдаваў кнігі Міхася Машары, Вінцука Адважнага і часопіс "Пралеска" для дзяцей-беларусаў. Публікаваўся ў "Беларускай крыніцы".

З пачаткам вайны ксёндз Станіслаў выязджае ў Коўна, а затым – у заняты немцамі Менск, каб весці там беларускую працу. Служыць у Чырвоным касцёле.

15 снежня 1941 года ксёндз Глякоўскі быў запрошаны на Канферэнцыю беларускіх школьных інспектараў у тэатры Янкі Купалы. На вітанне кагосьці з нацыстоўскага начальства "Хайль Гітлер!" некалькі ксяндзоў, у тым ліку і Станіслаў Глякоўскі, дэманстратыўна не адказалі. Усе яны былі арыштаваныя пасля

імпрэзы. Паводле звестак Антона Шукелойця, усе яны былі неўзабаве накіраваныя ў канцлагер і знішчаныя.

Сённяшняй моладзі, якая ня бачыць праблемы ў “зігаванні” (а сёй-той і ахвотна пазіруе з узнятай рукой у сацыяльных сетках) было б карысна ведаць, за што аднялі жыццё ў ксяндза Станіслава Глякоўскага.

*Павел Севярынец*



## БАЛЯСЛАЎ ГРАБІНСКІ

Баляслаў Грабінскі – доктар-стаматолаг, адзін з кіраўнікоў БХД ды заснавальнікаў Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры, старшыня беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, мецэнат, навуковец.

Нарадзіўся Баляслаў Грабінскі 3 жніўня 1899 года ў вёсцы Урачыншчына Сакольскага павету (зараз – Падляскае ваяводства Польшчы). Скончыў павятовую вучэльню, Гродзенскую гімназію, затым паступіў у Віленскі універсітэт на медыцынскі. Працаваў асістэнтам кафедры анатоміі, і адначасова распачаў уласную стаматалагічную практыку.

У 1922 годзе быў выбраны ў кіраўніцтва Беларускага Студэнцкага Саюза, што дзейнічаў пад уплывам БХД.

Маючы добры заробак, Баляслаў Грабінскі дапамагаў Беларускаму Навуковаму Таварыству, ахвяраваў грошы на хадэцкія патрэбы, спансаваў беларускія выдавецтвы.

На з'ездзе 1931 году менавіта ён, доктар і мецэнат, быў выбраны старшынём Рэвізійнай камісіі БХД. І якраз яго запрасілі ўдзельнічаць у заснаванні Беларускага Інстытута Гаспадаркі і Культуры – адным з самых паспяховых праектаў БХД.

Калі пачалася вайна, Баляслаў Грабінскі ўзначаліў Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні. Дапамагаў беларусам, якія цярпелі нягоды, уціск і пераслед. Сам быў арыштаваны ў 1943 годзе, змешчаны ў лагер, неўзабаве вызвалены. У кастрычніку 1944 года стаў старэйшым урачом Першага кадравага батальёна Беларускай Краёвай Абароны.

Пасля вайны выехаў у ЗША. Працаваў у беларускай эміграцыі, стаў сябрам Рады БНР, Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.

Гэта Баляслаў Грабінскі першым заўважыў партрэт Скарыны ў Падуанскім універсітэце, у знакамітай "Залі сарака".

Адышоў Баляслаў Грабінскі ў знакавы дзень – 20 жніўня 1991 года, у Лонгвудзе, у Амерыцы. Якраз 20 жніўня было пераломным для паразы ГКЧП, а з ім і Савецкага Саюза. Да рэальнай незалежнасці Беларусі заставалася ўсяго пяць дзён.

*Павел Севярынец*



# СТАНІСЛАЎ ГРЫНКЕВІЧ

Станіслаў Грынкевіч – віцэ-старшыня БХД ў 1931-36 гадах, лекар-псіханеўролаг, публіцыст, перакладчык і драматург, адзін з выбітных інтэлектуалаў хрысціянска-дэмакратычнага руху XX стагоддзя.

Нарадзіўся Стась Грынкевіч у вёсцы Новы двор Сакольскага павету (зараз Падляскае ваяводства Польшчы) 2 лютага 1902 года. Ягоны дзядзька ксёндз Францішак Грынкевіч быў, паводле сведчання Адама Станкевіча, адным з будзіцеляў беларускага хрысціянскага руху на Гарадзеншчыне ў пачатку стагоддзя. Жывучы ў дзядзькі, пад уплывам ксяндза Францішка Станіслаў стаў прынцыповым беларусам.

Вучыўся Станіслаў Грынкевіч у Гродзенскай гімназіі і на медычным факультэце Віленскага універсітэта. Пазнаёміўся з тэорыямі псіхааналітыкаў Фройда ды Юнга, якія аказалі істотны ўплыў на яго як прафесіянала. Скончыў Познаньскі універсітэт па спецыяльнасці “псіханеўралогія і гігіена”, затым працаваў у Познаньскім шпіталі і вар’ятні Харошчы ля Беластока.

Станіслаў Грынкевіч захапляўся тэатрам, даследваў гісторыю і тэхналогію тэатральнага мастацтва – і ўрэшце сам стаў драматургам. Ягоная п’еса “Жанімства па радыё” (1927) з поспехам ставілася і ў тэатральных гуртках БХД, і ў прафесійных тэатрах Другой Рэчы Паспалітай ажно да вайны. Паводле Уладзіміра Конана, Грынкевіч – адзін з самых кампетэнтных тэарэтыкаў і практыкаў беларускага тэатру ў міжваенны час.

Публіцыстыка Станіслава Грынкевіча надзвычай шматстайная ды разнапланавая. Публікаваўся ён ў хадэцкай прэсе – “Крыніцы”, “Студэнцкай думцы”, “Калосьсі”. Выдаваў брашуры – “Рады здаровым і хворым” супольна са сваёй жонкай Ядзвігай Грынкевіч, “Аб тэатры” (1927), “Народ” (1927). Выдаў аповесць “Царква. Помства. Вязніца” (1928). Ягоныя артыкулы “Культура і задачы нацыянальнай працы”(1935), “Аб праве на Бацькаўшчыну” (1936), “Трагічны крызіс” (1939) ставяць яго ў шэраг галоўных ідэолагаў беларускага руху паміж войнамі.

У 1934 годзе Грынкевіч пераклаў на беларускую мову кнігу знакамітага каталіцкага містыка Тамаша Кемпійскага “Следам за Хрыстусам”.

У 1931 годзе на з’ездзе БХД Станіслаў Грынкевіч быў абраны віцэ-старшынём партыі. Відавочна, хадэкі імкнуліся ўзмацніць кіраўніцтва аўтарытэтнымі постацямі, і Грынкевіч, вядомы як дасведчаны доктар, публіцыст і творца, прыдаўся на гэтую ролю як найлепш.

З 1938 Станіслаў Грынкевіч перабіраецца ў Вільню. У 1939 годзе як адзін з лідараў беларускага руху быў арыштаваны Саветамі, але здолеў уцячы з цягніка.

У часе вайны Станіслаў Грынкевіч не ішоў на супрацу з немцамі, стараўся трымацца ўбаку ад адкрытай палітыкі – але тым жа часам каардынаваў працу з польскім падполлем і праз яго – з заходнімі альянтамі. У разгар вайны, калі параза Нямеччыны ўжо была прадвызначанай, менавіта Грынкевіч спрабаваў падрыхтаваць стварэнне на базе колішняй БХД незалежніцкай беларускай сілы.

Улетку 1944 года Грынкевіч быў схоплены НКВД. Яго этапавалі ў Менск, потым у магілёўскую турму.

25 ліпеня 1945 года Станіслава Грынкевіча расстралялі ў турме ў Магілёве.

*Павел Севярынец*



# АДАМ ДАСЮКЕВІЧ

Адам Дасюкевіч – легенда Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Апошні рэдактар “Крыніцы”, ратаўнік Барыса Кіта ад смерці, абаронца беларусаў падчас вайны, бургамістр Паставаў, забіты акупантамі, чалавек надзвычай сціплы ў звычайным жыцці.

“Ціхі, працавіты патрыёт” – напісаў пра яго ў сваёй кнізе “Пад знакам Пагоні” сябра Рады БНР Язэп Малецкі.

Нарадзіўся Адам у вёсцы Копцевічы Ашмянскага павету (цяпер Смаргонскі раён) 5 чэрвеня 1911 года, калі многія будучыя лідары БХД ужо былі высвечаныя на святарства – прычым ягонай матуляй была сястра Адама Станкевіча.

Адась рана застаўся без маці – яна загінула, калі бацька быў на Першай сусветнай. Прытулілі яго з сястрычкай добрыя людзі.

У 1933 годзе скончыў Віленскую Беларускую Гімназію – гняздо беларускасці, дзе выкладалі Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Рыгор Шырма, а з 1937-39 гадах узначаліў Беларускі Студэнцкі Саюз.

У 1936-38 гадах рэдагаваў газету БХД “Беларуская Крыніца”. Настаўнічаў у Варапаеве.

У 1940 годзе Адам пабраўся шлюбам з Лідзіяй Сікорай – дачкой знакамітага садавода Івана Сікоры, і ў 1941-ым, дзеля цяжкасці з працай, маладая сям’я выехала ў БССР, каб дапамагаць даглядаць знакаміты сікораў сад.

Напрыканцы 1941 года, калі немцы ўжо цалкам занялі Беларусь і наладжвалі цывільную адміністрацыю на месцах, на прапанову дзеячаў Беларускага Нацыянальнага Камітэту Язэпа Малецкага і братоў Пецюкевічаў, менавіта агранома Адама Дасюкевіча прызначылі старшынём Пастаўскага павету і бурмістрам Паставаў.

Аднаго разу немцы рабілі ў Паставах экзекуцыю, і нейкі чын СС прыйшоў да дырэктара настаўніцкай семінарыі Барыса Кіта, каб запатрабаваць у яго студэнтаў для прыборкі вуліцаў ад трупаў. Кіт адмовіўся. Немец прыгразіў расстрэлам. Кіт адмовіў зноў. Тады эсэсавец дастаў пісталет і стрэліў. У апошні момант Адам Дасюкевіч выбіў пісталет, і куля увайшла ў сцяну.

Так быў уратаваны будучы творца амерыканскага касмічнага цуду.

Але Дасюкевічу гэтага не прабачылі.

31 кастрычніка 1943 года, калі нацысты чарговы раз запатрабавалі здаць збожжа для вывазу ў Нямеччыну, Адам Дасюкевіч адказаў: людзі ўжо аддалі ўсё, што маглі. Зондэрфюрэр СС, прысланы забяспечыць здачу і перавоз харчавання, застрэліў Дасюкевіча проста на вуліцы.

Пахаванне хрысціянскага дэмакрата Адама Дасюкевіча ператварылася ў маніфестацыю. Сотні й сотні людзей не пабаяліся прайсці працэсіяй па вуліцах Паставаў - і пакінулі на могілках мноства вянкоў з бел-чырвона-белымі стужкамі.

*Павел Севярынец*



# МІКОЛА ДВАРЭЦКІ

Мікола Дварэцкі (псеўданім Мікола Базылюк) – беларускі паэт і віцэ-старшыня БХД.

Мікалай Васілевіч Дварэцкі нарадзіўся 6 верасня 1903 у мястэчку Іказнь Дзісенскага павета Віленскай губерні (цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобласці) ў праваслаўнай сям’і Васіля і Мар'яны Дварэцкіх. Быў наймалодшым з дзевяці дзяцей браслаўскага рыбака.

Скончыў царкоўна-прыхадскую школу, вучыўся на шаўца, адкрыў у Іказні ўласную майстэрню.

Пасля 1-й сусветнай вайны сям'я Міколы Дварэцкага вярнулася з бежанства ў Беларусь. Вучыўся ў 7-гадовай школе ў Вільні. Пасля заканчэння школы працаваў краўцом, потым рыбаком на Віленскіх і Аўгустоўскіх азёрах.

Пасля падзелу Беларусі паміж Польшчай і СССР Дварэцкі ўключаецца ў беларускае жыццё. Пад уплывам ксяндза Адама Станкевіча ён становіцца сябрам Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Ужо ў 1922, падчас выбараў у парламент, Мікола дапамагае Беларускаму выбарчаму камітэту на Браслаўшчыне. Публікуе свае вершы ў беларускіх газетах, піша артыкулы. Праз чатыры гады ён узначальвае суполку Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.

У роднай Іказні Дварэцкі сабраў багатую беларускую бібліятэку. Некалькі разоў яе канфіскоўвала польская паліцыя, але за кожным разам ён рупліва яе аднаўляў.

За прапаганду беларускіх кніг і газет ён двойчы сядзеў у Лукішскай турме.

Мікола Дварэцкі быў актыўным дзеячом Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД). 25 лістапада 1928 у Вільні адбыўся з’езд Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. 25-гадовы Дварэцкі ўвайшоў у склад Цэнтральнага камітэта партыі і стаў намеснікам сакратара Яна Пазьняка. Па сваіх поглядах М.Дварэцкі быў антыкамуністам. Калі на сувязь з БХД выйшла Камуністычная партыя Заходняй Беларусі, ён пераконваў калегаў, што з КПЗБ нельга мець нічога супольнага, бо яна цалкам залежыць ад Масквы.

На пачатку 1930-х быў адзін з ініцыятараў утварэння і кіраўніком праваслаўнай фракцыі БХД. Актыўна супрацоўнічаў з Беларускім інстытутам гаспадаркі і культуры. Друкаваўся ў заходне-беларускіх, пераважна хадэцкіх, перыядычных выданнях (з 1921) пад псеўданімам Мікола Базылюк.

За сваю палітычную дзейнасць у 1928 годзе Мікола Дварэцкі неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі.

Пісаць пачаў з 1920-га году і на працягу 20-х – 30-х гадоў друкаваўся ў беларускай прэсе як паэт і празаік.

У 1939 – 1941 Мікола Дварэцкі настаўчае у Мёрах (цяпер райцэнтр Віцебскай вобл.). Яму дазваляюць арганізаваць беларускую школу пад Браславам, ён робіцца яе дырэктарам. Але хутка камуністы ператвараюць школу ў расійскую. М. Дварэцкі займаецца садоўніцтвам і пчалярствам.

У чэрвені 1941, з пачаткам вайны, у Іказні ўтварылася самаабвешчаная польская паліцыя. М. Дварэцкага па даносу схапілі як “камуніста” і ўжо вялі на расстрэл. Але за Міколу заступаецца браслаўскі староста. Дварэцкага не толькі вызваляюць, але і прызначаюць войтам Мёраў.

У 1942 адпраўлены немцамі на прымусовыя работы ва Ўсходнюю Прусію.

У лютым 1945 на тэрыторыі Нямеччыны, занятай Чырвонай Арміяй, пачалася прымусовая рэпатрыяцыя савецкіх грамадзян “на радзіму”.

З сотнямі вязняў-беларусаў Дварэцкага садзяць у цягнік на Усход. Былому войту Мёраў пагражае расстрэл. Але яму ўдаецца ўцячы з цягніка. Ён апынаецца на захадзе Польшчы, на былых нямецкіх землях. У ваколіцы Штутава, на балтыйскім узбярэжжы, ён знаходзіць закінутую хату, дзе прапісвацца ў гміну. Цяпер яго завуць Мікалай Дважэцкі, месцам нараджэння ён запісвае Выбарг.

Тры наступныя гады Дварэцкі жыве адзін. У 1948, праз абвестку ў газеце, яго знаходзіць каханая з Браслаўшчыны – Вера Шук. Праз год у іх нараджаецца дачка Галіна, а ў 1952 – сын Юрка.

Некаторы час М. Дварэцкі працаваў на чыгунцы ў Гданьскай павятовай дарожнай управе ў мясцовасці Штутава. Пасля вайны жыў у Польшчы, на Узбярэжжы. З 1956 году друкаваў вершы і карэспандэнцыі ў беластоцкай “Ніве”.

Апошнія гады жыцця правёў у  Лембарку непадалёку ад Гданьска.

Самай блізкай асобай, якой Мікола Дварэцкі бязмежна давяраў, быў яго стрыечны брат Язэп, які жыў у Калабжэгу. Свой сум Мікола выліваў у лістах да яго: "Ты адзін, каму я магу пісаць на роднай мове. Гляджу я на бібліятэку: столькі кніжак! Але хто іх будзе чытаць пасля маёй смерці? Былі прычыны, што ані сын, ані дачка, не пайшлі слядамі бацькоў..."

Перад смерцю, калі Дварэцкі ўжо не мог размаўляць, ён папрасіў знакам у дачкі паперу і асадку ды з цяжкасцю накрэмзаў: "Я праваслаўны".

15 жніўня 1988 Мікола Дварэцкі памёр. Пахаваны ў Лембарку.

*Анатоль Астапенка*

# УЛАДЗІСЛАЎ ЗНАМЯРОЎСКІ



Уладзіслаў Знамяроўскі – выдавец, дзеяч нацыянальнага руху пачатку XX стагоддзя, рэдактар віленскіх беларускіх газет, у тым ліку “Нашай Нівы” і друкаванага воргана Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі “Беларуская крыніца”.

Родам Уладзіслаў Знамяроўскі з Латгаліі (сёння – Латвія). Скончыў Віленскую гандлёвую школу. Меў сваё прыватнае выдавецтва.

Выдаваў часопісы, газеты, кнігі. Агулам надрукаваў 21 кнігу па-беларуску, сярод якіх “Дудка Беларуская” Францішка Багушэвіча, “Кароткая гісторыя Беларусі” Усевалада Ігнатоўскага, “Расейска-беларускі слоўнік” Гарэцкіх, “Дзед Завала” Ядвігіна Ш.

З 30 кастрычніка 1921 года па снежань 1923 года рэдагаваў газету беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў “Беларуская крыніца”. Паколькі польскія ўлады пільна сачылі за беларускім хадэцкім друкам – некалькі разоў аказваўся пад судом за публікацыі.

У 1920 годзе, пачынаючы з трэцяга нумара, рэдагаваў “Нашу Ніву”.

У 1922 годзе ахвяраваў 10.000 польскіх злотых на выданне газеты “Новы шлях” звязанага з БХД Беларускага Студэнцкага Саюза.

Падчас Другой сусветнай вайны выехаў у Польшчу.

*Павел Севярынец*



## ПАВЕЛ КАРУЗА

Павел Каруза – кампазітар, старшыня ЦК БХД ў 1926-28 гадах, пасол Польскага сейма ў 1928-30 гадах, вязень ГУЛАГа, рэабілітаваны ў 1957 годзе.

Нарадзіўся Павел Каруза 12 лютага 1900 года ў Ваўкалаце Дзісенскага павету (зараз Докшыцкі раён Віцебскай вобласці). Вучыўся ў школе ў Браславе (1924), у 1928 годзе скончыў кансерваторыю ў Вільні па класе "тэорыя і кампазіцыя".

"Biełaruskaja Krynica" ў №16. (20 лютага 1928 г.) так пісала пра Паўла Карузу ў матэрыяле "Нашы першыя 3 кандыдаты ў Сейм на Сьвянцянскі выбарны вокруг (паветы: Сьвянцянскі, Пастаўскі, Дзісьненскі і Браслаўскі)":

Каруза Павал (на сьпіску першае месца). Сын селяніна, сьведамага Беларуса з часаў аднэй з першых беларускіх газэт "Нашай Нівы", радзіўся ў лютым 1900 году ў м. Ваўкалаце, Пастаўскага павету. Вучыўся Каруза ў Петраградзе, дзе пазнаёміўся з беларускім рухам (асабліва пад уплывам свайго сваяка – ведамага беларускага дзеяча К. Душэўскага, а такжа А. Грыневіча і П. Мядзёлко). Пасля прыезду на бацькаўшчыну быў Каруза 14 траўня 1919 году (у Нова-Сьвянцянах) арыштаваны польскімі ўладамі за арганізаванне беларускай моладзі і да 22 ліпня трыманы ў турме на Лукішках.

У 1922 годзе Каруза паступае на гуманістычны факультэт Віленскага Унівэрсітэту. Аднак трудныя матэрыяльныя абставіны змушаюць Карузу ў 1924 годзе выехаць да бацькоў на вёску, дзе памагае ім у фізычнай земляробскай працы.

Вярнуўшыся ў пачатку 1926 году ў Вільню Каруза ўваходзе ў круг Беларусаў, згуртаваных каля "Беларускай Крыніцы" і ў восень гэтага-ж году яго выбіраюць старшынёю Цэнтральнага Камітэту Беларускай Хрысціянска-Дэмократычнай Партыі. Адначасна прымае чынны ўдзел у працах Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Будучы яшчэ ў Расеі студыяваў коопэрацыю і на на Коопэратыўна-Гандлёвых курсах, ладжаных гэтым Інстытутам, быў вучыцелям.

Пасля адыходу Кс. Ад. Станкевіча ад "Беларускай Крыніцы" Каруза разам з А. Стэповічам бярэцца за рэдагаванне гэтай газэты.

На агульным з’ездзе Беларускай Хрысціянскай Дэмакрацыі у восень 1927 году Карузу выбіраюць і на другі год Старшынёю Цэнтральнага Камітэту партыі. Гэта становішча Каруза займае і да сягонняшняга дня, будучы адначасна Секрэтаром Віленскага Аддзелу Бел. Інст. Гасп. і Культуры.”

Паўла Карузу тады выбралі паслом – галасамі БХД і Беларускага Сялянскага Саюза. Але ўжо ў 1930 годзе Сейм быў разагнаны санацыйнымі ўладамі – і Каруза стаў беспрацоўным. Нястача і творчая незапатрабаванасць штурхнулі яго на адчайныя думкі пра Савецкую Беларусь: у 1934 годзе яго падманам, пад шырмай публікацыі ў БССР ягонае музыкі, завабілі ў Менск і арыштавалі.

Тады ж у савецкім друку з’явілася грунтаваная на “выніках допытаў Карузы” брашура: “Як Беларуская Хадэцыя гандлюе крывёю рабочых і сялян”. Самога ж Паўла Карузу адправілі на Салаўкі.

Адбыўшы 13 гадоў у лагерах, ён вярнуўся ў Вільню ў 1947-ым. У 1947-48 гадах працаваў у Маладэчанскім доме творчасці – дырыжорам Маладэчанскага абласнога ансамбля песні і танца. У 1949 – арыштаваны зноў. Вызвалены ў 1955-ым і рэабілітаваны пасля XX з’езду КПСС, у 1957-ым.

Пасля рэабілітацыі Павел Каруза здолеў уладкавацца ў Дзяржаўны ансамбль польскай песні і танцу Літоўскай ССР. Друкаваўся ў беларускіх выданнях “Мастацтва Беларусі”, “Літаратуры і мастацтве”. Ён – аўтар грунтоўных навуковых працаў, прысвечаных беларускаму фальклору: “Вытокі беларускага меласу”, “Абрадавыя песні Паазер’я” ды іншых. Запісаў песні на вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Ніла Гілевіча, Ларысы Геніюш…

У 1970-ым менавіта Каруза нёс крыж на пахаванні свайго наступніка, старшыні ЦК БХД ў 1931-36 гадах Адольфа Клімовіча.

Памёр Павел Каруза ўжо ў разгар перабудовы, у Вільні, 20 лютага 1988. Пахаваны на Ефрасіннеўскіх могілках у Вільні.

Пад Глыбокім, ля вёсачкі Воўкаўшчына, краязнаўцы расшукалі падмуркі ягонай колішняй хаты.

*Павел Севярынец*



## ЮРЫЙ КАШЫРА

Юрый Кашыра – самаахвярны рыма-каталіцкі святар, марыянін, які пайшоў у вагонь са сваімі парафіянамі ў Росіцы. Прыхільнік БХД. Пакутнік. Блаславёны.

Юрый Кашыра нарадзіўся ў Росіцы (сёння – Верхнядзвінскі раён Віцебскай вобласці) 4 красавіка 1904 года. Паходзіў з праваслаўнай сям'і з вуніяцкімі каранямі, але свядома выбраў каталіцтва. 20-гадовым Юрый прыйшоў у Друю і паступіў у кляштар марыянаў. Менавіта тут загартавалася беларуская свядомасць будучага ксяндза. Тут ён пазнаёміўся з дзеячамі БХДЗ – айцамі Фабіянам Абрантовічам, Андрэем Цікотам, Язэпам Германовічам. Тут далучыўся да асветніцкай працы, якую ў цяжкіх умовах вялі святары і беларускія хадэкі.

У 1929 годзе ў Друйскім кляштары Юрый склаў манаскія шлюбы і быў пасланы ў Рым вывучаць багаслоўе і філасофію. Па вяртанні, 20 чэрвеня 1935 года быў высвечаны на ксяндза – і накіраваны праводзіць заняткі катэхізацыі ў гімназіі Друі.

У 1938 годзе польскія ўлады раскідалі "беларускае гняздо" ў Друі дзеля "палітычнай ненадзейнасці" і перавялі ягоных насельнікаў у глыбіню Польшчы, у Расна. Але ўжо ўвосені 1939-га Саветы занялі Расна і разагналі кляштар, і ягоныя насельнікі разбрыліся па ваколіцы ў пошуках прытулку. Ксёндз Юрый тры гады блукаў па манастырах Беларусі і Літвы, і толькі з пачаткам вайны змог вярнуцца ў Друю – каб далучыцца да айца Антонія Ляшчэвіча, каторы служыў у ягонай роднай Росіцы.

Ксяндзы вялі службу ў касцёле, дапамагалі людзям, не адмаўлялі ў дапамозе і тым, хто хаваўся ад немцаў у лесе.

У лютым 1943 года нацысты пачалі на Дзісеншчыне карную аперацыю "Зімовае чараўніцтва". Яе мэтай было стварыць "мёртвую зону" ў дзясяткі кіламетраў на сумежжы Літвы, Латвіі і Беларусі – выпаліць вёскі, хутары, выселіць у канцлагеры ці пазабіваць жыхароў, атруціць калодзежы, каб знішчыць базу падтрымкі партызанаў. Вёсачка Росіца і яшчэ сотні вёсак былі прызначаныя на спаленне.

16 лютага карнікі занялі Росіцу. Усіх жыхароў сагналі ў касцёл, дзе вялі "сартыроўку" – кагосці накіроўвалі ў лагер Саласпілс, каб адпраўляць на працы у Германію, астатніх – заганялі ў драўляныя будынкі і падпальвалі.

Святарам немцы прапанавалі з'ехаць. Але і ксёндз Юрый Кашыра, і ксёндз Антоній Ляшчэвіч, і сёстры-еўхарысткі адмовіліся – і засталіся са сваімі парафіянамі да канца. Юрый Кашыра быў спалены жыўцом разам з жыхарамі Росіцы 18 лютага 1943 года.

Агулам у Росіцы акупанты забілі 1528 чалавек.

Подзвіг Юрыя Кашыры і Антонія Ляшчэвіча адлюстраваны ў рамане беларускай пісьменніцы Ірэны Жарнасек "Будзь воля Твая".

13 чэрвеня 1999 года ксёндз-пакутнік Юрый Кашыра быў беатыфікаваны. Дзень ягонае памяці адзначаецца штогод 12 чэрвеня.

*Павел Севярынец*



## АДОЛЬФ КЛІМОВІЧ

*"Заява тых, хто лічыць, што рэлігія – справа прыватная і ў публічным жыцці не павінна выстаўляцца напаказ, з'яўляецца памылковай."*

*Адольф Клімовіч*

Адзін з ідэолагаў і кіраўнікоў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Адольф Клімовіч (20 красавіка 1900 - 24 лістапада 1970) нарадзіўся ў сям'і каваля ў вёсцы Казаноўшчына ля мястэчка Клюшчаны на Віленшчыне. З малых год усвядоміў сябе беларусам, з юнацтва – адказным хрысціянінам. Сваім галоўным настаўнікам лічыў Казіміра Сваяка (ксяндза Канстанціна Стэповіча). Менавіта Адольфа Клімовіча скіравалі клюшчанцы сваім дэлегатам на Беларускую канферэнцыю ў Вільню напрыканцы студзеня 1918-га. І з гэтага часу стаў ён беларускім хрысціянскім дзеячам буйнога маштабу. А паралельна скончыў і Беларускую гімназію ў Базыльянскіх мурах, і Беларускія настаўніцкія курсы там жа і тэхнічны ўніверсітэт у Празе.

Калі атрымаў Клімовіч партбілет БХД – пэўнай інфармацыі няма. Але ўжо на настаўніцкіх курсах 1921 года ў яго была выразная хрысціянска-дэмакратычная пазіцыя.

Першы выступ Адольфа Клімовіча ад беларускай хрысціянскай дэмакратыі – на канферэнцыі славянскіх культурных працаўнікоў у Празе ў чэрвені-ліпені 1926 года. У Празе Клімовіч ачольваў нешматлікі гурток студэнтаў прыхільнікаў хрысціянскай дэмакратыі, і на ўсялякіх сустрэчах і ў друку праяўляў сябе як хрысціянін і беларус. Гэта выклікала павагу і аказвала ўплыў.

З 6 да 16 лістапада 1928 года Адольф Клімовіч здаў практычны і тэарэтычны экзамен па сваёй вучобе ў Тэхнічным універсітэце і атрымаў дыплом інжынера-агранома. З гэтага часу для многіх старых і новых знаёмцаў ён перадусім – інжынер Клімовіч. Гэтак жа ён будзе названы і на ўласным надмагільным помніку.

У снежні 1928-га ён вяртаецца ў Вільню. На той час беларускія каталіцкія святары былі вымушаныя падпарадкавацца забароне свайго касцёльнага кіраўніцтва і спыніць актыўную дзейнасць у складзе БХД. І ім на смену прыйшлі маладыя энергічныя свецкія актывісты, у тым ліку Адольф Клімовіч. Ён актыўна ўдзельнічаў у з'ездзе партыі 1931 года – і ўзяў на сябе

адказнасць узначаліць ЦК БХД. Пяць нялёгкіх гадоў – з 1931 па 1936 – Клімовіч кіраваў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыяй.

З прыходам у Вільню бальшавікоў, 12 ліпеня 1940 года Адольф Клімовіч быў упершыню арыштаваны і прабыў у зняволенні да 2 мая 1941-га. Падчас нямецкай акупацыі займаўся беларускімі справамі. З новым прыходам бальшавікоў сышоў з Вільні ў мястэчка Жыліны Троцкага павету, адгадаваў бараду, змяніў прозвішча на Клімавічус і ўладкаваўся арганістам у мясцовы касцёл. Гэта на нейкі час уратавала, але 14 жніўня 1952-га Адольф усё адно быў арыштаваны і 28 лютага 1953-га асуджаны на расстрэл. Але хуткая смерць Сталіна прынесла змены і ў прысуд, які быў зменены на 25 гадоў канцлагераў.

У 1956-м Клімовіча вызваліла хрушчоўская "адліга". Па вяртанні на радзіму ён ізноў служыў арганістам у касцёле. Клапаціўся-даглядаў старыя беларускія могілкі на Ліпаўцы і Росах. У канцы 1960-х стаў ініцыятарам стварэння сымбалічнага помніка заснавальніку БХД ксяндзу Адаму Станкевічу на яго радзіме ў Арлянятах, поўнасцю склаў для яго тэкст (9 радкоў), дзе Станкевіч называўся выдатным грамадска-культурным дзеячам, патрыётам Беларусі – бадай, максімум, з таго, што можна было тады добрага сказаць пра гэтага вялікага чалавека.

Пакінуў шмат матэрыялаў для пешых падарожжаў па Вільні, якія меркавалася ў далейшым выдаць асобнай кніжкай – "Беларускі праваднік па Вільні". Лёс гэтай амаль гатовай да выдання кнігі дагэтуль ня высветлены. Але ёсць падставы меркаваць, што менавіта яна была выкарыстана Лявонам Луцкевічам для ягоных "Вандровак па Вільні".

Адольф Клімовіч сканаў у віленскай чыгуначнай бальніцы ў выніку моцнай спрацаванасці сэрца. Пакінуў пра сябе памяць як чалавек энцыклапедычных ведаў, надзвычай спакойны, шчыры і ветлівы, для якога натуральна было праяўляць спагаду і да людзей, і да жывёлаў, і да птушак…

Адпявалі Адольфа Клімовіча тры каталіцкія ксяндзы ў касцёле на Віленскім Звярынцы, у тым ліку, вышэйшы каталіцкі духаўнік, прэлат Чэславас Крывайціс, з якім Адольф адбываў пакаранне ў сталінскіх лагерах. Потым аналагічную службу правялі на кватэры і жалобная працэсія рушыла на радзіму нябожчыка. Ларыса Геніюш напісала тады: "Пахавалі, як і жадаў, - ля сэрца маці." Крыж у пачатку пахавальнай працэсіі нёс былы старшыня БХД Павел Каруза.

*Андрэй Мельнікаў*

# ЯЎХІМ КРАСОЎСКІ



Яўхім Красоўскі – віцэ-старшыня ЦК БХД, кіраўнік праваслаўнага крыла партыі ў канцы 1920-ых – першай палове 1930-ых гадоў.

Яўхім Красоўскі жыў у вёсцы Макаршчына Варапаеўскай гміны Пастаўскага павета (цяпер – Пастаўскі раён Віцебскай вобласці). Праваслаўны.

Абраны сябрам ЦК БХД падчас з’езда БХД 24 кастрычніка 1926 г. Удзельнічаў у з’ездах БХД у 1927, 1928 і 1931 гг. Падчас выбараў у Сейм 4 сакавіка 1928 г. уключаны ў спіс кандыдатаў ад Блоку нацыянальных меншасцяў па Свянцянскай акрузе. Вёў агітацыйную працу на тэрыторыі Пастаўскага павета падчас выбарчых кампаній 1928 і 1930 гг. 25 лістапада 1928 г. абраны віцэ-старшынём ЦК БХД. Быў сябрам ЦК БХД да 26 студзеня 1936 года, у ЦК БНА не ўваходзіў.

У БХД займаўся адносінамі з праваслаўнай царквой, неаднаразова падаваў ад імя БХД мемарыялы да духоўных уладаў з просьбай увядзення беларускай мовы ў казанні і катэхізацыю, вывучэння беларусазнаўства ў Віленскай духоўнай семінарыі. У 1932-33 выдаваў часопіс “Царква і народ”.

Падвяргаўся рэпрэсіям з боку польскай адміністрацыі. У 1926 годзе скончыў настаўніцкія курсы ў Вільні, аднак школьная адміністрацыя не дазволіла яму працаваць. Быў звольнены з працы (ашчадная каса ў м. Варапаева). Рэгулярна прыцягваўся да адказнасці паліцыяй за дробныя адміністрацыйныя парушэнні. 12 лістапада 1930 года ў роднай вёсцы быў моцна збіты невядомымі нападнікамі, што адмоўна адбілася на стане яго здароўя.

Быў старшынём гуртка БІГіК у вёсцы Харкі Варапаеўскай гміны, які дзейнічаў у красавіку 1932 - снежні 1936 года. Сябры гуртка арганізоўвалі беларускія вечарыны і публічныя лекцыі ў Харках і іншых вёсках, у 1934 годзе арганізавалі святкаванне 25 Сакавіка, пашыралі беларускую літаратуру. Красоўскі сам удзельнічаў у пастаноўках у якасці актора. Пры гуртку працавала беларуская бібліятэка-чытальня, якая налічвала каля 200 кніг, а таксама атрымлівала перыядычныя выданні.

Падчас нямецкай акупацыі працаваў настаўнікам беларускай школы ў Харках. Пасля II Сусветнай вайны арыштаваны савецкімі спецслужбамі і асуджаны да 25 год зняволення. Вызвалены пасля смерці Сталіна, вярнуўся на радзіму.

*Кастусь Шыталь*



## ЗЫГМУНТ ЛАЗІНСКІ

Нам не знаёмыя сведчанні, што Зыгмунт Лазінскі (5 чэрвеня 1870 - 26 сакавіка 1932) належаў да структур Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Ён адчуваў сябе палякам. Але менавіта ён дабраславіў для друку Праграму і Статут першай беларускай хрысціянскай дэмакратыі, і, кіруючы дыяцэзіяй, даў БХД магчымасць легальна існаваць і развівацца ўнутры касцёла.

Бо перадусім для біскупа Зыгмунта была не Польшча, але Воля Бога.

Нарадзіўся наш герой там жа, дзе і славуты паэт Адам Міцкевіч – на Наваградчыне. Калі зусім дакладна – то ў маёнтку Барацін. У сям'і Уладыслава Альберта і Людвікі Марыі з дому Чэчат. Распачаў навуку з Варшаўскай гімназіі ў 1880-ым. Затым скончыў семінарыю ў Санкт-Пецярбургу і Пецярбургскую рымска-каталіцкую духоўную акадэмію, дзе потым выкладаў. Святарскія пасвячэнні атрымаў у 1895-м.

Ужо ў Піцеры праявіў сябе як асоба неканфармісцкая. Двойчы ўступаў у сур'ёзны канфлікт з царкоўнымі ўладамі, у выніку чаго адхіляўся ад пасады. Прычым, у выніку другога канфлікта – у 1905-м яго з імперскай сталіцы выслалі. У больш родны і блізкі нам Мінск – на пасаду пробашча кафедральнага касцёла.

Праз некалькі месяцаў Лазінскага вярнулі ў Піцер на ранейшую пасаду прафесара духоўнай акадэміі, дзе ён правыкладаў да 1909 года.

Настала ў Беларусь Зыгмунт Лазінскі вярнуўся ўжо біскупам, у жніўні 1918-га. Ягоная знакавая неспадзеўка для беларусаў і нечаканка для палякаў адбылася 6 снежня тага ж году на Менскай катэдры. Пад час імшы, якую вёў сам біскуп, хор, які ачольваў рэктар семінарыі Абрантовіч, стаў спяваць рэлігійныя песні па-беларуску. Частка прыхаджанак – полькі з самавызначэння, паспрабавалі заглушыць гэта польскімі песнямі, ды марна… А затым біскуп Зыгмунт і Евангелле прачытаў па-беларуску і казанне па ім сказаў па-беларуску – горача, ад сэрца… Рэвалюцыя ў касцёльных мазгох!

Лазінскі стварыў прэцэдэнт, пасля якога беларускія набажэнствы, чытанні Евангелляў па-беларуску і беларускія казанні сталі ў

касцёльнай практыцы легальнымі, рэгулярнымі і звыклымі. У Менску яны ладзіліся пры ім штодня.

А на гэтай глебе мацаваўся і дэмакратычны беларускі хрысціянскі рух.

У 1920 годзе менавіта біскуп Зыгмунт Лазінскі даў дазвол на друк першых Праграмы і Статута БХДЗ: кожны асобнік, які служыў адначасова пасведчаннем БХДЗ, суправаджаўся пазнакай ягонага дабраславення.

У 1920-ым годзе бальшавікі арыштавалі біскупа Зыгмунта. 11 месяцаў яму давялося прабыць у знакамітай маскоўскай Бутырцы, пасля чаго яму далі магчымасць з'ехаць у Заходнюю Беларусь, якая тады апынулася ў складзе Польшчы. У 1925-ым Лазінскі ачоліў новастворaную Пінскую дыяцэзію, дзе стаўленне да беларускасці прынцыпова праявіў гэткае: для грэка-каталікоў дазволіў казанні па-беларуску, для рыма-каталікоў – па-беларуску дазволіў тлумачэнні ў казаннях. Афіцыйна існуючай у яго дыяцэзіі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі не перашкаджаў, трымаўся ў адносінах да яе нейтралітэту; што ў тагачасных умовах ужо было нямала.

Сканаў Зыгмунт Лазінскі ў Пінску ў Вялікую Суботу 1932-га. Паводле ягонай волі, хавалі біскупа без катафалку, як простага мніха.

У Касцёле Зыгмунт Лазінскі вызнаны блаславёным.

*Андрэй Мельнікаў*



# ЮРЫ МАТУЛЕВІЧ

Багаславёны Юры Матулевіч, біскуп Віленскі, генерал ордэну марыянаў, заснавальнік легендарнага кляштару ў Друі – адзін з тых людзей, без якіх Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя магла не адбыцца. Беатыфікаваны 28 чэрвеня 1987 года Папам Рымскім Янам Паўлам ІІ. Зараз трывае працэс яго кананізацыі.

Нарадзіўся Юры Матулевіч 13 красавіка 1971 года ў Лугіне непадалёк ад Марыямпаля. Рана застаўся сіратою, яго даглядаў старэйшы брат Ян.

У 1891-93 гадах вучыўся ў каталіцкай духоўнай семінарыі ў Кельцах. Як адзін з найбольш здольных вучняў, быў накіраваны ў мітрапалітальную духоўную акадэмію ў Пецярбургу. У 1898 годзе быў высвечаны на ксяндза. Тэалагічны кшталт атрымліваў у нямецкім Фрайбургу, абараніў там доктарскую дысертацыю.

З 1907 года выкладаў у Пецярбургскай духоўнай акадэміі сацыялогію, затым – дагматычную тэалогію. Якраз тут Юры Матулевіч пазнаёміўся з беларускімі студэнтамі – будучымі лідарамі БХД.

У 1909 годзе ўступіў у ордэн марыянаў, у якім на той момант заставаўся толькі адзін састарэлы святар. З 1911 года ён – генерал ордэна, распрацаваў праект рэформы ордэна (зацверджаны Ватыканам ) і заснаваў на тэрыторыі Беларусі, у Друі, марыянскі кляштар.

У 1915 годзе ў Варшаве арганізаваў прытулак для бяздомных дзяцей. У 1923-цім стварыў для працы сярод беларусаў “Таварыства еўхарыстак”.

У 1918 годзе біскуп Матулевіч быў прызначаны біскупам Віленскім. У гэтым жа годзе распрацаваў праграму Літоўскай хрысціянска-дэмакратычнай партыі, адной з галоўных мэтаў якой было не дапусціць сацыялістычнай рэвалюцыі ў Літве. Польскія нацыяналісты неўзабаве абвінавацілі яго ў “літваманіі”, літоўскія – у “польскім шавінізме”, даставалася яму і за “масквафільства”, і за “жыдоўства”. Праўда ж была ў тым, што біскуп узяўся служыць

Хрысту – і імкнуўся прыгарнуць да Касцёла ў віленскім шматмоўным катле як мага больш народаў.

Біскуп Матулевіч быў надзвычай прыхільны да беларусаў наогул, лічыў, што ў Віленскай дыяцэзіі менавіта яны складаюць большасць. Гэта ён неаднойчы абараняў правадыра БХД ксяндза Адама Станкевіча ад уладаў і цкавання шавіністычных колаў, спрыяў беларускаму друку і бачыў хрысціянскую дэмакратыю важнай сферай служэння святароў і вернікаў.

"БХД ў Вільні і ўся яе праца мела такжа і сваіх прыхільнікаў. Да гэткіх належаў прадусім віленскі біскуп Юры Матулевіч. Беларускае адраджэнне агулам, а тым больш рух хрысціянскі, у душы яго знаходзіў шчырую сімпатыю і спогад. Будучы, аднак, застрашаны польскімі нацыяналістамі, у адносінах да беларускай справы быў даволі асцярожны, але заўсёды шчыры і глыбока справядлівы" – пісаў пра біскупа Матулевіча сам ксёндз Адам ("Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі").

У 1925 годзе адышоў ад кіравання дыяцэзіяй і выправіўся ў Рым, каб займацца справамі Ордэну марыянаў. Прызначаны на ягонае месца арцыбіскупам Рамуальд Ялбжыкоўскі прыняў бок шавіністаў – і забараніў ксяндзам належаць да БХД ды выпісваць "Крыніцу".

Добры сябра беларусаў і дабрадзей БХД біскуп Юры Матулевіч адышоў да Бога ў Коўне 27 студзеня 1927 года.

*Павел Севярынец*



## ЯЗЭП МАЛЕЦКІ

Язэп Малецкі (1906-1982) – беларускі грамадска-палітычны дзеяч, рэдактар і выдавец, доктар медыцыны. Сябра ЦК Беларускага Народнага Аб'яднання (перайменаванай БХД), заступнік прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады па Вялейшчыне, лідар беларускай дыяспары ў Аўстраліі.

Нарадзіўся Язэп Малецкі ў в. Якужы Дзісенскага павету (зараз Мёрскі раён). Скончыў гімназію імя Сцяпана Батуры ў Друі, пасля медычны Універсітэт Сцяпана Батуры ў Вільні (зараз – Віленскі Універсітэт). З 1935 году працаваў доктарам у розных месцах.

Са студэнцкіх гадоў прымаў ўдзел у беларускім культурным і нацыянальным руху. Рэдактар і выдавец беларускіх газэт, календароў, сябра Віленскага Беларускага нацыянальнага камітэту.

У 1936 годзе быў выбраны ў Цэнтральны Камітэт Беларускага Народнага Аб'яднання разам з Адольфам Клімовічам і Янам Пазьняком.

З пачаткам другой сусветнай вайны вярнуўся ў Вільню, і разам з групай беларускіх дзеячаў дамагаўся таго, каб цывільную адміністрацыю на беларускіх землях узначальвалі беларусы.

З'ехаў ў Горадню, з восені 1942 ў Баранавічах. Працаваў лекарам у баранавіцкіх бальніцах, разам з іншымі беларускімі дактарамі-патрыётамі Анатолем Бярозкаю, Усеваладам Каралём, Наўмікам. Кіраўнік медыцынскай школы ў Баранавічах. Ратаваў многіх беларусаў ад пераследу немцаў і савецкіх партызанаў.

Пасля ў 1944 намеснік прэзыдэнта БЦР па Вялейскай акрузе.

У 1944 годзе, баючыся савецкага пераследу, з'ехаў у Нямеччыну. У Нямеччыне стаў ініцыятарам і галоўным арганізатарам "Аб'яднання беларускіх лекараў на чужыне", рэдагаваў часопіс "Мэдычная думка".

Эміграваў у Аўстралію, дзе стаў адным з лідараў беларускай дыяспары. Атрымаў доктара медыцыны ў 1955 годзе ў Сіднэі. Быў сябрам першай управы Беларускага аб'яднання ў штаце Новая Паўднёвая Валія, дапамагаў у выданні месячніка "Новае жыццё ў Сіднэі".

Узначальваў федэральную раду беларускіх арганізацыяў Аўстраліі. З'яўляўся прадстаўніком Рады БНР у Сіднэі. Дапамагаў грашова як арганізацыям Аўстраліі, так і музэю й бібліятэцы ў Лондане, і Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва.

У 1976 годзе ў Таронта Язэп Малецкі выдаў кнігу ўспамінаў “Пад знакам “Пагоні” – шчыры, поўны горкай праўды летапіс свайго жыцця, рэдкую крыніцу сведчанняў пра часы савецкай і нямецкай акупацыяў “знутры”.

Памёр Язэп Малецкі ў 1982 годзе ў Аўстраліі.

*Алесь Адамковіч*



## ЯЗЭП НАЙДЗЮК

Язэп Найдзюк (псеўданімы: Бойдацкі, Цыпрыяновіч, Станіслаў, Юзаф Аляксандровіч) – беларускі грамадскі і культурны дзеяч, выдавец, рэдактар, гісторык, актыўны сябра БХД.

Нарадзіўся Язэп Найдзюк 12 траўня 1909 года ў вёсцы Бойдаты, Ваўкавыскага павету, Гродненскай губерні ў рыма-каталіцкай сям'і Цыпрыяна і Людвікі Найдзюкоў.

Вучыўся ў сярэдняй школе ў Бойдатах і Вярэйках Ваўкавыскага павету. Па сканчэнні школы ў 1923 паступіў у Ваўкавыскую настаўніцкую семінарыю, аднак з фінансавых прычын пасля двух гадоў навучання быў вымушаны перапыніць вучобу. Язэп Найдзюк едзе ў Вільню, дзе ягоны дзядька – Фабіян Ярэміч – знаёміць яго з лідарам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Адамам Станкевічам. З гэтага знаёмства і пачынаецца ягоны шлях як свядомага беларуса, патрыёта і грамадзяніна. Найдзюк пачынае спяваць у царкоўным хоры пры касцёле св. Мікалая ў Вільні і вучыцца на матуральных курсах.

У тыя ж часы віленскія беларускія дзеячы Адам Станкевіч, Фабіян Ярэміч, кс. Вінцук Гадлеўскі і кс. Андрэй Цікота вырашаюць стварыць у Вільні сваю беларускую друкарню і надаць ёй імя Францыска Скарыны. Было арэндавана памяшканне на Людвісарскай, 1 і закуплены друкарскі станок. У маі 1926 г. друкарня пачала дзейнічаць. Спачатку Язэп Найдзюк працуе памочнікам кіраўніка друкарні, а з чэрвеня 1927 г. – кіраўніком. У друкарні выдаваліся газеты "Беларуская крыніца", "Сялянская Ніва", выданні для Беларускай Сялянска-Работніцкай "Грамады", часопіс "Хрысціянская Думка" і іншая прадукцыя.

Язэп Найдзюк належаў да Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД). Ладзіў культурныя і рэлігійныя імпрэзы.

Быў рэдактарам (з шостага нумара) часопіса "Шлях моладзі" (1929-1939). Ужо ў першым нумары часопіса ён надрукаваў праграмны артыкул "Для Бацькаўшчыны!", дзе выклаў ідэю беларускага маладзёжнага руху.

Польскія ўлады з насцярожанасцю ўспрымалі часопіс. Часта тыраж канфіскоўвалі, а рэдактара адпраўлялі за краты. У верасні 1939 годзе разам з іншымі беларускімі дзеячамі Язэп Найдзюк трапляе ў канцэнтрацыйны лагер у Картуз-Бярозе. Вызвалены пасля падыходу савецкіх войск. У кастрычніку 1939 г. вярнуўся ў Вільню. Увесну 1941 году беларуская друкарня была зачынена.

Пасля пачатку вайны ў 1941 годзе Язэп Найдзюк едзе ў Менск, дзе пачынае працаваць у Інспектараце беларускіх школ. Займаўся выданнем часопіса "Беларуская школа". Быў сябрам Цэнтральнай рады Беларускай народнай самапомачы. У 1942 годзе было заснавана Выдавецтва школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі. Язэп Найдзюк кіраваў усёй працай выдавецтва. Было надрукавана каля 30 выданняў – падручнікі, мастацкая і рэлігійная літаратура.

У 1943 (на вокладцы 1944) выдаў у Менску падручнік па гісторыі "Беларусь учора і сяння" кірыліцай. Другое выданне кнігі выйшла пад рэдакцыяй І. Сівіцы, польскага немца, працаўніка аддзелу культуры і палітыкі генеральнага камісара Беларусі. Сівіца паправіў тэкст падручніка ў кірунку, які адпавядаў нямецкай палітыцы ў Генеральнай акрузе Беларусь. Да гэтага часткі кнігі друкаваліся ў газеце «Голас вёскі».

У чэрвені 1944 г. перад прыходам Савецкай Арміі Язэп Найдзюк выязджае ў Нямеччыну. Сваё прозвішча ён мяняе на Александровіч, з якім застанецца да канца жыцця.

Пасля вайны таемна пераехаў у Польшчу. Спыніўся ў горадзе Інаўроцлаў, на Куявах. Пайшоў працаваць наборшчыкам у друкарню Торуньскага паліграфічнага выдавецтва. Потым 7 гадоў быў карэктарам і тэхнічным рэферэнтам. З ліпеня 1953 г. выконваў абавязкі дырэктара, а з траўня 1956 года стаў дырэктарам гэтага прадпрыемства. На гэтай пасадзе дамогся пабудовы самай сучаснай друкарні ў Польшчы. У год выдавалася звыш 300 назваў кніг і 25 назваў часопісаў. Аднак пасля абвінавачванняў у беларускім нацыяналізме і антысаветызме ён у 1971 годзе "дабравольна" адракаецца ад пасады. Да 1978 г. працаваў дыспазітарам.

Увесь час акрамя асноўнай працы Язэп Найдзюк піша на самыя розныя тэмы. Каля 160 публікацый прысвечаны друкарскай справе, куявіне (гісторыі Інаўроцлава), беларусістыцы, рэцэнзіі на кнігі і інш.

Займаўся мясцовым краязнаўствам. Пакінуў дзённік і рукапіс “Paznavajma historyju biełaruskaha narodu” па гісторыі Беларусі, напісаную ў 1960-х і выдадзеную ў 2010 у Беластоку. Сувязь з беларускім рухам падтрымліваў праз свайго брата Чэслава Найдзюка, які жыў у ЗША. Вёў ліставанне з Л. Геніюш, Ю. Туронкам, Казімірам Грынкевічам і інш. Хто ён на самой справе - польская служба бяспекі выявіла толькі ў 1963 годзе, але на той час ужо не чапала.

Памёр Язэп Найдзюк 13 лютага 1984 года ў Інаўроцлаве.

На 20-я ўгодкі (14 лютага 2004) смерці грамадскасць Інаўроцлава ўшанавала яго памяць адкрыццём памятнай шыльды на друкарні, імшой у касцёле св. Юзафа, навукова-папулярнай сесіяй (“'Józef Aleksandrowicz – Jazep Najdziuk (1909-1984). Osoba i dzieło'”) і выставай, прысвечанай Язэпу Найдзюку (Юзафу Александровічу).

У 2006 годзе на доме, дзе жыў Найдзюк, была таксама ўсталяваная памятная шыльда.

*Анатоль Астапенка*



## АНТОНІЙ НЕМАНЦЭВІЧ

Антон Неманцэвіч – адзін з духоўных лідараў беларускага хрысціянскага руху XX стагоддзя, доктар тэалогіі і права, экзарх грэка-каталіцкай царквы, які выйшаў з беларускага гуртка ў Пецярбургскай духоўнай акадэміі – гнязда БХД.

Нарадзіўся Антоній Неманцэвіч 8 лютага 1893 года ў Пецярбургу, куды ягоная сям'я прыехала з вёскі Парчэўцы каля Саколкі на Падляшшы. Скончыў каталіцкую гімназію пры парафіі святой Кацярыны, у 1915 годзе быў высвечаны на святара і па сканчэнні семінарыі паступіў у Пецярбургскую духоўную акадэмію. Там Антон Неманцэвіч далучыўся да знакамітага беларускага гуртка, дзе вялі рэй будучыя лідары БХД – Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Фабіян Абрантовіч, Люцыян Хвецька ды іншыя.

На адным з паседжанняў гуртка Антоній Неманцэвіч прачытаў даклад пра Берасцейскую царкоўную вунію. Адгэтуль ідэя вуніі, яднанне ўсіх хрысціянаў, стане сэнсам ягонага паклікання. Дэвіз гуртка "З Богам – для народу!" Неманцэвіч ператварыў у прынцып уласнага жыцця.

Менавіта цвёрдасць перакананняў неаднакроць прыводзіла Неманцэвіча ў чэкісцкія засценкі Петраграда (у 1919, 1921, 1923 гг). Толькі абмен палітвязнямі з Польшчай у 1925 годзе дазволіў святару дачакацца высылкі. Дабрадзей БХД, біскуп Эдвард Роп накіраваў Антонія Неманцэвіча на вучобу ў Рым, у папскі Усходні інстытут. Пасля заканчэння вучобы ў 1928-29 гадах Неманцэвіч выкладаў у Люблінскім каталіцкім універсітэце.

У 1929 годзе айцец Антоній Неманцэвіч пераязджае ў Альбярцін пад Слонімам і паступае ў навіцыят езуітаў усходняга абраду. Тут жа пачынае штомесяц выдаваць часопіс "Да злучэння" для грэка-каталікоў Беларусі. У 1933 годзе робіцца настаяцелем прыходу ў Сынкавічах і арганізоўвае рэстаўрацыю знакамітай царквы.

Увосені 1939 года пасля аўдыенцыі ў мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага прызначаны экзархам Беларускай грэка-каталіцкай царквы. Увёў беларускую мову як афіцыйную ў царкоўным набажэнстве і справаводстве. Заснаваў Апостальства Малітвы за

Беларусь. 22 лістапада 1941 года Папа Пій XII пацвярджае ягоны статус, і Антоній Неманцэвіч спрабуе наладзіць працу грэка-каталіцкай царквы ва ўмовах нямецкай акупацыі. Але ў выніку даносу айца Антонія 4 ліпеня 1942 года арыштоўвае СД.

6 студзеня 1943 года ён памірае ў турме Менску ад сардэчнай недастатковасці.

Пахаваны айцец Антоній Неманцэвіч на былых нямецкіх могілках у менскім скверы на вуліцы Карла Лібкнехта, прычым адпяваў яго праваслаўны святар. Капсула з зямлёю з могілак захаваная ў 2009 годзе ў двары менскага грэка-каталіцкага Цэнтра святога Язэпа па вуліцы Арджанікідзэ, 6.

*Павел Севярынец*



# ЯНКА ПАЗЬНЯК

Янка Пазьняк – адзін з лідараў Беларускай Хрысціянскай Дэмакра-тыі, рэдактар “Крыніцы”, старшыня Прэзідыюму Беларускага Народнага Аб’яднання – і дзед лідара беларускага нацыянальнага руху Зянона Пазьняка.

Нарадзіўся Ян Пазьняк 19 лютага 1887 года там жа, дзе праз 57 гадоў з’явіцца на свет і будучы кіраўнік легендарнага Беларускага Народнага Фронту – у мястэчку Суботнікі Івейскага раёна.

З сялянскай каталіцкай сям’і, Янка з ранніх гадоў цікавіўся музыкай ды словам. У 1909-12 гадах ён ужо быў актыўным удзельнікам беларускіх хрысціянска-асветніцкіх гурткоў.

У 1917-ым Янка Пазьняк стварае аматарскі беларускі тэатральны гурток, а ў 1917-19 гадах працуе настаўнікам у беларускай гімназіі ў Будславе. У 1918-20 гадах служыў арганістам у касцёле святога Яна ў Вільні.

“Ад 1919 ён працуе ў павеце Ашмянскім. Тут за беларускую працу польскія ўлады арыштавалі яго і пасадзілі ў вастрог, а звольніўшы, трымалі пад надзорам жандармэрыі 8 месяцаў. У 1920 г., калі ў край наш былі прыйшоўшы бальшавікі, на зьездзе сялянскім у Ашмяне Я. Пазьняк дамагаецца выхаду бальшавікоў, каб даць магчымасьць беларусам узяць свой лёс у свае ўласныя рукі.” – піша “Крыніца”.

Затым, з 1925-га Ян Пазьняк працуе ў Міцкунскай гміне пад Вільняй, складае па-беларуску брашуру “Пра гмінны самаўрад” і атрымлівае званне ганаровага грамадзяніна гміны.

Сябрам Беларускай Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці Ян Пазьняк стаў ад самага моманту яе заснавання ў траўні 1917 года. Начытаны, прынцыповы, упарты, у віры рэвалюцыяў, войнаў і акупацыяў ён стаў адным з галоўных рухавікоў хрысціянска-дэмакратычнага руху у краіне. У 1920-х актыўна друкаваўся ў “Крыніцы” ды “Хрысціянскай думцы”.

На з’ездзе 1928 года Пазьняк быў абраны сакратаром ЦК БХД. З пачатку 1930-х узначаліў галоўны каардынацыйны цэнтар усяго беларускага руху – віленскі Беларускі Нацыянальны Камітэт. У 1936

годзе, з ператварэннем БХД у Беларускае Народнае Аб'яднанне, быў выбраны старшынём Прэзідыюму ЦК БНА.

Асобная старонка ў дзейнасці Яна Пазьняка – праца рэдактара спярша "Беларускай Крыніцы", а потым і "Хрысціянскай думкі", галоўных медыяў БХД. За адзін толькі 1936 год, напрыклад, польскія ўлады 11 разоў канфіскоўвалі нумары "Крыніцы". Супраць Пазьняка узбудзілі больш 30-ці судовых справаў, прысудзілі вялізныя штрафы, і ўрэшце некалькі месяцаў Ян Пазьняк быў вымушаны адседзець у астрозе.

Ян Пазьняк увесьчас выступаў у прэсе, абараняючы беларусаў. Арганізоўваў беларускія школы. Гуртаваў мастацкія калектывы ў заходнебеларускіх вёсках.

Увосені 1939 года, калі Саветы занялі Вільню, Яна Пазьняка НКВД арыштавала адным з першых. Паводле абрывістых звестак, лідара БНА вывезлі ў турму ў Старой Вілейцы пад Маладэчна, затым, імаверна, у Ігумен, затым у Менск, і расстралялі.

Месца пахавання Яна Пазьняка невядомае дагэтуль. Магчыма, гэта Курапаты – якія для ўсяго свету праз паўстагоддзя адкрыў ягоны ўнук Зянон Пазьняк.

*Павел Севярынец*



# МІХАІЛ ПЯТРОЎСКІ

Ксёндз Міхаіл Пятроўскі – адзін з першых кіраўнікоў мясцовых суполак БХДЗ, стваральнік структураў хрысціянскай дэмакратыі ў Шаркаўшчыне, на Ашмяншчыне і Вілейшчыне.

Будучы ксёндз нарадзіўся 3 кастрычніка 1889 года ў мястэчку Празарокі Дзісенскага павету ў сялянскай сям'і. Навучаўся на памочніка аптэкара, але ў 1905 годзе здаў уступныя іспыты ў Віленскую духоўную семінарыю. Паколькі вольных месцаў на курсе не было (паўнакроўнае пакаленне пакліканняў спарадзіла хвалю святароў-беларусаў), яго залічылі толькі на наступны год, у 1906-ым.

У 1912 годзе Міхаіл Пятроўскі быў высвечаны на ксяндза.

Як адзін з найбольш здольных вучняў, пасля заканчэння семінарыі ён паступіў у Пецярбург, у мітрапалітальную Духоўную акадэмію – і тут апынуўся ў асяроддзі свядомых ксяндзоў-беларусаў. Міхась Пятроўскі быў частым госцем і на кватэры Браніслава Эпімах-Шыпілы, і ў хаце "матора" БХДЗ, Фабіяна Абрантовіча, кшталтаваў веру і веды разам з Адамам Лісоўскім, Адамам Станкевічам, Вінцэнтам Гадлеўскім, Андрэем Цікотам і іншымі лідарамі беларускага хрысціянскага руху.

У 1917-ым менавіта ксёндз Міхал Пятроўскі узначаліў хадэцкую працу на Дзісеншчыне і Браслаўшчыне. Як сведчыць Адам Станкевіч, Пятроўскі апекаваўся суполкамі БХДЗ ня толькі ў Шаркаўшчыне, дзе быў пробашчам, але і ў Барадзенічах, і ў Дзісне, і ў Друі, і ў Іказні.

З 1919 года Міхась Пятроўскі быў пераведзены ў Баруны на Ашмяншчыне – і разгарнуў хадэцкую працу там. Таксама ў Барунах Міхаіл Пятроўскі на свой кошт ды ахвяраванні парафіянаў некалькі гадоў утрымліваў дзіцячы прытулак для сіротаў ды дзяцей бедных бацькоў.

Урэшце, няўрымслівы ксёндз так раздражніў сваёй беларускай працай польскія шавіністычныя колы, што перад выбарамі ў Польскі сейм быў арыштаваны – 28 чэрвеня 1921 года яго абвінавацілі ў "імкненні да палітычнага перавароту" і некалькі месяцаў пратрымалі ў турме на Лукішках.

Адзін з удзельнікаў Беларускага з'езду Віленшчыны і Гарадзеншчыны 9-10 чэрвеня 1919, ксёндз Міхал як адзін з найбольш аўтарытэтных дзеячаў нацыянальнага руху быў выбраны ў ягоную Цэнтральную Раду.

У 1925 годзе ксёндз Пятроўскі быў зноў абвінавачаны ў "беларускай агітацыі" сярод жыхароў парафіі Даўгінава.

Напрыканцы жыцця Міхаіл Пятроўскі быў пробашчам парафіі Вінная на поўдні Пінскай дыяцэзіі. Памёр 26 ліпеня 1931 года і быў пахаваны на тамтэйшых могілках.

*Павел Севярынец*

# ФРАНЦІШАК РАМЭЙКА



Францішак Рамэйка – каталіцкі святар, удзельнік беларускага нацыянальнага руху, прыхільнік Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Нарадзіўся 11 ліпеня 1885 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Нецькі Свірскай воласці Свянцянскага павета Віленскай губерні (цяпер – Мядзельскі раён Мінскай вобласці). У 1905-1909 гадах вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі. Усвядоміў сябе беларусам дзякуючы знаёмству з Францішкам Будзькам, адным з першых ксяндзоў-адраджэнцаў. У 1909 годзе Францішак Рамэйка быў пасвечаны на святара. Пачынаў святарскае служэнне вікарыем у пабернардынскім касцёле ў Вільні, пазней у Іўі.

У 1912 годзе кс. Францішак Рамэйка служыў пробашчам у мястэчку Сялец Пружанскага павета (цяпер Бярозаўскі раён Брэсцкай вобласці), дзе заканчваў будаўніцтва касцёла, пачатае яго папярэднікамі. Там ён хутка здабывае прыхільнасць простых людзей, у размовах з якімі карыстаецца беларускай мовай. Газета "Наша Ніва" характарызуе яго як "шчырага беларуса".

Напярэдадні і ў перыяд I сусветнай вайны, служачы пробашчам у мястэчку Шарашова Пружанскага павета, адным з першых пачынае ўжываць беларускую мову ў рэлігійным жыцці: у катэхізацыі дзяцей, казаннях і спевах. У неафіцыйных размовах заклікае моладзь трымацца беларускай мовы і нацыянальнай традыцыі, пашырае сярод моладзі беларускую літаратуру. Падчас нямецкай акупацыі арганізоўвае ў Шарашове школу і дзіцячы прытулак.

Пасля пераходу ўлады ў рукі польскай адміністрацыі ў красавіку 1919 года кс. Францішак Рамэйка сутыкаецца з варожым стаўленнем з боку польскіх актывістаў, паліцыі і мясцовай улады. Не зважаючы на ціск, працягвае сваю дзейнасць у ранейшым рэчышчы. Падчас працы ў Шарашове ён выяўляе каля 150 рукапісных дакументаў XVI - XVII стагоддзя, напісаных старабеларускай мовай. Перыядычна дасылае грашовыя ахвяраванні на выданне газеты "Krynica" і дзейнасць беларускага дзіцячага прытулку ў Вільні.

У 1921 годзе кс. Францішак Рамэйка пераводзіцца на пасаду пробашча ў Задарожжа Дзісненскага павета. Прамаўляе казанні на беларускай мове ў сваім касцёле на вялікія святы, а таксама падчас фэстаў у суседніх парафіях. Уводзіць у набажэнства спевы на беларускай мове, карыстаецца роднай мовай у катэхізацыі дзяцей, ахвотна гутарыць з людзьмі на гаспадарчыя і грамадскія тэмы, па-за касцёлам вучыць дзяцей і моладзь спяваць па-беларуску, сам граючы на гітары. Падчас падрыхтоўкі выбараў у Сейм у лістападзе 1922 года ўваходзіць у склад Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта. Падтрымлівае сяброўскія адносіны з кс. Язэпам Германовічам і мастаком Язэпам Драздовічам. Дасылае прывітанне на з'езд Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, які адбыўся ў Вільні 30 лістапада 1928 года. У Задарожжы кс. Францішак Рамэйка падвяргаецца ціску з боку мясцовай польскай адміністрацыі, паліцыі, абшарнікаў, шляхты. Востра крытыкавала яго польская эндэцкая газета "Dzieńnik Wileński", якая назвала кс. Рамэйку "вядомым ворагам польскасці".

У 1929 годзе кс. Францішак Рамэйка пераведзены на пасаду пробашча ў парафію Кемялішкі Свянцянскага павета. Моцна перажывае з прычыны рэпрэсіяў польскага духавенства ў дачыненні да беларускага руху і ксяндзоў-беларусаў, адыходзіць ад актыўнай беларускай дзейнасці. Зімой 1930-31 года захворвае на грып, які пакідае ўскладненні ў выглядзе запалення суставаў і запалення абалонкі мозгу. Пад уплывам хваробы рэзка пагаршаецца яго псіхічны стан. Ён адчувае манію пераследу, навакольныя адзначаюць яго дзіўныя паводзіны. Да апошніх дзён працягвае святарскае служэнне. 16 чэрвеня 1931 года прыбывае ў Вільню дзеля лячэння. Там, на кватэры кс. Адама Станкевіча пры касцёле святога Мікалая, сканчвае жыццё самагубствам, застрэліўшыся з рэвальвера. Прыняўшы пад увагу здзяйсненне самагубства пад уплывам псіхічнай хваробы, духоўная ўлада дазваляе пахаваць яго на Бернардынскіх могілках у Вільні. У 1930-я гады беларуская грамадскасць адведвала яго магілу ў дні памінання памерлых; пасля II сусветнай вайны яго магіла была страчана.

*Кастусь Шыталь*



## ЯЗЭП РЭШАЦЬ

У кожнага беларускага святара – дзеяча БХД – была пэўная асаблівасць, або накірунак дзейнасці, у якім найбольш праяўлялася ягоная ахвяра для Беларусі. Унікальнасць Язэпа Рэшаця заключалася ў яго навуковасці, тэалагіч-ным кшталце і надзвычай добрай адукацыі.

Нарадзіўся Язэп у мястэчку Рушчаны у Віленскай губерні 28 жніўня 1890 года. У 1910 годзе ён скончыў Беластоцкую гімназію. Да беларускасці малады семінарыст прыйшоў у Вільні. Там жа у 1913 годзе ён пачаў супрацоўнічаць з каталіцкім тыднёвікам "Беларус". Навучаўся ў Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме (1913-1919), які скончыў са ступенню доктара філасофіі і тэалогіі. Пасля ён навучаўся ў папскім Усходнім інстытуце (1919-1921) і ў Collegium Germanicum. У Рыме 2 снежня 1917 года Язэп Рэшаць быў рукапакладзены ў святары.

У 1921 годзе Рэшаць вярнуўся на Бацькаўшчыну. Напачатку працаваў вікарыем у Гародні. Прафесар філасофіі і апалагетыкі Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі, ён выкладаў ва ўніверсітэце імя Стэфана Баторыя, Віленскай беларускай гімназіі.

Рэшаць рэгулярна супрацоўнічаў з выданнямі БХД. Ён выдаў некалькі тэалагічных працаў у 1928-1929 гадах. У 1927 пад крыптаграмай І.Р. выдаў "Асновы хрысціянскай веры для беларускага народу", якія былі надрукаваныя кірыліцай. А пад сваім прозвішчам і на лацінцы ён надрукаваў "Кароткі катэхізіс для беларусаў-каталікоў". Кніга была выдадзена за кошт арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага.

У складзе беларускай дэлегацыі Язэп Рэшаць удзельнічаў у працы 5-га уніяцкага кангрэса ў Велеградзе (Чэхаславаччына; 20-24 ліпеня 1927). Прымаў удзел і ў распрацоўцы статуту Лігі абароны правоў беларусаў-каталікоў. Паводле ўспамінаў айца Пятра Татарыновіча, святар Язэп Рэшаць быў адным з найбольш адданых прыхільнікаў апостальства ў родным духу і мове. Калі некаторыя ксяндзы спрабавалі сябе ў якасці паэтаў, то Язэп Рэшаць зарэкамендаваў сябе як драматург. Свае п'есы ён выдаваў пад псеўданімам Язэп Рушчанец. Верагодна, што такі псеўданім ён сабе абраў хутчэй за ўсё праз назву

яго роднага мястэчка – Рушчаны. Да нас дайшлі яго п’есы пад назвамі “Першыя ластаўкі”, “Зорка-ідэя”.

У 1938 годзе Язэп Рэшаць эміграваў у ЗША, да ксяндза Яна Тарасевіча ў Ляйль (Ліс-Іліонойс), што каля Чыкага. Там уступіў у ордэн св. Бенедыкта ў абацтве св. Пракопа. Пасля году навіцыяту атрымаў манаскае імя Апанас.

Памёр Язэп Рэшаць 15 лютага 1958 года.

Язэп Рэшаць – выбітны беларускі навуковец і тэолаг у гісторыі хрысціянскага руху XX стагоддзя. Акрамя вышэй названых твораў, працаў і п’есаў Язэп Рэшаць выдаў такія кнігі як “З Хрысьціянскай Аполёгэтыкі”, “Сьвятыя”, “Кароткі Катэхізм для Беларусаў-Каталікоў” (яго можна знайсці на “Беларускай палічцы”) і іншыя. Напрыканцы 1941 году ў Менску без дазволу нямецкай цэнзуры ксёндз Станіслаў Глякоўскі перавыдаў беларускі катэхізіс Язэпа Рэшаця.

Сястра Язэпа Рэшаця – Марыя, стала жонкай вядомага беларускага грамадска-культурніцкага дзеяча Браніслава Туронка, і матуляй Юрыя Туронка – вядомага беларускага гісторыка.

*Вікторыя Чаплева*



## ЯНКА СЕМАШКЕВІЧ

Янка Семашкевіч, ён жа Янка Быліна – ксёндз, адзін з заснавальні-каў БХДЗ, пісьменнік і публіцыст.

Уваходзіў у кола ксяндзоў-беларусаў, якія засноўвалі Беларускую Хрысціянскую Дэмакратычную Злучнасць, уводзіў беларускую мову ў казанях.

Нарадзіўся Ян Семашкевіч у вёсцы Лакцяны Свянцянскага павету (цяпер Астравецкі раён Гарадзеншчыны) у сялянскай каталіцкай сям'і 30 кастрычніка 1883 года.

У 1907 годзе скончыў Віленскую духоўную семінарыю, дзе пазнаёміўся з будучымі заснавальнікамі БХДЗ Уладзіславам Талочкам і Францішкам Грынкевічам. У тым жа годзе быў высвечаны на святара. Служыў у касцёлах на Віленшчыне, Ашмяншчыне, Беласточчыне.

З 1910 года – адміністратар у парафіі Дварэц (мястэчка ў лясах паміж Наваградкам і Слонімам). З 1925 года – пробашч у Лаварышках. З 1933 года служыў на Беласточчыне – у Янаве-Падляскім (1933-1937), Ялоўцы (1937-1939), Міхалове (1939-1946), Бомблі (1946-1956).

Быў адным з арганізатараў Беларускай канферэнцыі 1917-18гг у Вільні.

Аўтар некалькіх кнігаў вершаў, п'есаў і прыпавесцяў. Адна з іх, "На покуці" (1934) была сканфіскаваная польскімі ўладамі.

У верасні 1939 года арыштоўваўся НКВД.

Памёр Янка Быліна у 1956 годзе, пахаваны каля касцёла ў Бомблі на Беласточчыне.

*Павел Севярынец*



# АДАМ СТАНКЕВІЧ

Адам Станкевіч – святар, лідар беларускага руху 1920-30-ых гадоў, пісьменнік і рэдактар, навуковец і ідэолаг, кіраўнік Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў эпоху яе росквіту.

Нарадзіўся будучы правадыр хадэцыі 6 студзеня 1892 года ў сялянскай сям'і ў вёсцы Арляняты, што на тагачаснай Ашмяншчыне (сёння – Смаргонскі раён Гара-дзеншчыны), у сям'і беларускіх сялянаў-каталікоў. Адсюль жа, з Арлянятаў, паходзяць знакаміты філолаг, перакладчык Бібліі на беларускую мову Янка Станкевіч і літаратуразнаўца, першы кіраўнік Антыбальшавіцкага блоку народаў Станіслаў Станкевіч.

Дзякуючы здольнасцям Адама і ягонай цікавасці да навукі, бацькі падтрымлівалі навучанне сына спярша ў царкоўна-прыходскай школе ў Барунах, потым у Гальшанскай народнай школе, а далей у гарадской вучэльні ў Ашмянах.

У 1910-ым Адам паступіў у Віленскую духоўную семінарыю, якую скончыў на выдатна ў 1914-ым і быў высвечаны на ксяндза. Першая ягоная імша (прыміцыя) адбылася ў старажытным Крэве ў 1915-ым.

Паступаючы ў 1916-ым Пецярбургскую духоўную акадэмію як адзін з лепшых віленскіх студэнтаў, Адам ужо меў выразную беларускую свядомасць – і гэта адразу дала магчымасць яму стаць адным з завадатараў святарскай супольнасці, з якой узнікла БХД.

Акадэмію Адам Станкевіч скончыў са ступенню кандыдата кананічнага права – і рыхтаваў магістэрскую дысертацыю "Вучэнне св. Тамаша Аквінскага пра сям'ю ў параўнанні з сучаснай тэорыяй вольнага саюзу".

Па вяртанні Станкевіч адразу акунуўся ў вір працы на Радзіме, дзе толькі адгрымела вайна. Ужо ў 1918-ым ён выступае перад сялянамі Дзісеншчыны па-беларуску – і слухаць яго збіраюцца натоўпы.

У 1919-ым ксяндза Адама Станкевіча прызначаюць у Вільню, і з гэтага часу ён становіцца на чале Беларускай Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці, а пазней – і ўсяго беларускага руху. Ксёндз Адам узяў на сябе рэдагаванне "Крыніцы" і вёў рэй на першых сустрэчах хадэкаў. У 1924-ым узначаліў Таварыства

Беларускай Школы, а ў 1926-ым – Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

У лістападзе 1922 года Адам Станкевіч пераважнай большасцю беларускіх галасоў быў абраны паслом у Сейм – першы пасляваенны парламент Другой Рэчы Паспалітай – ад Дзісны, Свянцянаў, Браслава і Паставаў. У якасці пасла да 1926 года ксёндз Адам заняў пасаду намесніка кіраўніка беларускай фракцыі і шматкроць выступаў у абарону правоў беларусаў з трыбуны Сейма. Ладзіў шматлюдныя мітынгі на сваёй акрузе і за яе межамі – у Гародні, Нясвіжы, Даўгінаве, Жодзішках - і здабыў усеагульную павагу народа, беларускага грамадства ды нават ворагаў.

Ксёндз Адам напоўніцу вызнаў ціск дзяржавы і касцёльнай улады дзеля сваёй цвёрдай беларускай пазіцыі: яго арыштоўвалі, канфіскоўвалі наклады “Крыніцы”, супраць яго пачыналі крымінальныя справы; урэшце ў 1929 годзе віленскі арцыбіскуп Рамуальд Яблжыкоўскі забараніў ксяндзу удзел у БХД, і Станкевічу давялося весці сваю працу непублічна. У 1938 годзе ксяндза Адама увогуле саслалі на 5 гадоў у Слонім – і толькі з пачаткам вайны ён здолеў вярнуцца ў Вільню.

Пра глыбокую хрысціянскую веру Адама Станкевіча сведчыць адзін малавядомы факт. У 1941-ым, калі немцы захапілі Літву, ксёндз Адам хаваў пры касцёле шасцёх савецкіх грамадзянаў, у тым ліку бальшавіцкага камісара – усім ім пагражаў расстрэл. Праз восем гадоў камуністы арыштуюць Адама Станкевіча і закатуюць яго ў ГУЛАГу.

У 1944-ым годзе, заняўшы Вільню, саветы выклікаюць ксяндза, які ўсю вайну служыў у касцёле і займаўся беларускай школай – і спрабуюць схіліць яго да супрацы: узначаліць асобны ад Ватыкана каталіцкі рух. Станкевіч адмовіўся. Тады, у 1949-ым яго арыштоўваюць – і з прысудам 25 гадоў выпраўляюць у Сібір.

Дарогаю ксёндз Адам моцна захварэў – і памёр па прыбыцці ў лагер.

Далей піша Віктар Сікора, якому давялося хаваць ксяндза Станкевіча:

“У Тайшэце было так устаноўлена, што калі каго хавалі, абавязкова нябожчыка спачатку прывозілі ў морг, каб зрабіць ускрыццё. Баяліся, каб хтосьці жывы ня ўцёк пад выглядам мёртвага. “Працаваў” там адмысловы “мяснік”, які ўпрост ірваў труп на

кавалкі… Вырашыў я, што пахаваю ксяндза Адама, правяду яго ў апошнюю дарогу. Узяў сані, палазы якіх былі з дрэва зробленыя. Вёз іх на сабе, бо коней не было. Дагэтуль я не магу быць на пахаваннях, бо не магу забыць таго, што адбылося ў Тайшэце… Падвозім сані да варотаў. Яны адчыняюцца. Зь дзяжуркі выходзіць “мяснік” з “кішнёй”, што рыбакі зімой лёд прабіваюць. І ёй ксяндзу ўдарыў у грудзі… А пасля другі выходзіць з куваддай і б'е яго па галаве. Праламіў яе, паляцелі мазгі… Я ледзь не самлеў. Ляжыць ксёндз Адам Станкевіч у труне (хоць гэта толькі названне, а не труна), увесь заліты крывёю…”.

Гісторыя страшная: быццам не адно бальшавікі, а сам д’ябал шалеў у ярасці над целам непахіснага ксяндза.

Як святар, Адам Станкевіч заўжды заставаўся добрым пастырам – і вёў, ахоўваў, абараняў, ратаваў сваю парафію і свой народ. Ягоныя глыбокія казані складаюць цэлую кнігу беларускага хрысціянства. Ягонае даследванне “Родная мова ў святынях” дагэтуль – фундаментальная праца для навукоўцаў і святароў. Маючы безліч грамадскіх, палітычных, дабрачынных, уласна бытавых клопатаў у часы рэвалюцыяў, войнаў, акупацыяў Адам Станкевіч ніколі не пакідаў галоўнага – свайго пакліканьня як настаўніка душаў.

Як літаратар, ксёндз Адам пакінуў па сабе вялікую спадчыну кнігаў, прысвечаных сарцавінным асобам беларускага руху – Скарыну, Вітаўту, Каліноўскаму, Эпімах-Шыпілу, і галоўным тэмам - мове, гісторыі, хрысціянству.

Як падлічыў Уладзімір Конан, Адам Станкевіч – аўтар дзевятнаццаці кніг і брашур, каля 1000 артыкулаў, нататкаў, шматлікіх рэдакцыйных матэрыялаў у штотыднёвіку “Крыніца”, часопісе “Хрысціянская думка” і іншых выданнях. Сярод іх – “Родная мова ў сьвятынях” (1929), “Да гісторыі беларускага палітычнага вызвалення” (1939), “Беларускі хрысьціянскі рух” (1939), “Хрысьціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы” (1940), брашуры “Доктар Францішак Скарына першы друкар беларускі: 1525-1925” (1925), “Вітаўт Вялікі і беларусы” (1930), “Беларуская мова ў школах Беларусі XVI і XVII стст.” (1928), “Францішак Багушэвіч. Яго жыцьцё і творчасьць” (1930), “Прафесар Браніслаў Эпімах-Шыпіла: З яго жыцьця і працы” (1934), “Магнушэўскі. Паўлюк Багрым. Баброўскі” (1937), “Казімер Сваяк. Нарысы аб яго

ідэялёгіі" (1931), "З жыцьця і дзейнасьці Казімера Сваяка" (1936), "Міхал Забэйда-Суміцкі і беларуская народная песьня" (1938), "На сьвята маткі" (1940).

Як дабрачынца, ксёндз Адам Станкевіч заўсёды знаходзіў час рупіцца пра патрэбы тых, хто ў няшчасці. Адзін з кіраўнікоў Камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны у Петраградзе, ён апекаваўся беларусамі, скалечанымі на фронце, ды тымі, хто страціў блізкіх, дом, гаспадарку. У Вільні ён апекаваўся прытулкамі. Праз Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры дапамагаў шырэйшаму сялянству, рабочым і беларускай інтэлігенцыі.

Як палітык, абаронца свайго народа, Адам Станкевіч стаіць упоравень з постацямі беларускай гісторыі першай велічыні – Ефрасінняй Полацкай, князем Альгердам, Мікалаем Радзівілам Чорным, Канстанцінам Астрожскім, Кастусём Каліноўскім, Зянонам Пазьняком. І на шматтысячных мітынгах на сваёй улюбёнай Віленшчыне, і паслом у Сейме, і на перамовах у Беларускім Нацыянальным Камітэце, і на допытах у НКВД гэта быў цвёрды, упэўнены, адказны лідар, што не здраджваў ані сваёй веры, ані сваім людзям.

Нарэшце, вобраз Адама Станкевіча – пуцяводная бэтлеемская зорка для кожнага беларускага хрысціянскага дэмакрата. У асобе ксяндза Адама мы можам знайсці ўсе тыя рысы, якіх нам не стае ў цяперашняй палітыцы: веру ў Бога, маральнасць, яснасць, адказнасць, спагада да кожнага чалавека.

*Павел Севярынец*



## АЛЬБІН СТЭПОВІЧ

Стэповіч Альбін (1894-1934) – беларускі грамадска-палітычны дзеяч (родны брат кс. Канстанціна Стэповіча, альбо Казіміра Сваяка), сябра ЦК БХД, кіраваў віленскай суполкай партыі, рэдагаваў “Крыніцу”. У 1928-1930 гадах пасол польскага сейму, сябра Беларускага пасольскага клубу. Аўтар некалькіх беларускіх песень, музыка.

Альбін Стэповіч нарадзіўся 18 сакавіка 1894 г. у вёсцы Барані. Пасля заканчэння пачатковай школы паступіў у Віленскую музычную школу. Адным з яго настаўнікаў быў Людамір Рагоўскі, вядомы тым, што афармляў музычныя спектаклі трупы Ігната Буйніцкага і кіраваў хорам Беларускага музычна-драматычнага гуртка, які існаваў у Вільні ў 1910-1916 гадах.

Скончыўшы музычную школу, напярэдадні Першай сусветнай вайны А. Стэповіч паступае ў Казанскі ўніверсітэт на юрыдычны факультэт. У 1921 годзе вяртаецца ў Вільню, дзе да 1924 года вучыцца ў Віленскім універсітэце. Але з-за матэрыяльных цяжкасцяў спыняе вучобу і ўладкоўваецца настаўнікам музыкі і спеваў.

Падчас вучобы ва ўніверсітэце належаў да Беларускага студэнцкага саюзу, друкаваўся ў часопісах, якія выдаваліся Саюзам.

У 1926 годзе ў Вільні быў створаны Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. Першым старшынём быў прызначаны Альбін Стэповіч. У гэты час ён арганізаваў беларускі хор колькасцю 30 чалавек, чытаў лекцыі па беларускай культуры - як правіла, на грамадскіх пачатках. Менавіта тады нарадзілася ягоная песня “Дзе чутны гукі нашай мовы”.

Разам са сваім братам Канстанцінам (Канстанты) Стэповічам, вядомым беларускім паэтам Казімірам Сваяком Альбін Стэповіч далучыўся да БХД. Адзін з супрацоўнікаў газеты “Беларуская крыніца”, Альбін пасля 1926 года разам з Паўлам Карузам фактычна ёй і кіраваў.

У кастрычніку 1926 года Альбін Стэповіч быў абраны сябрам ЦК БХД, у лістападзе 1927 года – сакратаром ЦК партыі.

У часе выбарчай кампаніі ў польскі сейм у 1928 г. разам з Паўлам Карузам будзе вылучаны кандыдатам па Свянцянскай акрузе ад блоку нацыянальных меншасцяў. Абодва патрапяць у сейм. Актыўна абараняў правы беларусаў у польскім парламенце і змагаўся за беларускую школу.

Памёр ў 1934 годзе ад сардэчнага прыступу. Пахаваны на могілках Росы ў Вільні.

*Алесь Адамковіч*



## КАНСТАНЦІН СТЭПОВІЧ (КАЗІМІР СВАЯК)

Канстанцін (Кастанты) Стэповіч – адна з самых светлых постацяў беларускага хрысціянска-дэмакратычнага руху. Смяротна хворы ксёндз, які згас маладым, але так шмат паспеў для Беларусі і веры, пранізлівы паэт, ахвярны грамадскі дзеяч – Казімір Сваяк стаіць тут поплеч з Максімам Багдановічам.

Нарадзіўся Канстанцін 12 лютага 1890 года ў вёсцы Барані тагачаснага Свянцянскага павета (зараз Астравецкі раён Гарадзеншчыны) у шматдзетнай сялянскай сям'і. Брат Канстанціна Альбін Стэповіч у далейшым стаў адным з кіраўнікоў БХД.

Канстанцін, які скончыў пачатковую і павятовую Свянцянскую школы, ужо падлеткам захапіўся беларускім рухам. У 1906-1907 гадах ён у Вільні, чытае "Нашу Ніву" і выношвае планы стаць святаром, каб адрадзіць Беларусь.

У 1908 Канстанцін паступае ў Пецярбургскую духоўную семінарыю, дзе трапляе ў асяродак ксяндзоў-беларусаў: знаёміцца з Адамам Станкевічам, Фабіянам Абрантовічам, Вінцэнтам Гадлеўскім, Язэпам Германовічам.

У 1912-ым выяўляецца, што ў Канстанціна сухоты. Тады гэта азначала працяглае лячэнне без гарантыяў аздараўлення – і Стэповіч выпраўляецца на вядомы горны курорт Закапанэ ў Польшчы.

З 1913-га Канстанцін пачынае друкавацца ў газеце "Беларус", заснаванай святарамі-беларусамі.

З увагі на хваробу, на ксяндза Канстанціна Стэповіча высвячаюць толькі ў 25, увесну 1915-га. Спярша яго накіроўваюць вікарыем у Камаі, а затым – у Клюшчаны, паблізу ад Бараняў.

Менавіта тут ксёндз Канстанцін разгортвае шырокую беларускую і хрысціянскую дзейнасць. Ён арганізоўвае хор (прычым, маючы добра лірычны тэнар, спявае сам ды грае на скрыпцы), стварае нелегальны гурток "Хаўрус сваякоў" (мэта – самаадукацыя на аснове хрысціянскіх прынцыпаў), ставіць п'есы уласнага аўтарства – і арганізоўвае ў наваколлі сем (!) беларускіх школаў. Паколькі

настаўнікаў для такіх школаў ніхто яшчэ не навучаў – Кастусь зладзіў такія падрыхтоўчыя курсы сам.

Напрыканцы 1916-га за беларускую дзейнасць касцёльныя ўлады пераводзяць маладога дзейснага святара на Беласточчыну. Стэповіч адразу бярэцца за беларускую справу там - і дастае чарговую забарону ад мясцовага пробашча. Няўдачы падрываюць ягонае здароўе – і ён зноў мусіць ехаць на лячэнне ў Закапанэ. Але й там не можа проста адпачываць ды аднаўляцца – робіцца капэланам тутэйшага кліматычнага шпіталя, дзе мае багата клопатаў.

У ліпені 1919-га, па дарозе дахаты, ксёндз Стэповіч завітвае да Язэпа Германовіча ў Лапеніцу Ваўкавыскага павета – і пасля казаняў па-беларуску ў касцёле атрымоўвае пратэст мясцовых польскіх ксяндзоў.

У 1919-20-ым, падчас польска-савецкай вайны Канстанцін пад псеўданімам Казімір Сваяк плённа піша для “Крыніцы” – эсэ, абразкі і, канечне, вершы.

У 1920-ым ксёндз Стэповіч атрымлівае накіраванне ў Засвір, у напаўразбураны кармеліцкі касцёл, пасля паўстання 1863 перароблены ў праваслаўную царкву, але новымі польскімі ўладамі вернуты каталікам. Тут – зноў рэпрэсіі за беларускасць: у плябаніі праводзяць ператрус, каб знайсці беларускую літаратуру. Але сябры падтрымліваюць: у Засвір прыяжджаюць гасцяваць Язэп Драздовіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Адам Станкевіч.

У 1924 у Вільні выходзіць першы зборнік вершаў Казіміра Сваяка – “Мая Ліра”.

Паэзія Казіміра Сваяка напружаная, пакутлівая. Святар ведае, што ён павольна памірае, што ягоная краіна, разарваная суседзямі, прыгнечаная і прыніжаная; ён, быццам біблійны Іоў, адчайна крычыць да Бога і просіць справядлівасці.

У 1925-26 гадах, надламаны хваробай, Канстанцін дагарае ў Закапанэ. Піша брату ды ксяндзу Станкевічу, каб забралі яго на радзіму. Увесну 1926-га Адам Станкевіч перавозіць яго ў шпіталь у Вільні – і дзяжурыць ля ягонага ложка.

Адышоў да Госпада ксёндз Канстанцін Стэповіч, Казімір Сваяк, у травеньскі дзень 1926 года.

Казімір Сваяк прасіў пахаваць яго ў родных Клюшчанах, але віленская грамада вырашыла інакш. Пахавалі Канстанціна на

могілках Росы – ягоны помнік і сёння можна бачыць побач з надмагіллем літоўскага нацыянальнага героя мастака і кампазітара Мікалоюса Чурлёніса. На развітанне са сваім ксяндзом, да ўсталявання помніка, моладзь з ягонай парафіі ў Клюшчанах прайшла пешкі 85 кіламетраў.

У апошнія гады грамада Астравеччыны правяла вялікую працу дзеля ушанавання памяці свайго вялікага земляка. У камайскім касцёле зробленая мемарыяльная шыльда, у Клюшчанах усталяваны памятны камень і праходзяць памінальныя імшы, а ў Баранях створаны адмысловы музей і адбываюцца чытанні ў гонар Казіміра Сваяка.

*Павел Севярынец*

## БАРЫС СУРАВЫ



Барыс Суравы – беларускі дзеяч XX стагоддзя, кіраўнік Хрысціянскага Аб'яднання Беларускіх Работнікаў Велікабрытаніі, адзін з заснавальнікаў беларускіх хрысціянскіх прафсаюзаў.

Нарадзіўся Барыс Суравы 15 верасня 1907 года, паходзіў са Стаўпеччыны. Скончыў Віленскі ўніверсітэт. З восені 1939 года працаваў дырэктарам Дзярэчынскай школы ў Зельвенскім раёне, потым пераехаў у Слонім.

У восені 1941 году арганізаваў у Слоніме 4-класную беларускую прагімназію для амаль 100 вучняў. Быў яе дырэктарам, выкладаў гісторыю Беларусі. Пэўны час працаваў Слонімскім акруговым школьным інспектарам, "вельмі любіў сваю працу, сваіх вучняў, сваю гісторыю".

З траўня 1943 году актыўна заняўся арганізацыяй Саюзу беларускай моладзі ў Слонімскай акрузе. У чэрвені 1943 ён скончыў курс вышэйшых кіраўнікоў СБМ, а ў ліпені 1943 прызначаны кіраўніком Слонімскай акруговай арганізацыі СБМ. Супрацоўнічаў з часопісам для кіраўнікоў моладзі СБМ "Жыве Беларусь!". За сваю беларускую дзейнасць атрымліваў пагрозы з боку мясцовых палякаў. Працаваў у Беларускай народнай самапомачы, быў удзельнікам II Усебеларускага Кангрэсу 27 чэрвеня 1944 году.

У ліпені 1944 года выехаў у горад Бад-Заўльгаў у Нямеччыне. У 1947 годзе перабраўся ў Вялікабрытанію, жыў у Лондане. 1 верасня 1947 годзе стаў сябрам Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі (ЗБВБ), але за падтрымку апазіцыі быў пазбаўлены сяброўства. Быў актыўным аўтарам часопісу "Беларусы на чужыне" (пісаў пад псеўданімамі Старшы Праваднік, Ст. Праваднік ці Ст.П.).

15 сакавіка 1948 года ўвайшоў у Часовую ўправу Хрысціянскага аб'яднання беларускіх работнікаў Велікабрытаніі (ХАБР), якое арыентавалася на прыхільнікаў Беларускай цэнтральнай рады (БЦР) і напачатку канкуравала з ЗБВБ. Займаў пасаду віцэ-старшыні. Таксама уваходзіў у рэдакцыю часопіса ХАБР "Аб'еднанне".

26 снежня 1948 года на І З'ездзе ХАБР быў абраны старшынём Галоўнай управы арганізацыі, неаднаразова пераабіраўся. Агулам

быў старшынём у 1948-1950 і 1954-1966 гады. Галоўнымі задачамі ХАБР былі дапамога чальцам у сацыяльнай і прафесійнай адаптацыі, культурна-асветная праца сярод беларускіх эмігрантаў, павышэнне іх нацыянальнай свядомасці, захаванне «дэмакратычна хрысціянскіх прынцыпаў у беларускім грамадскім жыцці на чужыне». Арганізацыя мела акруговыя цэнтры ў Ланкашыры, Ёркшыры і Лондане, займалася стварэннем касы самапомачы, дабрачыннымі акцыямі на карысць дзяцей, падтрымкай скаўтынгу, арганізацыяй спартовых мерапрыемстваў, урачыстасцей і святкаванняў, арганізацыяй сумесна з ЗБВБ суботняй школы для беларускіх дзяцей, зборам архіву беларускай дыяспары. У 1960-я гады ў арганізацыі адбыўся раскол, і неўзабаве яна знікла.

У 1948-1953 гадах таксама быў кіраўніком Прадстаўніцтва БЦР у Вялікабрытаніі. У 1960-1980-я гады ўдзельнічаў у жыцці лонданскай праваслаўнай парафіі Святой Еўфрасінні Полацкай у складзе Канстанцінопальскага Патрыярхату.

Працаваў кухарам у польскім рэстаране ці меў свой уласны рэстаран. Пры канцы жыцця быў паралізаваны. Памёр у Лондане ў снежні 1998 года.

*Максім Гацак*



## УЛАДЗІСЛАЎ ТАЛОЧКА

Уладзіслаў Талочка (псеўданім Дрыгавіч) – беларускі рэлігійны і культурна-асветны дзеяч, рыма-каталіцкі святар, гісторык, літаратурны крытык, "міністр замежных справаў" БХД.

Нарадзіўся У. Талочка ў Горадні 6 (18) лютага 1887 у сям'і службоўца Гарадзенскай управы Аляксандра і Марыі.

У 1896-1904 навучаўся ў Гарадзенскай гімназіі. З кастрычніка 1906 году – у Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Пасвечаны ў святары ў 1909 годзе. У 1909-1914 вывучаў тэалогію і філасофію ў Каталіцкім універсітэце ў Інсбруку (Аўстрыя).

З 1914 году жыве ў Вільні, праводзіць святарскую дзейнасць у касцёле св. Стафана і ў былым бернардынскім касцёле. Адным з першых пачаў ужываць беларускую мову ў набажэнствах. Супрацоўнічаў з літоўскімі культурніцкімі і рэлігійнымі выданнямі (як, напрыклад, ковенская "Draugija" і сейненская "Vadovas"). Публікаваў матэрыялы гістарычнай тэматыкі ў віленскім каталіцкім часопісе "Dwutygodnik Diecezjalny". Падтрымліваў выданне першай беларускай каталіцкай газэты "Biełarus".

У 1915 годзе адзін з арганізатараў Віленскага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны і беларускага дзіцячага прытулку "Золак". У 1916-1918 Талочка працуе выкладчыкам рэлігіі ў першых беларускіх школах Вільні і на курсах для непісьменных і для рабочых.

У 1916-1918 шмат друкаваўся ў газеце "Homan".

З 1917 году – адзін з заснавальнікаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратычнай Злучнасці, узяў на сябе міжнародныя зносіны ды перапіску з Ватыканам. Рэгулярна выступаў у друкаваным органе БХД газеце "Krynica".

Удзельнік Беларускага з'езду Віленшчыны і Гарадзеншчыны, які адбыўся 25- 27 студзеня 1918. На з'ездзе Уладзіслаў Талочка выступіў з прамовай, дзе выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю.

"Дастойныя Панове! Няма ніякай споркі, што ад пачатку свету ў людзей заўсёды ў вялікай пашане былі: маці, вучыцель, апякун, гэта значыць людзі, каторыя спагадаюць малому і слабаму дзіцяці, паслабляюць яму вырасці, здабыць сабе навукі і стацца прадзівым

чалавекам і добрым сынам свайго народу. З другога боку ўсе ведаем, што можа няма вялікай крыўды, грэху, як забойства, душагубства, пакрыўджанне малых. З гэтых ужо некалькіх слоў ясна, дзе мой ідэал, як каталіцкага ксяндза, звязанга паходжаннем з беларускім народам. Вось мой ідэал – быць з гэтым народам. Для мяне гэта лагічны абавязак, а не якаясь рэч густу, сымпатыі. …. Тут маё месца, тут павінен сваю руку прылажыць я да работы…"

І гэтую пазіцыю, гатоўнасць ахвярна служыць беларускаму народу Талочка пранясе праз усё сваё жыццё.

Менавіта ксёндз Уладзіслаў Талочка уваходзіў у склад Літоўскай Тарыбы – першы ўрад Літоўскай рэспублікі – як прадстаўнік беларусаў.

На працягу 1918 – 1921 гг. Талочка займае актыўную пазіцыю грамадска-культурнага дзеяча ў розных афіцыйных структурах Ён быў адным з арганізатараў Камітэту дапамогі ахвярам вайны, сябра арганізацыйнага Камітэту Беларускай канферэнцыі ў Вільні, сябра Беларускай Вярхоўнай нацыянальнай Рады ў Вільні.

Супрацоўнічаў з нямецкім, італьянскім, літоўскім, украінскім, польскім друкам. За адстойванне ідэй экуменізму быў празваны "Усходнім агенцтвам". Адзін з вядучых аўтараў часопісу "Przegląd Wileński".

З 1920-х У. Талочка пераследаваўся польскімі свецкімі і духоўнымі ўладамі.

У. Талочка заўсёды быў прыкладам сумленнасці і заўжды абараняў праўду. Ягоны крытычны рацыяналізм і высокі інтэлект насцярожваў касцёльныя і свецкія ўлады. Высокую ацэнку ягонай дзейнасці даў беларускі каталіцкі святар Язэп Германовіч, які ў адным з сваіх лістоў назваў Адама Станкевіча і Уладзіслава Талочку "нашымі духоўнымі лідарамі".

15 снежня 1938 года Уладзіслаў Талочка загадам віленскага ваяводы як "недобранадзейная асоба" выселены з Вільні і высланы ў Беласток. Жыў у Беластоку.

У Вільню вярнуўся пасля пачатку Другой сусветнай вайны, дзе неўзабаве памёр. Дата ягонай смерці – 13 лістапада 1942.

Пахаваны на віленскіх могілках Росы.

*Анатоль Астапенка*



# ПЁТРА ТАТАРЫНОВІЧ

Пётра Татарыновіч (2 чэрвеня (15 чэрвеня) 1896, в. Гайнін, Слуцкі павет, Мінская губерня, цяпер Ляхавіцкі раён, Брэсцкая вобласць – 3 верасня 1978, Рым) – беларускі каталіцкі святар, культурны дзеяч, палітык, перакладчык і публіцыст. Прыхільнік беларусізацыі царкоў-нага жыцця. Сябра Цэнтральнага камітэту БХД.

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі ў Слуцку вучыўся ў каталіцкай семінарыі ў Петраградзе, скончыў Мінскую духоўную семінарыю, дзе далучыўся да беларускага нацыянальна-рэлігійнага руху. У 1921 г. рукапакладзены ў святары. Займаўся рэлігійнай дзейнасцю ў Пінску (1921-1922), Наваградку (1922-1924). У 1924-1926 з'яўляўся прэфектам пачатковых і сярэдняй школ у Баранавічах, арганізаваў там Саюз каталіцкай моладзі. За патрыятычнае выхаванне беларускай каталіцкай моладзі пераследаваўся польскімі ўладамі, быў пераведзены на Мазовію. Пасля вяртання служыў у Дамачаве Брэсцкага павета (1927-1932), дзе аднавіў касцёл.

У 1928 г. стаў сябрам Цэнтральнага камітэту Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

У 1936 годзе ў Мядзведзічах Ляхаўскага раёна пабудаваў Беларускі дом, які перадаў створанаму на ініцыятыву БХД Беларускаму інстытуту гаспадаркі і культуры.

У 1932-1939 спрыяў пашырэнню уніяцтва на Століншчыне (Гарадная, Альпень, Мерлінскія хутары). У час Другой сусветнай вайны супрацоўнічаў з Беларускім камітэтам у Варшаве. Там жа выкладаў рэлігію ў беларускай школе. З Варшавы пераехаў у Вільню, потым – у Мінск. У канцы вайны П. Татарыновіч апынуўся ў эміграцыі. У лютым 1945 пераехаў з Ратэнбурга (Германія) у Рым.

У 1945-1949 гадах вучыўся ў Папскім інстытуце ўсходніх навук. Абараніў доктарскую дысертацыю. Стаў заснавальнікам беларускага вяшчання ватыканскага радыё, і з 1949 да 1971 быў кіраўніком і асноўным аўтарам беларускіх перадач “Радыё Ватыкана”. Займаўся выдавецкай справай. З верасня 1950 да 1975 рэдагаваў і друкаваў у Рыме лацінкай беларускі рэлігійна-грамадскі часопіс “Źnič”. У 1961

г. Апостальскі Прастол надаў яму званне прэлата, а затым прызначыў членам Найвышэйшай рады для эміграцыі. На П. Татарыновіча была ўскладзена задача апекавацца над беларусамі-каталікамі ў эміграцыі.

З 1929 году супрацоўнічаў з Беларускім Каталіцкім Выдавецтвам. Пісаў для беларускіх рэлігійных выданняў "Krynica", "Chryścijanskaja Dumka". Друкаваўся на старонках беларускага уніяцкага часопіса "Да злучэння" (1932-1937). Аўтар перакладу і тлумачэнняў кнігі "Сьвятая Эвангелія, Апостальскія Дзеі" (Рым, 1954), "Лісты Святых Апосталаў"(1974).

Пераклаў на беларускую мову раман Сянкевіча "Quo vadis" (Рым, 1956).

*Аляксей Шэін*



## БРАНІСЛАЎ ТУРОНАК

Браніслаў Туронак (22 чэрвеня 1896, фальварак Пестуны, Дзісенскі павет – 19 верасня 1938, Дукшты, Польшча) – лекар, публіцыст, беларускі грамадскі дзеяч. Бацька гісторыка Юрыя Туронка.

Браніслаў Туронак нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Навучаўся ў народнай вучэльні ў Новым Пагосце. У 1912 паступіў у віленскую гімназію, дзе вучыўся, пакуль Вільню не занялі немцы. У 1915–1916 гг. навучаўся ў Віцебскай гімназіі, затым паступіў у гімназію ў Яраслаўлі, якую скончыў у 1917.

Пасля завяршэння гімназічнай адукацыі вярнуўся на Дзісеншчыну. Тут завязаў кантакты з ксяндзом Адамам Станкевічам, праўдападобна пад яго ўплывам заняўся арганізацыяй беларускіх школаў. У 1917–1919 настаўнічаў на Дзісеншчыне ў беларускіх пачатковых школах у Більдзюгах і Новым Пагосце. У ліпені 1919 перабраўся ў Вільню.

Скончыў Віленскія беларускія настаўніцкія курсы (1919). У той жа год паступіў у Віленскі ўніверсітэт на медыцынскі факультэт. Падчас вучобы ва ўніверсітэце Браніслаў Туронак далучыўся да беларускага студэнцкага руху. Увайшоў у склад першай Управы Беларускага студэнцкага саюзу (БСС, 1921), быў адказным сакратаром месячніка "Наш шляху" (1922-1923) і газеты БХД "Крыніца" (1923-1925).

У 1923 – у складзе новай Управы БСС, таксама абраны сакратаром Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Пасля заканчэння ўніверсітэту (1924) і двухгадовай практыкі Б. Туронак атрымаў дыплом доктара лекарскіх навук (1926).

У жніўні 1925 арыштаваны польскай паліцыяй як рэдактар "Крыніцы", дзе размяшчаліся матэрыялы ў абарону выкарыстання беларускай мовы ў каталіцкім касцёле. Два тыдні пра яго не было ніякіх вестак. Туронак мог быць вызвалены пад заклад 500 злотых. Ксёндз Адам Станкевіч прасіў суд зменшыць заклад, але суд павялічыў яго да 1000 злотых. Дзякуючы салідарнасці грошы былі сабраныя, і да суду Туронак знаходзіўся на свабодзе. Браніслаў Туронак быў асуджаны да 3-месячнага турэмнага зняволення.

У 1927-1928 працаваў у віленскай клініцы. Адзін са стваральнікаў і дзеячаў Беларускага сялянскага саюзу і Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры (з 1926). Кіраваў Віленскім аддзелам БІГіК да свайго выезду ў 1928.

У снежні 1928 вылучаны кандыдатам ад Блоку нацыянальных меншасцяў на выбарах у польскі сейм, але пасольскага мандату не атрымаў. Займаўся папулярызацыяй аховы здароўя. Выступаў з артыкуламі па гэтай тэме ў газеце БХД "Беларуская крыніца". У 1928 ягоная праца "Гігіена ўзгадавання дзіцяці" выйшла асобнай брашурай.

У студзені 1928 ажаніўся з Марыяй Рэшаць – сястрой беларускага ксяндза і прафесара Язэпа Рэшаця. Пасля жаніцьбы пакінуў Вільню і пасяліўся ў мястэчку Дукшты, працаваў лекарам. Меў трох сыноў. Памёр 19 верасня 1938 году ў Дукштах. Сабраная ім калекцыя кніг і часопісаў згарэла ў 1944.

*Алесь Адамковіч*

# КАЗІМІР ФАЛЬКЕВІЧ



Казімір Фалькевіч – селянін з-пад Вільні, сябра БХД, адзін з міністраў Літоўскай Тарыбы, які адстойваў правы ды інтарэсы беларусаў.

Нарадзіўся Казімір Фалькевіч ў 1855 годзе ў вёсцы Шастакі каля Тургеляў. Ужо ў сярэднім веку, перад вайной, прачытаў "Дудку Беларускую" Францішка Багушэвіча, пачаў выпісваць "Нашу Ніву", а потым і "Беларуса". Даводзіў да свядомасці сваіх суседзяў ды аднавяскоўцаў, і, як аўтарытэтны чалавек, атрымаў у вёсцы мянушку "Дзядзька".

Паводле сведчання Адама Станкевіча, пасля адыходу з Віленшчыны расейскай улады з ініцыятывы Дзядзькі вяскоўцы накіравалі ў Віленскую курыю просьбу прыслаць ім у Тургелі ксяндза-беларуса. Затым стараннямі Фалькевіча тут адчынілі беларускую школу. Затым – сельскі кааператыў.

У той жа час Літва стварала сваю дзяржаўнасць – і запрасіла да ўдзелу ў Тарыбе беларусаў. Адным з міністраў першага літоўскага ўраду і стаў селянін-каталік Казімір Фалькевіч. 27 лістапада 1918 года разам з Вацлавам Ластоўскім, Іванам Луцкевічам, Уладзіславам Талочкам і Янам Станкевічам беларусы былі ўключаныя ў склад Тарыбы міністрамі. Іх мандат доўжыўся да 1920 года, пакуль не адбыўся літоўскі Устаноўчы сейм.

9-10 чэрвеня 1919 году Казімір Фалькевіч поруч з вядомым ксяндзом Міхаілам Пятроўскім на З'ездзе Віленшчыны й Гарадзеншчыны быў абраны ў віленскую Беларускую Раду.

З кастрычніка 1920 года да сакавіка 1921 Дзядзька Казімір працаваў агентам па закупках у Дэпартаменце аправізацыі Сярэдняй Літвы.

Адышоў Казімір Фалькевіч 30 жніўня 1922 года. Быў пахаваны ў Тургелях, якія ён зрабіў агмянём беларускасці.

*Павел Севярынец*



## АНДРЭЙ ЦІКОТА

Архімандрыт Андрэй Цікота – той чалавек, пра якога, як і пра Хрыста, можна сказаць “Быў замучаны і пахаваны”. За сваю місіянерскую, адраджэнскую і грамадскую дзейнасць ён правёў свае апошнія гады ў адным з лагераў Сібіры. Андрэй Цікота быў адным з тых людзей, якім Бог даручыў важнае заданне на зямлі: ламаць стэрэатыпы, якія сцвярджалі, што “калі праваслаўны, то ты – рускі, а калі каталік – паляк”. Айцу Андрэю праз усё жыццё прыйшлося супрацьстаяць ідэалагічна двум бакам - абрусіцелям і паланізатарам беларусаў.

Андрэй Цікота нарадзіўся 5 снежня 1891 году на хутары Плавушка непадалёку ад фальварка Тупальшчына Дуброўскай воласці Свянцянскага павету Віленскай губерні ў сялянскай сям’і Фелікса і Разаліі Цікотаў. 15 снежня 1890 года ён быў ахрышчаны ў рыма-каталіцкім храме мястэчка Жодзішкі. У школе Андрэй Цікота вучыўся ў Ашмянах.

13 чэрвеня 1913 года Андрэй Цікота быў высвечаны, але ў той жа час працягваў вучобу. Душпастырскую дзейнасць Андрэй Цікота распачаў у Маладзечна (1917-1918), затым служыў у Мінску. Ён скончыў духоўную акадэмію ўжо ў Петраградзе ў 1917 годзе. У гэтым жа годзе ён вяртаецца ў Беларусь, служыць у Маладзечна, Вілейцы, Будславе. Ён актыўна далучаецца да грамадскага жыцця, у 1917 годзе ўдзельнічае ў І-м з’ездзе беларускіх каталіцкіх святароў у Мінску, з’яўляецца сябрам Саюзу ксяндзоў-беларусаў. У 1918 годзе а.Андрэй Цікота працуе прафесарам у Мінскай духоўнай семінарыі. У 1918 годзе яго абралі ў склад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, у верасні 1919 года – Часовага Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску.

1 верасня 1920 года Андрэй Цікота ўступае ў Ордэн айцоў марыянаў. 7 траўня 1924 г. заснаваў кляштар марыянаў у Друі пры фінансавай дапамозе Магдалены Радзівіл. За гады знаходжання ў Друі Цікота заснаваў некалькі пачатковых школаў, а затым і гімназію імя Стафана Баторыя, а таксама жаночую прафесійную вучэльню кройкі і шыцця. Шматнацыянальны і шматканфесійны характар

вучэбных устаноў (у якія прымалі не толькі хрысціянаў, але і габрэяў) выклікаў моцнае раздражненне антысемітаў. Пры кляштары быў адчынены гарадскі тэатар, выдавалася рэлігійная міжканфесійная газэта. Дзейнасць айца Андрэя спрыяла і гаспадарчаму развіццю Друі – горад быў электрыфікаваны і ў ім была адчыненая каса ўзаемадапамогі.

У 1933 годзе а.Андрэй Цікота быў абраны генеральным суперыёрам Ордэну айцоў марыянаў і жыў падчас выканання абавязкаў генерала закону ў Рыме. Ён становіцца рэлігійным дзеячом міжнароднага маштабу. Але гэта не ўратавала мужчынскі кляштар марыянаў у Друі ад рэпрэсіяў з боку польскіх уладаў. У 1938 годзе беларускія манахі былі выселеныя з Друі. Друя была памежным мястэчкам, а іх палічылі недабранадзейнымі.

Беларускія ксяндзы пераследваліся польскімі ўладамі, бо тады ішла палітыка паланізацыі. Таму не дзіва, што айцы-марыяне аказаліся на місійнай працы аж у Маньчжурыі, дзе яны мусілі працаваць у місіі для каталікоў усходняга абраду (уніятаў). У 1939 годзе а. Андрэй Цікота быў прызначаны Апостальскім адміністратарам для ўніятаў Маньчжурыі і выехаў на місію.

Місійная дзейнасць Андрэя Цікоты скончылася трагічна. У 1948 годзе яго разам з іншымі трыма айцамі-марыянамі арыштавала кітайская камуністычная міліцыя і перадала савецкім уладам. Пяць месяцаў айца Андрэя трымалі у чыцінскай турме. Яго катавалі, спрабаваўшы схіліць да супрацы. Айцу Андрэю прапанавалі узначаліць незалежны ад Ватыкану Касцёл Беларусі. Нешта падобнае зрабілі камуністычныя ўлады ў Кітаі, змусіўшы некаторых каталіцкіх святароў парваць духоўныя і адміністрацыйныя сувязі з Ватыканам і абвясціць незалежны каталіцкі Касцёл у Кітаі.

Айцец Андрэй Цікота не пагадзіўся з такой прапановай. За гэта ён быў жорстка пакараны. Праз пяць месяцаў зняволення асобная камісія Міністэрства дзяржаўнай бяспекі ў Маскве завочна асуджае яго за антысавецкую агітацыю, арганізацыю тэрарыстычнай групоўкі і шпіянаж на карысць Ватыкану і Японіі да 25-ці гадоў зняволення ў лагеры. Андрэй Цікота цярпліва, без скаргаў на лёс, мужна працягваў высока несці свой пакутлівы крыж - і адбываў зняволенне ў лагерах Іркуцкай вобласці.

З лістоў айца можна даведацца пра цяжкі стан яго здароўя. Нягледзячы на сваё гаротнае становішча, ён клапоціцца пра тое, што сёстры самі могуць цярпець нястачу: “Яшчэ раз хачу падкрэсліць – занадта сябе не абцяжарвайце і прысылайце што-кольвек толькі калі будзе магчымасць”.

Пра што не забываецца прасіць а.Андрэй Цікота ў лістах, дык гэта пра белыя сухары і разынкі. Першыя яму былі патрэбныя для прыгатавання аплатак, а другія – для вырабу віна. У лагеры ён служыў службу: “Калі ў вас будзе магчымасць, прышліце, калі ласка, хоць 300 ці 400 грамаў разынак ды сухароў з сапраўднай пшанічнай мукі. Гэта патрэбна для майго здароўя”. У іншым лісце ён піша: “Асабліва я вам удзячны за ягады, якія мне вельмі дапамагаюць. Я карыстаюся імі амаль штодзённа, але вельмі ашчадна”.

Айцец Андрэй Цікота рэальна ацэньвае свае шанцы на жыццё. Пішучы пра магчымы зыход з жыцця, ён паведамляе: “Я думаю пра яго не толькі спакойна, але нават з радасцю, і толькі прашу Усемагутнага, каб гэты зыход быў згодны з Яго воляю”.

11 лютага 1952 года айцец Андрэй Цікота памірае ў лагернай бальнічцы №2 “Азёрбуду”. Пахаваны архімандрыт на лагерных могілках каля пасёлку Нова-Чунка Шыткінскага раёну Іркуцкай вобласці. Дзе зараз яго магіла – невядома.

З ініцыятывы Каталіцкай Царквы ў Расіі 31 траўня 2003 года ў Рыме афіцыйна быў распачаты працэс беатыфікацыі Слугі Божага архімандрыта Андрэя Цікоты.

На радзіме святара на могілках у Жодзішках, побач з магілай старэйшага брата Фелікса Цікоты “дзеяча беларускага руху, на Дзяды 2003 года гарадзенскімі грэка-каталікамі быў усталяваны сімвалічны памятны крыж архімандрыту Андрэю Цікоту.

*Вікторыя Чаплева*



# ВІКТАР ШУТОВІЧ

Віктар Шутовіч (1890-1960) – беларускі каталіцкі святар заходняга абраду, сябра БХД. Быў адной з самых яскравых постацяў, якія стаялі на пачатку адраджэння беларускага Каталіцкага Касцёла. Да канца свайго жыцця верыў у тое, што Беларусь рана ці позна стане незалежнай. Сёння яго мара споўненая.

Нарадзіўся 27 кастрычніка 1890 г. у вёсцы Шутавічы, на Смаргоншчыне. Паходзіў з сялянскай сям'і беларусаў-каталікоў. Скончыў гарадское вучылішча ў Ашмянах. Пасля вучыўся ў Віленскай духоўнай семінарыі, пазней – у Пецярбургскай каталіцкай акадэміі. Святарскі сан атрымаў у 1913 г. Служыў у Барадзенічах, Трышчанах, Харошчы (Беласточчына) і ў ЗША.

У 1917 г. прызначаны ў вёску Барадзенічы (зараз Браслаўскі р-н), дзе служыў да 1927 г. За беларускую дзейнасць некалькі разоў польскімі ўладамі праводзілася следства, падчас якога ўлады спрабавалі даказаць антыдзяржаўную дзейнасць кс. Віктара Шутовіча. З сабраных матэрыялаў бачна, наколькі шчыра верыў кс. Віктар у адраджэнне Беларусі як незалежнай дзяржавы. Вось некаторыя вытрымкі са справы. З пратаколу паказанняў сведкаў: “Настаўнік “рэлігіі” кс. Віктар Шутовіч не хавае, натуральна, таго, што цалкам прыгнечаны той несправядлівасцю, якая адбываецца з-за ўціску беларусаў палякамі, але зазначае, што прыйдуць лепшыя часы, калі і мы будзем гарой, “наша возьме”; “вучань школы, сцвярджае, што кс. Шутовіч пісаў на дошцы ў школе беларускі марш і загадаў яго вывучыць. Той жа вучань сустрэўся з кс. Шутовічам, які яму сказаў, што “нягледзячы на тое, што ён з’яўляецца заядлым палякам, да яго [ксяндза] павінен звяртацца па-беларуску, а не па-польску”; “у Барадзенічах кс. Шутовіч у школе на ўроках рэлігіі на пытанні вучняў па-польску адказвае па-беларуску, хаця дзеці яму тлумачаць, што іх вучаць па-польску як бацькі, так і ў школе. На гэта кс. Шутовіч адказвае, што калі хочаце размаўляць па-польску, то і размаўляйце па-польску, але добра і без памылак, а ў іншым выпадку павінны размаўляць па-беларуску. Такім чынам, кс. Шутовіч байкатуе польскую мову”; “кс. Шутовіч угаворваў людзей, каб яны

падпісаліся за тое, што згаджаюцца з беларускай мовай набажэнстваў у касцёле і, ўвогуле, згодны са стварэннем незалежнай Беларусі, тым больш, што кс. Шутовіч пры кожным выпадку зазначае, што Беларусь ужо існуе. Аб тым, што кс. Шутовіч угаворваў насельніцтва запісвацца ў “гуртк?”, чулі тады, калі былі ў касцёле” і інш.

З 1927 г. прызначаўся ў польскія парафіі. Пасля вайны пераехаў у Менск, дзе з 29 чэрвеня 1944 г. служыў пробашчам катэдральнага касцёла. 26 студзеня 1945 г. арыштаваны. 27 чэрвеня 1946 г. асуджаны на 10 гадоў лагераў, вызвалены 20 сакавіка 1955 года. Патаемна служыў у розных месцах усходняй Беларусі. Апошнія гады жыў у Барысаве, вёў там падпольную парафію.

Супрацоўнічаў з беларускімі рэлігійнымі перыядычнымі выданнямі, пісаў вершы, вершаваныя творы, артыкулы. Асобнымі кнігамі выдаў “Маёвая чытанка” (Вільня, 1940) і “Калядныя песні” (Берлін, 1942).

Памёр Віктар Шутовіч 1 сакавіка 1960 г. у Барысаве, пахаваны там на Кальварыйскіх могілках.

*Алесь Адамковіч*



# ЯНКА ШУТОВІЧ

Шутовіч Янка (1904-1973) – беларускі грамадска-культурны дзеяч, выдавец, літаратуразнаўца, магістр права (пляменнік кс. Віктара Шутовіча). Сябра ЦК БХД. Скарбнік Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Нарадзіўся Янка Шутовіч ў сялянскай сям'і Ядвігі і Юзэфа Шутовічаў у вёсцы Шутавічы Ашмянскага павета (зараз Смаргонскі раён Гарадзенскай вобласці).

Пачатковую адукацыю атрымаў у в. Сукневічы, дзе ў 1915 г. скончыў 4-ох класную расейскую школу. З-за першай сусветнай вайны быў вымушаны перарваць навучанне да 1918 году. У 1918-1919 гг. вучыўся ў рускай народнай школе ў Глыбокім у 2-ім класе. Увосень 1919 г. паступіў ў 4-ы клас Віленскай беларускай гімназіі. Па яе заканчэнні ў 1924 г., адчуваючы пакліканне да духоўнага сану, паступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю, у якой у 1925 г. здаў экзамены за сярэднюю школу, неабходныя для працягвання далейшага навучання ў навучальных установах гуманітарнага тыпу. Невядома па якіх прычынах у хуткім часе пакінуў семінарыю і паступіў на юрыдычны факультэт Універсітэта Сцяпана Баторыя ў Вільні, які скончыў у 1934 годзе з дыпломам магістра права.

Пачаў друкавацца ў 1927 годзе. З 1928 г. – у розныя гады рэдактар часопісаў "Студэнцкая думка", "Калосьсе", "Шлях моладзі". Пісаў гістарычныя і літаратуразнаўчыя артыкулы, напрыклад, даследванне пра паэта XIX ст. Адама Гурыновіча. З 1933 па 1939 гг. рэдактар часопіса "Калосьсе", дзе друкавалася большасць заходнебеларускіх пісьменнікаў і паэтаў.

Сябра ЦК БХД і скарбнік партыі з 1927 году і да другой паловы 1930-ых.

За актыўную дзейнасць у справе беларускага нацыянальнага адраджэння напачатку 1939 году арыштаваны польскімі ўладамі. Зняволены ў лагеры Бяроза-Картузская. Вызвалены ў верасні 1939 году савецкімі войскамі.

У 1941 годзе прызначаны дырэктарам Віленскага беларускага музею. У той час музей знаходзіўся ў сістэме Літоўскай Акадэміі Навук, пасля быў выдзелены ў асобную самастойную адзінку,

падпарадкаваную непасрэдна Дэпартаменту навукі і мастацтва. Штатных было 4 супрацоўнікі і яшчэ некалькі працавала ў якасці няштатных. У той час вялася работа па стварэнні новых інвентарных кніг, парадкаванню экспанатаў, хаця час быў цяжкі і неспрыяльны – ішла вайна. У 1945 г. музей быў зачынены. Янка Шутовіч напісаў грунтоўную манаграфію, прысвечаную 50-годдзю яго дзейнасці (да гэтага часу не апублікаваная).

Арыштаваны органамі НКДБ 19 лістапада 1944 году і прысуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Вызвалены з лагеру 28 жніўня 1954 году. Да 10 красавіка 1956 – у высылцы ў Карагандзе і Сарані (Карагандзінская вобл.). У 1958 годзе рэабілітаваны.

Пасля высылкі вярнуўся ў Вільню. Уладкаваўся начным вартаўніком у Дзяржаўнай карціннай галерэі, якая тады знаходзілася ў будынку Катэдральнага касцёла. Яго жонка, літоўская паэтэса Она Міцюце, дачакалася вяртання мужа з лагераў, разам з Янкам выдала некалькі зборнічкаў вершаў.

Быў пазаштатным карэспандэнтам часопіса Саюза пісьменнікаў БССР "Полымя".

Памёр 9 снежня 1974 г. у Вільні. Пахаваны на могілках у Павілюнсе.

У 2017 годзе сябры БХД Павел Севярынец і Аляксей Туровіч знайшлі ў доме Шутовічаў партрэт Янкі аўтарства Пётры Сергіевіча.

*Алесь Адамковіч*

# ВІКТАР ЯРМАЛКОВІЧ



Віктар Ярмалковіч – сябра БХД, гісторык, краязнаўца, юрыст і вязень канцлагеру ў Картуз-Бярозе.

Нарадзіўся Віктар Адамавіч Ярмалковіч у сялянскай сям'і 4 студзеня 1917 года ў вёсцы Юшкі пад Вільняй. Змалку гарнуўся да навукі. Вучыўся ў гімназіі айцоў-марыянаў у Друі, дзе ўпершыню пазнаёміўся з беларускімі хрысціянскімі дэмакратамі. У 1938 годзе скончыў Віленскую беларускую гімназію і паступіў на юрыдычны факультэт Віленскага універсітэту. Як свядомы беларус, неўзабаве далучыўся да Беларускага студэнцкага саюзу, дзе вялі рэй хадэкі.

Разам з ксяндзом Адамам Станкевічам Віктар Ярмалковіч рэдагаваў часопіс "Хрысціянская думка".

2 верасня 1939 года, з пачаткам вайны, Віктар быў арыштаваны дэфензівай разам з хадэкамі Вячаславам Багдановічам, Язэпам Найдзюком, Янкам Шутовічам, і адпраўлены ў канцэнтрацыйны лагер у Картуз-Бярозе. Зазнаў здзекі і катаванні. Пасля таго, як Заходнюю Беларусь акупавалі Саветы і лагерная паліцыя разбеглася, дабраўся да Вільні. Выжываў, як мог, шукаў працу ў дзяржаўных установах – літоўскіх, а потым і савецкіх.

З пачаткам вайны апынуўся ў Лідзе, у 1941-42 юрыст-практыкант у павятовым судзе. У 1942-44 у Шчучыне, дзе працаваў у павятовым судзе. Працаваць даводзілася ва ўмовах жорсткасці немцаў, свавольства паліцыі, тэрору АК і чырвонай партызанкі. У 1944 годзе выехаў з сям'ёй у Варшаву, дзе апынуўся ў віры Варшаўскага паўстання. Здолеў выбрацца з гораду пасля паразы паўстання і асеў у горадзе Біскупец каля Жэшува, дзе быў арыштаваны камуністычнай службай бяспекі.

Першую высылку "за прыналежнасць да антысавецкіх арганізацыяў" (Студэнцкі Саюз і БХД) адбываў ва Ўсоллі (Сібір). Затым, у 1952 годзе, быў арыштаваны паўторна і засуджаны на 25 гадоў лагераў. Вызвалены ў 1956-ым. Працаваў дантыстам у Біскупцы.

Пісаў кнігі аб родным краі: “Ліда і лідская зямля”, “Шчучынскі раён”, “Іўеўскі раён”. Аўтар манаграфіі “Летапіс Віленскай беларускай гімназіі”, “Кароткага нарысу гісторыі Беларусі”. Выдаў кнігу ўспамінаў “На жыццёвых хвалях”, дзе апісаў увесь трагізм жыцця свайго пакалення беларусаў.

Памёр Віктар Ярмалковіч 15 снежня 1997 года ў Варшаве.

*Павел Севярынец*



## МІХАСЬ АРЭШКАЎ

Міхась Арэшкаў, адзін з лідараў БХДЗ 1990-ых гадоў, нарадзіўся 18 кастрычніка 1951 года ў сям'і настаўнікаў на Мядзельшчыне, каля Нарачы, у вёсцы Занарач. Неўзабаве бацькі пераехалі на Смаргоншчыну, дзе прадоўжылі сваю працу настаўнікамі і абасноваліся на сталае жыццё. У 1965 годзе М. Арэшкаў скончыў 8 класаў Суцькаўскай школы і паступіў на вучобу ў Мінскі радыётэхнічны тэхнікум. Пасля сканчэння тэхнікума паступіў у Мінскі радыётэхнічны інстытут, які скончыў у 1974 годзе. Працаваў праграмістам у Мінску.

Ужо за камуністычным часам Міхась зацікавіўся духоўным жыццём, наведваў царкву, удзельнічаў у праваслаўным руху, дзе пазнаёміўся з многімі святарамі, прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, вернікамі.

У 1991 годзе Міхась Арэшкаў – сярод заснавальнікаў Праваслаўнага Брацтва ў гонар Віленскіх мучанікаў.

На пачатку 1990-х, з хваляй Перабудовы і нацыянальнага Адраджэння, Міхась Арэшкаў стаў адным з пачынальнікаў партыі "Беларуская хрысціянска-дэмакратычная Злучнасць (БХДЗ)". На ўстаноўчай канферэнцыі БХДЗ, якая адбылася 1 чэрвеня 1991 г., быў абраны сустаршынём і заставаўся на гэтай пасадзе да закрыцця партыі ў 1998 годзе.

БХДЗ выступала за "за ўсталяванне асноўных каштоўнасцей хрысціянскай культуры: братэрскай любві, міласэрнасці, свабоды і адзінства ўсіх людзей". Слова "Злучнасць", што стаяла ў назве партыі, азначала злучнасць, ці яднанне асноўных хрысціянскіх канфесій, існуючых на Беларусі – праваслаўнай, каталіцкай, пратэстанцкай і уніяцкай. Міхась Арэшкаў прадстаўляў праваслаўны накірунак БХДЗ.

У другой палове 1990-х гадоў пераехаў на сталае жыхарства ў вёску Новаспаск Смаргонскага раёна і працуе там фермерам да гэтага часу.

*Анатоль Астапенка*



# АНАТОЛЬ АСТАПЕНКА

Нарадзіўся 7 жніўня 1947 года ў вёсцы Мсцібава Ваўкавыскага раёна ў сям'і настаўніка фізікі. У 1949 г. сям'я пераехала ў г.п. Васілевічы Гомельскай вобласці. У 1964 годзе з срэбраным медалём скончыў Васілевіцкую СШ.

У 1964 г. паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Гомель-скага педінстытута, а ў 1967 г. перавёўся вучыцца на фізічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які закончыў у 1970 г. Вучыўся ў аспірантуры Інстытута фізікі АН БССР па спецыяльнасці "Тэарэтычная і матэматычная фізіка". Напісаў кандыдацкую дысертацыю "Ферміён-антыферміённае ўраўненне і спектр мас мезонаў» і абараніў яе ў 1986 г. У 1998 г. было прысвоена званне дацэнта па спецыяльнасці "Інфарматыка, кіраванне і вылічальная тэхніка".

Працаваў малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута фізікі АН бССР (1975-1985 гг.), затым навуковым супрацоўнікам на факультэце прыкладной матэматыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1985-1989), старшым выкладчыкам Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта (1989-1996), дацэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры, МГЭІ і БНТУ (1996-2012). З 2012 г. – дацэнт Інстытута бізнеса і менеджмента тэхналогій БДУ.

Напісаў вучэбныя дапаможнікі: "Лекцыі па сістэме праграмавання TURBO-PASCAL 5.5". (Мн., 1996); "Правовая информатика". (Мн., 2007), "Лабораторный практикум по курсу "Основы информационных технологий и программирования" (Мн., 2016).

На пачатку 90-х гадоў удзельнічаў у распрацоўцы тэрміналогіі па інфарматыцы на беларускай мове. Выступаў з дакладамі на навуковых канферэнцыях па беларускамоўнай тэрміналогіі. Больш за 10 год (з 1990 г.) выкладаў у Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце і універсітэце культуры цыкл прадметаў па інфарматыцы і праграмаванню на беларускай мове.

Анатоль Астапенка – удзельнік Устаноўчага з'езду БНФ у Вільні ў 1989 г. У 1990 годзе заснаваў Нацыянальна-дэмакратычную

партыю Беларусі і да яе раколу быў старшынёй партыі. Гэта была першая партыя пасля ўсталявання шматпартыйнасці.

У 1994 г. па яго ініцыятыве была створана Беларуская нацыянальная партыі (БНП), якую ён ўзначальваў да закрыцця партыі ў 1998 г. Напісаў праграму БНП, дзе ўпершыню нацыяналізм адкрыта абвяшчаецца базавай каштоўнасцю грамадства, а сфармуляваныя прынцыпы БНП адлюстроўвалі прынцыпы хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіі ва ўмовах Беларусі. У праграмных дакументах БНП пазіцыянавала сябе як партыя хрысціянска-дэмакратычнага накірунку.

З 1998 г. Анатоль Астапенка - намеснік старшыні Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады (БСДГ).

У 2005-2006 гадах – сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД). Удзельнічаў у стварэнні праграмы БХД.

Яшчэ з 80-х гадоў XX ст. Анатоль Астапенка займаўся вывучэннем беларускай культуры, гісторыі і рэлігіі. У 1994 годзе надрукаваў у часопісе “Маладосць” свой першы публіцыстычны артыкул “Міф аб талерантнасці беларусаў” і з таго часу пачаў займацца літаратурнай дзейнасцю. Выступае ў перыядычным друку па палітычных пытаннях, праблемах беларускай дзяржаўнасці і нацыянальнага адраджэння.

Абгрунтаванню нацыянальнай ідэі ў хрысціянстве была прысвечана першая публіцыстычная кніга А. Астапенкі “Хрысціянства і нацыянальная ідэя” (Мн. 1998). Свае ідэі і роздум над праблемамі нацыянальнага адраджэння беларусаў А. Астапенка абагульніў у наступнай кнізе “Паслухайце нацыяналіста”, якая была выдадзена ў 2000 г. у Вільні.

У 2004 годзе была напісана манаграфія “Нацыянальная ідэя ў сучасным свеце”, стаўшая асновай аднайменнай дысертацыі. У 2005 г. Анатоль Астапенка атрымоўвае навуковую ступень доктара паліталогіі Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій МАІТ). У 2006 г. ён абраны член-карэспандэнтам МАІТ.

У 2007 годзе быў прыняты ў шэрагі Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У 2010 годзе выйшла яго фундаментальнае даследванне Беларускай нацыянальнай ідэі ў выглядзе ёмістай (734 стар.) кнігі

“Игде зродилися и ускормлены суть по Бозе. Дослед беларускага нацыяналізму”, выд. Санкт-Петербург, “Невский простор”, 2010.

У сваёй навуковай і публіцыстычнай дзейнасці стаіць на пазіцыях беларускага нацыянальнага адраджэння, хрысціянскіх каштоўнасцей і веры ў будучыню Беларусі.

Усяго ім надрукавана каля 150 навуковых і публіцыстычных артыкулаў.

А. Астапенка вядомы яшчэ і выдавецкай дзейнасцю. Ён складальнік унікальных адрыўных календароў “Беларусь праваслаўная”, “Хрысціянскія святыні” і “Беларускі календар” за 2004-2007 гады.

Анатоль Астапенка працуе у жанры прозы. У 2012 годзе пад псеўданімам Антон Кулон у выдавецтве “Логвінаў” выйшла кніга літаратурнай дакументалістыкі (creative non fiction) “Сіняя кніга беларускага алкаголіка”. У 2013 годзе у выдавецтве “Харвест” выходзіць перапрацаваны варыянт гэтай кнігі на рускай мове. А ў 2016 годзе быў напісаны цыкл апавяданняў “Між светам тым і гэтым”, які ўключае і некалькі фантастычных твораў.

Улічваючы навуковую і грамадска-палітычную работу, Амерыканскі Біяграфічны Інстытут ў 2003 г. узнагародзіў А. Астапенку Сусветным Медалём Гонару, а ў 2004 г. ён абраны Чалавекам Году.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ІРЫНА БАГДАНОВІЧ

Ірына Багдановіч – паэт, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, выкладчык БДУ і адна з сустаршыняў Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці у 1991-95 гадах.

Ірына Эрнстаўна Багдановіч нарадзілася 30 красавіка 1956 года ў Лідзе ў сям'і інжынераў. Ужо з двухгадовага ўзросту яна жыла ў Гомелі, дзе выхоўвалася ў дзядулі і бабулі з боку таты. Маці Ірыны памерла, калі дзяўчыне споўнілася 14 гадоў.

У 1973 годзе Ірына Багдановіч скончыла сярэднюю школу і распачала навучанне на гісторыка-філалагічным факультэце Гомельскага ўніверсітэта, які праз пяць год паспяхова скончыла.

У 1978 годзе пераехала ў Мінск і паступіла ў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларусі. Затым стала навуковым супрацоўнікам пры Акадэміі. У 1985 годзе была абаронена яе кандыдацкая праца па рамантычных матывах у творчасці Янкі Купалы, а праз чатыры гады Ірына Багдановіч, на той час і паэтэса, і перакладчыца, і навуковец, і літаратурны крытык, стала сябрам Саюза Пісьменнікаў. Яе вершы друкаваліся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", "Літаратуры і мастацтве", альманаху "Дзень паэзіі".

Першая кніга паэткі – "Чаравікі дзяцінства" (1985 год). Затым былі "Фрэскі" (1989), "Вялікдзень" (1993), "Сармацкі альбом" (2004), дзе ажывае ў паэзіі "даўняя і нядаўняя сармацка-рыцарская гісторыя Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, калі спавядаліся ідэалы вольнасці і веры, панаваў культ Айчыны, сагрэты і ўзвялічаны каханнем"; "Прыватныя рымляне" (2006). У 2016 годзе выдала кнігу сваёй паэзіі, перакладаў з польскай мовы і літаратуразнаўчых артыкулаў – "Залатая горка".

Напрыканцы 1980-ых і пачатку 90-ых ХХ стагоддзя Ірына Багдановіч стала актывісткай нацыянальнага Адраджэння і была цесна звязана з дзейнасцю хрысціянскай дэмакратыі.

1 чэрвеня 1991 гогда, калі адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці (БХДЗ), разам з

Феліксам Янушкевічам Ірына Багдановіч прадстаўляла каталіцкі бок – і была абраная сустаршынёй БХДЗ.

Многія працы Ірыны Багдановіч прысвечаныя гістарычным постацям, звязаным з заснаваннем БХД і дзейнасцю хрысціянскіх дэмакратаў на пачатку XX стагоддзя. Сярод іх вядомыя святары і грамадска-палітычныя дзеячы Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Канстанцін Стэповіч (Казімір Сваяк), Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля), Язэп Германовіч (Вінцук Адважны) і інш.

Зараз Ірына Багдановіч жыве ў Мінску, выкладае студэнтам у БДУ.

*Аксана Ючкавіч*



# ЮРЫЙ БЕЛЕНЬКІ

Юрый Адамавіч Беленькі – адзін з лідараў Беларускага Народнага Фронту 1988-1999 гадоў, выконваючы абавязкі старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ.

Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Мінску.

У 1982 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі па спецыяльнасці "фінансы і крэдыт". У 1990 годзе прайшоў у Вялікабрытаніі курс навучання ў банкаўскай справе і фінансах, у 1994 годзе – у Германіі па пытаннях сістэмных трансфармацый эканомікі.

Працаваў кантралёрам-рэвізорам Кантрольна-рэвізійнага ўпраўлення Міністэрства фінансаў БССР па Магілёўскай вобласці. На прадпрыемствах канцэрна "Амкадор" быў начальнікам фінансавага аддзела Мінскага завода "Ударнік", намеснікам генеральнага дырэктара ТАА "Амкадор-Траст".

У 1990 годзе быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР XII склікання і дэпутатам Мінскага гарадскога савета; увайшоў у склад 30 дэпутатаў "Апазіцыі БНФ" у ВС.

На IV і V з'ездах руху Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне» абіраўся намеснікам старшыні. Сябра Грамадскага кабінета міністраў БНФ. Адзін з аўтараў "Канцэпцыі эканамічнай рэформы ў Беларусі" Беларускага Народнага Фронту.

З 1999 года, пасля расколу БНФ, абраны намеснікам старшыні КХП-БНФ (пераабраны ў 2006 годзе). У сувязі з тым, што старшыня КХП БНФ Зянон Пазьняк з 1996 года знаходзіцца за межамі Беларусі, Юрый Беленькі выконвае абавязкі старшыні КХП-БНФ.

Жанаты. Належыць да мінскай евангельскай царквы "Ян Прадвеснік".

*Паводле "Хто ёсць хто ў Беларусі"*



## АЛЕГ БЕМБЕЛЬ (АЙЦЕЦ ІААН)

Алег Бембель – адзін з лідараў Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці ў 1991-1995 гадах, ідэйны натхняльнік і арганізатар аднаўлення хрысціянскай дэмакратыі ў Беларусі ў першай палове 1990-ых гадоў, у далейшым – інак і манах Жыровіцкага манастыра, паэт і філосаф.

Нарадзіўся Алег 16 снежня 1939 года ў сям'і праслаўленага беларускага скульптара – Андрэя Бембеля, аўтара шматлікіх кампазіцыяў, прысвечаных рэвалюцыі і вайне (Дом Урада ў Мінску, Брэсцкая крэпасць, Курган Славы і іншыя).

У паваеннай Беларусі атрымаў разнабаковую адукацыю – у Палітэхнічным інстытуце, Мінскай музычнай вучэльні, Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, аспірантуры Інстытута філасофіі і права АН БССР. Працаваў у структурах Акадэміі, на беларускім тэлебачанні, друкаваўся ў мастацкіх, літаратурных і навукова-папулярных выданнях як публіцыст. Друкаваў вершы пад псеўданімам "Зьніч".

Працуючы ў Акадэміі навук, Алег Бембель заняўся праблемай заняпаду беларускай мовы. Ягоная кніга "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс", дзе ён даследваў прычыны русіфікацыі і моўную палітыку кампартыі, была забароненая для публікацыі ў СССР – але выйшла ў Вялікабрытаніі (1985 год). Зразумела, пасля гэтага аўтара выключылі з партыі (1986 год), звольнілі з працы і пачалі сістэматычны пераслед. Ва ўстановах навукі і культуры арганізоўваліся сходы з асуджэннем "нацыяналізму Бембеля", ягоны аддзел у Акадэміі навук быў цалкам расфармаваны. Так сын культавага скульптара-камуніста стаў дысідэнтам.

З канца 1980-ых Алег Бембель робіцца актыўным удзельнікам беларускага Адраджэння: далучаецца да працы Беларускага Народнага Фронту, публікуецца ў хрысціянскіх часопісах – і ўрэшце прыходзіць да высновы аб неабходнасці стварэння хрысціянска-дэмакратычнай партыі.

Менавіта Алег Бембель запрашаў да сябе дахаты, у асабняк Бембеляў у цэнтры Мінска, вядомых вернікаў, творцаў і навукоўцаў,

з якімі разам у 1991 годзе аднавіў Беларускую Хрысціянска-Дэмакратычную Злучнасць. “Дом Бембеля” стаў штабам беларускага хадэцкага руху пачатку 1990-ых.

У сярэдзіне 1990-ых, пасля крызісу і расколу БХДЗ, гарадскія ўлады адабралі асабняк у Бембеля. Колішні дысідэнт і вернік выправіўся ў дабраахвотную ссылку – у Жыровіцкі манастыр, дзе ў 1996-ым прыняў пострыг пад імем інака Мікалая.

Зрэшты, і ў Жыровічах інак Мікалай, а затым – айцец Іаан – не пакінуў свайго творчага паклікання. Ён наладзіў выпуск газеты “Жыровіцкая абіцель” з 50-тысячным накладам, выдаў некалькі зборнікаў вершаў – і працягвае заставацца адным з духоўных настаўнікаў беларускага хрысціянскага руху.

*Павел Севярынец*



## ГЕНАДЗЬ ГРУШАВЫ

Генадзь Уладзіміравіч Грушавы – ініцыятар стварэння Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Партыі, старшыня фонду "Дзецям Чарнобылю", доктар філасофскіх навук (1994), прафесар (1995) і дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання. Адзін з найвялікшых дабрачынцаў у найноўшай гісторыі Беларусі – дзякуючы яму, 116 тысячаў беларускіх дзяцей атрымалі лячэнне альбо былі накіраваныя на аздараўленне у краіны Еўропы і Канаду пасля Чарнобыльскай катастрофы, і каля 2 мільёнаў беларусаў атрымалі дапамогу альбо лекі.

Нарадзіўся Генадзь Грушавы 27 ліпеня 1950 года ў Мінску. Скончыў СШ 50 з фізіка-матэматычным ухілам, але паступіў на філасофскі факультэт БДУ, дзе з 1973 года і да самай смерці выкладаў.

У 1978 годзе абараніў кандыдацкую "Аказіяналізм Нікаля Мальбранша" (пераасэнсаванне філасофіі Дэкарта).

На хвалі Перабудовы і Адраджэння Генадзь Грушавы далучыўся да Беларускага Народнага Фронту – і ў 1989 годзе узначаліў "чарнобыльскую" Камісію БНФ. 20 лістапада заснаваў фонд "Дзецям Чарнобыля", які стаў справай усяго ягонага жыцця. Грушавы паставіў сваёй задачай захаваць генафонд беларускай нацыі, падарваны Чарнобылем – і праз дабрачынныя арганізацыі ды цэрквы усяго свету наладжваў каналы пастаўкі гуманітарнай дапамогі, лекаў і дамаўляўся пра прыём чарнобыльскіх дзяцей на аздараўленне ў краіны Еўропы і Канаду.

У 1991 годзе Генадзь Грушавы стаў прарэктарам Інстытута сучасных ведаў.

4 снежня 1994 года прайшла устаноўчая канферэнцыя Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Партыі, стварэнне якой ініцыяваў Генадзь Грушавы. 21 сакавіка 1995 года БХДП была зарэгістраваная.

Пасля "рэферэндуму" 1996 года і выбараў у Вярхоўны Савет, калі Генадзь Грушавы атрымаў перамогу на сваёй акрузе, выбаршчыкі Генадзя Грушавога і грамадскія арганізацыі Беларусі сабралі 116 тысячаў подпісаў з патрабаваннем прызнаць абранне дэпутата

Грушавога сапраўдным – але сам Вярхоўны Савет 13 склікання указам Лукашэнкі быў распушчаны.

У 1997 годзе Генадзь Грушавы быў каардынатарам Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацый Беларусі (1997). Арганізатар Моладзевага хрысціянска-сацыяльнага саюза, больш як 70 груп самадапамогі, сеткі моладзевых сацыяльных цэнтраў "Майстэрня будучага" у розных рэгіёнах Беларусі (з 1997), сустаршыня грамадзянскага камітэта "Выбар-2001" (2000-2001).

Сябра каардынацыйнай рады Міжнароднага бюро міру (Жэнэва).

У 1999 годзе быў узнагароджаны прэміяй фонда Рафта ў Нарвегіі за заслугі ў змаганні за правы чалавека ў Беларусі.

"Не медыкі, а філосаф Грушавы здолеў звярнуць увагу Еўропы і свету на маштабы чарнобыльскай катастрофы і неабходнасць ратаваць генафонд найбольш пацярпелай краіны" – напісаў пра Генадзя Грушавога у "Імёнах Свабоды" Уладзімір Арлоў.

Памёр Генадзь Уладзіміравіч 28 студзеня 2014 года ад "чарнобыльскай хваробы" – раку крыві. Пахаваны на Паўночных могілках у Менску.

*Павел Севярынец*



# МІКАЛАЙ КРУКОЎСКІ

Мікалай Крукоўскі – прафесар, доктар навук, у 1994-99 гадах старшыня Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Партыі.

Крукоўскі Мікалай Ігнатавіч нарадзіўся 16 лістапада 1923 г. у сялянскай сям'і у вёсцы Машкова Аршанскага р-на Віцебскай вобл. Рэспублікі Беларусь. Да 1938 г. з сям'ёй жыў на вёсцы (да 1929 г. у Машкове, затым на хутары Карабіна Машкоўскага сельсавета (цяпер знішчаны), дзе бацькі атрымалі зямельны надзел згодна вядомай прышчэпаўскай рэформе.

У 1938 г. сям'я пераехала ў г. Воршу, дзе ў 1940 г. скончыў 2-ю сярэднюю школу. У 1940 паступіў на І курс Віцебскага Ветэрынарнага інстытута, адкуль у верасні 1941 г. добраахвотнікам пайшоў на фронт 2-й сусветнай вайны.

У кастрычніку 1941 г. трапіў у акружэнне ў Вяземскім катле і пасля трох няўдалых спроб вырвацца адтуль аказаўся ў палоне. Збег з палону, вярнуўся ў Воршу, дзе ў 1942 г. звязаўся з партызанамі брыгады Заслонава, куды і прыйшоў, заняўшы пасаду камандзіра аддзялення, а пазней начальніка штаба атрада. У сакавіку 1943 г. быў назначаны на пасаду камандзіра аддзялення, а пазней начальніка штаба атрада "Малады Бальшавік" заслонаўскай партызанскай брыгады.

5 снежня 1943 г. быў цяжка паранены ў баі і 20 красавіка самалётам перапраўлены на лячэнне ў савецкі тыл. Куля прашыла яму кісць левай рукі, пашкодзіўшы сухажылле, і таму ён мусіў канчаткова развітацца з думкамі пра прафесійны занятак музыкай.

Пасля шпіталю як былы палонны некаторы час сядзеў у спецлагеры НКВД № 140 у г. Калініне з прычыны так званай госспецправеркі, пасля чаго праз некаторы час вярнуўся ў Воршу.

У 1945 г. паступіў на І курс філалагічнага факультэта Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта, які і закончыў з купалаўскай стыпендыяй і чырвоным дыпломам у 1950 г. У тым жа годзе быў залічаны ў Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук БССР у якасці малодшага навуковага супрацоўніка, дзе ў 1956 г. абараніў кандыдацкую

дысертацыю па лінгвістыцы і выдаў манаграфію “Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову”.

Аднак, прапанаваная дырэкцыяй Інстытута тэма доктарскай дысертацыі па праблеме ўзаемадзеяння блізкародняасных моў у абставінах развітога сацыялізму глыбока не задавальняла Крукоўскага з-за яе празмерна палітызаванай накіраванасці, і ён пачаў інтэнсіўна займацца эстэтыкай і філасофіяй. У 1963 годзе перайшоў на працу ў БДУ на кафедру гісторыі філасофіі, логікі і эстэтыкі, дзе чытаў курсы па эстэтыцы, сацыялогіі мастацтва і тэорыі мастацкай культуры.

У 1965 г. выдаў манаграфію “Логіка прыгажосці”, дзе на аснове гегелеўскай метадалогіі прапаноўвалася новая па тых часах сістэма асноўных эстэтычных катэгорый, падрабязна разглядалася эстэтыка прыроды і ўпершыню ў савецкай навуцы распрацоўвалася эстэтыка чалавека як дыялектычнага адзінства духоўнай і фізічнай яго прыгажосці. Там жа была вылучана зусім новая для савецкай эстэтыкі канцэпцыя развіцця мастацтва як гісторыі мастацкіх стыляў, цесна звязаных з той жа сістэмай асноўных эстэтычных катэгорый. Але доктарскую дысертацыю на гэтую тэму яму ўдалося абараніць толькі ў 1982 г.

У тыя ж часы былі напісаныя яшчэ тры манаграфіі па эстэтыцы, якія ўпарта замоўчваліся ў СССР, але знайшлі добры водгук за мяжой, а кніга “Чалавек прыгожы” была перакладзена на кітайскую мову і выдадзена ў Пекіне.

У 1994 г. за чытанне лекцый на беларускай мове быў звольнены з БДУ і адпраўлены на пенсію. Пазней, аднак, быў запрошаны на работу ў Беларускі Інстытут культуры на пасаду прафесара кафедры філасофіі, дзе напісаў яшчэ дзве манаграфіі: “Філасофія культуры (уводзіны ў тэарэтычную культуралогію)” і “Бляск і трагедыя ідэалу”. За гэтыя часы апублікаваў каля 150 артыкулаў на навуковыя і грамадскія тэмы.

У 90-я гады XX ст. Мікалай Крукоўскі становіцца заўважнай фігурай на канферэнцыях, семінарах нацыянальна-дэмакратычнага руху, які ўзначальваў Беларускі народны фронт (БНФ). З самага дня заснавання з’яўляўся сябрам сойму Руху і партыі Беларускага народнага Фронту (БНФ), а пасля раздзялення – партыі, якую

ўзначаліў Зянон Пазьняк – Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ.

З 1991 года (з дня заснавання партыі) уваходзіў у склад Праўлення Беларускай Хрысціянска-дэмакратычнай Злучнасці (БХДЗ). У 1994 годзе М.Крукоўскі прыняў удзел у рэарганізацыі партыі Беларуская Хрысціянска-дэмакратычная Злучнасць. 4 снежня 1994 г адбылася Устаноўчая канферэнцыя Беларуской хрысціянска-дэмакратычнай партыі. У Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь партыя была зарэгістравана 21 сакавіка 1995 года. Устаноўчая канферэнцыя прыняла Праграму і Статут БХДП, над якімі шчыльна працаваў М.Крукоўскі. Ён быў абраны старшынём партыі.

Мікалай Крукоўскі сфармуляваў асноўныя палажэнні беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У артыкуле “Вера, надзея, любоў і хрысціянская дэмакратыя”, напісанай яшчэ ў 1993 годзе, ён кажа: “Хрысціянская дэмакратыя і палітычныя арганізацыі і супольнасці, якія стаяць на яе пазіцыях, не з'яўляюцца канфесійна-рэлігійнымі і тым больш клерыкальныя-царкоўнымі арганізацыямі. Яна толькі абапіраецца на асноўныя маральныя прынцыпы, выкладзеныя некалі ў Евангеллі, якія ляглі ў падмурак ўсёй еўрапейскай культуры”.

Ён апярэджваў эпоху мінімум на некалькі дзесяцігоддзяў. У сваіх артыкулах, выказваючыся аб статусе беларускіх кіраўнікоў, ён раскрывае сэнс евангельскага выслоўя “Ўсякая ўлада ад Бога”: “Не страх перад гвалтам, а маральны аўтарытэт – вось асноўная сіла і моц хрысціянска-дэмакратычнай дзяржавы. Улада, як эталон маральнасці – вось сэнс выслоўя”.

Памёр прафесар М.Крукоўскі 30 верасня 2013 года, не дажыўшы паўтара месяца да свайго 90-годдзя.

*Анатоль Астапенка*



## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК

Зянон Пазьняк – палітычны абсалют нацыянальнай ідэі. Хрысціянін. Паэт. Эмігрант. Лідар апошняга беларускага Адраджэння.

Пазьняк адкрыў усяму свету Курапаты. Заснаваў Беларускі Народны Фронт. Узначаліў апазіцыю ў Вярхоўным Савеце на хвалі развалу СССР. Дамогся незалежнасці.

У Беларусі імя Пазьняка стала сінонімам палітыкі нацыянальных інтарэсаў.

Зянон Пазьняк – вяршыня цэлай дынастыі. Дзед, Ян Пазьняк, дзеяч БНР, засноўваў Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю і быў расстраляны бальшавікамі. Бацька, Станіслаў, ваяваў з фашыстамі й загінуў на фронце ў 1944-м.

Зянон нарадзіўся 24 красавіка 1944 года ў Суботніках (сёння - Іўеўскі раён Гарадзеншчыны), як і пакаленні ягоных продкаў. Быў ахрышчаны ў мясцовым касцёле.

У 1967 годзе Зянон Пазьняк скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, у 1972 – аспірантуру пры Інстытуце этнаграфіі, мастацтва і фальклору пры Акадэміі навук БССР.

Працаваў загадчыкам сельскага клуба, рабочым сцэны, фатографам, навуковым супрацоўнікам аддзелу археалогіі Інстытута гісторыі Акадэміі навук.

З 1960-ых гадоў выступаў у абарону гарадской забудовы Менску, у тым ліку Траецкага прадмесця, Нямігі, Верхняга горада.

Менавіта археолаг Зянон Пазьняк у чэрвені 1988 г., з пачаткам Перабудовы, апублікаваў жахлівыя матар'ялы раскопак у Курапатах, якія сам таемна вёў доўгія гады – і ўмомант стаў жывым сцягам антыкамуністычнага руху. Ужо 19 кастрычніка 1988 г. ён стварае Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту, а праз два тыдні ачольвае першае масавае шэсце “Дзяды”, жорстка разагнанае міліцыяй.

Пазьняк на чале парламенцкай апазіцыі – усяго 30 дэпутатаў! – здолеў пераламіць сітуацыю ў пракамуністычным Вярхоўным савеце пачатку 1990-х гадоў. Трыста саўковых нардэпаў пад няўмольным позіркам Пазьняка прымалі законы незалежнасці,

бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню", стваралі ўласнае войска, мытню, бюджэт... Стваралі дзяржаву.

"Не кілбасы мусім шукаць, а Бога!" – казаў тады Пазьняк.

І гэта быў сапраўды цуд Божы: перамога над імперыяй зла.

БНФ у часы Пазьняка сапраўды ўлучаў магутную хрысціянска-дэмакратычную плынь. Менавіта з Фронту Пазьняка выйшлі заснавальнікі БХДЗ ды БХДП ў 1990-ыя, а пазней і тыя, хто адраджаў БХД у 2000-ых.

Геній нацыяналізму, полюс непадкупнасці, чалавек сталёвых нерваў, Пазьняк адначасова заставаўся мастацтвазнаўцам, лірычным паэтам, поўным пяшчоты да свайго краю й любові да Бога. "Ave Maria" на ягоныя словы стала "Песняй года-1994".

На прэзідэнцкіх выбарах 1994 года Зянон Пазьняк атрымаў, паводле афіцыйных дадзеных, 12,8% галасоў. Паводле неафіцыйных – з 16% стаў другім пасля Лукашэнкі.

Але няма прарока ў сваёй айчыне. Пасля шматтысячных маніфестацыяў Вясны-96 пад пагрозай расправы Пазьняк мусіў з'ехаць за мяжу й папрасіць палітычнага прытулку ў ЗША.

Пазьняк – харызматычны лідар і палітык крышталёвае чысціні, а гэта тая яшчэ рэдкасць. Яго аблівалі брудам, яму здраджвалі паплечнікі, яго замоўчвалі – але ён ані на цалю не змяніў сваіх прынцыпаў. Яго папракалі ў бескампраміснасці й катэгарычнасці – але ці ж можа крышталь не быць цвёрдым!

Сярод сучаснікаў менавіта Пазьняк найбольш ясна сфармуляваў беларускую нацыянальную ідэю ў сваіх кнігах "Сапраўднае аблічча", "Gloria Patria" і "Новае стагодзьдзе".

Пазьняк, як моцны магніт, прыцягвае й адштурхоўвае, абуджае веру сяброў і выклікае шал ненавіснікаў. Але нават ворагі трапечуць у ягонае прысутнасці. Калі Пазьняк глядзіць табе ў вочы – мурашкі ідуць па скуры, а жар змяняецца холадам. Бо Пазьняк ня проста кажа. Ён прарочыць. Ягоныя выразы кшталтаваныя й адточаныя, ягоны голас гучыць уладна й велічна – і ягоныя словы збываюцца. "Усё так, як казаў Пазьняк!" – у Беларусі ўжо даўно расхожая фраза.

Феномен Пазьняка тлумачыцца проста. Зянон Пазьняк – беларускі хрысціянін на ўсе 100%. Пазьняк робіць гэта па-каталіцку гранёна й бліскуча – так, што працінае да самага сэрца.

Постаці такога маштабу можна разгледзець толькі здалёк. Іх ацэньвае гісторыя. І Беларусь урэшце рэшт ацэніць.

Таму што рана ці позна будзе так, як казаў Пазьняк.

*Павел Севярынец*

# ЭРНСТ САБІЛА



Эрнст Сабіла – вязень ГУЛАГу, заснавальнік Беларускай Евангельскай Царквы, сустаршыня Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці ў 1991-95 гадах і сябра сучаснай Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Нарадзіўся Эрнст Сабіла 18 сакавіка 1932 года ў Дзегцяроўцы, пад Мінскам. Сям'я Сабілаў як ненадзейная была выселеная падалей ад савецка-польскай мяжы – у Бабруйск. Падчас нямецкай акупацыі Сабілы далучыліся да евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Партызанілі.

У 1951-м студэнт Медыцынскага інстытута ў Мінску Эрнст Сабіла быў арыштаваны гэбістамі. Артыкул 72б савецкага крымінальнага кодэкса: «Актыўная антысавецкая агітацыя з ужываннем рэлігійных і нацыянальных забабонаў». Прысуд – расстрэл. Расстрэл быў заменены на 25 гадоў пазбаўлення волі.

Быў голад. Былі здзекі. Былі хваробы. Спярша ў Падмаскоўі, потым на ўранавых шахтах у Усць-Каменагорску. Сабіла двойчы ўцякаў з лагера. Стралялі. Выжыў цудам: у найлепшага стралка аховы, які стаяў на вышцы, раптам заклініла зброю.

Вызвалены, Сабіла жыў пад пастаянным наглядам КГБ.

У 1988-м, ледзь толькі дыхнула Адраджэннем, Эрнст Сабіла арганізоўвае ў Мінску Беларускую Евангельскую Царкву. Вернікі з усёй Беларусі ехалі ў Сабілаву кватэру на Паўднёвым Захадзе. У 1989-м на I з'ездзе БНФ у Вільні менавіта пастар Сабіла зачытваў Божае Слова, а затым і правіў малітвы на першых франтаўскіх мітынгах.

У 1990-я Сабіла як прадстаўнік пратэстантаў быў абраны адным з сустаршыняў Беларускай Хрысціянска-Дэмакратычнай Злучнасці.

30 мая 2006-га ўлады пазбавілі Беларускую Евангельскую Царкву рэгістрацыі.

У адказ пастар Сабіла (сам – крэпасць Божая сярод беларускіх руінаў) збудаваў у Асіповічах гэткі ж магутны малітоўны дом. Гэта ж такую моц даў чалавеку Бог, што і пасля трынаццаці гадоў ГУЛАГа, дзесяцігоддзяў уціску, цярпенняў і барацьбы цягаў мяхі з цэментам на будоўлі Дома малітвы.

На будоўлі здарыўся цуд. Цікаўныя хадзілі глядзець на ўласныя вочы: дом меўся стаяць у нізіне, і нават лужыны тут не высыхалі, але вялізны катлаван, у якім магла б змясціцца цэлая хата з дахам, застаўся сухі.

Усе апошнія гады і рэшту сваёй цялеснай дужасці пастар Сабіла ўклаў у будынак на краі балота. Эрнст Канстанцінавіч верыць, што неўзабаве гэтыя вялізныя залы будуць запоўненыя евангельскімі вернікамі, якія славяць Бога па-беларуску.

На сустрэчах з Сабілам, палітвязнем савецкіх часоў, моладзь замірае. І ў цішыні словы ягонага сведчання кладуцца, быццам камяні ў падмурак. Сабіла сведчыць пра Бога ў сваім жыцці. Сабіла расказвае пра Беларусь, ягоны крыж. Сабіла гаворыць важка, вытрымлівае паўзы, і гэтыя паўзы цяжкія, як ягоны спакутаваны, але спакойны позірк спадылба, – каб да слухача дайшло.

– Набліжаецца мой час стаць перад Госпадам, – ціха, павольна, але так, што мурашкі па скуры, выгаворвае Эрнст Канстанцінавіч, – і ўжо адчуваю: свет рыхтуецца да таго, хто прыйдзе перад Хрыстом. Антыхрыста. Адчуваю вакол гэты дух.

Дух апошніх часоў… “Мы жывём сярод страшнага народа, які выракаецца сваіх продкаў», – сказаў калісьці Сабіла.

Маладыя і не вельмі вернікі ды пастыры, якія нават не мысляць шырынёй народа і глыбінёй краіны, дадзенай ім Богам, якія цураюцца казані на роднай мове, не заўважаюць тых нямногіх, хто, па грудзі ў твані, з астатніх сіл трымае на сваіх плячах і ўсю Беларусь, і іх саміх.

*Павел Севярынец*

## ПЁТР СІЛКА



Сілка Пётр Пятровіч нарадзіўся 2 чэрвеня 1945 года. З 1952 па 1962 год вучыўся ў сярэдняй школе №1 г. Мінска. З 1962 па 1968 гады вучыўся на фізічным факультэце Белдзяржуніверсітэта. Пасля заканчэння ВНУ ў 1968 годзе быў размеркаваны на працу ў Інстытут ядзернай энергетыкі Акадэміі навук Беларусі, дзе па 1995 год працаваў навуковым супрацоўнікам. З 1973 да 1976 г. вучыўся ў аспірантуры Інстытута ядзернай энергетыкі Акадэміі навук БССР, абараніў дысертацыю на суісканне кандыдата фізіка-матэматычных навук. Пасля абароны дысертацыі некалькі гадоў працаваў па сумяшчальніцтве выкладчыкам на кафедры ядзернай фізікі Белдзяржуніверсітэта.

Аўтар больш за 50 навуковых прац і шэрагу вынаходніцтваў.

Пётр Сілка быў адным з заснавальнікаў партыі "Беларуская хрысціянска-дэмакратычная Злучнасць (БХДЗ)". На ўстаноўчай канферэнцыі БХДЗ, якая адбылася 1 чэрвеня 1991 г., быў абраны сустаршынём-каардынатарам і заставаўся на гэтай пасадзе да закрыцця партыі ў 1998 годзе. Мэтай БХДЗ стала "духоўна-маральнае, палітычнае і эканамічнае адраджэнне Беларусі, як прававой, дэмакратычныай, самастойнай і суверэннай краіны" (з Праграмы партыі). БХДЗ упершыню за змрочныя гады бязбожнай савецкай улады загаварыла мовай хрысціянства: "Хрысціянска-Дэмакратычны Саюз Беларусі выступае за ўсталяванне асноўных каштоўнасцей хрысціянскай культуры: братэрскай любві, міласэрнасці, свабоды і адзінства ўсіх людзей".

З моманту свайго стварэння БХДЗ пачала наладжваць міжнародныя сувязі з хрысціянска-дэмакратычнымі партыямі Заходняй, Цэнтральнай і Ўсходняй Еўропы. Найболей цесныя сувязі былі наладжаны з Расійскім ХДС, з Хрысціянска-Дэмакратычнай Партыяй Украіны, з Нацыянальна-Дэмакратычнай Партыяй Грузіі і з ХДС Арменіі. На аснове гэтых партый, з актыўным удзелам Беларускай ХДЗ, быў створаны Хрысціянска-Дэмакратычны Саюз Усходняй Еўропы. Сустаршыня Беларускай ХДЗ Пётр Сілка быў абраны віцэ–прэзідэнтам гэтай рэгіянальнай міжнароднай

арганізацыі, а БХДЗ была прынятая асацыяваным сябрам у Інтэрнацыянал Хрысціянскай Дэмакратыі.

З 1991 па 1998 год Пётр Сілка - дырэктар і выдавец друкаванага органа партыі БХДЗ, газеты "Беларуская Крыніца", а з 2005 года дырэктар і выдавец электроннага сродку інфармацыі "Інтэрнэт-газета Беларуская Крыніца" (ІБК). З 2005 года старшыня Беларускай Грамадскай Арганізацыі Сацыяльнага Развіцця і Супрацоўніцтва (БГАСРС). Аўтар шматлікіх артыкулаў на грамадска-палітычныя тэмы.

Пётр Сілка (пад псеўданімам Пётр Спинчевский) вядомы таксама як аўтар шэрагу мастацкіх літаратурных твораў.

*Анатоль Астапенка*



# СЯРГЕЙ СУРЫНОВІЧ

Сяргей Сурыновіч – беларускі рыма-каталіцкі святар, паэт, даследчык і перакладчык Бібліі, хрысціянскі блогер, у 1999-2000 гадах выдавец газеты “Kryniсa”.

З шляхецкага роду Сурыновічаў, які ўзгадваецца ў дакументах з XIV стагоддзя. Нарадзіўся 13 красавіка 1976 у вёсцы Лугамавічы Іўеўскага раёну ў сям’і настаўнікаў. У 1993 годзе скончыў Іўеўскую сярэднюю школу. Вучыўся ў музычнай школе па класе баяна. З 1993 году вучыўся ў Гарадзенскай духоўнай семінарыі, з 1997-га – у Пецярбургскай духоўнай семінарыі, якую скончыў у 2000 годзе. Абараніў працу па багаслоўі ў Латэранскім універсітэце ў Рыме.

У 1999-2000 гадах рэдагаваў газету “Kryniсa” Таварыства беларусаў Санкт-Пецярбурга, якая выходзіла лацінкай і кірыліцай, была пераемніцай аднайменнай хрысціянска-дэмакратычнай газеты, першы нумар якой выйшаў у 1917 годзе ў Петраградзе. У склад рэдакцыі газеты ўваходзілі Яраслаў Крывой і Тарэса Шырма. У Беларусі газету сярод чытачоў распаўсюджвала беларуская паэтка Данута Бічэль.

Высвечаны ў святары 11 лістапада 2001 года ў Санкт-Пецярбургу. Служыў у Расеі: на Каўказе, у Пярмі, Калінінградзе, Савецку.

Пасля вяртання ў Беларусь служыў адміністратарам парафіі Святога Духа ў Віцебску (да 2008 года), дзе апякаваўся студэнцкімі суполкамі Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага універсітэта і Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Пятра Машэрава, парафіі Божага Провіду ў Слабодцы Браслаўскага раёну (да 2012 года), затым – парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі. Ініцыятар шэрагу дабрачынных акцый, біблійных летнікаў, выступаў музыкаў і музычных калектываў у парафіях, якія ўзначальваў. Мецэнат і арганізатар Друйскага мастацкага пленэру. У Слабодцы з 2008 года займаўся рэканструкцыяй касцёла, у 2009 годзе перад касцёлам быў усталяваны помнік святой Ефрасінні Полацкай.

У 2011 годзе як каталіцкі блогер быў запрошаны Папскай радай па сродках масавай камунікацыі на сустрэчу ў Ватыкан, у якой узялі ўдзел 150 прадстаўнікоў розных краін свету.

Ад 2008 году Сяргей Сурыновіч пачаў працу па алічбоўванні ўсіх вядомых беларускіх перакладаў Бібліі XX-XXI стагоддзяў. Даследуе гісторыю і спецыфіку перакладаў Бібліі на беларускую мову. З 2014 года распачаў пераклад старажытнагрэцкай Септуагінты на беларускую мову і дактарантуру з галіны біблеістыкі. Удзельнік секцыі Міжнароднага Кангрэсу даследчыкаў Беларусі ў Коўне (Літва), многіх міжнародных навуковых канферэнцый па біблеістыцы.

Як літаратар пад псеўданімам Яўген Бартніцкі дэбютаваў вершаванай містэрыяй для дзяцей "Батлейка" ("Дыялог", 1998). Аўтар зборнікаў паэзіі "Летуценнік" (1999), "Пакліканне" (2000). Вершы друкаваліся ў часопісах "Дыялог", "Беларусь", у газетах "Наша слова", "Голас Радзімы", "Царква".

Вядомы таксама дзякуючы сваім перакладам з лацінскай, габрэйскай, грэцкай, польскай, славацкай, украінскай моваў.

Займаецца жывапісам, калекцыянуе мастацкія творы сучаснага беларускага жывапісу.

*Максім Гацак*



## АЛЕСЬ ТРАЯНОЎСКІ

Беларускі пісьменнік, перакладчык, крытык, публіцыст, сябра БХДЗ, у 1991-99 гадах галоўны рэдактар адноўленай газеты хрысціянскіх дэмакратаў "Беларуская крыніца".

Аляксандр (Алесь) Пятровіч Траяноўскі нарадзіўся ў сям'і лесніка 22 верасня 1925 года ўва ўрочышчы Уздымач Слуцкага раёну Мінскай вобласці.

У час акупацыі Беларусі немцы спалілі хутар, разам з жыхарамі была спалена недалёкая ад яго вёска Руднаўка, у якой жылі 44 чалавекі. Сярод іншых загінулі і родныя дзядзька і цётка Алеся Траяноўскага, якія замянілі яму бацькоў, што рана памерлі.

З верасня 1942 па ліпень 1944 быў партызанам брыгады імя Чапаева. З ліпеня 1944 ваяваў на 3-м Беларускім і 3-м Украінскім франтах, быў цяжка паранены. Пасля дэмабілізацыі ў 1946 годзе працаваў на розных пасадах у Мінску.

З 1955 года працуе журналістам. У 1959 годзе скончыў Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут. У 1955-1962 – літсупрацоўнік шматтыражнай газеты "Западная трасса" (Беларускае ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі).

Алесь Траяноўскі аддаў 20 гадоў працы ў газеце "Звязда" (1962-1982), дзе працаваў літсупрацоўнікам, загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва газеты.

У 1983-1986 – намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Мастацтва Беларусі». Сябра Саюза пісьменнікаў СССР (з 1990).

Першыя творы і пераклады Алеся Траяноўскага апублікаваныя ў 1955 годзе. Перакладаў з верхнялужыцкай, ніжнялужыцкай, кашубскай, польскай і ўкраінскай моў. Адзін з укладальнікаў і перакладчыкаў, аўтар прадмовы і каментарыяў да анталогіі паэзіі лужыцкіх сербаў "Там, дзе Шпрэвя шуміць" (1969). У яго перакладах выйшла анталогія кашубскай паэзіі "За даляглядам край сталемаў" і кніга ўкраінскай паэзіі "Імем няўмольнай свабоды", аповесць Ю. Срэзана "Чорны млын" (1984). Пераклаў шэраг твораў І. Франка, П. Тычыны, Я. Барта-Цішынскага, Ю. Брэзана, К. Лоранца, А. Лаймінг і інш. Ён – аўтар энцыклапедычных артыкулаў "Сербалужыцкая літаратура і Янка Купала", "Сербалужыцкая літаратура".

Алесь Траяноўскі быў сапраўдным беларускім інтэлігентам, меў шляхетную знешнасць і глыбокую беларускую сведамасць. Сябраваў са знакамітай беларускай паэткай і дысідэнтам Ларысай Геніюш, якая жыла ў Зельве і знаходзілася пад пільным наглядам КДБ. У 60-я гады XX ст. вёў з ёй ліставанне і дапамагаў у вырашэнні розных пытанняў.

У бурлівыя 1990-я гады далучыўся да руху адраджэння Беларусі, уступіў у партыю Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць (БХДЗ).

З 1991 і да 1999 г. Алесь Траяноўскі - галоўны рэдактар газеты "Беларуская крыніца", друкаванага органу партыі БХДЗ. "Беларуская крыніца" была адноўленым выданнем газеты беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў 30-х гадоў XX стагоддзя. Фактычна, адноўленая "Беларуская крыніца" выдавалася дзякуючы намаганням двух чалавек: яе заснавальніка і сустаршыні партыі БХДЗ Пятра Сілкі і нязменнага рэдактара Алеся Траяноўскага.

Аляксандр Пятровіч Траяноўскі пайшоў з жыцця 18 сакавіка 2005 года. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

*Анатоль Астапенка*



# ЮРЫ ХАДЫКА

Юры Віктаравіч Хадыка – беларускі грамадскі і культурны дзеяч, навуковец. Доктар фізіка-матэматычных навук. Адзін з лідараў БНФ і БХДП.

Нарадзіўся Юры Хадыка 23 чэрвеня 1938 у Мінску. Першыя гады жыцця разам з сям'ёй жыў у Беластоку. У 1945 годзе пайшоў ў мужчынскую Чыгуначную школу № 60 у Мінску, якую скончыў с залатым медалём. Паступаў у адзін з самых прэстыжных савецкіх ВНУ – Маскоўскі фізіка-тэхнічны інстытут (МФТІ), але, не набраўшы прахаднога балу, вярнуўся ў Мінск. У 1960 годзе скончыў фізічны факультэт БДУ.

Працаваць пачаў у Інстытуце фізікі АН БССР, малодшым навуковым супрацоўнікам. Хутка стаў старэйшым навуковым супрацоўнікам, а ў 1980 годзе становіцца загадчыкам лабараторыі. У 1975 узначаліў секцыю оптыка-электронных сродкаў разведкі ў камісіі АН СССР па распрацоўцы прагнозу развіцця ўзбраенняў на 15 гадоў.

У 1976 годзе абараніў дысертацыю на навуковую ступень доктара фізіка-матыматычных навук. Тэма дысертацыі: “Аптычныя характарыстыкі факелаў балістычных ракет”. Юры Хадыка распрацаваў тэорыю разліку характарыстык факелаў і слядоў балістычных ракет на актыўным участку траекторыі ва ўсіх дыяпазонах аптычнага спектра.

У 1984 годзе Юрыю Хадыку прысвойваюць званне прафесара.

Адначасова з інтэнсіўнай працай у галіне оптыка-электроннай фізікі Юры Хадыка цікавіцца гісторый Беларусі, яе старажытным мастацтвам. Ён прыняў чынны ўдзел у дзейнасці семінара, прысвечанага старажытнай беларускай культуры. Гэтая незвачайная для савецкіх часоў інцыятыва была створаная на пачатку 1970-х гг. пры інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору.

Кожны год у часы адпачынку энтузіясты розных інстытутаў выязджалі ў этнаграфічныя экспедыцыі, дзе вывучалі і збіралі помнікі нашай старажытнай культуры: старажытныя абразы, карціны, скульптуры, іншыя творы няведамых беларускіх майстроў. Юры

Хадыка прымаў удзел у зборы матэрыялаў. Потым паводле вынікаў гэтых экспедыцыяў быў створаны Музей старажытнабеларускай культуры пры Нацыянальнай Акадэміі навук. Мноства матэрыялаў было надрукавана ў “Зводзе помнікаў гісторыі і культуры Беларусі”.

З 1988 года актывіст дэмакратычнага руху ў Беларусі. Увайшоў у склад ініцыятыўнай групы па стварэнню БНФ на гістарычным сходзе грамадскасці 19 кастрычніка 1988 года, што праходзіў у Доме кіно. Пасля ўстаноўчага з’езду БНФ у 1989 годзе становіцца намеснікам старшыні БНФ (з 1989 г. “Руху БНФ “Адраджэнне”, з 1993 г. – партыі БНФ) і застаецца на гэтай пасадзе да снежня 2007.

У 1996-2000 уваходзіў у назіральную раду Беларускага Хельсінскага камітэта. У 1997 прызначаны прарэктарам Народнага ўніверсітэта – самай буйной праграмы Грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра “Беларуская перспектыва” і рэдактарам бюлетэня Народнага ўніверсітэта. З 1998 чалец рэдакцыйнага савета часопіса “Адкрытае грамадства”. Старшыня аргкамітэту Кангрэсу дэмакратычных сілаў ад 2000 да 2005 года.

У 1996 годзе быў арыштаваны як адзін з арганізатараў шэсця “Чарнобыльскі шлях”. Пратэстуючы супраць беспадстаўнага затрымання, амаль месяц трымаў галадоўку.

1 чэрвеня 1991 г. адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай Злучнасці (БХДЗ). Юры Хадыка падтрымаў з’яўленне хрыцянска-дэмакратычнай партыі і ўвайшоў у яе склад. Як хрысціяніну і палітыку яму вельмі блізкімі былі праграмныя тэзісы БХДЗ: “Хрысціянска-Дэмакратычны Саюз Беларусі выступае за ўсталяванне асноўных каштоўнасцей хрысціянскай культуры: братэрскай любві, міласэрнасці, свабоды і адзінства ўсіх людзей”.

У выніку рэарганізацыі БХДЗ у 1994 годзе з’явілася яшчэ адна партыя – БХДП (Беларуская хрысціянска-дэмакратычная партыя), якую ўзначалілі Юры Хадыка, Людміла Пеціна, Язэп Янушкевіч (намеснікі старшыні). Старшынём быў абраны доктар філасофскіх навук, прафесар Мікалай Крукоўскі.

Юры Хадыка, прыхільнік адраджэння ў Беларусі уніяцтва, з’яўляўся актывістам грэка-каталіцкай (уніяцкай) грамады.

Юры Хадыка – аўтар каля 150 навуковых прац па фізіцы, каля 200 навукова-тэхнічных справаздач, каля 30 публікацый па гісторыі беларускага мастацтва, 350 публікацый на палітычныя тэмы.

З 2012 г. жыў ў ЗША. Памёр 11 верасня 2016 года ў Каларада.

*Анатоль Астапенка*



## АЛЕГ АКСЁНАЎ

Аксёнаў Алег Леанідавіч – кіраўнік БХД Магілёва з 2013 года.

Нарадзіўся 01.07.1964 года, у горадзе Магілёве ў сям'і працоўных. Праваслаўны хрысціянін.

Скончыўшы сярэднюю школу ў 1981 годзе, пайшоў працаваць на завод "Чырвоны металіст" у якасці вучня токара. За амаль год працы атрымаў трэці разрад токара і сумежную спецыяльнасць – электрык трэцяга разраду.

Натхнёны прыкладам бацькі – дэсантніка, з пятнадцаці год пачаў займацца парашутным спортам. З 1982 па 1983 год навучанне ў авіяцыйных цэнтрах – вайсковая спецыяльнасць "пілот верталёту". У 1984 годзе прайшоў перападрыхтоўку па спецыяльнасці "штурман-аператар". Афіцэр запасу вайскова-марской авіяцыі.

Пасля звальнення з войска працаваў дырэктарам спартовай базы і трэнерам па ветразевым спорце ў Магілёўскім аблсавеце ВДФСО прафсаюзаў. Мае спартыўныя разрады па лыжных гонках і ветразевым спорце – яхтавы рулявы першага класу. З 1989 году – кіраўнік спартклубу, вядучы інжынер адзелу сацыяльнага забеспячэння завода "Магілёўтрансмаш".

У 1997 годзе абраны першым сакратаром Ленінскага райкама БПСМ Магілёва.

Працаваў індывідуальным прыдпрымальнікам, кіраўніком філіялу каапературыва "Клэр", дырэктарам фірмы "ТДА ПраектМантаж".

У партыю "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" прыйшоў у 2010 годзе. У 2013 абраны магілёўскім гарадскім каардынатарам аргкамітэту па стварэнню партыі БХД. У 2014 годзе арганізаваў у Магілёве кампанію "Народны кантроль", у 2015 – актыўна ўдзельнічаў у правядзенні незалежнага назірання "Права выбару-2015" ў Магілёве, у 2016 – правёў кампанію агітацыі за БХД падчас "выбараў у Палату прадстаўнікоў".

За актыўную палітычную дзейнасць узяты на ўлік магілёўскім КДБ і атрымаў папярэджанне.

Вучыцца ў Міжнародным эканоміка-гуманітарным ўніверсітэце.

Жанаты, мае сына і ўнучку.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## МІКАЛАЙ АРЦЮХОЎ

Мікалай Арцюхоў – юрыст, адзін з лідараў беларускай каталіцкай моладзі, і адзін з трох першых сустаршыняў адноўленай БХД.

Мікалай Арцюхоў нарадзіўся 22 траўня 1979 г. ў Мінску ў сям'і рабочых Мікалая і Галіны Арцюховых. У дзяцінстве сям'ёй часта бываў у вёсцы Макашы Нясвіжскага раёна ў бацькоў па маці Фаіны і Юзэфа Буко. Пабожны дзед Юзэф навучаў ўнукаў малітвам, рэлігіі.

З 1986 года па 1996 год Мікалай вучыўся ў школе № 144 Мінска, дзе ўдзельнічаў у алімпіядах, прымаў актыўны ўдзел у школьным жыцці. Скончыў школу з срэбным медалём.

У 15 год перажыў пакаянне, прыняў Ісуса як свайго Збавіцеля, чытаючы Евангелле, атрыманае ад маці. У 1995 пачаў актыўна хадзіць у касцёл св.Роха, што на Залатой горцы ў Мінску, наведваць моладзевыя спатканні, евангельскія курсы ў Воршы, спяваць у касцёльным хоры.

Працоўную дзейнасць пачаў ў 1996 году з летніх падпрацовак. У войску не служыў праз дрэнны зрок. У 1996 паступіў у Міжнародны гуманітарна-эканамічны інстытут на юрфак. У гэты ж час, дзякуючы акцыі газеты “Наша Ніва” “Дзень без чужога слова” перайшоў на беларускую мову зносін. У гэтыя гады актыўна прасоўваў у касцёле стварэнне “Згуртавання маладых каталікоў” (ЗМК), якое заангажоўвала б каталіцкую моладзь да актыўнай грамадскай пазіцыі, стварыў сайт zmk, які пазней дарос да форума (zmk-by.net), спрабаваў рабіць у касцелах хрысціянскія дыскатэкі.

У 1999 стаў памочнікам дэпутата Палаты прадстаўнікоў. У 2001 разам з хорам “Залатая горка” Мікалаем быў запісаны калядны альбом “Святая ноч”. У 2002 разам з арганісткай касцёла св.Роха Вольгай Паўлоўскай была запісаная анталогія “Беларускія калыханкі”, аздобленая нотным спеўнікам, які выйшаў з падтрымкай створанага у гэтым жа годзе Мікалаем і яго сябрамі моладзевага грамадскага аб'яднання “Хаўрус сяброў”. Удзельнічаў у нямецкім хрысціянскім экуменічным праекце “Фрыдэнсгрунт” ў Занарачы, дзе пасябраваў з грэка-каталікамі з Львова з хора “Солі Дэо”; пачаў

дапамагаць у касцёле з Пілігрымкамі даверу Тэзэ на Еўрапейскія спатканні моладзі.

У 2003-2004 гадах сумесна з Аляксеем Шэіным і Паўлам Севярынцам Мікалай Арцюхоў вырашае стварыць хрысціянска-дэмакратычную партыю. Менавіта Мікалай Арцюхоў арандаваў канферэнц-залю ў менскім гатэлі “Планета”, дзе 18 снежня 2004 года на сустрэчы заснавальнікаў было прынята рашэнне аднавіць БХД.

У мэтах папулярызацыі хрысціянска-дэмакратычных ідэй Мікалай Арцюхоў ў 2003 годзе балатаваўся ў Мінгарсавет як беларускі хрысціянскі дэмакрат, за што быў пазбаўлены дэпутатам статусу памочніка.

У межах МГА “Хаурус сяброў” у гэтыя гады праводзіў дзіцячы конкурс малюнку (2003), семінары па гісторыі хрысціянскай дэмакратыі (2004) з распаўсюдам брашур, выдавалі газету (2003-2004).

Працуючы юрыстам на ТАА “ОМА”, пасля адмовы ад “бяседы” са спецслужбоўцам быў звольнены. Таксама пазней, працуючы рэгістратарам мінскага Гарадскога агенства па нерухомасці і зямельнаму кадастру праз намесніка дырэктара быў звольнены у 2006 годзе за ужыванне беларускай мовы ў размовах з кліентамі.

У 2008 вылучаўся як хадэк у Палату прадстаўнікоў па Нясвіжскай акрузе. Працаваў юрыстам, рэгістратарам нерухомасці. З 2009 па 2015 год – сябра Нацыянальнай Рады БХД.

З 2011 года адышоў ад актыўнага удзелу ў палітычным жыцці краіны, працаваў юрыстам. Разам з партнёрамі у 2013 заснаваў транспартную кампанію “Трансфілд”, а ў 2015 – друкарню “Капірфілд”. З 2014 працуе вартаўнікам ў вёсцы, разам з братам займаецца будовай і упарадкаваннем сядзібы на бацькоўскім надзеле у вёсцы Макашы.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## МІКАЛАЙ БАЎСЮК

Мікалай Іосіфавіч Баўсюк – стваральнік і шматгадовы кіраўнік Гарадзенскай абласной арганізацыі БХД.

Мікалай Баўсюк нарадзіўся 5 сакавіка 1950 года ў вёсцы Капцёўка Гарадзенскага раёна. Скончыў Гарадзенскі сельскагаспадарчы інстытут, па спецыяльнасці – аграном.

1967-1972 гг. – вучоба у Гарадзенскім сельскагаспадарчым інстытуце. 1972-1993 гг. – праца ў калгасе “Праўда” Мастоўскага раёна Гарадзенскай вобласці, затым у калгасе “Капцёўскі” Гарадзенскага раёна аграномам-агароднінаводам, аграномам-насенневодам, загадчыкам вытворчага участка, аграномам і загадчыкам цяпліцы на Заводзе такарных патронаў (Гародня).

1993-1995 – сакратар-памочнік народнага дэпутата Рэспу-блікі Беларусь Міколы Маркевіча. З 1989 па 2002 гг. – сябра партыі Беларускага Народнага Фронту, на працягу 9 гадоў узначальваў Гарадзенскую абласную арганізацыю БНФ. Быў арганізатарам абласной суполкі БНФ “Адраджэнне”. На яго ініцыятыву былі створаны арганізацыі БНФ ва ўсіх раёнах Гарадзенскай вобласці.

У 1999 г., калі Вярхоўны Савет быў распушчаны, частка апазіцыі аб’явіла выбары прэзідэнта РБ. У выбарах удзельнічалі многія партыі і грамадскія арганізацыі Беларусі, у тым ліку ў Гарадзенскай вобласці. Мікола Баўсюк был абраны старшынём Абласной камісіі па выбарах Прэзідэнта РБ. Пад яго кіраўніцтвам былі створаныя ўсе раённыя камісіі па выбарах прэзідэнта РБ. У той самы час Мікола дапамагаў Юрыю Захаранку ў стварэнні Беларускага Згуртавання Афіцэраў.

Падчас прэзідэнцкіх выбараў у 2001 годзе Мікола Баўсюк у камандзе адзінага кандыдата ад апазіцыі Уладзімера Ганчарыка быў адказным за друкаваную агітацыю кандыдата па Гарадзенскай вобласці.

У 2004-2008 Мікалай Баўсюк жыў у Швецыі, сачыў за сітуацыяй у Беларусі. У 2008-ым вярнуўся і далучыўся да БХД, таму што быў добра знаёмы з Паўлам Севярынцам і яму, як веруючаму чалавеку, імпанавалі мэты і каштоўнасці гэтай партыі.

З канца 2008 года – заснавальнік Гарадзенскай абласной арганізацыі БХД і сябра Нацыянальнай Рады БХД. На працягу 2008-2010 года суполкі БХД былі створаныя ў большасці раёнаў вобласці. У 2011-2016 гадах – арганізатар кампаніяў БХД па Гарадзенскай вобласці і Гародні, каардынатар ініцыятывы "Народны кантроль" па Гарадзеншчыне, адзін з распрацоўшчыкаў раздзелу Праграмы БХД у галіне сельскай гаспадаркі.

Жанаты, мае дваіх дзяцей і чатырох унукаў.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ІВАН БЕДКА

Іван Бедка – кіраўнік Слонім-скай раённай арганізацыі БХД, з 2009 года – сябра Нацыянальнай рады партыі.

Бядко (Бетко) Іван Сямёнавіч, праваслаўны хрысціянін, нарадзіўся 10 снежня 1949 года ў вёсцы Шылавічы Слонімскага раёна, Гарадзенскай вобласці, у сялянскай сям'і. Бацька Бетко Сямён Андрэевіч ваяваў на фронце другой сусветнай вайны, мае ўзнагароды. Маці Ганна Сцяпанаўна працавала ў калгасе, гадавала дзяцей, у сям'і іх было пяцёра. Дзяцінства праходзіла ў вёсцы Шылавічы на рацэ Шчара. Дзяцінства было нялёгкім, даводзілася шмат працаваць, каб выжыць. Працавалі ў калгасе "Маладая Гвардыя" на палявых работах: Іван баранаваў, праполваў, асыпаў бульбу. Працаваў на сенакосе, на ўборцы саломы, бульбы. Давялося зарабляць на жыццё, пасучы статак кароў. Дапамагаў бацькам па гаспадарцы, на гародзе, нарыхтоўваў дроў на зіму.

Навучаўся ў Шылавіцкай васьмігодцы. У дзяцінстве чытаў шмат кніг. Сярэднюю школу скончыў у Альбярціне. У 1968 годзе прызваны ў армію. Службу праходзіў у групе савецкіх войск у Германіі. Прымусілі браць удзел у чэхаславацкіх падзеях у 1968 годзе. Дзякуй Богу, зброю прымяняць не давялося. У 1970 годзе звольнены ў запас у званні старэйшага сяржанта.

Паступіў навучацца ў Слонімскае медвучылішча па спецыяльнасці фельчар. Выступаў за вучылішча ў камандзе па стральбе з малакаліберкі. У 1973 годзе скончыў Слонімскае медвучылішча. Накіравалі працаваць на Старынянскі ФАП у Мастоўскі раён. Пасля быў пераведзены ў Курылавіцкую ўчастковую бальніцу. У 1977 годзе ажаніўся. У 1982 годзе перайшоў працаваць у наркалагічны кабінет Слонімскай ЦРБ. У 1989 годзе прайшоў курсы: навучаўся па методыцы Г. А. Шычко пазбаўлення шкодных звычак. Сам пазбавіўся шкодных звычак. Праводзіў работу з пацыентамі па пазбаўленні ад шкодных звычак – алкагольнай, наркатычнай і тытунёвай залежнасці.

Да палітычнай дзейнасці далучыўся ў 1992 годзе, асэнсаваўшы, што жыццё трэба мяняць да лепшага. Уступіў у БНФ. Праводзіў

актыўную работу сярод насельніцтва. Быў кіраўніком штабоў апазіцыйных кандыдатаў у прэзідэнты РБ у Слоніме. Браў удзел у апазіцыйных форумах. За актыўную грамадскую дзейнасць шмат разоў прыцягваўся да адміністратыўнай адказнасці. Выклікаўся ў КДБ для размовы. Быў кіраўніком БНФ у Слоніме.

Сумесна з Г. Маскаўчуком Іван Бедка абраніў ад вынішчэння лес, зялёную зону каля свайго мікрараёна. У 2009 годзе за выкрыццё фальсіфікацыяў на выбары ў Палату на бальнічным участку, на другі дзень у аддзеле кадраў ЦРБ Івану Сямёнавічу ўручылі паведамленне аб разрыве кантракту, аб звальненні. Пасля распаду БНФ, у 2009 годзе перайшоў у БХД. З'яўляецца каардынатарам партыі БХД у Слоніме і раёне. Адсядзеў на Акрэсціна 15 сутак за Плошчу 2010 года.

Арганізоўвае ў Слоніме сацыяльныя кампаніі. За кампанію "Найперш працоўныя месцы, потым дэкрэт аб дармаедстве" быў звольнены з працы.

Праводзіць работу сярод насельніцтва, даносіць ідэі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі да людзей, каб пабудаваць у Слоніме грамадзянскую супольнасць, якая зможа адстойваць свае інтарэсы, вырашаць свае праблемы. Выгадаваў дачку і сына, мае трох унукаў. Пабудаваў дом. Пасадзіў шмат дрэваў. Зараз на пенсіі. Працуе на лецішчы. Хобі – робіць кошыкі: навучыўся ў дзяцінстве, калі пасвіў кароваў.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## АНДРЭЙ ГАЙДУКОЎ

Андрэй Гайдукоў – палітычны вязень, маладзёвы лідар, кіраўнік БХД Наваполацка, супрацоўнік хрысціянскага інфармацыйнага парталу “Крыніца.інфа”.

Андрэй Віктаравіч Гайдукоў нарадзіўся 21 кастрычніка 1989 года ў Наваполацку Віцебскай вобласці. У 2008 годзе скончыў Наваполацкі дзяржаўны ліцэй нафтахіміі і паступіў на завочнае аддзяленне Полацкага дзяржаўнага універсітэта (УА “ПДУ”), інжынерна-тэхналагічны факультэт, спецыяльнасць “інжынер-хімік-тэхнолаг”. Да арышту паралельна з вучобай працаваў у ААТ “Нафтан”. З 2016 года – ІП па інфармацыйна-рэкламных тэхналогіях.

У грамадскай і палітычнай дзейнасці з 2010 года, за гэты перыяд неаднаразова атрымліваў пагрозы ад КДБ на працоўным месцы і ва ўніверсітэце. У 2012 годзе падышоў да стварэння міжнароднай моладзевай арганізацыі. За 3 дні да ўстаноўчай канферэнцыі арганізацыі быў арыштаваны контрвыведкай КДБ РБ.

8 лістапада 2012 года Андрэю былі прад'яўленыя абвінавачванні па ч.1 арт. 14 і ч.1 арт. 3561 КК Рэспублікі Беларусь (замах на ўсталяванне супрацоўніцтва на канфідэнцыйнай аснове са спецыяльным органам замежнай дзяржавы без прыкмет здрады дзяржаве, да 2 гадоў пазбаўлення волі). Праз 3 дні падлягаў вызваленню, але СУ УКДБ па Віцебскай вобласці прад'яўляе новыя абвінавачванні ўжо ў здрадзе дзяржаве па ч.1 арт. 14 і ч.1 арт. 356 КК РБ (ад 7 да 15 гадоў пазбаўлення волі) у сферы пагрозы нацыянальнай бяспекі. “Экспертная камісія” ўстанавіла факт пагрозы нацыянальнай бяспецы: “...навязванне Рэспубліцы Беларусь палітычнага курсу, які не адказвае яе нацыянальным інтарэсам, ўмяшанне звонку ва ўнутрыпалітычныя працэсы; страта знешніх рынкаў, у тым ліку ў выніку дыскрымінацыі беларускіх вытворцаў; зніжэнне ўзроўню дабрабыту і якасці жыцця насельніцтва. Характар магчымай шкоды можа выяўляцца ў дэстабілізацыі сацыяльна-палітычнай сітуацыі і недаатрыманых фінансавых сродкаў у бюджэт дзяржавы”.

6 месяцаў правёў у СІЗА КДБ, 4 месяцы ў СІЗА-2 Віцебскай вобласці, 8 месяцаў у ПК-19 і ПК-3, за перыяд следства і пасля прайшоў усе інстанцыі абскарджання і затрымання да самага вынясення прысуду. Абвінавачанне ў "здрадзе дзяржаве" развалілася нават у закрытым судовым паседжанні беларускага суда і было перакваліфікавана на першаснае па ч.1 арт. 14 і ч.1 арт. 356 КК РБ. Згодна пленуму Вярхоўнага суда РБ падлягаў вызваленню ў зале суда (на момант суда адбыў 10 месяцаў у турмах), але 1 ліпеня 2013 года Віцебскі абласны суд вынес прысуд 1 год і 6 месяцаў пазбаўлення волі.

У дзень вынясення прысуду Камітэтам праваабарончых арганізацый быў прызнаны палітычным зняволеным. Выйшаў на волю па заканчэнні тэрміну пазбаўлення волі 8 мая 2014 года, вызваленне ператварылася ў цэлую спецаперацыю – з мэтай зрыву ўрачыстай сустрэчы каля калоніі, якую рыхтавалі палітыкі, грамадскія дзеячы, сваякі, сябры і журналісты.

Пасля вызвалення з 2014 года стаў прымаць актыўны ўдзел у працы Аргкамітэта партыі БХД. У 2015 годзе быў абраны кіраўніком Наваполацкай гарадской арганізацыі БХД. Праводзіў акцыі, арганізоўваў мерапрыемствы і каардынаваў дэмакратычныя сілы Наваполацка з мэтай вяртання Беларусі на шлях прававой дзяржавы.

Неаднаразова затрымліваўся, падвяргаўся штрафам і арыштам за дзейнасць у складзе БХД. Развіваў у камандзе хрысціянскага інфармацыйнага парталу "Крыніца.інфа" працу ў сацыяльных сетках, збіраў семінары для журналістаў-хрысціянаў.

*Паводле аўтабіяграфіі*

## ВІКТАР ГАРБАЧЭЎСКІ



Віктар Гарбачэўскі – эканаміст, прадпрымальнік, дыякан царквы, З 2016-га года – кіраўнік Берасцейскай абласной арганізацыі БХД і сябра Управы БХД.

Гарбачэўскі Віктар Віктаравіч нарадзіўся 28.11.1974 ў г.Рагачове, Гомельскай вобласці, у сям'і эканаміста і настаўніцы.

У 1996 г скончыў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт лёгкай прамысловасці па спецыяльнасці эканоміка і кіраванне прадпрыемствам.

У 1997-2002 гг працаваў эканамістам у ААТ "Кобрынская швейная фірма Лона". У 2002-2005 гг – эканамістам ТАА "Амега-сэрвіс". У 2005-2008 гг працаваў спецыялістам па збыце СП "ПП Палессе". У 2008-2012 – працаваў начальнікам планава-эканамічнага аддзела ААТ "Кобрынаграмаш", а у 2012-2013 – начальнікам аддзела маркетынгу ААТ "Кобрынаграмаш".

У траўні 2008 г скончыў Духоўную навучальную ўстанову «Біблейскі каледж» Аб'яднання хрысціянаў поўнага Евангелля з прысваеннем кваліфікацыі служыцель царквы і місіянер.

Дыякан царквы "Воля Ісуса" горада Жабінка.

Ажаніўся 04.11.1994 г, жонка Гарбачоўская Святлана Віктараўна, двое дзяцей – Барыс (31.12.1995) і Маша (03.05.2001).

З 1996 г. пражывае ў г. Кобрыне.

У 2013 годзе далучыўся да Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, сябра Рады Кобрынскай гарадской арганізацыі БХД. У 2015-ым абраны кіраўніком Берасцейскай абласной арганізацыі БХД, у 2016-ым – кіраўніком Эканамічнай камісіі БХД і сябрам Управы БХД.

Сябра Рады прафсаюза прадпрымальнікаў "Салідарнасць".

*Паводле аўтабіяграфіі*



## МАКСІМ ГАЦАК

Максім Гацак – прэс-сакратар БХД, з 2011 года – сябра Нацыянальнай Рады БХД, з 2014 года – сябра Управы БХД, галоўны рэдактар хрысціянскага інфармацыйнага парталу Krynica.info, у 2014-2016 гадах – старшыня Супольнасці хрысціянскіх журналістаў і блогераў, з 2015 года – намеснік старшыні "Хрысціянска-дэмакратычнага руху".

Максім Гацак нарадзіўся 14 студзеня 1988 года ў Бабруйску ў сям'і рабочага Віктара Гацака і медсястры Наталлі з Сідаровічаў Гацак. У 1994-2003 гадах навучаўся ў Славянскай гімназіі Бабруйску, у 2003-2005 – у Ліцэі БДУ ў Менску, у 2005-2010 гадах – на Факультэце міжнародных бізнес-камунікацыяў БДЭУ, 2010-2014 гадах - у Беларускім калегіюме. У 2003-2005 гадах – прызёр рэспубліканскіх алімпіяд па гісторыі, ад 2006 удзельнічаў у гульнях па "Што? Дзе? Калі?" ў складзе каманды БДЭУ "Утечка мозгов". У 2015 годзе пераможца "Першага Беларускага Інтэлектуальнага фестывалю" ў складзе каманды "Тапінамбур".

У журналістыцы з 2010 года, супрацоўнічаў з беларускімі інтэрнэт-парталамі Telegraf.by, БДГonline, Katolik.ru, нарвежскім Dagbladet.no, вугорскай Nemzetisport.hu, асобныя матэрыялы публікаваліся ў часопісе "Человек и Закон", газетах "Народная воля", "Наша Ніва", "Свободные новости+", "Коммерческий курьер", "Бабруйскае жыццё" і іншых. У 2010-2011 гадах стваральнік і рэдактар сайту бабруйскай каталіцкай парафіі Беззаганнага зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі, у 2011-2014 гадах – уласны карэспандэнт з Мінску часопісу літоўскіх хрысціянскіх дэмакратаў Apžvalga.

У 2014 годзе адзін са стваральнікаў хрысціянскага інфармацыйнага парталу KRYNICA.INFO, з лютага 2016 года – галоўны рэдактар.

У 2006-2007 гадах заснавальнік і кіраўнік студэнцкай Беларускай нацыяналістычнай суполкі "Назва" ў межах БДЭУ, рэдактар яе бюлетэню "Źnič". У 2008-2010 гадах супрацоўнічаў з Кансерватыўна-хрысціянскай партыяй-БНФ. 20 снежня 2010 года

даслаў заяву на далучэнне да аргкамітэту па стварэнні партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя". З сакавіка 2011 года – прэс-сакратар БХД, са снежня 2011 года – сябар Нацыянальнай Рады БХД, з сакавіка 2014 года – сябар управы БХД. У 2012-2013 гадах і з 2016 года сябар Нацыянальнай Рады аргкамітэту па стварэнні ГА "Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты".

З лістапада 2011 года сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў, з красавіка 2015 года - сябар Рады БАЖ. У 2014-2016 гадах кіраўнік грамадзянскай ініцыятывы "Супольнасць хрысціянскіх журналістаў і блогераў", з 2016 года – намеснік кіраўніка. З лістапада 2015 года намеснік старшыні аргкамітэту па стварэнні РГА "Хрысціянска-дэмакратычны рух". Ініцыятар заснавання ў Каталіцкім Касцёле Беларусі душпастырства журналістаў-каталікоў.

Сябар Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (з 2010 года) і аргкамітэту па стварэнні ГА "Краёвае згуртаванне літвінаў" (з 2014 года).

Прамоўца БХД падчас мясцовай кампаніі 2014 года і парламенцкай кампаніі 2016 года. Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2015 года сябар ініцыятыўных груп прэтэндэнтаў у прэзідэнты Анатоля Лябедзькі і Мікалая Статкевіча.

Жонка – фатограф Надзея са Стральцовых Гацак (нарадзілася 26 снежня 1986, Менск). Трое дзяцей.

*Паводле аўтабіяграфіі*

## ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ



Зміцер Дашкевіч – з 2005 года лідар найбуйнейшага дэмакратычнага маладзёвага руху ў Беларусі, Маладога Фронту, грунтаванага на нацыянальнай ідэі і хрысціянскіх прынцыпах. Сябра аргкамітэту БХД, публіцыст і вязень сумлення.

Нарадзіўся Зміцер Дашкевіч 20 ліпеня 1981 года ў вёсцы Кушнеры Івацэвіцкага раёна Берасцейскай вобласці, ад нараджэння да 6 гадоў жыў з сям'ёй у паселішчы Ягаднае каля Магадану, затым – у Старых Дарогах Мінскай вобласці.

Скончыў старадарожскую сярэднюю школу №2, факультэт славістыкі Віленскага педагагічнага ўніверсітэта.

У 2001 годзе прыйшоў у Малады Фронт, у 2003 годзе ўзначаліў ва Ўправе МФ аддзел масавых акцыяў, у 2004 годзе – Менскую гарадскую арганізацыю МФ. У 2005 годзе разам з Сержуком Бахуном абраны сустаршынём Маладога Фронту, у 2006-ым стаў старшынём МФ.

Як кіраўнік МФ Зміцер Дашкевіч прапанаваў праграму "Рэфармацыя Маладога Фронту", што надала хрысціянска-дэмакратычнай ідэалогіі МФ большай рашучасці і нават радыкалізму; зрабіў стаўку на вулічны пратэст, галадоўкі, рэкламу нацыянальнай сімволікі, арганізацыю медыйных кампаніяў.

16 верасня Дашкевіч быў арыштаваны, а 1 лістапада асуджаны на 1,5 гады пазбаўлення волі "за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі". На судзе Дашкевіча больш як 1500 чалавек падпісалі зварот да суда, дзе прызнаваліся ў "дзейнасці ад імя незарэгістраванай арганізацыі Малады Фронт". Адбываў пакаранне ў калоніі ў Шклове.

За дзень да Плошчы-2010, 18 снежня 2010 года ў выніку спецаперацыі Зміцер Дашкевіч быў арыштаваны і 24 сакавіка 2011 года асуджаны да 2-х гадоў пазбаўлення волі; затым тэрмін быў падоўжаны да 3-х гадоў. Новы тэрмін адбываў у розных калоніях і турмах: у Горках, Віцебску, Глыбокім, Мазыры, Гародні. Вызвалены 28 жніўня 2013 года. Па вызваленні ажаніўся з намесніцай старшыні

Маладога Фронту Настай Палажанкай. Напісаў кнігу турэмнай прозы, прасякнутую евангельскім зместам – “Чарвяк”.

Арганізатар дзясяткаў вулічных акцыяў і кампаніяў МФ, сярод якіх “Камунізм – пад трыбунал”, “Галадоўка-2008”, “Горад – наш!”, збору подпісаў за легалізацыю бел-чырвона-белага сцягу.

Вернік евангельскай царквы “Ян Прадвеснік”. Гадуе дачку Мару і сына Давіда.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ГЕОРГІЙ ДЗМІТРУК

Георгій Дзмітрук – з 2005 года сустаршыня БХД, арганізатар кампаніі "Стоп казіно", сябра Нацыянальнага аргкамітэту па святкаванні 500-годдзя беларускай Бібліі.

Дзмітрук Георгій Рамановіч, нарадзіўся 16 красавіка 1968 года. Беларус. Вырас у шматдзетнай сям'і (7 дзяцей) у Кобрыне. Маці - лекар-стаматолаг, бацька - цясляр. Бацькі былі заснавальнікамі і лідарамі пратэстанцкай грамады АЦ ХВЕ ў Кобрыне з 1956 года.

Да 1985 года Георгій вучыўся ў СШ № 7 Кобрына. Паспяхова скончыў Віцебскую медычную вучэльню па спецыяльнасці «зубны тэхнік». Быў накіраваны па размеркаванні ў зону, пацярпелую ад аварыі на ЧАЭС (Столін). У 1987-1989 гг. - тэрміновая служба ў войску ў Далёкаўсходняй вайсковай акрузе. Па вяртанні ў родны Кобрын працаваў у стаматалагічнай паліклініцы.

Скончыў у 2005 годзе Беларускі Дзяржаўны Эканамічны Універсітэт па спецыяльнасці "міжнародныя эканамічныя адносіны".

З 1992 года ўзначальваў знешнеэканамічны аддзел Міжрэгіянальнага вытворча-камерцыйнага аб'яднання "Авіпром". З 1993 па 2000 год працаваў генеральным дырэктарам вытворча-камерцыйнай фірмы ТАА "Амега". З 2001 года генеральны дырэктар ІП "Амега сэрвіс" карпарацыі "Текстайл Амега Інк". З 2006 года-дырэктар ІП «БелГихон Юнайтэд».

Старшыня Рэспубліканскага Грамадскага Аб'яднання "Хрысціянская Дзелавая Ініцыятыва". Чалец Савета грамадскіх аб'яднанняў хрысціянскіх бізнесменаў і прадпрымальнікаў "Еўрапартнёры" (Швейцарыя) http://www.europartners.org/ і "СВМС" (ЗША) https://www.cbmc.com/. Удзельнік эканамічных форумаў у Швецыі, Галандыі, Італіі, Германіі і інш.

З'яўляецца кіраўніком грамадзянскай ініцыятывы па правядзенні грамадскага мерапрыемства "Малітоўны сняданак у Беларусі", чальцом Нацыянальнага аргкамітэту па святкаванні 500-годдзя беларускай Бібліі (2017).

Прымаў актыўны ўдзел у выбарчых кампаніях ў Палату Прадстаўнікоў РБ ў 2000, 2004 і 2008 гадах. З 2004 года стаў весці

працу па стварэнні хрысціянскага палітычнага руху ў Рэспубліцы Беларусь.

18 снежня 2004 года ў Менску супольна з калегамі з евангельскіх цэркваў і маладафронтаўцамі пастанавіў аднавіць БХД. Заснавальнік і сустаршыня партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. У БХД адказны за працу з пратэстанцкімі цэрквамі, эканамічны блок партыі, Асацыяцыю хрысціянскіх дэмакратаў Усходняй Еўропы.

Арганізатар кампаніі БХД “Стоп казіно”. Кіраўнік БХД Кобрына. Куратар Брэсцкай абласной рады БХД.

Свабодна валодае ангельскай мовай. Дасведчаны кіраўнік. Грамадскі дзеяч. Публіцыст. Палітык.

Хрысціянін. Жанаты з 1991 года. Жонка Ірына займаецца хрысціянскай і грамадскай дзейнасцю. Маюць пяцёх дзяцей (трое з іх ужо ў шлюбе) і чатырох унукаў. Пражываюць у Кобрыне.

*Паводле аўтабіяграфіі*



# ТАІСІЯ КАБАНЧУК

Таісія Кабанчук – кіраўніца БХД Бабруйска, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі БХД.

Таісія Карпаўна Кабанчук нарадзілася 14.02.1954 года ў вёсцы Сяргеевічы Кіраўскага раена Магілёўскай вобласці. Тут нарадзіліся і бацькі: Міхалап Вольга Цімафееўна (1923-2003) і Міхалап Карп Пракопавіч (1917-1993). Абое з заможных сялянскіх сем'яў, за што і былі рэпрэсаваны іх бацькі, дзядулі і бабуля Таісіі Карпаўны.

Дзядуля, Баранчук Цімафей Іванавіч, быў сасланы у 1937 на будоўлю Беламора-Балтыйскага каналу, дзе і загінуў. А бабуля – Баранчук Улляна Фадзееўна – была асуджаная ў 1945 на 10 год турмы. Паводле яе словаў: ”За тое, што ў калгас не ўступіла і малілася Богу”. Яна была з вернікаў-катакомбнікаў. Адседзела у Бабруйскай турме восем гадоў. Апошнія 30 год свайго жыцця пражыла сляпой, прамаліўшыся Богу да апошняга дня. Другі дзед па бацьку, Міхалап Пракоп Барысавіч, быў таксама рэпрэсаваны і сасланы на Далёкі Ўсход, дзе і памёр ад цяжкай працы і хваробы. Бабулю Міхалап Феадосію Фамінічну ўлады не чапалі, бо на вайне, у1942-ім загінуў яе старэйшы сын Рыгор.

Бацьку Таісіі Карпаўны, Міхалапа Карпа Пракопавіча, удзельніка Фінскай вайны, забралі на фронт пасля вызвалення Бабруйшчыны ад немцаў. Пабраліся шлюбам бацькі ў пачатку вайны. Маці, цяжарную на восьмым месяцы, немцы забралі для работ у Германію.Там нарадзілася і праз паўгады памерла старэйшая сястра Ірына. Малодшая сястра Наталля жыве ў Менску і з'яўляецца Старшынёй Сеньёрскай арганізацыі БХД.

Па прафесіі Таісія Карпаўна – бібліятэкар. Ветэран працы. З 1973 года па 1981 працавала ва ўстановах культуры і адукацыі на любімай Магілёўшчыне. У 1981 годзе звольнілася з пасады загадчыцы прафсаюзнай бібліятэкі Бабруйскай фабрыкі “Славянка” і паехала са сваім мужам у Франкфурт-на-Одэры да яго месца службы. Там працавала 5 гадоў загадчыцай бібліятэкі у вайсковай частцы. З 1987 па 1998 год працавала у Бабруйскім аўтатранспартным каледжы старэйшым бібліятэкарам-бібліёграфам.

З мая 1998 па 2002 даглядала цётку, інваліда першай групы. За гэты час набыла спецыяльнасць бухгалтара і менеджара, зарэгістравала ІП “Дызайн-агенцтва”. Працавала да пенсіі ў розных галінах гаспадаркі. Зараз – пенсіянер.

Маці і бабуля - мае двох сыноў і трох унукаў.

Палітычная і грамадская дзейнасць пачалася пасля арышту у Менску старэйшага сына Вадзіма, маладафронтаўца, за ўдзел у вулічных пратэстных акцыях у 1997 годзе. Падчас паездак у Менск (для допытаў і передач сыну на “Валадарку”) пазнаёмілася з лідарам Маладога Фронту Паўлам Севярынцам, палітычнай і культурніцкай элітай Менску. На сядзібе БНФ першы раз паразмаўляла з В.Быкавым і атрымала ад яго кнігу “Сцяна” з аўтографам. З той пары стала больш пільна сачыць за палітычнымі падзеямі і прымаць удзел у мітынгах. У 1998г. стала сябрам сацыял-дэмакратычнай партыі, заснавальнікам ГА “Ветэраны Адраджэння”, актывісткай інфармацыйна-адукацыйнага цэнтра для жанчын “Надзея”.

У 2000 г. Таісія Кабанчук стварыла у Бабруйску першасную суполку БСДП. Пасля узначаліла Магілёўскую абласную арганізацыю БСДП і стала сябрам ЦК БСДП. У 2006 годзе, падчас прэзідэнцкай кампаніі, была даверанай асобай у кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна. У 2008 годзе выйшла з БСДП у знак нязгоды з пазбаўленнем старшынства Казуліна, які у той час сядзеў за кратамі.

У 2008 была зарэгістравана кандыдатам у Палату Прадстаўнікоў па Асіповіцкай выбарчай акрузе №89 як беспартыйная.

З 2009 – сябра Аргкамітэта па стварэнні БХД. Дэлегат усіх устаноўчых з’ездаў БХД. Сябра Нацыянальнай Рады. Старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі БХД.

У 2010г. – давераная асоба кандыдата у прэзідэнты Віталя Рымашэўскага, арганізатарка сустрэчаў БХД па Магілёўшчыне.

Таісія Карпаўна Кабанчук – адна з найбольш актыўных рэгіянальных лідараў БХД, удзельніца і арганізатарка партыйных кампаніяў на Магілёўшчыне, заснавальніца структураў БХД у Клічаве, Быхаве, Кіраўску, Асіповічах, Бялынічах, Ялізаве.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ВОЛЬГА КАВАЛЬКОВА

Вольга Кавалькова – кіраўніца менскай арганізацыі БХД з 2014 года, арганізатар паспяховых кампаніяў "У абарону жыцця" і "Абаронім нашых дзяцей ад алкагалізму", з 2015 года – лідар грамадскага "Хрысціянска-дэмакратычнага руху".

Кавалькова Вольга Аляксандраўна нарадзілася ў Менску ў сям'і рабочых 26 студзеня 1984 года.

Навучалася: у 1990-1999 гадах - у сярэдняй школе № 200 г. Мінска; у 1999-2002 – у Беларускім тэхнікуме бізнесу і права на юрыста; у 2002-2006 – у Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь на юрыста, у 2004-2005 – у Рэспубліканскім інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь на бухгалтара. Таксама асвоіла адукацыю: у рэкламным агенцтве "Артокс" – інтэрнэт-маркетолага, у ГУ "Жылкам" – кіраўніка нерухомай маёмасцю, ува Ўсходнееўрапейскай школе палітычных даследаванняў – палітолага.

У 2015 годзе стала адной з пераможцаў "Курсаў дыджэяў Адраджэння", арганізаваных БХД.

Працавала: у 2004 -2007 ва Ўпраўленні сацыяльнай абароны адміністрацыі Партызанскага раёна Мінска спецыялістам; у 2007 – 2008 у Адміністрацыі Савецкага раёна Мінска - галоўным спецыялістам аддзела жыллёвай палітыкі; у 2008 – 2011 - у Прыватным вытворча-будаўнічым унітарным прадпрыемстве "Аграматэх" – юрыстам; у 2009-2011 – у Жыллёва-будаўнічым спажывецкім кааперытыве № 791 ( "Каменная горка-5") - старшынёй праўлення, з 2012 - галоўным бухгалтарам, у 2011-2015 – у Жыллёва-будаўнічым спажывецкім кааперытыве № 977 ( "Каменная горка-3") – старшынёй праўлення, у 05.2011-2014 у "Інстытуце павышэння кваліфікацыі" лектарам курса павышэння кваліфікацыі па кадрах і жыллёвым заканадаўстве.

У лістападзе 2011 далучылася да партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя". З канца 2011 года – сябра Нацыянальнай рады партыі, з траўня 2014 г. – кіраўнік Мінскай

гарадской арганізацыі БХД, каардынатар кампаніі “У абарону жыцця”, “Абаронім нашых дзяцей ад алкаголю”, “За якасную медыцыну”.

У 2012-2013 – намеснік старшыні “Маладых хрысціянскіх дэмакратаў”.

У 2012-2014 падчас “Еўрапейскага дыялогу па мадэрнізацыі” з Беларуссю была сябрам працоўнай групы “Юстыцыя і ўнутраныя справы, у тым ліку праблемы мабільнасці, кантакты паміж людзьмі”.

У 2014 правяла кампанію як прамоўца БХД падчас “выбараў” Мінскага гарадскога савета дэпутатаў, а ў 2016 – Палаты прадстаўнікоў.

*Паводле аўтабіяграфіі.*



## ГАЛІНА КАРЖАНЕЎСКАЯ

Галіна Каржанеўская – паэт, драматург, публіцыст, у 2012-2014 гадах – старшыня Мінскай гарадской арганізацыі БХД, сябра Нацыянальнай рады БХД.

Каржанеўская Галіна Анатольеўна нарадзілася 27.08.1950 года ў в. Лясішча, што каля Слуцка, у сям'і аграномаў. Да шасці гадоў выхоўвалася ў бабулі з дзедам. Некаторы час маладая сям'я жыла ў в.Аксаміты на Капыльшчыне, а затым пераехала на новае месца працы бацькі – саўгас "Янушкавічы" Лагойскага раёна. Там у 1968 годзе з залатым медалём закончыла сярэднюю школу і паступіла на філфак БДУ імя Леніна (беларуская і руская мова і літаратура).

Пасля заканчэння ўніверсітэта працавала ў Янушкавіцкай СШ, потым у Плешчаніцкай СШ №1, дзе служыў у вайсковай часці муж. З 1980 года жыве ў Мінску.

Паэт, публіцыст, драматург. Сябра Саюза пісьменнікаў з 1976 года.

Вершы пачала пісаць са школы, друкавалася ў раённай газеце, у часопісе "Маладосць" і іншых рэспубліканскіх выданнях. Удзельнічала ў семінарах маладых паэтаў у Беларусі, ва ўсесаюзных фестывалях і святах паэзіі ў Вільнюсе, Кіеве, Тбілісі, Кішынёве, Ташкенце і гарадах Расіі.

Аўтар зборнікаў вершаў "На мове шчасця" (1972), "Мой сад" (1976), "Званы гадоў" (1980), "Жыла-была…" (1983), "Вечны водгук" (1988) "Невымоўнае" (1991), "Асенні мёд" (1999), "Вершаняты" (2005), а таксама некалькіх кніжак для дзяцей. Працавала ў жанры драматургіі: мае зборнікі п'ес "На сцэне дня" (2005), "Не можа быць" (2010) і некалькі пастаўленых дзіцячых п'ес на аматарскай і прафесійнай сцэне. Выдала аўтабіяграфічную кнігу "Што варта радасці і слёз" (2013). Друкавалася ў часопісе "Наша вера" і ў зборніках хрысціянскіх паэтаў.

Працавала рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, карэспандэнтам і загадчыкам аддзела крытыкі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" (1983-2000), загадвала цэнтрам беларускай драматургіі ў Інстытуце праблем культуры.

Узнагароджана знакам “Выдатнік друку”. Мае дзвюх дачок і двух унукаў.

Далучылася да БХД перад прэзідэнцкімі выбарамі 2010 года. Узначальвала Мінскую гарадскую арганізацыю (2012-2014), удзельнічае ў навучальных, культурніцкіх і экалагічных праектах, у рабоце сеньёрскай суполкі. Была назіральнікам на выбарах розных узроўняў.

*Паводле аўтабіяграфіі*



# ЮРЫЙ КЛІМОВІЧ

Юрый Рыгоравіч Клімовіч – сын аднаго з кіраўнікоў найбуйнейшага ў СССР Нарыльскага паўстання ў ГУЛАГу Рыгора Клімовіча, у 2010-2013 гадах кіраўнік Гомельскай гарадской арганізацыі БХД.

Нарадзіўся Юрый Клімовіч 2 мая 1961 года ў Гомелі. Адсюль, са Шляхецкай ваколіцы (дзе з 16 стагоддзя пасялілася вялікалітоўская шляхта Юрыя Радзівіла, што вызваляла Гомель ад войскаў цара Васіля ІІІ) быў родам і ягоны легендарны бацька, аўтар гімну вязняў ГУЛАГу "Ня страшны нам тыранствы бальшавізму" – пасля хрушчоўскай адлігі ён вярнуўся ў родныя мясціны.

Адукацыю Юрый атрымліваў у Гомельскім Дзяржаўным Універсітэце, скончыў яго ў 1982 годзе з дыпломам эканаміста. Доўгі час працаваў на Гомельскім заводзе вымяральных прыладаў. З перабудовай заняўся ўласным бізнэсам – стварыў прыватнае прадпрыемства і ўзначаліў яго.

Прыхільнік дэмакратыі і беларускага адраджэння, у 2009 годзе Юрый Клімовіч далучыўся да аргкамітэту Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, які ў Гомелі пачынаў Кастусь Жукоўскі – і ўлетку 2010 года ўзяў на сябе кіраванне гарадской арганізацыяй.

Падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010 года пад кіраўніцтвам Юрыя Клімовіча гомельскія хрысціянскія дэмакраты сабралі каля 10.000 подпісаў у падтрымку кандыдата ад БХД Віталя Рымашэўскага і зладзілі у Палацы Гомеля шматлюдную агітацыйную сустрэчу – каля 350 чалавек.

Юрый Клімовіч – аўтар праграмнай прапановы БХД пра барацьбу з карупцыяй ("Закон Лінкальна").

*Павел Севярынец*



## ЗМІЦЕР КУХЛЕЙ

Зміцер Кухлей – аналітык, палітолаг, навуковец, кіраўнік Інстытута дэмакратыі і сацыяльнага рынку, сябра Управы і Нацыянальнай рады БХД.

Нарадзіўся 21 лютага 1979 года ў г. Слонім (Гарадзенская вобласць). Неўзабаве сям'я пераехала ў г. Масты, дзе правёў сваё дзяцінства і юнацтва.

Актывіст, а затым і раённы кіраўнік у шэрагах Маладога фронту.

У 2007 годзе скончыў магістратуру ЕГУ (Вільня, Летува) па спецыяльнасці паліталогія, дэмакратыя і грамадзянская супольнасць. У 2009 годзе па сканчэнні магістратуры Нацыянальнай акадэміі кіравання (Кіеў, Украіна) атрымаў дыплом з адзнакай па спецыяльнасці міжнародная эканоміка. Навучаўся ў 2005-2006 г.г. на паслядыпломных курсах па спецыяльнасці «мясцовае самакіраванне» ў Вышэйшай школе дзяржаўнага кіравання імя Станіслава Сташыца ў Беластоку (Польшча). У 2001 годзе скончыў Баранавіцкі дзяржаўны вышэйшы педагагічны каледж, спецыяльнасць – настаўнік ангельскай мовы, расейскай мовы і літаратуры.

2007-2010 г.г. – дэпутат Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў.

Выпускнік Усходнееўрапейскай школы палітычных даследаванняў пры Радзе Еўропы. Удзельнік Летняга ўніверсітэта дэмакратыі ў Страсбургу 2009. Стажыраваўся ў Нямеччыне, Ангельшчыне, ЗША, Нарвегіі, Швецыі, Польшчы, Славаччыне, Чэхіі і Летуве.

Адзін з распрацоўшчыкаў праекта партыйнай праграмы БХД "Народная партыя з хрысціянскім сэрцам" (2015 г.). Арганізатар і распрацоўшчык праектаў шэрагу стратэгічных дакументаў, даследванняў, навучальных праграм і дапаможнікаў для актывістаў БХД у 2011-2016 г.г. Адзін з арганізатараў праекта хуткіх рэформаў "Урад для народа" у 2015 г.

З 2014 года – выканаўчы дырэктар Інстытута развіцця (дэмакратыі) і сацыяльнага рынку для Беларусі і Ўсходняй Еўропы (Вільня, Літва/Менск, Беларусь). З 2012 года – старэйшы аналітык Аналітычнага беларускага цэнтра (Вільня, Літва). Аналітык сайта

экспертнай супольнасці “Наше мнение” (Мінск, Беларусь) і Агенцтва сацыяльнай і палітычнай экспертызы.

Сталы аўтар зборніка аглядных і аналітычных матэрыялаў па развіцці сітуацыі ў Беларусі “Беларускі штогоднік”. Адзін з распрацоўшчыкаў праекту канцэпцыі рэфармавання сістэмы жыллёва-камунальнай гаспадаркі (2015) і аўтар стратэгічнага дакумента па адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформе Беларусі (2014). Эксперт беларуска-украінскага праекта “Новыя гарызонты: перспектывы беларуска-украінскіх адносінаў на міжнародным, міждзяржаўным і міжрэгіянальным узроўнях” (2009).

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ЗМІЦЕР ЛУПАЧ

Зміцер Лупач (Дзмітрый Антонавіч Лупач) нарадзіўся 23 снежня 1967 года ў вёсцы Завараты Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Бацька працаваў у калгасе трактарыстам, маці – тэхнічкай у Заварацкай школе. У 1974-1982 годзе вучыўся ў Заварацкай васьмігадовай школе. У 1982 годзе пайшоў вучыцца ў Глыбоцкую сярэднюю школу №1, якую закончыў у 1984 годзе. У 1981 годзе трагічна загінуў бацька, таму застаўся адзіным мужчынам у сям'і, у якой былі яшчэ мама, дзве малодшыя сястры і старая бабуля, бацькава маці.

Пасля заканчэння школы паступаў у Мінскі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, але не прайшоў камісію па зроку. Пасля няўдалага паступлення пайшоў працаваць палiяводам у мясцовы калгас "Герой працы". У 1985 годзе па накіраванню ваенкамата закончыў радыётэхнічную школу ў Віцебску, у гэтым жа годзе паступіў у Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію на спецыяльнасць "аграхімія і глебазнаўства" на завочнае аддзяленне.

У снежні 1986 года быў прызваны ў савецкае войска, службу праходзіў ва ўнутраных войсках спачатку ў Кіеве, потым у Харкаве. Там займеў шмат сяброў з заходняй Украіны, якія ў значнай ступені паўплывалі на светапогляд і далейшы лёс.

У лістападзе 1988 года быў звольнены ў запас і вярнуўся ў родную вёску. З лютага па жнівень 1989 года працаваў электрыкам у сваім калгасе. Летам гэтага года прачытаў інфармацыю пра Першы з'езд Беларускага народнага фронту "Адраджэнне", які адбыўся ў Вільні. Пабачыўшы сярод дэлегатаў імя Васіля Быкава, вырашыў, што гэта арганізацыя адпавядае і ягонаму светапогляду.

У верасні 1989 года пераехаў у вёску Хойна Пінскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе працаваў у агранамічнай службе калгаса імя Свярдлова да снежня 1991 года. У сакавіку 1991 года на рэферэндуме аб захаванні СССР дэманстратыўна прагаласаваў супраць саюза.

У снежні 1991 года вярнуўся ў сваю родную вёску Завараты. У 1992 годзе з адзнакай закончыў сельгасакадэмію. З 1993 па 1997 год працаваў начальнікам вытворчага ўчастка ў калгасе "Герой працы". Як сябра выбарчай камісіі Дзеркаўшчынскага выбарчага ўчастка

прымаў удзел у першых прэзідэнцкіх выбарах 1994 года. Дарэчы, у першым туры па гэтым участку Зянон Пазьняк набраў 51% галасоў, што Зміцер ў значнай ступені лічыць сваёй заслугай. Гэты вынік стаў падставай таго, што 25 верасня 1994 года Дзеркаўшчыну наведаў дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання Зянон Пазьняк, дзе ў мясцовым клубе ён правёў сустрэчу з выбаршчыкамі. У гэты ж дзень Зміцер уступіў у БНФ, сябрам якога быў да 2002 года.

Таксама як сябра выбарчай камісіі прымаў удзел у выбарах і рэферэндумах 1995 – 1996 гадоў. З-за сваёй пазіцыі ў 1997 годзе быў вымушаны звольніцца з працы. Жыў з працы на прысядзібным участку, а таксама некалькі разоў ездзіў на заробкі ў Польшчу, дзе працаваў электрыкам.

У 1999 годзе ўдзельнічаў у альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбарах, арганізаваных Віктарам Ганчаром, як намеснік кіраўніка раённай выбарчай камісіі. За гэта атрымаў сваё першае пракурорскае папярэджанне. З 2000 года стаў пісаць для газеты "Вольнае Глыбокае". У гэтым жа годзе атрымаў другое папярэджанне ад пракурора за заклік праз газету не ісці на датэрміновыя "выбары".

У 2008 годзе стаў сябрам Аргкамітэта па стварэнні Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Прымаў удзел у працы амаль усіх з’ездаў БХД.

З 2009 года стаў прафесійна займацца журналістыкай. Працаваў галоўным рэдактарам газеты "Прэфект-інфо", якая у 2013 годзе з-за ціску ўладаў спыніла свой выхад. Пасля закрыцця газеты працуе як журналіст-фрылансер. За час журналісцкай працы па рашэнню судовых і падаткавых органаў неаднаразова быў вымушаны плаціць штрафы.

У 2015 годзе зазнаў пераслед з боку КДБ, супрацоўнікі яго спрабавалі схіліць Змітра да супрацоўніцтва з імі. Але дзякуючы падтрымцы калегаў як з БХД, так і журналістаў гэтага ўдалося пазбегнуць.

Удзельнічаў ва ўсіх выбарчых кампаніях як зборшчык подпісаў, назіральнік, кандыдат.

Зміцер жанаты, мае дзвюх дачок і сына. Уся сям’я з’яўляецца сябрамі БХД.

*Паводле аўтабіяграфіі*



# ТАЦЦЯНА МАЛАШЧАНКА

Таццяна Малашчанка – кіраўніца баранавіцкай суполкі БХД з 2010 года, дамаглася стварэння адзінага беларускамоўнага класа на ўвесь горад, затым яшчэ аднаго.

Нарадзілася Таццяна Малашчанка ў горадзе Баранавічы 23.05.1968 г. Скончыла СШ №6 з залатым медалём. Навучалася ў Санкт-Пецярбургу і Менску ў гандлёва-эканамічных вышэйшых установах. Адукацыя вышэйшая. Працавала (як жонка вайсковага афіцэра) ў сакрэтным справаводстве бібліятэкаркай – тапаграфісткай у Валгаградскай вобласці РФ да 2003 года.

У Беларусі разам з мужам трымалі ўласны бізнэс – салон водаапрацоўкі “Вадзянік” да 2011г. Акрамя спецыяльнасцяў медсястры, мастака-афарміцеля, кіроўцы праходзіла падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў на прадпрымальніка, аператара ЭВМ. Зараз выхоўвае двох непаўнагадовых дзяцей.

Сябра партыі БХД з 2006 г. Сябра ТБМ імя Ф.Скарыны. Змагаецца за стварэнне беларускіх класаў у Баранавічах. З'яўляецца актыўнай слухачкай курсаў “Мова нанова”, валанцёрскіх курсаў па вывучэнні некалькі еўрапейскіх моваў. Удзельніца неакатэхуменічнага шляху “Missio ad gentes”.

У 2010 годзе намаганнямі сям’і Малашчанкаў быў адкрыты першы ”З” беларускамоўны клас у СШ №14, у якім навучаліся 3 дзяўчынкі. У 2014 годзе, аддаўшы дзіця ў цэнтральную гімназію №4 г.Баранавічы, пачалі змаганне за навучанне на роднай мове ў 5 класе. Цэлы год ліставаліся з дзяржаўнымі структурамі, дайшлі да суда, нагадваючы пра свае правы і чыноўнікам пра іх абавязкі.

Пасля асабістай сустрэчы ў міністэрстве адукацыі падчас прэзідэнцкіх выбараў старшыня Баранавіцкага выканкаму Грамакоўскі прыняў рашэнне адчыніць з другой чвэрці (з лістапада 2015 года) беларускамоўны 6 “Д” клас. Спачатку для дзвюх дзяўчынак, пасля дадаўся яшчэ адзін вучань.

Падчас кампаніі 2016 года Таццяна Малашчанка вылучалася ў “дэпутаты” Палаты прадстаўнікоў, каб збіраць подпісы для змены

“Закона аб мовах”, прыняцця закона ў падтрымку беларускай мовы, культуры, вяртання гістарычнай праўды і пераназваў вуліцаў.

*Паводле аўтабіяграфіі.*



## АНДРЭЙ МЕЛЬНІКАЎ

Нарадзіўся я 24 лістапада 1965 года ў цэнтры Гомеля, у яго гарадскім раддоме – будынку, які сваім фасадам глядзіць на вуліцу Савецкую і Піянерскі сквер, дзе, па чутках, жонка маскоўскага мэра Лужкова Алена Батурына меркавала зрабіць казіно. Адзінай суседкай маёй маці па палаце была Рыма Шошына, якая праз некалькі дзён пасля мяне нарадзіла сына Ігара, які стаў вядомым у свеце гітары выканаўцам, а таксама арганізатарам штогадовага гомельскага фестываля “Рэнесанс гітары”.

Бацька мой паходзіў з нашчадкаў казакоў-старавераў, якія апынуліся ў Беларусі прыкладна ў маладыя гады імперскай сталіцы Санкт-Пецярбурга і праз шмат пакаленняў зрабіліся тут хто дваранамі, хто сялянамі, і пераважна праваслаўнымі. Моцны і разгалінаваны род аказаўся, ды нажаль, несалідарны ў зносінах міжсобку – тут, пры даследванні радавога дрэва можна шмат каго і дзе знайсці. Галіна роду Мельнікавых, з якіх паходзіць мой бацька, у другой палове XIX стагоддзя апынулася ў Рагачоўскім раёне, і ў маім пасведчанні аб нараджэнні запісана, што ў Рагачоўскім раёне ў вёсцы Доўск я і нарадзіўся. Насамрэч, у Доўск я патрапіў ужо ў тыднёвым узросце і правёў там наступныя крыху меней за чатыры года жыцця, пасля чаго нашая сям’я, па службовых справах бацькі перабралася ў Воршу. А ў Доўску мы жылі ў былым будынку XVIII стагоддзя Екацярынінскай паштовай станцыі, які і цяпер сваім фасадам выходзіць на аўтамабільнае кола і ў якім, па версіі пісьменніка Чакоўскага, у 1941 годзе быў арыштаваны НКВД бядотны савецкі военачальнік генерал арміі Паўлаў.

Маці мая паходзіць з Пензенскай вобласці. У Рагачоўскі раён патрапіла пасля інстытута і размеркавання. Тут і пазнаёмілася з маім бацькам і ўступіла з ім у шлюб. А пасля ў іх нарадзіліся мой старэйшы брат і я.

З канца жніўня 1969 года ў XX стагоддзі маё жыццё было звязанае пераважна з Воршаю. Там мы жылі першыя паўгады ў Офісна-барачным будынку ДЭУ-737 праз дарогу ад помніка “Кацюшам”, затым перабраліся ў службовы дом па вуліцы Горацкай, які бацька

марыў выкупіць і ўвёсну 1990-га нарэшце выкупіў у дзяржавы; за паўгады да ўласнай смерці.

Беларусь, Хрысціянства і Дэмакратыя ўвайшлі ў маё жыццё паступова і ў розным узросце. Напачатку Беларусь, якая была звязаная, наколькі памятаю, у маім уяўленні з партызанскім мінулым бацькі, касманаўтамі Клімуком і Кавалёнкам, “Песнярамі”, Васілём Быкавым, газэтай “Физкультурник Белоруссии» і спортам, а ў ім, перадусім, з футбольнымі камандамі мінскага “Дынама” ды магілёўскага “Дняпра”.

Хрысціянства для мяне пачалося ў дзяцінстве з малітваў бабулі і “Забавной Библии” Леа Таксіля, а ўжо ў сталым узросце працягнулася праз “Новый завет” выдавецтва Кіеўска-Пячэрскай лаўры, прысвоены мною ў Светлагорску, пратэстанскі фільм пра Ісуса Хрыста, гледжаны на кватэры братоў Дзямідчыкаў у Воршы годзе прыкладна ў 1988-ым, кароткім знаёмствам у 1989-га з Міхасём Арэшкавым – праваслаўным хрысціянінам, пацярпелым на Курапатах, доўгія размовы ў тым жа 1989-ым з айцом Віктарам Радамысльскім – будучым народным дэпутатам ад апазіцыі і цяперашнім духаўніком Аляксандра-Неўскай Лаўры. Айцец Віктар тады напачатку агітаваў мяне да паступлення ў Жыровіцкую семінарыю, бо я і так пасля вяселля каханай збіраўся ў манастыр, але затым вынес дыягназ, што я пратэстант па духу і мне няма чаго рабіць у праваслаўі. Дыягназ я тады ўспрыняў надта сур’ёзна і наступныя амаль дзесяць гадоў пражыў на адлегласці і ад праваслаўных і ад навязлівых, на маё тагачаснае бачанне, пратэстантаў.

Сяброўства з мастаком Алесем Пушкіным, з якім мы пазнаёміліся ў 1991-ым, а пасябравалі, бадай, у 1998м і ягонае ненавязлівае, але паслядоўнае хрысціянскае місіянерства, прывяло мяне ў маі 1999-га да рашэння ахрысціцца. Падзея, паводле сцэнара Пушкіна, адбылася на Тройцу 30 мая 1999-га ў Бабры, я прыняў хрост у Свята-Мікольскім храме, збудаваным на народныя грошы і распісаным Алесем фрэскамі безганарарна. Таінства ачольваў настаяцель храма айцец Віктар Белацаркоўскі, а працягнуў у рэчцы Бобр на той час дзеяч пратэстантызму Мікола Аляхновіч. Тады я лічыў дзень свайго хросту самым шчаслівым у маім жыцці, а назаўтра давялося дазнацца пра вячэрнюю трагедыю на Нямізе (калі загінула больш за паўсотні асобаў, пераважна дзяўчатаў, у падземным пераходзе), а шчэ праз

гады адчуць і сваю за яе долю адказнасці, бо насамрэч да хросту амаль і не рыхтаваўся, падышоў неахайна… Неахайна сееш – атрымаеш дзесьці вынік неахайнасці…

Дэмакратыю я абмазгоўваў доўга і ставіўся да яе кантраверсійна ажно да гадоў 40 з капейкамі, пакуль у сацыяльнай канцэпцыі РПЦ не знайшоў тлумачэнне, якое паставіла дэмакратыю на належнае месца ў маім унутраным свеце: дэмас у Святым Пісьме – народ Божы, астатнія народы там – этнасы. Для тых хто ходзіць пад Богам – дэмакратыя рэч натуральная і перспектыўная, бяз Бога – яна ператвараецца ва ўладу дэманаў…

Да ідэі адраджэння Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі я доўгія гады ставіўся скептычна. Скептычна ставіўся да яе і калі напрыканцы 2006-га нечакана для сябе рашэннем пэўных знаёмцаў апынуўся ў складзе яе Аргкамітэту. Больш таго, мяне такое ўключэнне без маёй асабістай ініцыятывы абурыла. Але ад выхаду ўтрымаў момант цуду: пасля паездкі ў Жыровіцы з братамі і сёстрамі, якія таксама былі ў Аргкамітэце, за ноч на тагачасным мінскім офісе БХД ля станцыі метро “Пушкінская” да мяне прыйшлі две сымпатычныя мелодыі да вершаў Зніча – тады брата Мікалая (Бембеля). Ужо дастаткова вопытны ў партыйным жыцці (БНФ, “Зялёны мір”, “Грамада” Статкевіча) я адчуў унутры БХД Божую прысутнасць і апеку…

І цяпер, ад выхаду з БХД (сяброўства ў якой, насамрэч, утварае шмат якіх тармазоў у нашай свецка-таталітарнай РБ) мяне ўтрымлівае тое ж самае: адчуванне Божай прысутнасці і Божай апекі ўнутры гэтай структуры. Дэзерціраваць ад Бога – подла і жахліва, “зваротнай дарогі няма” – як казала назва фільма, які я вельмі любіў у дзяцінстве. У БХД – мае сябры, браты і сёстры. Пры ўсіх нашых разнагалоссях, нас яднае Бог.

*Аўтабіяграфія.*



# ПАВЕЛ НАЗДРА

Павел Наздра – адзін з заснавальнікаў масавай партыі БХД, першы рэгіянальны каардынатар (Гомельская вобласць), арганізатар структураў БХД у Мазыры, Рэчыцы, Калінкавічах.

Наздра Павел Іванавіч нарадзіўся 28 лістапада 1976 года ў вёсцы Абяроўшчына Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Пасля заканчэння 9 класаў сярэдняй школы ў вёсцы Расна паступіў у Высокаўскае ПТВ-158 па спецыяльнасці "Кухар-кандытар". У 1995 годзе скончыў навучанне на выдатна. З 1995 па 1997 год служыў у войску. Пасля пераехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Мазыр Гомельскай вобласці. Працаваў кухарам у Мазырскім райпо, кухарам на заводзе "Мазырсельмаш".

У 2001 годзе вырашыў змяніць прафесію і ўладкаваўся на працу ў ААТ "Мазырдрэў" дзе набыў дзве спецыяльнасці - станоўшчык-распілоўшчык 4 разраду і рамшчык 3 разраду. У 2001 годзе скончыў курсы і набыў спецыяльнасць тэлерадыёмеханіка. З 2002 па 2008 год працаваў электрыкам у МДПУ. З 2009 па 2014 гады працаваў электраманцёрам па абслугоўванні электраўстановак у ГП "Мазырскі райжылкамгас". З 2015 года працуе электрыкам у Мазырскай гарадской дзіцячай бальніцы.

Грамадскай дзейнасцю пачаў займацца з 1999 года, калі стаў актыўным чальцом "Царквы Ісуса Хрыста" Мазыра. Менавіта вера ў Бога дапамагла сфармавацца Паўлу як паўнавартаснай асобе і менавіта з гэтага моманту пачалося ягонае актыўнае грамадскае жыццё. Вера ў Бога дапамагла ўсвядоміць Паўлу той факт, што квітнеючая дзяржава павінна грунтавацца на падмурку запаведзяў Божых, якія носяць універсальны характар.

У 2007 годзе, калі Павел даведаўся пра стварэнне партыі "Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя" – адразу звязаўся з яе заснавальнікамі і стаў актыўным чальцом партыі. У 2007 годзе ў Мазыры сабраў аднадумцаў на базе "Царквы Ісуса Хрыста" Мазыра і заснаваў гарадскі аргкамітэт па стварэнні партыі БХД. З 2007 па 2009 год быў каардынатарам БХД па Гомельскай вобласці. За гэты час быў

удзельнікам і арганізатарам многіх кампаній - як рэспубліканскіх, так і мясцовых.

Быў актыўным удзельнікам кампаніі “За свабоду сумлення”, дзе збіралі подпісы пад зваротам у Канстытуцыйны суд РБ аб унясенні змяненняў у закон “Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацый”. Гэта была самая маштабная невыбарчая грамадзянская кампанія ў РБ: яна ахоплівала звыш 200 населеных пунктаў краіны і было сабрана больш за 50 тысяч подпісаў грамадзян. З іх у Мазыры было сабрана больш за 5,5 тысяч подпісаў.

Павел Наздра быў адным з ініцыятараў кампаніі па абароне кляштара бернардынаў у Мінску: яму ўдалося сабраць звыш 5 тысячаў подпісаў пад зваротам у Адміністрацыю прэзідэнта РБ і прыпыніць знішчэнне помніка гісторыі і культуры. Павел Наздра – арганізатар кампаніяў абароны сямейных каштоўнасцяў, «Пакаянне” і “Люблю Беларусь” на Гомельшчыне.

Акрамя ўдзелу ў дзейнасці БХД Павел Наздра з 2007 па 2009 года быў абласным каардынатарам Маладога Фронту. З 2008 года Павел – чалец РПГА “БХК”. У 2009 годзе – кіраўнік ГААЖ “Верныя Сябры”, у 2010 годзе зарэгістраваў ГААЖ “Зоозащита” і быў кіраўніком па 2012 год. З 2008 па сённяшні дзень – чалец прафсаюза РЭП, з 2012 года - кіраўнік прафсаюза РЭП па Мазыры. З 2014 года – чалец ГА “Ахова птушак Бацькаўшчыны”.

За сваю актыўную дзейнасць неаднаразова падвяргаўся штрафам, арыштам, звальненням з працы, але дагэтуль абараняе жыхароў Мазыра.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ПАВЕЛ ПРАКАПОВІЧ

Павел Пракаповіч – кіраўнік Менскай абласной арганізацыі БХД, сябра Нацыянальнай рады і Управы БХД. Сябра Сойму моладзевага руху "Малады Фронт".

Нарадзіўся ў ГДР 2 жніўня 1983 года. У 2000 годзе скончыў сярэднюю школу № 2 у горадзе Асіповічы Магілёўскай вобласці. У 2007 годзе скончыў факультэт міжнародных эканамічных адносін БДЭУ па спецыялізацыі "кіраванне знешнеэканамічнай дзейнасцю".

Працаваў менеджарам, перакладчыкам, спецыялістам па знешнеэканамічнай дзейнасці. Некалькі год жыў і працаваў за мяжой.

З 2009 года актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці Беларусі.

Актыўны удзельнік кампаній назірання падчас мясцовых, парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. Быў трэнерам па назіранні і міжнародным назіральнікам.

У 2009 г – 2011 г – актывіст моладзевага руху "Маладая Беларусь".

У другой палове 2014 г – першай палове 2015 – менеджар і валанцёр на сядзібе БХД у Мінску.

У 2014 – першай палове 2016 г – валанцёр, менеджар і арганізатар шэрагу культурніцкіх, дабрачынных і адукацыйных мерапрыемстваў, праведзеных у межах і па-за межамі дзейнасці БХД.

З другой паловы 2014 г – кіраўнік БХД па Мінскай вобласці. На гэтай пасадзе яго абавязкамі былі – арганізацыя і правядзенне мерапрыемстваў, падрыхтоўка да рэгістрацыі партыі БХД, сустрэчы, абтэлефанаванне, перапіска, праца са СМІ.

У 2015 годзе Павел Пракаповіч выконваў абавязкі менеджара кампаніі БХД "Урад для народа" – арганізоўваў круглыя сталы і канферэнцыі з вядучымі незалежнымі экспертамі Беларусі дзеля распрацоўкі законапраектаў найважнейшых рэформаў.

У 2016 годзе – актывіст Камітэту выратавання прадпрымальніцтва.

З 2015 года – актывіст "Маладога Фронту". У 2016 годзе прымаў удзел у кампаніі за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статусу гістарычнай каштоўнасці, за што стаў адным з пераможцаў нацыянальнай прэміі "Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці" у намінацыі "Кампанія 2016 года".

У 2016 годзе арганізаваў “Клуб Андрэя Цікоты” ў Маладэчне.

Двойчы, у 2009 і 2014 гадах, вылучаўся кандыдатам ў дэпутаты Мінскага раённага Савета дэпутатаў у Бараўлянах. У 2016 годзе падчас парламенцкай кампаніі быў адным з дзесяці “ударных прамоўцаў БХД”. У 2016 годзе 17 раз прыцягваўся да адміністратыўнай адказнасці.

Ганаровы донар Рэспублікі Беларусь. Праваслаўны хрысціянін.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ

Рымашэўскі Віталь Анатольевіч нарадзіўся 3 сакавіка 1975 года ў Бабруйску ў працоўнай сям'і шляхецкага паходжання. Карані бацькі – з Глускага раёна (вёска Амур), маці – з Кіраўскага (Пацава Слабада). Праваслаўны хрысціянін.

У 1997 годзе скончыў Беларускі нацыянальна-тэхнічны ўніверсітэт (былы БДПА), інжынер-будаўнік. Пасля навучання працаваў па спецыяльнасці, пачынаючы ад шараговага супрацоўніка і да начальніка тэхнічнага аддзела. Затым пачаў займацца прыватным бізнесам. У 1999 годзе навучаўся ў Германіі на курсах Вышэйшай школы дзяржаўнага кіравання ў інстытуце "Саюз грамадскага кіравання", вывучаў эканамічнае і палітычнае ўладкаванне ФРГ.

У палітыцы з 1996 года – пасля затрымання на акцыі апазіцыі на Дзень Волі 25 сакавіка 1996 года. Падчас акцыі Чарнобыльскі шлях 1996 года запісаўся ў Беларускі народны фронт. З 1996 года чалец Каардынацыйнай рады «Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў", у 2002-2004 гадах - чалец Прэзідыума Беларускай нацыянальнай рады моладзевых і дзіцячых грамадскіх арганізацыяў "Рада". Адзін з распрацоўшчыкаў канцэпцыі новай моладзевай палітыкі Беларусі.

З'яўляўся сябрам "Маладога фронту", быў намеснікам старшыні МФ. Каліноўская рада "Маладога фронту" (арганізацыя Першамайскага раёна Менска) за час кіраўніцтва Рымашэўскага была самай шматлікай і актыўнай сярод раённых, налічвала больш за 150 чалавек, выдавала сваю газету, праводзіла папулярныя дыскатэкі.

Далучаўся да шэрагу ініцыятываў па стварэнні хрысціянска-дэмакратычнай партыі. Быў намеснікам кіраўніка "Моладзевага хрысціянскага сацыяльнага саюзу" (МХСС), таксама ўдзельнічаў у няўдалай спробе былога старшыні Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі Генадзя Грушавога стварыць хрысціянскую дэмакратычную партыю. Паколькі хрысціянскіх партыяў на той момант у Беларусі не было, стаў сябрам Аб'яднанай грамадзянскай партыі, да моладзевага крыла якой далучыўся МХСС.

Быў адным з заснавальнікаў Руху “За Свабоду”. У 2005-2006 гадах – каардынатар перадвыбарнай кампаніі кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Аляксандра Мілінкевіча па Фрунзенскім раёне Мінску.

У 2005 годзе далучыўся да аргкамітэту па стварэнні партыі “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя”. Сустаршыня аргкамітэту з 2006 года, сустаршыня створанай партыі з 28 лютага 2009 года. У БХД Віталь Рымашэўскі ўзначальвае працу міжнароднага і адукацыйнага аддзела, курыруе працу моладзевай арганізацыі Маладыя Хрысціянскія Дэмакраты. Быў адным з кіраўнікоў кампаніі “У абарону свабоды сумлення і веравызнання ў Беларусі”, у межах якой было сабрана больш за 50 тыс. подпісаў у абарону хрысціянаў.

У 2010 годзе вылучаны кандыдатам у прэзідэнты ад Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Падчас акцыі пратэсту 19 снежня на плошчы Незалежнасці быў збіты спецназам і затрыманы, змешчаны ў СІЗА КДБ, абвінавачаны па арт. 293 Крымінальнага кодэкса (масавыя беспарадкі). Вызвалены з СІЗА 3 студзеня 2011 года пад падпіску аб нявыездзе.

30 сакавіка 2011 года абвінавачванне перафармуляванае на ч. 1 арт. 342 КК РБ (арганізацыя дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак, альбо ўдзел у іх). 20 траўня 2011 года асуджаны за падзеі Плошчы да 2 гадоў пазбаўлення волі ўмоўна.

З 2015 года – адзін з каардынатараў Правацэнтрысцкай кааліцыі, у якую, апроч Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, ўвайшлі Аб’яднаная Грамадзянская Партыя і Рух “За Свабоду”.

Жанаты. Жонка Настасся. У 2009 годзе нарадзілася дачка Ева.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ДЗЯНІС САДОЎСКІ

Дзяніс Садоўскі – топ-менеджар БХД, шматгадовы Адказны сакратар Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Нарадзіўся 11 чэрвеня 1983 ў Менску.

Скончыў сярэднюю школу, быў фанатам футбольнага клуба "Дынама" (Менск). Ва ўзросце 18-ці гадоў прыйшоў да Бога. У 2002 годзе атрымаў адукацыю эканаміста-маркетолага ў Менскім машынабудаўнічым каледжы, у 2006 – дыплом эканаміста ў Менскім інстытуце кіравання.

У 2001 годзе першы раз удзельнічаў у назіранні падчас выбарчай кампаніі. У 2005-ым – далучыўся да аргкамітэту БХД. Займаўся арганізацыйнымі пытаннямі, рассылкай партыйных бюлетэняў, падрыхтоўкай сустрэчаў. З 2008 года – Адказны сакратар БХД, кіраўнік Управы Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Арганізатар шэрагу мясцовых кампаній у Фрунзенскім раёне па добраўпарадкаванні раёна і паляпшэнні ўмоў жыцця ("За чыстую ваду", "Паркоўкі", "Капітальны рамонт" і іншыя).

Быў адным з каардынатараў Кампаніі ў абарону права на свабоду сумлення (сакавіка 2007 - май 2008). Падчас кампаніі больш за 50 тысяч чалавек падпісаліся за змены ў закон "Аб свабодзе сумлення", які парушаў правы хрысціянаў Беларусі. Быў адным з каардынатараў кампаніі "Народны кантроль", якая праводзілася БХД па ўсёй краіне.

Кандыдат у дэпутаты мясцовых саветаў у 2007 і 2010 гадах, кандыдат у дэпутаты на "парламенцкіх выбарах" у 2008 г. і кіраўнік штаба кампаніі байкоту на "парламенцкіх выбарах" 2012. Намеснік кіраўніка штаба Віталя Рымашэўскага падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010.

Адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў кампаніі назірання "Права выбару" ў 2014, 2015, 2016 гадах.

Хрысціянін, чалец евангельскай царквы "Ян Прадвеснік". Жанаты. Трое дзяцей.

*Паводле аўтабіяграфіі*



# ГЕОРГІЙ САЛАЎЁЎ

Георгій Салаўёў – евангельскі пастар, у 2005-2007 гадах – сустаршыня БХД.

Салаўёў Георгій Валер'евіч нарадзіўся 10 снежня 1963 года ў Ташкенце Узбекскай ССР - бо ягоная бабуля, раскулачаная немка, была сасланая ў Туркестан ў 1921 годзе. Маці была настаўніцай, бацька – юрыстам. Па словах Георгія, савецкай улады ва Ўзбекістане фактычна не было, таму ён не паспеў прыляпіцца душой да савецкай ідэалогіі. У ягоным атачэнні былі людзі, якія крытычна ставіліся да камуністычных ідэалаў: “Быць камуністам у Ташкенце азначала не быць разгільдзяем і п'яніцам, ніякай ідэалагічнай падаплёкі ў гэтым не было, па меншай меры я такіх людзей не памятаю” – кажа Георгій. Падлеткам Георгій пісаў вершы, сярод якіх былі і тыя, што крытыкавалі брэжнеўскія часы застою.

У 1985 году Георгій Салаўёў скончыў Ташкенцкую Вышэйшую Агульнавайскавую Камандную Вучэльню, атрымаў званне лейтэнанта і паехаў служыць у Казахстан. З 1987 года служыў у Венгрыі. Скончыў службу ў званні капітана, у 1992 годзе ў Беларусі. Да пенсіі ён не даслужыўся, паступіўшы ў Маскоўскую евангельскую хрысціянскую Акадэмію, аддаўшы ў выніку службе ва Ўзброеных сілах 11 гадоў жыцця.

З 1993 года ствараў евангельскую грамаду ў горадзе Лепель Віцебскай вобласці, дзе і працягвае служыць па сённяшні дзень.

Даследаваў творчасць вядомага беларускага рэфарматара, перакладчыка Святога Пісьма, асветніка, выдаўца XVI стагоддзя Васіля Цяпінскага. Праводзіў экскурсіі ў сядзібу Цяпінскага, якая знаходзіцца ў 22 кіламетрах ад Лепеля. Пісаў шэраг артыкулаў у рэлігійныя і свецкія выданні, быў удзельнікам шэрагу навукова-практычных канферэнцый. Папулярызаваў ўдзел хрысціянаў у палітыцы.

Ад Саюзу Хрысціянаў веры Евангельскай прымаў удзел у дэбатах па ўвядзенні новага закона “Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацый” у 2002 годзе. У 2004 годзе пачаў працаваць над стварэннем партыі на хрысціянскай аснове – разам з шэрагам

пастараў і вернікаў. У канцы 2004 году дзве групы ініцыятараў стварэння беларускай партыі на хрысціянскай аснове аб'ядналіся ў адзін аргкамітэт – партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. Разам з Георгіем Дзмітруком, Паўлам Севярынцам, Мікалаем Арцюховым, Аляксеем Шэіным, Анатолем Астапенкам Георгій Салаўёў быў абраны сустаршынём БХД.

На старце праекта па стварэнні партыі Салаўёў браў актыўны ўдзел у распаўсюдзе ідэй БХД, далучэнні новых чальцоў, арганізацыі раённых структур БХД, у працы над Статутам, Праграмай, метадычнымі дапаможнікамі партыі.

У 2004 годзе прымаў удзел у выбарах у Палату прадстаўнікоў па Лепельскай выбарчай акрузе нумар 23 ў якасці кандыдата. Пасьпяхова прайшоў этап рэгістрацыі і правёў выдатную выбарчую кампанію, але фальсіфікацыя выбараў не дазволіла яму стаць дэпутатам.

У рамках арганізаванай Георгіем Салаўёвым кампаніі “За чыстую ваду” было сабрана каля 4700 подпісаў у месцы пражывання прыкладна 23000 чалавек, у выніку чаго з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў былі выдзелены сродкі і ў Лепелі правялі новую трубу з чыстай вадой.

У 2007 годзе пры росце аб'ёму працы ў партыйных структурах быў вымушаны пакінуць пасаду сустаршыні аргкамітэта, застаўшыся пастарам у царкве і выкладчыкам багаслоўскіх дысцыплінаў у шэрагу багаслоўскіх інстытутаў Беларусі і Расіі. Застаўся пры гэтым сябрам партыі БХД.

У 2015-16 гадах у рамках кампаніі “Урад для народа” удзельнічаў у распрацоўцы 3 з 10 альтэрнатыўных законапраектаў арганізаваных Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыяй.

Жанаты, мае сына, дачку і чатырох унукаў.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ

Павел Севярынец – беларускі пісьменнік, публіцыст, палітык, заснавальнік Маладога Фронту, з 2005 года – сустаршыня БХД.

Нарадзіўся 30 снежня 1976 г. у Воршы, у сям'і журналіста Канстанціна Севярынца і настаўніцы Таццяны Севярынец. У 1994 г. скончыў з залатым медалём СШ № 25 Віцебска ў мастацка-архітэктурным класе, у 2000 годзе – геаграфічны факультэт БДУ, аддзяленне геалогіі, атрымаўшы прафесію інжынера-геолага па спецыяльнасці "Разведка карысных выкапняў". Сабраў калекцыю мінералаў і горных пародаў ваколіцаў Віцебска (больш як 2000 узораў).

У 1994-1999 гг. працаваў рэпарцёрам у шэрагу дзяржаўных і камерцыйных выданняў. З 1998 г. пачаў друкавацца ў беларускай незалежнай прэсе як публіцыст.

У кастрычніку 1995 г. уступіў у БНФ «Адраджэнне». У лютым 1997 г. узначаліў Менскую маладзёвую фракцыю БНФ. 6 верасня 1997 г. на Устаноўчым сойме быў абраны сустаршынём Маладога Фронту – найбуйнейшага маладзёвага дэмакратычнага беларускага руху.

2 красавіка 1998 г. арыштаваны падчас апазіцыйнай маніфестацыі ў Менску і за "зрыў канцэрту, прысвечанага аб'яднанню Расіі і Беларусі", змешчаны ў следчы ізалятар на вул. Валадарскага. Праз два месяцы пад ціскам беларускай і міжнароднай грамадскасці вызвалены і адпраўлены пад падпіску аб нявыездзе ў Віцебск. Крымінальная справа закрытая ў лістападзе 1998 г. без тлумачэнняў і прабачэнняў.

31 траўня 1998 года ў турме, маючы перададзены ў камеру Новы запавет, прыняў Хрыста.

Удзельнік і арганізатар масавых вулічных выступаў моладзі ў 1997-2004 гг., больш за 40 разоў затрымліваўся міліцыяй і КДБ; агулам правёў падчас адміністрацыйных арыштаў на "сутках" больш за 7 месяцаў і атрымаў больш 11 тысячаў даляраў штрафаў.

Заснавальнік асветніцкага праекту "Шоў Беларушчыны", курсаў "Дыджэяў Адраджэння", ініцыятар стварэння кааліцыі беларускіх дэмакратычных маладзёвых арганізацыяў "Пераменаў!", а таксама

міжканфесійнай супольнасці “Хрысціянская ініцыятыва”. У 1999-2003 гг. – намеснік старшыні Партыі БНФ.

З 1999 да 2004 – старшыня Маладога Фронту. Аўтар праграмы “Малады Фронт Пераменаў”, дзе кірунак развіцця МФ быў акрэслены як “хрысціянскія прынцыпы і беларускі патрыятызм”.

Адзін з арганізатараў І Кангрэсу Беларускай Моладзі (ліпень 2001 г.), абароны Курапатаў (верасень 2001 г. - чэрвень 2002 г.), нацыянальнай кампаніі “Беларусь у Еўропу!” (вясна 2002 г.), перадвыбарчага блоку “Маладая Беларусь” (2004 г.), партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (2004 г.).

У 2005 годзе абвінавачаны ў арганізацыі акцыяў пратэсту супраць “трэцяга тэрміну Лукашэнкі”, якія адбыліся ў Менску пасля “рэфэрэндуму-2004” 18 і 19 кастрычніка. Асуджаны да трох гадоў абмежавання волі (г.зв. “хіміі”), з улікам амністыі тэрмін скарочаны да двух гадоў. Адбываў пакаранне на лесанарыхтоўках у вёсцы Малое Сітна на Поўначы Беларусі (Полацкі раён), дзе напісаў кнігу “Лісты з лесу” (паводле апытання “Нашай Нівы” прызнаная найлепшай беларускай кнігай 2007 года).

З 2005 г - сустаршыня Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. У БХД адказны за ідэалогію, рэгіёны, інфармацыю і культуру. Рэдактар абедзвюх партыйных праграмаў – 2009 г. і 2015 г. (“Народная партыя з хрысціянскім сэрцам”). Ініцыятар партыйных кампаніяў “Люблю Беларусь”, “Хваля салідарнасці”, “У абарону касцёла Святога Язэпа”, “Урад для народа”, “100 гадоў БХД” і іншых.

Як прадстаўнік БХД сустракаўся з прэзідэнтам ЗША Джорджам Бушам-малодшым, дзяржсакратаром ЗША Кандалізай Райс, старшынямі Еўрапарламента Хансам-Гертам Пётэрынгам і Ежы Бузэкам, старшынём Еўрапейскай Народнай партыі Жозефам Долем.

Заснавальнік і прад’юсар серыі музычных альбомаў беларускамоўнай хрысціянскай музыкі “Беларускі хрысціянскі хіт” (2008-2015, выйшла 7 альбомаў).

У снежні 2010 г., падчас масавай акцыі супраць фальсіфікацыі выбараў арыштаваны, пяць месяцаў адбыў у турме КДБ, а затым два гады і два месяцы - у спецкамендатуры ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна. Вызвалены ў кастрычніку 2013 года.

11 студзеня 2014 года ў Менску ажаніўся з Вольгай Севярынец (народжаная Шылак). Вянчанне адбывалася ў менскім катэдральным касцёле Панны Марыі – там жа, дзе ў 1917 годзе была запачаткаваная БХД.

Разам з Максімам Гацаком і Анатолем Шырвелем у 2014 годзе заснаваў хрысціянскі інфармацыйны партал "Крыніца.інфа".

Ініцыятар стварэння "Беларускага камітэту салідарнасці з Украінай" (2014), "Камітэту абароны прадпрымальніцтва" (2016), адзін з каардынатараў стала дзеючага форума "Свабоду палітвязням!" (2015).

Аўтар кнігаў: "Дыджэй Адраджэння" (1998), "Пакаленне Маладога Фронту" (2002), "Нацыянальная ідэя. Фенаменалогія Беларусі" (2005), "Лісты з лесу" (2007), "Брату" (2007), "Маладафронтаўцы" (2009 г. – сумесна з Н. Палажанкай), "Беларуская глыбіня" (2014), "Беларуская хрысціянская дэмакратыя: 1917-2017" (2017).

Сябра Саюза Беларускіх Пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтру, Беларускай Асацыяцыі Журналістаў, Таварыства Беларускай Мовы, Згуртавання Беларусаў Свету "Бацькаўшчына".

Лаўрэат літаратурных прэміяў: Беларускага ПЭН-цэнтру імя Алеся Адамовіча, імя Францішка Аляхновіча, а таксама прэміі "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава.

Праваслаўны хрысціянін, прыхаджанін Свята-Петрапаўлаўскага сабора ў Мінску.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ТАЦЦЯНА СЕВЯРЫНЕЦ

Таццяна Севярынец – кіраўніца самай шматлікай абласной арганізацыі БХД (больш як 850 сябраў) настаўніца, арганізатарка кампаніяў хрысціянскай дэмакратыі на Віцебшчыне.

Севярынец (народжаная Лабачэўская) Таццяна Яўгенаўна, з'явілася на свет 1 верасня 1954г у Лунінцы Брэсцкай вобласці ў сям'і энергетыка-чыгуначніка і бібліятэкаркі. Бацька, Лабачэўскі Яўген Іванавіч, усё жыццё адпрацаваў на мясцовай электрастанцыі, прайшоў шлях ад каваля да начальніка энергаўчастка, які асвятляў чыгунку. Прайшоў нямецкі палон, быў вывезены ў Нямеччыну. Маці, Лабачэўская Галіна Міхайлаўна, бібліятэкарка, была загадчыцай раённай сістэмы бібліятэк, з сям'і рэпрасаваных, 7 гадоў дзяцінства правяла ў высылцы ў Сібіры.

Бацькі мелі высокае пачуццё годнасці, умелі адстойваць свае меркаванні, карысталіся вялікай павагай сярод лунінчан, дзяцей выхоўвалі адказнымі і добрымі.

Скончыла сярэднюю школу №2 г. Лунінца, затым філалагічны факультэт БДУ. Працоўную дзейнасць пачала ў Чырвонавольскай сярэдней школе Лунінецкага раёна піянерважатай і выкладчыцай беларускай мовы, затым працавала настаўніцай у Пагасцянскай сярэдняй школе Аршанскага раёна, Барані, Віцебску. Выкладчыца рускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі. Шмат сіл аддавала школе, вучням, кіравала школьным тэатрам, агітбрыгадай, мае шмат падзякаў і граматаў.

13 гадоў была намеснікам дырэктара СШ 23 і СШ 40 па вучэбна-выхаваўчай працы ў Віцебску. Звольненая па палітычных матывах праз суд за 2 гады да выхада на пенсію.

У беларускую палітыку прыйшла ў 1995 годзе. Спачатку як сябра НДА "Ульяна", пазней, у 2007 годзе, узначаліла Віцебскі гарадскі, а ў 2008 - Віцебскі абласны аргкамітэт па стварэнні Партыі БХД.

Заснавальніца суполак БХД ва ўсіх трох раёнах Віцебска, а таксама ў Гарадку, Навалукомлі, Наваполацку, Міёрах, Сянне. Арганізатарка дзясяткаў палітычных, сацыяльных і культурніцкіх кампаніяў у Віцебску і вобласці – "За паліклініку ў Білева", "За

пабудову смеццеперапрацоўчага камбінату”, “У абарону жыцця”, “За роварныя дарожкі” і г. д. – большасць з якіх былі выніковымі. Арганізавала збор дзясяткаў тысячаў подпісаў жыхароў Віцебска ў рамках гарадскіх і нацыянальных ініцыятываў БХД.

Тройчы прымала ўдзел у кампаніях у якасці кандыдата ў мясцовыя саветы (2003, 2007, 2014 гг), двойчы – ў Палату прадстаўнікоў (2008, 2016). Трэнер незалежных назіральнікаў. Кіруе міжпартыйным клубам жаночага лідарства Віцебскай вобласці.

Вырасціла трох дзяцей, мае шэсць унукаў. Жонка паэта Кастуся Севярынца, матуля сустаршыні БХД Паўла Севярынца.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## МАРЫНА ХОМІЧ

Марына Хоміч – сябра БХД з 2010 года, са снежня 2011 года старшыня Маладых Хрысціянскіх Дэмакратаў, арганізатар кампаніяў “Стоп спайс!”, “За беларускую мову!”, “Беларусь – у Балонскі працэс!”

Нарадзілася Марына 20 лютага 1990 года ў Целяханах Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці.

У 2012 годзе скончыла Мінскі Педагагічны Універсітэт імя Максіма Танка па спецыяльнасці беларуская філалогія.

Працавала ў банку, яслях-садзе, сярэдняй школе (выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры).

Ініцыятар і кіраўнік шматлікіх грамадскіх і сацыяльных кампаній – “Стоп спайс!” (кампанія, накіраваная на ўзмацненне адказнасці за распаўсюд наркатычных курыльных сумесяў), “За беларускую мову!” (кампанія, накіраваная на папулярызацыю беларускай мовы ў сістэме адукацыі) і многіх іншых.

У 2014-15 гадах МХД пад кіраўніцтвам Марыны Хоміч правяла надзвычай выніковую кампанію “Беларусь – у Балонскі працэс!” (кампанія, накіраваная на рэфармаванне сістэмы вышэйшай адукацыі і далучэнні Беларусі да Балонскага працэсу), у рамках якой было сабрана 6 тысячаў подпісаў пад адпаведным зваротам, а Еўрапейскі Звяз падтрымаў заяўку Беларусі і далучыў краіну да Балонскага працэсу.

Сябра Каардынацыйнага камітэту Нацыянальнай платформы Усходняга партнерства. Намеснік кіраўніка Беларускай балонскай студэнцкай сеткі.

У жніўні 2016 года Марына арганізавала ў менскай школе № 48 канцэрт памяці Алеся Чаркашына, дзе выступіў Зміцер Вайцюшкевіч.

*Паводле аўтабіяграфіі*



# АЛЕСЬ ЧАРКАШЫН

Алесь Чаркашын – кіраўнік Берасцейскай гарадской арганізацыі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў 2009-2013 гадах, капелан беларускіх дабраахвотнікаў ва Ўкраіне у 2014-15 гг. Быў цяжка паранены ў баі пад Старагнатаўкай, памёр ад ранаў у шпіталі ў Запарожжы 28 жніўня 2015 года.

Нарадзіўся Алесь 27 верасня 1982 года ў Брэсце ў сям'і Мікалая Аляксандравіча і Святланы Мікалаеўны Чаркашыных.

Удзельнічаў у дзейнасці маладзёвага руху "Зубр" і спартова-патрыятычнай арганізацыі "Край".

З 2009 года ў БХД. Прайшоў шлях ад шараговага актывіста да кіраўніка гарадской арганізацыі партыі, быў актыўным удзельнікам усіх палітычных кампаніяў БХД гэтага перыяду. Быў сябрам Нацыянальнай рады, удзельнічаў у футбольнай камандзе Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

Увосень 2013 года правёў у Берасці вядомы перфоманс – выйшаў у адзенні прарока з рукамі ў чырвонай фарбе да будынку гарвыканкама і папярэдзіў уладу, каб перастала весці вайну супраць уласнага народа.

З 2014 года навучаўся ў Таўрыйскім хрысціянскім універсітэце. Паралельна з вучобай далучыўся да тактычнай групы "Беларусь" у складзе Дабравольчага Украінскага Корпуса "Правага сектара".

Падняў над умацаваннямі ў Песках, дзе адбываліся асабліва жорсткія баі, нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.

Як уцаркоўлены вернік пратэстанцкай царквы, стаў капеланам беларускіх дабраахвотнікаў. Вёў агульныя малітвы. Аказваў першую медычную дапамогу. Не развітваўся з Біблияй.

Займаўся музыкай – граў на гітары спевы ўласнага сачынення, а таксама на словы Ларысы Геніюш.

Аддаў жыццё за свабоду Украіны і Беларусі. На 33-цім годзе, ва ўзросце Хрыста, быў цяжка паранены ў баі пад Старагнатаўкай 10.08.2015. Памёр ад ранаў у шпіталі ў Запарожжы 28.08.2015.

Пахаванне Алеся Чаркашына ператварылася ў сапраўдную маніфестацыю. Увосені 2016 года на магіле Алеся Чаркашына ў

Камяніцы-Жыравецкай на сабраныя па ўсёй краіне сродкі быў усталяваны помнік.

*Павел Севярынец*



## ВАЛЕРЫЯ ЧАРНАМОРЦАВА

Нарадзілася 6 лістапада 1978 года ў Менску, вучылася ў 19-й менскай сярэдняй школе імя Янкі Купалы з матэматычным ухілам, у 2001 годзе скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі па спецыялізацыі “эканамічная інфарматыка” і 8 гадоў працавала праграмістам на Менскім прыладабудаўнічым заводзе “Белвар”.

З 2013-га года працуе ў менскай турфірме “КоларЛэнд”, арганізоўвае культурніцкія, гістарычныя, музычныя вандроўкі па Беларусі, а таксама за мяжу, звязаныя з гісторычнымі падзеямі і асобамі Беларусі.

Яшчэ ў школе Валерыя зацікавілася беларускай культурай ды гісторыяй, далучылася да вядомага клубу аматараў беларускай гісторыі, культуры, літаратуры “Беларуская хатка” пад кіраўніцтвам Алы Міхайлаўны Ходан, што з канца 1980-х гадоў ладзіў шмат культурніцкіх імпрэзаў, сустрэчаў, канцэртаў ды вандровак. Уваходзіла таксама ў клуб “Спаемства”, што аб’ядноўваў людзей, апантаных беларушчынай, але прафесійна не звязаных з культурай і адукацыяй. З’яўляецца сябрам Таварыства беларускай мовы.

Напрыканцы 1999 года Валерыя далучылася да беларускамоўнага праваслаўнага моладзевага брацтва, якое стваралася пры Свята-Петрапаўлаўскім саборы ў Менску. З’яўляецца праваслаўнай хрысціянкай.

У 2005-м годзе Валерыя Чарнаморцава ўвайшла ў аргкамітэт аднаўлення партыі “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя”. Нейкі час была каардынатарам раённага аргкамітэта БХД г.Менску (Савецкі раён – Цнянская рада), пасля каардынатарам БХД Менскай вобласці, працавала ў інфармацыйнай групе БХД. Падчас выбарчых кампаніяў удзельнічала ў каардынацыі партыйнага назірання, была трэнерам для назіральнікаў, а таксама двойчы вылучалася кандыдатам на мясцовых выбарах. З’яўляецца сябрам Управы БХД.

Брала актыўны ўдзел у арганізацыі культурніцкіх імпрэзаў, канцэртаў і творчых праектаў БХД, у выпуску серыі дыскаў “Беларускі Хрысціянскі хіт” ды іншых, была адным з каардынатараў культурніцкай кампаніі “Люблю Беларусь”, накіраванай на

папулярызацыю беларускай мовы, культуры, гісторыі. Нейкі час узначальвала менскую суполку ТБМ імя Адама Станкевіча. У 2012-м годзе стала каардынатарам аргкамітэту па ўшанаванні памяці заснавальнікаў БХД ксяндзоў Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага.

Пад ўражаннем біяграфічных твораў драматурга Францішка Аляхновіча ды паэткі Ларысы Геніюш Валерыя зацікавілася тэмай савецкіх рэпрэсіяў у Беларусі. Стала каардынатарам кампаніі БХД "Пакаянне", што распачалася ў 2007 годзе дзеля ўшанавання памяці ахвяраў масавых сталінскіх рэпрэсіяў, дэсаветызацыі беларускага грамадства ды пакаяння беларускага народу ў грахах камунізму.

У межах кампаніі Валерыя запісала каля 100 відэа-ўспамінаў былых вязняў ГУЛАГу ды сваякоў рэпрэсаваных. Былі выдадзеныя некалькі мультымедыйных дыскаў, збіраліся ахвяраванні і аказвалася матэрыяльная дапамога былым вязням ГУЛАГу, арганізоўваліся сустрэчы з моладдзю самых яскравых з гэтых людзей – беларускамоўнага пастара Эрнста Сабілы і паэткі-патрыёткі Надзеі Дземідовіч. Вынікам кампаніі "Пакаянне" сталася стварэнне "Віртуальнага музея савецкіх рэпрэсіяў у Беларусі", ініцыятарам якога была Валерыя. Зараз ладзіць і праводзіць экскурсіі ў Курапаты, месца масавых сталінскіх расстрэлаў пад Менскам.

*Паводле аўтабіяграфіі*

# АЛЯКСАНДР ШАРЫПАЎ



Шарыпаў Аляксандр Мікалаевіч, кіраўнік БХД Гомельскай вобласці з 2013 года, нарадзіўся 9 чэрвеня 1966 году ў Гомелі.

1973-1983 г.г. – вучыўся ў сярэдняй школе №24 Гомеля. Пасля школы паступіў у тэхнічнае вучылішча электратэхнікі ў Гомелі, дзе і правучыўся да сакавіка 1985 г. Вучылішча скончыў з адзнакай з прысваеннем кваліфікацыі "Наладчык тэхналагічнага абсталявання вытворчасці паўправадніковых прыбораў 5-га разраду". Затым быў прыняты на працу наладчыкам абсталявання на вытворчае аб'яднанне "Карал", прапрацаваў два месяцы і быў прызваны ў войска.

Службу праходзіў у паветрана-дэсантных войсках. Хадзіў у парашутную секцыю ў ДТСААФ. Разам са службай у арміі мае 30 скачкоў з парашутам.

У траўні 1987 г. быў дэмабілізаваны. У жніўні 1987 г. вярнуўся на працу на ВА "Карал" і, паралельна, пачаў вучыцца ў Гомельскім політэхнічным інстытуце (ГПІ) на вячэрнім факультэце.

У студзені 1991г. Аляксандру Шарыпаву быў прысвоены 6-ы разрад наладчыка абсталявання. У чэрвені 1993 г. скончыў ГПІ і атрымаў дыплом аб прысваенні кваліфікацыі "інжынер-механік". У лютым 1994 г. быў пераведзены на пасаду майстра ўчастка. У чэрвені 1996 г. звольніўся па ўласным жаданні і быў прыняты ў камерцыйную арганізацыю камерцыйным агентам, дзе прапрацаваў да жніўня 1998 г.

З 1988 года па 2006 год займаўся альпінізмам. Выязджаў на Паўночны Каўказ, Цянь – Шань.

У жніўні 1998 г. быў прыняты на працу наладчыкам абсталявання 6-га разраду ў СП "Батык", дзе прапрацаваў да кастрычніка 1999 г. З кастрычніка 1999 г. па снежань 1999 г. – механік па абсталяванні ў УЖ 15/4. Са снежня 1999 г. па студзень 2002 г. – дырэктар у камерцыйнай арганізацыі.

Са студзеня 2002 г. па ліпень 2006 г. – электраманцёр, а затым інжынер-энергетык ў Гомельскім абласным вузле радыёвяшчання і тэлебачання. Са жніўня 2006 г. па кастрычнік 2006 г. – начальнік

участка ў ТДА "Днепр-Энергасэрвіс". Са снежня 2007 г. па чэрвень 2008 г. – першае судовае разбіральніцтва (па абароне правоў спажыўцоў) і першы поспех. Са жніўня 2008 г. па лістапад 2008 г.- галоўны інжынер ў ТДА "Баз-Сэрвіс". У перыяд з красавіка па снежань 2009 г. – юрыдычная дапамога спажыўцам у абароне сваіх правоў у дасудовым парадку. Вынік станоўчы. З траўня 2009 г. па травень 2010 г. – вядучы інжынер ў ЧТУП "Гомелькоопвторресурсы".

У красавіку 2010 г. удзельнічаў у мясцовых выбарах у якасці кандыдата ад БХД, таму гадавы працоўны кантракт не быў падоўжаны. З чэрвеня 2010 г. па ліпень 2011 г.- інжынер-энергетык ў Гомельскім СМУ-2. З ліпеня 2011 г. – энергетык ў ТДА "Полипресс". З красавіка 2012 г. па красавік 2013 г. - загадчык гаспадаркай у паліклініцы. У верасні 2012 г. быў назіральнікам на парламенцкіх "выбарах" ад БХД. З верасня 2013 г. па снежань 2013 г. - вядучы інжынер ва УА "Гомельскі дзяржаўны тэхнічны універсітэт імя П.В.Сухога".

У лістападзе 2013 г. быў абраны Гомельскім гарадскім і Гомельскім абласным каардынатарам БХД. Са студзеня 2014 г. працуе наладчыкам абсталявання ў трыкатажным вытворчым ТДА "Белмар" ў г. Гомелі. У сакавіку 2014 г. удзельнічаў у мясцовых "выбарах" у якасці прамоўцы ад БХД, быў каардынатарам па Гомельскай вобласці ад БХД у кампаніі "Права выбару". У кастрычніку 2015 года браў удзел у прэзідэнцкіх "выбарах" у якасці назіральніка і каардынатара па Гомельскай вобласці ад БХД у кампаніі "Права выбару".

Прыхільнік здаровага і актыўнага ладу жыцця. Займаецца праблемай гарадскога транспарту (колцавых перасячэнняў на вуліцы Кірава) ў г. Гомелі.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## ЗМІЦЕР ШУРХАЙ

Зміцер Шурхай – шматгадовы кіраўнік БХД Берасцейскай вобласці, адзін з самых вядомых лідараў вулічных пратэстаў 2010-2012 гадоў, найбліжэйшы сябра Алеся Чаркашына.

Зміцер Шурхай нарадзіўся 08.06.1984 на Берасцейшчыне, у вёсцы Сухое Іванаўскага раёна.

Пасля сярэдняй школы атрымаў спецыяльнасць "тэхнік-механік" у Пінскім каледжы мясной і малочнай прамысловасці. Працаваў па спецыяльнасці на прадпрыемствах Берасця.

Да БХД Зміцер далучыўся ў канцы 2009 г. Праз некаторы час, узімку 2010 года, узначаліў Берасцейскую абласную арганізацыю партыі, якой кіраваў да 2015 года. За гэты перыяд браў удзел у большасці кампаніяў БХД і быў каардынатарам мясцовай кампаніі 2010 года, прэзідэнцкай 2010 года (давераная асоба В.Рымашэўскага і кіраўнік штаба па вобласці). Адзін з каардынатараў вулічных акцый пратэсту у Берасці – "маўклівыя акцыі" (2011) і "Стоп-Бензін" (2012г).

У рамках прэзідэнцкай кампаніі пад кіраўніцтвам Змітра Шурхая Берасцейшчына сабрала больш 17.000 подпісаў за вылучэнне кандыдата ад БХД.

У 2012 годзе Зміцер Шурхай падрыхтаваў і падаў дакументы на рэгістрацыю абласнога грамадскага аб'яднання "Берасцейскія хрысціянскія дэмакраты". Абласная філія Мін'юста адмовіла з фармулёўкай: "Мы ўвогуле не разумеем, як спалучаюцца хрысціянства і дэмакратыя".

Неаднаразова затрымліваўся за сваю грамадска-палітычную дзейнасць, падвяргаўся адміністратыўным арыштам, пераследу з боку спецслужбаў.

Вернік, пратэстант. Менавіта рэлігійныя погляды і вострае пачуцце справядлівасці і падштурхнулі Змітра адразу далучыцца да партыі, як толькі ён пазнаеміўся з хрысціянскімі дэмакратамі у Берасці. Быў блізкім сябрам Алеся Чаркашына.

З 2016 года займаецца бізнэсам.

*Паводле аўтабіяграфіі*

## КАСТУСЬ ШЫТАЛЬ



Кастусь Шыталь – краязнаўца, журналіст, публіцыст, грамадскі дзеяч. Удзельнік аднаўлення БХД у 2000-я на гістарычнай Віленшчыне і ў Менску. Актыўны абаронца хрысціянскіх каштоўнасцяў. Гісторык, краязнаўца, журналіст, выдавец газеты “Прамень”, публіцыст. Сваяк вядомага ксяндза – прыхільніка БХДЗ Францішка Рамэйкі. Адзін з аднаўляльнікаў БХД на Віленшчыне ды Глыбоччыне ў 2000-х гадах.

Нарадзіўся Кастусь Шыталь 11 красавіка 1990 года ў Крулеўшчыне непадалёк ад Глыбокага. Па матчынай лініі даводзіцца далёкім сваяком ксяндзу Францішку Рамэйку (1885-1931), які ў міжваенны час ужываў беларускую мову ў Касцёле і падтрымліваў БХД. Быў ахрышчаны ў Каталіцкім Касцёле, з дзіцячых гадоў штонядзелі ўдзельнічаў у Святой Імшы і служыў міністрантам падчас Літургіі.

Калі яшчэ быў вучнем малодшых класаў, Кастусь пачаў цікавіцца гісторыяй малой радзімы. У 2003 годзе, маючы 13 год, пачаў друкаваць краязнаўчыя артыкулы на старонках докшыцкай раённай газеты “Родныя вытокі” і незалежнай газеты “Вольнае Глыбокае”. У 2004-2006 гадах напаўняў інфармацыяй раздзел краязнаўчага партала Radzima.org, прысвечаны Докшыцкаму раёну.

Грамадская актыўнасць Кастуся пачалася яшчэ ў школьным узросце. У 2004 годзе напісаў ліст у Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай наладзіць нармальнае ацяпленне школы і жылога фонду ў мястэчку Крулеўшчына. Подпісы пад лістом паставілі дзясяткі вучняў. У 2006 годзе пачаў дасылаць у “Нашу Ніву” нататкі пра мясцовае жыццё.

У 1996-2005 гадах Кастусь вучыўся ў Крулеўшчынскай сярэдняй школе. У 10 і 11 класе вучыўся ў сярэдняй школе №1 г. Докшыцы, якую скончыў у 2007 годзе. У 2008 годзе паступіў на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Тэставанне па гісторыі Беларусі Кастусь здаў на 100 балаў са 100.

У 2007 годзе Кастусь пачаў выдаваць маладзёвы альманах хрысціянска-дэмакратычнага кірунку “Прамень”. Выданне існавала

да 2009 года. Наклад “Прамяня” дасягаў 1000 асобнікаў, альманах меў сетку распаўсюду ў 40 населеных пунках Беларусі. Менавіта “Прамень” і сетка ягоных сталых чытачоў склалі заўважную долю заснавальнікаў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі” на Віцебшчыне, Меншчыне, Гарадзеншчыне і Берасцейшчыне.

Стаў пераможцам курсаў Дыджэяў Адраджэння 2008 года. Пазнаёміў Паўла Севярынца з ягонай будучай жонкай Вольгай Шылак.

У канцы 2009 года, пасля рэзкага пагаршэння здароўя, Кастусь кідае навучанне ў БДУ. Адначасова паступае на завочнае навучанне ў Катэхетычны каледж імя Лазінскага ў Баранавічах, аднак не сканчвае і яго. У 2010-2013 гады працуе журналістам на рэгіянальным сайце Westki.info, рыхтуючы навінавыя зацемкі, краязнаўчыя артыкулы, рэпартажы з падзей.

У апошнія гады Кастусь Шыталь адыйшоў ад актыўнага грамадскага жыцця. Жыве ў мястэчку Параф’янава (Докшыцкі раён). Працягвае збіраць матэрыялы па гісторыі свайго рэгіёна, даследваць нацыянальны рух на Віленшчыне ў міжваенны перыяд. Супрацоўнічае з многімі краязнаўцамі і навукоўцамі. Піша ў сацыяльных сетках на краязнаўчыя і грамадскія тэмы. Час ад часу публікуе нататкі і публіцыстычныя тэксты ў “Нашай Ніве” і на сайце Krynica.info. Застаецца веруючым каталіком, добрым сябрам, адкрытым на людзей.

Публікуецца ў незалежных беларускіх медыях. Кірунак публіцыстыкі – хрысціянскія каштоўнасці і гісторыя беларускага хрысціянскага руху. Даследуе гісторыю Паазер’я, Усходняй Віленшчыны, міжваенную перыёдыку, біяграфіі заснавальнікаў БХД.

*Паводле аўтабіяграфіі*



## АЛЯКСЕЙ ШЭІН

Аляксей Шэін (нарадзіўся 13 ліпеня 1976 году, Мінск) – беларускі палітык і грамадскі дзеяч, журналіст, літаратар. Адзін з заснавальнікаў Маладога Фронту і Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

У 1998 г. скончыў філалагічны факультэт БДУ. Навучаўся ў магістратуры Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта (Вільнюс, Літва), у Haggai Institute (Hawaii, USA).

З 1999 да 2003 – сябра Сойму й Управы Партыі БНФ, прэс-сакратар партыі. У 2000-2004 гадах – намеснік старшыні Маладога Фронту. У 2005-2006 гадах – прэсавы сакратар, а затым – спіч-райтэр кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Мілінкевіча.

У межах БХД стаў ініцыятарам кампаніі “Моцная сям’я –моцная Беларусь”, якая выступае за падтрымку сямейных каштоўнасцяў і ў абарону ненароджаных дзяцей, а таксама кампаніі “За свабоду сумлення”.

Аўтар і рэжысёр дакументальнага фільму “Хрыстос забаронены” пра становішча хрысціянаў у СССР.

З 2004 да 2011 – сустаршыня аргкамітэту БХД. У 2010-2011 гг. – старшыня Асацыяцыі Хрысціянскіх Дэмакратаў Усходняй Еўропы. З 2010 да 2014 працаваў рэдактарам бюлетэню “ECPM Update”. (ECPM – European Christian Political Movement – еўрапейская палітычная партыя хрысціянска-дэмакратычнай скіраванасці).

У 2014 годзе стаў пераможцам літаратурнага конкурсу Саюзу беларускіх пісьменнікаў “Экслібрыс” імя Аляксандра Уласава. У 2015 годзе стаў лаўрэатам прэміі “Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці” ў намінацыі “Грамадскі лідар году” як вядоўца курсаў “Моваведа”. Прэмія ўручаецца Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў.

Аўтар рамана “Сем камянёў” (2015).

Жанаты. Жонка Наталля – кандыдат філалагічных навук, перакладчыца і журналістка. Маюць траіх сыноў: Якуба, Яна і Сымона.

*Паводле аўтабіяграфіі*

## Спіс крыніцаў, выкарыстаных пры падрыхтоўцы кнігі


1. Гарбінскі Ю. Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.: Жыццярысы, мартыралогія, успаміны. Менск-Мюнхен: Беларускі кнігазбор, 1999.
2. Уладзімір Конан "Андрэй Зязюля: хрысціянская філасофія і асветніцкая дзейнасць" (часопіс "Наша Вера": http://media.catholic.by/nv/n18/art3.htm )
3. Алесь Бяляцкі "Развагі пра ахвярнасць: Андрэй Цікота", http://spring96.org/be/news/65946
4. Газета "Царква" / Успамін мучаніцкай сьмерці архімандрыта Андрэя Цікоты / 16/02/2012 http://carkva-gazeta.by/index.php?num=267&year=2012
5. Program Stronnictwa Konstytucyjno-Katolickiego na Litwę i Białoruś. – Wilno.: Drukarnia Edmunda Nowickiego, 1906
6. Смалянчук Алесь. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. – СПб.: Невский простор, 2004.
7. Барон Ропп // Члены Государственной думы: портреты и биографии. Первый созыв, 1906-1911 г. / сост. М. М. Боиович. – Москва: Тип. Т-ва И. Д. Сытина, 1906.
8. Государственная Дума первого призыва. Портреты, краткие биографии и характеристики депутатов. – Москва: «Возрождение», 1906.
9. А.Юдин, Т.Шишова. Ропп Эдуард Михаил Иоганн фон дер. Католическая энциклопедия. Том IV. Москва, Издательство францисканце – 2011
10.http://naszaslowa.by/wp-content/uploads/2014/05/letapisets65ii.pdf
11.Ірына Багдановіч "Жыццё, як малітва за Беларусь: памяці Магдалены Радзівіл". ("Чырвоная зорка" 10 студзеня 2015 года).
12.А. Л. Ильин (Пинск). Белорусская деятельность Алексея Петрани и Люциана Хведько в Пинской католической духовной семинарии // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: X 95 зб. навук. арт.: у 2 ч. Ч. 2 / ГрДУ імя Я. Купалы; рэдкал.: Э. С. Ярмусік [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 2009.
13.Адам Станкевіч. З Богам да Беларусі. Збор твораў. – Вільня. Інстытут беларусістыкі, 2008.

14.Севярынец П. “Люблю Беларусь: 200 фэномэнаў нацыянальнай ідэі” – Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008.
15.Максім Гацак. http://bchd.info/10564-hrysciyanskaya-demakratyya-u-suchasnay-belarusi-zabaranic-nelga-zaregistravac.html
16.Алесь Смалянчук. Казімір Шафнагель і ягоны зварот “Да нашай краёвай інтэлігенцыі”. Спадчына, №4, 2002.
http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/spadczyna/2002-4/04-07.htm
17.Эдуард Мазько. Дзейнасць Беларускай Хрысціянскай дэмакратыі ў 1926-1935 гадах. – Гродна, ГрДУ, 2001.
18.Biełaruskaja Krynica
19.А.Ф. Вашкевіч: http://www.mestechki.info/conference/3va6.htm
20.http://www.slounik.org/146850.html
21.Ладысеў У. Ф. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя-Беларускае Народнае Аб’яднанне / Палітычныя партыі Беларусі. – Мінск: “Згода”, 1994. – С. 78-86;
22.. Астапенка А. Што такое хрысціянская дэмакратыя: http://www.nv-online.info/by/171/printed/30581/
23. Коўкель І. І. Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя і яе роля ў беларускім грамадска-палітычным руху / Этносоциальные конфессиональные процессы в трансформирующемся обществе. – Гродно, 2001. – Ч.2. – С.36-44
24.Сайт БХД: www.bchd.info
25.Вольга Каранеўская, “Беларуская крыніца” – Наша Вера http://media.catholic.by/nv/n8/art14.htm?forprint=1
26.Малецкі Язэп “Пад знакам “Пагоні” http://kamunikat.org/katalohmiokb.html?pub_start=650&pubid=9378
27.Конан У. Ксёндз Адам Станкевіч і каталіцкае адраджэнне ў Беларусі/ Уладзімір Конан. – Выд-ва “Про Хрысто”, 2003.
28.Надсан А. Біскуп Чэслаў Сіповіч: сьвятар і беларус/Аляксандр Надсан. – Мн.:Бел-Франс, 2004.
29.Маракоў Леанід. “Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794-1991 (укладальнік – Леанід Маракоў). Т. 1. Мінск, 2002.
30.Ян Шутовіч. На пройдзеным шляху // Ксёндз Адам Станкевіч. У 25-ыя угодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці (10.1.1915-10.1.1940) / Рэдагаваў і выдаў Ян Шутовіч, – Вільня, 1940.

31.Moroz M. “Krynica”. Ideołoqia i przywódcy bialoruskieqo katolicyzmu. – Białystok, 2001.
32.Карасевіч В. Кс. Віктар Шутовіч праўдзівы патрыёт і добры пастыр // Беларускія рэлігійныя дзеячы ХХ ст. Жыццяпісы. Успаміны. Мартыралогія. / Аўтар-уклад. Ю.Гарбінскі. – Мінск. – Мюнхен, 1999.
33.Рагуля Васіль. Успаміны. – Менск: ВЦ “Бацькаўшчына”, 1993.
34.Трацяк І. І. Культ. – асв. дз-ць бел. каталіцкіх святароў (пач. ХХ ст.)
35.1939 г.): Дыс. к-та культуралогіі: 24.00.02. – Гродна, 2000.
36.Вікіпедыя.
37.Вікіпэдыя.
38.Википедия.

**Змест**

**СПРОБЫ АДНАЎЛЕННЯ ХАДЭЦЫІ Ў 1990-ЫХ**

**АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ ХРЫСЦІЯНСКАЙ ДЭМАКРАТЫІ: 2004-2017**

